

— Прачытаўшы праект Праграмы, я адчуў такі прыліў сіл, нібы прыпаў да цудадзейнай крыніцы, — гаворыць камсамолец Уладзімір Драздоў, слесар Віцебскага вагоннага дэпо, якое носіць званне прадпрыемства камуністычнай працы.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

У НУМАРЫ

☆

Аповесць Альберта Салаўёва «Сымонава люлька».

☆

П'еса Івана Козела «Канчане — суседзі мае».

☆

Апавяданне Алега Фомчанкі «Цырульнік».

☆

Вершы Уладзіміра Паўлава, Уладзіслава Нядзведскага, Петруся Макаля, Вадзіма Зыблева, Міколы Нагнібеды.

☆

Дарогамі сямігодкі.

☆

Гары, камсамольскі аганёк!

☆

Артыкул Рыгора Бярозкіна «Поплеч з героем».

☆

Артыкул Генадзя Навіцкага «У джунглях расізму».

☆

Спорт.

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

9 (103)

Верасень.

1961.
Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск

На вокладцы малюнак І. Немагая **«Зноў за вучобу».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70 × 108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.510 экз. Цана 40 кап.

АТ 10692. Здадзена ў набор 1.VIII. 61 г. Падпісана да друку 29.VIII. 1961 г. Зак. 555.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

# МІР, ПРАЦА, ШЧАСЦЕ!

За школьнай партай ты, дарагі сябар, упершыню ўзяў у рукі невялічкую кніжачку і з хваляваннем прачытаў яе строгі загаловак: «Маніфест Камуністычнай партыі». З гэтай кніжкі ты на ўсё жыццё запомніў кароткія, але змястоўныя, нібы радок верша, і цвёрдыя, нібы адлітыя з жалеза, словы: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» Сказаныя больш чым сто гадоў таму назад вялікімі настаўнікамі пралетарыяту Марксам і Энгельсам, гэтыя словы на ўсё жыццё запалі ў тваё сэрца. Яны прымусілі па-новаму задумацца над гісторыяй нашай Радзімы, над гісторыяй нашага народа. Ты нарадзіўся ў новым, сацыялістычным грамадстве. Але ўжо з першых дзён свайго свядомага жыцця ты ведаў, як будавалася гэтае грамадства, якія цяжкасці і страты перанёс твой народ, змагаючыся з ворагамі сацыялізма, з ворагамі тваёй, першай у свеце і ў гісторыі чалавецтва свабоднай краіны — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Ты рос, і з кожным годам усё больш і больш даведваўся аб партыі камуністаў, аб яе нястомнай дзейнасці і барацьбе за шчасце народа, за тваё шчасце.

У страі піянераў ты ўпершыню спяваў песню тваіх старэйшых братоў-камсамольцаў: «Наш паровоз вперёд летит», а потым сам, трымаючы ля сэрца чырвоную кніжачку з сілуэтам неўміручага Ільіча, па-камсамольску ўрачыста спяваў гімн камуністаў «Мы наш, мы новы свет збудуем...» І твой голас зліваўся з голасам тваіх сяброў, з голасам пасівелых ветэранаў Кастрычніка, з голасам камуністаў, што сталі для цябе прыкладам у жыцці, узорам прынцыповасці і сумленнасці.

Тваіх названых і неназваных пабрацімаў — камсамольцаў грамадзянскай вайны — маладосць «кідала ў шаблявы паход». Цябе ж твая маладосць паклікала да працы — на завод, у калгас, у лабараторыю.

Ты сам стаў будаўніком новага, самага светлага грамадства — будаўніком камунізма. Гэтак жа, як у трыццатых гадах, ехалі неўтаймаваныя камсамольцы будаваць горад свайго юнацтва Камсамольск-на-Амуры, ты сёння, едучы на цаліну, спяшаючыся ў далёкі Брацк, думаючы пра

няўрымслівую і суровую Ангару, з прыступак вагона пазіраеш на неабсяжныя прасторы роднай краіны. Ты — яе сын, ты — яе гаспадар, ты — яе будаўнік, ты — яе абаронца. Ты зробіш яе самай шчаслівай у свеце, бо ты верыш у словы партыі камуністаў, партыі, якая цябе ўзгадавала, дала табе веды і вялікае права на працу. А такога права пазбаўлены мільёны тваіх аднагодкаў у капіталістычным свеце — свеце галечы і абкрадзенага юнацтва.

Ты ў поўную сілу карыстаешся сваім працоўным правам, ты даражыш ім, ты ім ганарышся, таму што ў цябе ясная мэта ў жыцці. Ты цвёрда ідзеш да сваёй мэты, і ты дойдзеш да яе — ты будзеш жыць пры камунізме, які сёння сам будуеш.

У гэтыя гістарычныя дні ты, дарагі сябар, з хваляваннем чытаеш новы партыйны дакумент — праект Праграмы КПСС. І кожнае яго слова западае табе ў сэрца гэтак жа глыбока, як словы Камуністычнага Маніфеста, які ты ўпершыню чытаў яшчэ ў школе. Ты зноў і зноў перачытваеш асобныя месцы праекта Праграмы, задумваешся над імі і радасна хвалюешся, бо ведаеш: як партыя сказала, так і будзе.

Так будзе!

Праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ўпершыню за ўсю гісторыю чалавецтва намячае навукова абгрунтаваны, канкрэтны план пабудовы камуністычнага грамадства. У праекце Праграмы КПСС дадзена ўсебаковая характарыстыка камунізма, паказана, якімі будуць яго прадукцыйныя сілы, грамадскія адносіны, якім будзе чалавек, працаўнік камуністычнага грамадства. Лічбы, змешчаныя ў праекце Праграмы, даюць яскравае і поўнае ўяўленне аб велічы гістарычных задач.

У бліжэйшае дзесяцігоддзе (1961—1970 гг.) Савецкі Саюз, ствараючы матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, пераўзыдзе па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва найбольш магутную і багатую краіну капіталізма — ЗША; значна ўзнімецца матэрыяльны дабрабыт і культурна-тэхнічны ўзровень працоўных, усім будзе забяспечаны матэрыяльны дастатак; усе калгасы і саўгасы ператворацца ў высокапрадукцыйныя і высокапрыбытковыя гаспадаркі; у асноўным будуць задаволены патрэбы савецкіх людзей у добраўпарадкаваным жыллі; знікне цяжкая фізічная праца; СССР стане краінай самага кароткага рабочага дня.

У другім дзесяцігоддзі (1971—1980 гг.) савецкае грамадства ўшчыльную падыдзе да ажыццяўлення прынцыпу размеркавання па патрэбах, адбудзецца паступовы пераход да адзінай агульнанароднай уласнасці. Такім чынам, у СССР будзе ў асноўным пабудавана камуністычнае грамадства. Поўнасцю пабудова камуністычнага грамадства завершыцца ў наступны перыяд.

У праекце Праграмы намечана шырокая сістэма мер у галіне ідэалогіі, выхавання, адукацыі, навукі і культуры. Асаблівае значэнне партыя надае выхаванню падрастаючага пакалення ў духу высокай ідэйнасці і адданасці камунізму, у духу поўнага пераадолення буржуазных перажыткаў і поглядаў, у духу ўсебаковага, гарманічнага развіцця асобы, стварэння сапраўднага багацця духоўнай культуры.

Партыя на ўсіх этапах сваёй дзейнасці клапацілася і клапоціцца пра маладое пакаленне, пра свой рэзерв — Ленінскі камсамол. Гэтыя клопаты з новай сілай пацверджаны праектам Праграмы КПСС, дзе гаворыцца:

«Узрасце роля камуністычнага саюза моладзі, як самадзейнай грамадскай арганізацыі моладзі, якая дапамагае партыі выхоўваць моладзь у духу камунізма, уцягваць яе ў практычнае будаўніцтва новага грамадства, рыхтаваць пакаленне ўсебакова развітых людзей, якія будуць жыць, працаваць і кіраваць грамадскімі справамі пры камунізме. Партыя разглядае моладзь як ствральную, творчую сілу ў барацьбе савецкага народа за камунізм».

«Свяшчэнны абавязак камсамола,— гаворыцца далей у праекце Праграмы КПСС,— рыхтаваць моладзь да абароны сацыялістычнай Радзімы, выхоўваць самаадданых патрыётаў, здольных даць рашучы адпор нападу любога ворага».

Партыя гаворыць: «Пабудова камунізма ў СССР будзе найвялікшай перамогай чалавецтва за ўсю яго шматвяковую гісторыю. Кожны новы крок да зззяючых вышынь камунізма натхняе працоўныя масы ўсіх краін, служыць велізарнай маральнай падтрымкай у барацьбе за вызваленне ўсіх народаў ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, паскарае перамогу ідэй марксізма-ленінізма ў сусветным маштабе».

Партыя ўрачыста абвяшчае: цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме.

Мы ўпэўнены ў гэтым, бо самыя смелыя планы партыі заўсёды становіліся явай. Вялікі Ленін калісьці марыў аб ста тысячах трактараў, якія перакануюць селяніна ў неабходнасці калектыўнай працы. Партыя за кароткі час узброіла сельскую гаспадарку такой тэхнікай, якая поўнасцю замяніла ручную працу на многіх участках сельскагаспадарчай вытворчасці. Партыя ажыццявіла электрыфікацыю краіны, за кароткі час пабудаваўшы дзесяткі буйнейшых у свеце электрастанцый. Партыя першай ажыццявіла запаветную мару чалавецтва — палёты ў космас.

Услед за Юрыем Гагарыным савецкі лётчык-касманаўт Герман Цітоў 6 жніўня гэтага года на касмічным караблі «Усход-2» за 25 гадзін зрабіў больш як 17 абаротаў вакол Зямлі.

Так, воляй партыі мара аб палёце на іншыя планеты становіцца явай сённяшняга дня.

Вось чаму мы верым Партыі, вось чаму мы ўпэўнены, што новая Праграма будзе ажыццёўлена. Мы будзем жыць пры камунізме.

Наш малады сучаснік! Працуючы за станком або на калгаснай ніве, за чарцёжным сталом або на жывёлагадоўчай ферме, седзячы ў інстытуцкай аўдыторыі, ты сёння зноў і зноў паўтараеш гэтыя словы, і яны натхняюць цябе на новыя працоўныя перамогі, клічуць ісці ўперад і толькі ўперад. Ты разам са сваімі старэйшымі паплечнікамі і новым пакаленнем моладзі збудуеш светлую будучыню чалавецтва — камунізм, і ты з велізарнай гордасцю за свой савецкі народ, за сваю камуністычную партыю возьмеш ключы ад дзвярэй таго грамадства, якое назаўсёды ўсталюе на зямлі «Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць і Шчасце ўсіх народаў».

# Зямля — Космас — Зямля!

Уладзімір ПАЎЛАЎ

## Праходчыкам нязведаных дарог

Над збажынай, над рыжымі пакосамі,
Над паласой блакітнае смугі
Ляцелі вы адны ў вялікім космасе,
Равеснік мой, даследчык наш другі.

Мядзьведзіцы каўшамі не плёхалі,
З арбіт зляталі мірыяды зор,
Каб пaглядзець: каго ж не запалохалі
Нямая ціш, нязведаны прастор?!

А вы ў жыцці не крочылі абочынай
І неспакой быў добры ваш сусед.
І вось цяпер вы першым добрай ночы нам
Жадаеце з туманных Андрамед.

Хоць зналі мы: ў Крамлі перад дарогаю
Не раз агонь да поўначы не гас,
Ды ўсё адно з надзеяй і трывогаю
Па-чалавечы мы чакалі вас.

І вы з палёту доўгага вярнуліся,
Натхняючы другіх у сіняву.
Прабачце мне, што я крыху расчулюся
І вас героем свету назаву.

Ды пройдзе час, сплывуць стагоддзі морамі
І будуць помніць людзі ў той далі,
Што ўпершыню савецкімі маёрамі
Прапісаны быў космас да Зямлі.





*Касманаўт маёр Герман Сцяпанавіч ЦІТОЎ.*

**У даль, нязведаную намі,**
**Зямлю праславіўшы навек,**
**Узмыў па велічнай Прграме**
**Цітоў — савецкі чалавек!**

**Ён там, дзе зорак карагоды,**
**Бясстрашны, пракладае след.**
**І хлопцу слаўнаму з «Усхода»**
**Ура крычыць здзіўлёны свет!**



Уладзіслаў **НЯДЗВЕДСКІ**

# У ЛЯСНОЙ СТАРАНЕ

Мал. А. Зайцава.



... Да Сенніцы самай, згубіўшы спакой,
Мой горад услед за аўтобусам бег.
Пасля тэлевышкаю, нібы рукой,
Махаў яшчэ доўга: — Удачы табе!

— Удачы табе! — зашумелі бары
Ды так і застылі ля Слуцкай шашы.
— Удачы табе! — Салігорска капры
Міргнулі агнямі. — Давай, брат, пішы!

Шахцёры Палесся! Не лайце мяне,
Што ў шахтах у вас я не быў два гады.
За Случчу-ракою ў лясной старане
Я родных пакінуў. Я еду туды.

* * *

Ёсць вёскі, што просяцца ў песню.
Ёсць вёскі — пішы з іх палотны.
Мая ж — прытаілася ў лесе
Між топкіх абшараў балотных.



Машына тут пройдзе — і рэха
Ляцяць на вярсту адгалоскі.
Тут з гонтаў адменныя стрэхі,
І сцены, як літыя з воску.

Бо ў зрубы, як ставілі хаты,
Тут з пня проста клалі бярвенні.
Акно расчыні — і кашлаты
Наломіш бярозавы венік.

Калі ж ты паэт яшчэ крышку —
Дык нават рэцэнзій не трэба:
Тут самі калючыя шышкі
На галаву сыплюцца з неба!

Іду і на сэрцы балюча,
Што я чалавек тут староннi.
Ля плоту ажыннік калючы
Сціскаю міжволі далонню.

Між яблынь, сагнуўшыся крукам,
У студню уставіўся вочап.
... Шурпатыя дзядзькавы рукі,
Спакойныя дзядзькавы вочы.

На твары, знаёмым да болю,
Пралеглі маршчыны-палоскі.
А можа нікуды ніколі
Не ездзіў я з роднае вёскі?

А можа у сорак чацвёртым
Адсюль не пайшоў сіратою?
Мой дзядзька! Навошта цяпер ты
Мне зноўку напомніў пра тое?

Пайшоў, бо сціскаліся грудзі
І слёзы на шчоках гарэлі.
Чужыя, харошыя людзі
Мяне і карміл і грэлі.

Пасля — дзе б між імі ні жыў я,
Дзе б ні працаваў побач з імі —
Пасёлкі і вёскі чужыя
Лічыў я сваёю радзімай.

Таму, хоць, бывала, ўспаміны
Мяне ў край дзяцінства паклічуць,
Не мог я людзей тых пакінуць,
Сабрацца ў свае Рахавічы.

... Дзень спёкся. Між соснамі гінуць
Апошніх праменняў валокны.
Цікаўныя твары вяргіняў
Ільнуць да расчыненых вокнаў.

Кажан, што апёкся з налёту
Святлом электрычным мясцовым,
Кідаецца ў цемру за плотам —
У кіпці катам або совам.

...— Вось так і жывем. Цяжкавата
Спачатку нам тут давялося:
Пяць вёсак. Ніводнае хаты
Пасля вайны не засталося.



Ды гэта былое. Цяпер мы
Дамы пяцісценныя ладзім,
Па пяць мо' адных толькі фермаў
Наставілі ў кожнай брыгадзе.

Расказвае дзядзька і пільна
У чарку адмервае кроплі:
— Цагляны завод, лесапільня,
Сушыльні пад лён, пад каноплі.

На вёску — па школе, па клубу...
Чаго там — разгон набіраем!
Далоняй прасмоленай губы,
Пакашляўшы, ён выцірае.

Падняўся і кубак нясе мне
З шыпучым бярозавым квасам.
... У клуні — духмянае сена,
Ды хіба заснеш тут адразу!

У сто малаткоў да паўночы
Адцягваюць косы суседзі,
Заблытаўся ў песні дзявочай
Гармонік за вёскаю недзе.

Як ціха у жыце скугіча,
Згубіўшы гняздо, перапёлка...
Засніце, мае Рахавічы,
Вас праца чакае на золку!



* * *

Скалечаных соснаў вяршыні-штыкі
Заліты смалою, што меддзю,
Дубы абгарэлыя рукі-сукі
Працягваюць моўчкі суседзям.

А тыя галінкамі ціха шумяць:
«Не мы вашай смерці віною!..»
Цяжкая, густая стаіць цішыня
Над вёскай лясной Навіною.

Чуваць толькі недзе, як дзюбай
крывой
Жаўна па суку заскрыпела.
Між соснаў застыў над магілай старой
Зламаны, пабіты прапелер.

Гляджу на яго — і мне чуецца гром,
Мне чутна, як стогнуць маторы.
... Тады партызанскі быў аэрадром
Вось тут, між адвечнага бору.

Байцы генерала ляснога — Каржа
Адсюль, з партызанскага краю,
У дождж і у замець наводзілі жах
Грамілі фашысцкую зграю.

Прайшло ліхалецце, прайшло
дзесяць год,
Адкрыліся новыя далі...
І вось старшынёю калгаса яго
Мае землякі тут абралі.



Ён хлопцаў мясцовых вучыцца
паслаў,
Даў тэхніку ў рукі шафёрам.
Прабачце, ды мы аб старшынях
пасля,
У самым канцы пагаворым!

...Праз лётнае поле іду наўпрасткі.
Няўжо столькі часу пражыта?
Стракочуць жняяркі — і ціха ў радкі
Кладзецца самлелае жыта.

Скіроўваю крок — да жняярак
бліжэй,
Калоссі трымаю ў далоні.
Мужчыны нацягваюць лейцы тужэй—
Храпуць, прыпыніўшыся, коні.

Скупыя на словы мае землякі,
Хітрынкі няма ў іх на тварах.
Два словы сказалі і вось з-пад рукі
Глядзяць, ці не сунецца хмара.

І хоць вылівала блакіт цераз край
Дрыготкае летняе неба,
Прамовіў пярэдні:— Давай паганяй!
Закончыць да вечара трэба.

Застыла у шэрых ягоных вачах
Паўднёвая летняя стома,
Да белай кашулі на мокрых плячах
Прыліплі палоскі саломы.

* * *

Ляжыць у кішэні аловак з блакнотам,
Іду, налягаю на кій сукаваты.
Да самага дна працрызае балота
Зубастым каўшом працаўнік-
экскаватар.

Сапе і дрыжыць, угінаецца багна,
З-пад гусеніц бурбалкі злосна пускае.
Уніз машыніст угледаецца прагна,
Далоні і зубы да болю сціскае.

Паціху рычаг пераводзіць — хвіліна,
І вось, нібы струны, нацягнуты тросы,
І кучу да бляску счарнелае гліны
На бераг канавы шырокай натрос ён.

Глядзіць на мяне: — Ты пішы, браце,
проста,—
Збіраем мы тут ураджай адмысловы.
Кукуруза у нас — трохметровага
росту,
А жыта ўдалося — ніжэй напалову.

Мы сеем і бульбу, і лён на балоце,
Капуста расце і бурак тут ружовы.
Ты, каб не забыцца, адзнач
у блакноце,
Балот асушэнне — заслуга Каржова.



...Праходжу Дзвіном, дзе валы нават
грузлі,
Дзе чорная ціна ўюнамі прашыта.
Гляджу на засмужаны лес кукурузны,
Гляджу на авёс і даспелае жыта.

Гляджу, як на топкім адвечным
балоце
Шуміць не чарот, а цяжкое калоссе,
Як дружна калгаснікі збожжа
малоцяць,
Як зерне на склады машыны
адвозяць.

Мінчане! Калі над прылаўкам
сасновым,
Духмяны, аерысты водар зайграе,
Дык ведайце: сёння у продажу новы
Адменнейшы хлеб з «Партызанскага
краю»!

* * *

Яшчэ паабапал тарфянік, што порах,
Яшчэ ў сітняку заплятаюцца ногі,
А ўжо між кустоў на пясчаны
узгорак
Вылазіць з балота палоска дарогі.

Нібы параход, што на востраў
прыбоем
Закінуты некалі быў выпадкова,
Дыміць на узгорку жалезнай
трубою
Будынак закопчаны, двухпавярховы.

Грабняк, што засох, скасцянеў
у дуброве,
Агнямі блакітнымі пырскае ў топцы.
І моўчкі глядзяць з-пад абсмаленых
броваў
На стрэлкі прыбораў уважліва хлопцы.

Дрыжыць паравік і, здаецца, праз
дзверы
На свежы збіраецца выскачыць ветрык.
— Давай, ціскані, брат, яшчэ
атмасферу!—
Ківае памочніку шустры электрык.



Дынамамашына у клетцы трасецца
І свішча злавесна паветра над пасам.
Ні ноччу, ні днём не спыняецца сэрца,
Шматвольтнае сэрца ляснога калгаса.

З хлапцом з Чаланца, з кім і бойкі
і сваркі
Вялі мы не раз, як былі хлапчукамі,
Сядзім на парозе ляснай качагаркі,
Гаворым, смяемся, махаем рукамі.



Даказвае мне ён: — А чым тут не
горад?
Больш тысячы кропак у нас электрычных.
Працуюць дзесяткі электраматораў,
Рэнтген у бальніцы — таксама прывычна.

* * *

У лужынах — дождж калатушу развёў
І плаваюць шышкі, як тлустыя клёцкі.
Між сосnaў адвечных, між ціхіх гаёў
Спяшаемся мы на машыне да Гоцка.

Шафёр, што ўжо ездзіў сюдою не раз,
Даклад без паперак чытае мне цэлы:
— Да гліны дарогу праторыў калгас,
У Гоцку цяпер мы выпальваем цэглу.

Мільгаюць канаўкі, мільгаюць масткі
І Лані, як дзёгаць, застыўшыя воды.
Бягуць кіламетры, і ўжо наўпрасткі
Мы пешшу ідзём праз гушчар да
завода.

Дыміць ён і дыша, і пыл, як іржа,
Траву пакрывае і дрэвы навокал.
Тут штабелі звонкае цэглы ляжаць
І чырванню свежаю радуюць вока.



Схапіў за рукаў мяне майстар стары,
Спыніў і гаворыць, як вучню, сярдзіта:
— У нас днём і ноччу зямля тут
гарыць —
Пад ногі уважна заўсёды глядзі ты.

Кручком-качаргою ён люк пацягнуў,
І недзе з распаленых вогненных нетраў
Шугнула блакітнае шула агню,
Злавесна лізнула сухое паветра.

Гляджу — там, унізе, агонь. Аж гудзе,
Струменнямі сінімі полымя легла.
Цвярдзей жа, як камень магутны,
цвярдзей,
Палескага — простага вырабу цэгла!

Цябе вунь чакае фурманак абоз,
Цябе вунь чакаюць з брыгады
машыны,
Цябе вунь для ўласнае печы павёз
У дом свой у новы вясёлы
мужчына.

* * *

Напэўна, нялёгкую ўзяў я з задач:
Пра ўсё не напішаш адразу.
Таму раскажу, паважаны чытач,
Табе пра людзей я калгасных.

Яны, як і ўсюды ў краіне маёй,
У гэтых лясістых мясцінах
Жывуць працавітаю дружнай сям'ёй,
Спраўляюць вяселлі, радзіны.

Калі ж паміраць надыходзіць пара—
Бабулькі па кожным галосяць,
І дружным кагалам суседзі з двара
Труну на узгорак выносяць.

Іх шмат пахавалі — маіх землякоў—
Зімою, тады ў сорак трэцім,
Калі, з чатырох абкружыўшы бакоў,
Хацеў вораг край гэты сцерці.

Крывёю лясы і балоты сплылі,
Ды ўсё ж і фашыстаў на згубу
У чорную багну тады завялі
Дзяды неўміручыя — Цубы.

Жыццё набірае тут новы размах —
Адно азірайся наўкола:
У цэнтры калгаса — аптэка, сельмаг,
А побач — сярэдняя школа.

Дзяўчаты, што плакалі, як інстытут
У горадзе шумным кідалі,
Даўно сабе прозвішчы новыя тут
І дзетак уласных прыдбалі!

А трэба пра горад даведацца свой—
Дык тут (па звычайнаму кошту!)
Размову табе, калі хочаш, з Масквой
Наладзіць мясцовая пошта.

Калі ўжо я гэтак нясціпла пачаў
Усім, што пабачыў, хваліцца,
Дык мушу сказаць я і аб урачах
Утульнай калгаснай бальніцы.

Закрыта яна зялянінаю дрэў
Ад вёскі, ад вока людскога,
Ды ўсё ж, калі ты занямог-захварэў—
Сюды адшукаеш дарогу.

Разказвалі мне, што тут з году у год
Смяротнасць становіцца нізкай,
Што хворых, як трэба, адсюль
верталёт
Адвозіць у клінікі Мінска.

Яшчэ мне галоўны урач гаварыў,
Паклаўшы бліскучыя шпрыцы:
— Міністр аховы здароўя тут быў,
Машыну ён даў для бальніцы.

Таму больш за ўсё і за ўсё тут
часцей
Здараецца зараз такое:
Прымаюць за суткі па трое дзяцей
Медсёстры ў радзільным пакоі!

...Спускаецца вечар, і сонца святло
Загортваюць кветкі у лузе,



Заціхла у белым тумане сяло,
І слова ўзяў радыёвузел.

Хвалюецца дыктар, падчас дзе-ндзе
Няроўна вядзе перадачу:
Ён з поля сягоння прынёс працадзень
І плюс мазалі у прыдачу.

Ды слухаюць людзі няхітры расказ
І вераць так словам ягоным,
Нібы за старанную працу калгас
Масква адзначае сягоння!

* * *

Ідзе па радках рэпартаж да канца,
І часу няма у запасе.
Ды помніце — я напісаць абяцаў
Крыху аб старшынях калгаса...

З пясчаных пачаўся калгас баразён,
Раўняў папялішчы рудыя
Мясцовы жыхар — Данілевіч Сямён,
Круты і да кропкі партыец.

Сусед ці далёкі, сваяк ці не свой —
Працуй у калгасе дый годзе!
Таму і «прыпуталі» Сёмку зімой
Бандыты на грычынскім лёдзе.

— Падай карабінчык ды злазь, брат,
з каня,
Наездзіўся ты у ахвоту!
Кашулю, гадзіннік скідай, старшыня,
І шапку, і новыя боты.

...Снягі паслухмяна сляды замялі...
І ўсё ж — паміраць ранавата!
Жанчыны збялелі ад страху, калі
Упоўз ён у крайнюю хату.

Адлежаўся. Выдужаў. Зноў за сваё
Узяўся цвярдзей, чым адразу.
Дамогся — людзей за сабою павёў,
Паверылі людзі калгасу.

Паслалі вучыцца — згадзіўся спярша:
У Пінску сядзеў можа з месяц.
А потым: «Два класы ў мяне
«цэпэша»,
Бывайце, паеду на месца!»

А справы штогоду шырэй і дужэй,
Глядзіш — і прыбытак мільённы.
І стала тады без навукі цяжэй
Спраўляцца з арцеллю Сямёну.

А тут і той верасень. Пленум у час
Старое усё перакрэсліў...
Тады і паклікала сэрца ў калгас
Каржа з міністэрскага крэсла.

Ён тут нарадзіўся. Ён тут дзве вайны
Вадзіў баявыя атрады.
Цяпер на палеткі лясной стараны
Калгасныя вывеў брыгады.



І зноўку наўкола — усё загуло,
Разбег набіраючы новы.
Нябачаны ў гэтых мясцінах дало
Балота ўраджай — стопудовы!

На сотні гектараў ліствою сады
Шумяць маладыя ўлетку.
Прабегла у край партызанскі сюды
З дарогі цэнтральнае ветка.

...Расчынены вокны, і сонца з-пад хмар
Пакой асвятляе старанна.
Калгас ужо новы прыняў гаспадар,
Што гэтай вясною абраны.

Сядзіць за сталом ён, махорачны дым
Далонню развейвае-гоніць.
Ідуць брыгадзіры. Адзін за адным
Садзяцца — нарада сягоння.



Мне шмат давялося пабачыць нарад —
Мінутных, гадзінных, шматдзённых.
Бывае, уліпнеш і потым не рад —
Выходзіш апоўначы сонны.

Ды я памыліўся. Ніхто не драмаў
На гэтай гарачай нарадзе.
Дакладчык не траціў тут часу дарма,
Вады не было у дакладзе.

Таму што сабраліся не аб вадзе
Пагутарыць так тэрмінова —
Сягоння пра масла і мяса ідзе
І пра малако тут размова.

Яго не надоіш з хадульных цытат,
Што некалі шмат мелі сілы.
Каровы не любяць трактаты чытаць—
Кармы падавай ім і сілас!

Таму камандзіры палеткаў і ферм
(Прабачце за прозу!) на справах,
Як кажуць, рашаюць пытанне цяпер
Аб лубіне, сене і травах.

І недзе за поўнач, гадзін каля трох,
Як стала на ранак займацца,
Закончыў нараду калгасны парторг:
— Ну што ж, а цяпер і за працу!

Каб тысячай цёплых маленькіх дажджоў
Струмені малочныя секлі,
Каб дзень, што у мірнай красе узышоў,
Даў чыстае зерне ў засекі.

Каб гэту зямлю, што ў цяжкія гады
Чужынцаў і дня не цярпела,
Будзілі праменні ўлетку заўжды
Пад грукат антонавак спелых!





Альберт Салаўёў нарадзіўся ў 1929 годзе ў горадзе Віцебску ў сям'і служачага. У часе Айчыннай вайны разам з маці жыў у Чалябінскай вобласці. Вярнуўшыся з эвакуацыі, закончыў дзесяцігодку і паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна. Закончыў яго ў 1954 годзе. З таго часу працуе ў віцебскай раённай газеце «Калгасная трыбуна».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**Альберт САЛАЎЁЎ**

# СЫМОНАВА ЛЮЛЬКА

## Запіскі карэспандэнта

Мал. Г. Скамарохава.

Неяк увосень карэспандэнцкі лёс закінуў мяне на поўнач Беларусі, у аддалены раён. Пры сабе я меў камандзіроўку на пяць сутак і строгі рэдактарскі наказ: разабрацца, чаму адстае Асейскі раён.

Ехаць у Асею мне не хацелася. На дварэ лупцаваў дождж. І я адразу прыгадаў асейскае бездарожжа, якое не знікала нават у сухія гады. Але больш за ўсё мяне палохаў цяжкі характар сакратара Асейскага райкома партыі Трафіма Дзятлава, які не так ужо ветліва сустракаў карэспандэнтаў і розных упаўнаважаных.

— Чаго надзьмуўся? — запытаўся ў мяне рэдактар.

— Нічога ў мяне не атрымаецца. Пашліце каго-небудзь са «старыкоў». Яны ўжо зубы праелі...

— Таму і пасылаю цябе, — адрэзаў рэдактар і схіліўся над нейкім артыкулам.

Размова была закончана.

У прыёмным пакоі я трапіў у абдымкі сакратара рэдакцыі — аднаго са «старычкоў», Карпа Лукіча.

— Гэта цябе ў Асейскія азёры пасылаюць тапіцца? — запытаў ён, — Улічы, не на пяць дзён, а на чатыры. Пяты дзень — чацвер. Газета не выходзіць.

Я выхапіў з кішэні камандзіровачны бланк і з задавальненнем памахаў ім перад носам Карпа Лукіча.

— На пяць! Іменна на пяць.

Сакратар у задуменні глянуў на стол і пачаў гучна разважаць:

— З абкома загадалі даць артыкул у газету праз два дні. Пра чацвер рэдактар забыў. Прыйдзецца напомніць.

Я схапіў яго за руку.

— Не трэба! Не трэба. Згодзен на чатыры.

Карп Лукіч прыжмурыўся:

— Перадасі артыкул па тэлефоне ў сераду вечарам.

* * *

Дарога ад чыгуначнай станцыі да Асеі распаўзлася, як той кулеш. Ішоў я, не спяшаючыся, і быў час паразважаць: «Што чакае рэдактар ад майго артыкула? Жорсткай крытыкі? Сяброўскай размовы? Ці... Ці...» — я і сам яшчэ не ведаў, чаго.

А дождж ліў. Я даўно прамачыў ногі і шлёпаў ужо напрасткі па гразі. Хацелася хутчэй схавацца пад якім-небудзь дахам.

У бярозавым гаёчку на скрыжаванні двух дарог мяне дагнала фурманка: невялічкі конь, некалькі бітонаў на калёсах, пажылы фурман у перадку. Я адчуваў, што ён уважліва разглядае мяне: мае боты ў гразі, мой прамоклы да ніткі плашч і абвіслы ад вады капялюш.

«Няўжо запросіць?»

Параўняўшыся са мной, фурман злез з калёс. Гэта быў пажылы мужчына з пракуранымі рыжымі вусамі, з кірпатым носам і маленькімі светлымі вачыма.

— У Асею ці да чыгункі?

— У Асею.

— Сядайце.

— А вы!?

— Я — пехам. — І, супакойваючы мяне, дадаў: — У мяне салдацкія боты. Боты-самаходы... Вы трымайцеся, а то тут яма на яме.

— Малако ў Асею везяце?

— Смятанку. Бітоны з малаком паставіш, конь не пацягне. Ну, паехалі.

Чалавек ішоў уперадзе — вёў каня за аброць, іншы раз хапаючыся дужымі рукамі за аглоблю.

На ўскраіне Асеі я саскочыў з калёс і падбег да возчыка.

— Як вас завуць?

— Сымон... Сымон з Зазыбаў.

— Дзядзька Сымон, будзеце ў горадзе, заходзьце да мяне ў рэдакцыю. Або дадому...

— Буду — зайду.

І мы развіталіся.

Ля райкома стаяў чысценькі газік. Колы яго блішчалі, як новыя галёшы.





У вестыбюлі было пуста. Я абтрос плашч, выбіў аб калена капялюш і, надаўшы твару выраз самавітасці і ўпэўненасці, падаўся да сакратара.

Дзятлаў размаўляў з кімсьці па тэлефоне, абяцаў прыехаць. пабачыць усё на свае вочы, дапамагчы. Я прысеў на крэсла, чакаў, пакуль сакратар закончыць размову.

— Крытыкаваць прыехаў?— запытаўся Дзятлаў, закончыўшы гаварыць па тэлефоне.

— Не ведаю... Паглядзець трэба... Разабрацца.

— Ну, глядзі, глядзі. І не коса, а прама. Мы таіцца не будзем. Але і ты глядзі. На пачатку ўлічы дождж.

— Над усёй вобласцю дождж, — асцярожна заўважыў я.

— Дарогі. Дарогі нашы ўлічы.

— А трактары? У вас трактары ёсць. Дэтэ пяцьдзесят чатыры бярэ на крук дванаццаць тон.

— Трактарны поезд?

— Правільна, трактарны поезд, — узрадаваўся я.

— Са сваёй галавы ўзяў ці бачыў дзе?

— Бачыў.

— Чаму ў газеце няма? Хоць бы здымачак далі.

— Здымачак я падрыхтаваў, ды наш сакратар Карп Лукіч у нумар не паставіў. Сказаў, няма чым хваліцца: тэхніка не па прызначэнню выкарыстоўваецца.

— Вось дзівак! Перадай яму: не ўсё ж хваліцца, трэба і вучыцца.

— Калі так сказаць, не паверыць. Дайце даведку.

Дзятлаў усміхнуўся.

— Лепш я сам яму скажу. Старэе Карп, палохаецца ўсяго. На пенсію яшчэ не думае?

— Маўчыць.

— Значыць, думае... З паяздамі ў нас нічога не атрымаецца. Гусенічных трактараў зусім мала. Старыя ды паламаныя, амаль усе на рамонце.

Дзятлаў апрануў скураное паліто, выцягнуў з сейфа салдацкія боты. Пераабуўшыся, ён устаў.

— Цяпер паехалі.

— Куды?

— Куды паедзем.

— Паехалі, — ахвотна згадзіўся я.

* * *

Шафёра ля машыны не было. Дзятлаў стукнуў наском бота па шыне.

— Загадаў памыць. Непрыгожа ў гразі стаяць каля райкома... Шафёра адпусціў — з ног валіцца. Павяду сам.

Я пачынаў захапляцца Дзятлавым. Сівавалосы, з простым тварам, на якім буйнымі сцежкамі-маршчынамі распісаліся ўсе нягоды жыцця, Дзятлаў усё яшчэ заставаўся імклівым, рашучым, маладым. Здавалася, ён перажыве ўсіх тых, маладых і маладзейшых, якія, усеўшыся ў кіруючае крэсла, праз год-другі чарадой цягнуцца на поўдзень залечваць «сардэчныя прыпадкі».

— Куды мы едзем?

— У «Чырвоны партызан». Старшынёй там Дубавец. Пілiп Сымонавіч Дубавец. Цікавы чалавек. Разумны.



— Я чуў, што Дубавец самы скупы старшыня ў раёне.

— Скупасць да народнага дабра — не благая якасць. Праўда, ён іншы раз захапляецца. Хачу на яго за адну рэч пасварыцца.

Кіламетраў пятнаццаць мы ехалі па брукоўцы. Потым яе палоска абарвалася, і газік пачаў ныраць, як човен. Уперадзе ляжала размытая гліністая каляіна. Дзятлаў прытармазіў, а затым павярнуў на палявую дарогу.

— Прыйдзецца ў аб'езд. Праз «Зарэчча». Цяжкі калгас. Самы цяжкі ў раёне. Ты яго асабліва не скубі. Старшыня там новы, Янка Шпак. З вясны.

— З вясны? Ну, тады крытыкаваць можна.

Дзятлаў паглядзеў на мяне, але нічога не сказаў. Мне стала чамусьці няёмка.

— А як у яго з трастой?

— Адстае. Апошні ў раёне.

Я здзіўлена глянуў на Дзятлава. Ён не адрываўся ад руля.

У шызай далечыні нешта забялела. Пад'ехалі бліжэй — ферма, новыя будынкі: чатырохрадны кароўнік, насупраць — цялятнік, паміж імі — дзве вежы: вадакачка і сіласнае сховішча.

— Трафім Рыгоравіч! Самы цяжкі калгас, а ферма — палац!

— На гэтай ферме яшчэ, напэўна, ні адной каровы няма. Пустая. За пазыку пабудавана. І другая такая тут ёсць. Там худобай сяк-так запоўнілі станкі. У іншых калгасах фермы будавалі і кароў гадавалі. А тут гаспадар быў — толькі будаваў. Нават вопыт вывучаць сюды ездзілі, як будаваць трэба. Схамянуліся — больш мільёна пазыкі, а жывёлы няма. Мы прагледзелі, а Янка Шпак з калгаснікамі зараз кашу расхлёбвае.

Ферма, як той прывід, растаяла за заслонай дажджу.

* * *

Дзятлаў спыніў машыну ля канторы. Я ўзбег па прыступках на ганак, загадзя радуючыся, што можна будзе абагрэцца. Дзверы былі замкнёны. На аркушы з вучнёўскага сшытка вісела аб'ява: «Кантора зачынена. Усе пайшлі на фронт».

— Лоўка, — усміхнуўся Дзятлаў. — Калі фронт ільняны, то добра.

Да канторы падбегла жанчына з ключамі — вартаўнік. Яна паведаміла, што раніцай, яшчэ цёмна было, зазвінеў брыгадны звон. Званіў старшыня. Калі людзі сабраліся, ён сказаў, што ўсе, хто можа трымаць сякеру, павінны ехаць у лес. Нешта трэба тэрмінова будаваць.

— Тут нейкая трасца будаўнічая, — сказаў устрывожана Дзятлаў.— Паехалі ў суседнюю брыгаду.

Там мы нічога не высветлілі. Адны гаварылі, што лес прызначаны на продаж, другія пярэчылі: не, ён патрэбен для новай павеці, пад якую будуць ставіць нядаўна набытую льносушылку.

Дзятлаў вырашыў ехаць у лес. Я папрасіў яго спачатку глянуць на ферму. Непадалёку ад цялятніка некалькі калгаснікаў капалі ямы. Дзятлаў крута затармазіў.

— Што вы робіце?

— Падмурак пад сушылку.

— А лён дзе?

Калгаснік, які размаўляў з Дзятлавым, махнуў на цялятнік.

— Там. Можаце паглядзець.

Цялятнік быў набіты льном. Дзятлаў адступіў на крок.

— Ого! Тысяч на сто пяцьдзесят ляжыць.

— Бярыце вышэй. Мы будзем на валакно трасту пускаць. Тысяч дзвесце пяцьдзесят, не менш.

— А не пагніе?

— Да дажджоў вазілі. Сухая.

— Мышы не пасякуць?

— Паўтоны дусту рассеялі. Ды лапкі хваёвыя яшчэ падкладзены.

—Праход усё ж не трэба было займаць. Мала што можа здарыцца.

— Ён свабодны. Гэта спераду я знарок заклаў. Дзеці бегаюць, дурэюць.

— Глядзіце, глядзіце. Гэта — ваша надзея...

Высокі хударлявы мужчына не спяшаючыся набіваў люльку тытунём. Я глянуў на яго пальцы — доўгія, худыя, гнуткія, як у музыкі. Зараз яны пасінелі і чамусьці дрыжэлі, хоць самому мужчыну было горача: на твары яго палала чырвань. Кінулася ў вочы люлька — вялікая, напэўна, на паўпачкі тытуню, упрыгожаная рознакаляровымі колцамі.

— Ды ўжо ж, Трафім Рыгоравіч. Каторы год нам не шанцуе. То старшыня горш не трэба, то яшчэ якая трасца. Адным словам, мы — на гару, чорт — за нагу. Хоць бы сёлета з даўгоў выбавіцца,— прагаварыў калгаснік.

Дзятлаў падышоў бліжэй.

— Сымонава люлька? Як яна да вас трапіла?

— Сымон падарыў.

— А дзе ён сам?

— У лесе. Разам з усімі.

— У лесе? Яму ж хутка шэсцьдзесят.

— Ужо шэсцьдзесят.

— І працуе?

— А як жа! Ён і падгаварыў нашага Шпака ў пажарны звон ударыць. Ды каб самому не паехаць — ого! Не такі наш Сымон.

— Ён не перамяніўся?

— Ды не. Я ж кажу, не такі наш Сымон.

Дзятлаў задумаўся. Калгаснік між тым раскурыў люльку, зрабіў некалькі зацяжак і перадаў яе суседу. Той выцер муштук, з асалодай прыжмурыўся, моцна зацягнуўся: раз, другі, трэці — і перадаў люльку далей.

Я назіраў за Дзятлавым. Ён ні то разгубіўся, ні то адкрыў штосьці для сябе нечаканае, ні то нешта прадчуваў. А люлька ішла па руках. Калгаснік, які стаяў каля Дзятлава, крыху павагаўся, потым насовачкай абцёр муштук і перадаў люльку сакратару райкома. Я добра ведаў — Дзятлаў не курыць. Але ён усміхнуўся, двума рукамі ўзяў тую люльку, адышоў убок, сеў на чурбачок і задыміў. Усмешка неўзабаве сышла з яго твару. Дзятлаў задумаўся. Калгаснікі маўчалі.

— І многа людзей паехала ў лес? — нечакана запытаў Дзятлаў.

— Ды ўсе дарослыя. Засталіся даяркі, вартаўнікі, і мы вось — рыхтуем падмурак пад сушылку.

Дзятлаў устаў і перадаў трубку хударляваму калгасніку.

— Беражы яе... А сумнявацца не варта. У Маскве збіраецца спецыяльны сельскагаспадарчы Пленум. Напэўна, чулі?

— Чулі, — за ўсіх адказаў хударлявы. — Чулі, чакаем.



* * *

Развітаўшыся з калгаснікамі, Дзятлаў рушыў да машыны. Я ледзь паспяваў за ім, абмінаючы лужыны.

— У лес, да Сымона? — запытаў я, калі, аб'ехаўшы вакол цялятніка, Дзятлаў вывеў машыну на дарогу.

— Пабудзем у Дубаўца і назад. Тэрмінова назад...

— Назад?

Ён не адказаў. Ён усё яшчэ думаў. А я чамусьці не мог маўчаць.

— Цікавая люлька, Трафім Рыгоравіч. Першы раз такую бачыў.

— Дарагая...

— Дарагая? Я б не сказаў. Зусім просценькая, старэнькая.

— Партызанская. У нашым атрадзе ў кожным узводзе такая была. Аднойчы сядзелі мы ў блакадзе. Трое сутак у роце нічога не было. І тытунь кончыўся. Ператрэслі кішэні — крыху сабралі. А паперы ні кавалачка. І тут стары з люлькай падышоў. Ён і хлеб яшчэ прынёс, сала крыху. Глянулі мы на тую люльку і ледзь скакаць не пачалі. Хтосьці ў захапленні крычыць: «Калгасная люлька! На цэлы ўзвод хопіць! Ай ды дзед!» А той пярэчыць: «Не калгасная, а брыгадная». Нам цікава стала. Што гэта за брыгадная люлька? Ну, ён і расказаў, што да вайны быў брыгадзірам. У мароз, калі возяць гной ці сена, у дождж, калі капаюць бульбу, ды і наогул пры гарачай рабоце з самакруткамі вазіцца нязручна. Вось ён і вытачыў люльку на ўсю брыгаду. І дужа яна ўсім спадабалася. Збяруцца калгаснікі падумаць-паразважаць, дзе што сеяць, дзе што будаваць, куды гной вазіць, і тую люльку грамадой кураць.

Усю ноч Сымон расказваў нам тады пра сваю брыгаду. А мы тую люльку курылі і маўчалі. А пад раніцу пайшлі на прарыў. І прарвалі блакаду. Прайшлі кіламетраў пяць, павярнулі ды як ударым па карніках. Бой быў — не забыць. Многа нашых палягло, але і карнікаў наклалі штабялямі. Потым Сымон нам на кожны ўзвод па люльцы вытачыў.

* * *

Мы доўга ехалі моўчкі. Я шкадаваў, што мне не давялося ўбачыць Сымона. А Дзятлаў хмурыўся.

Уперадзе паказаўся круты ўзгорак. Унізе, пасярэдзіне дарогі, стаяў гусенічны трактар. Дзятлаў даў газ і паспрабаваў аб'ехаць яго. Машыну занесла, і мы апынуліся ў прыдарожнай канаве. Дзятлаў неяк спакойна ўздыхнуў і палез па дамкрат, а я, раззлаваны, пабег да трактарыста. Той стаяў каля кабінкі, фанабэрыста адкінуўшы адну нагу і падпёршы рукі ў бокі.

— Гэй, дружа! Навошта людзям замінаеш? Навошта дарогу загарадзіў?

— На гэты ўзгорак ні адна машына не ўзбярэцца.

— Ну, дык памажы тады.

— Дзесяць літраў.

— Што!? Дзесяць літраў! Ды ты здурэў? Паўлітра яшчэ туды-сюды.

— Як хочаце. Я не спяшаюся. Падумайце, а я пачакаю.

У голасе трактарыста чулася адкрытае нахабства. Ён яшчэ далей адставіў нагу і павярнуўся да мяне спіной. З доўгім гумавым шлангам у руцэ падышоў Дзятлаў.

— Дзень добры, Яўген. Куды табе зліваць?

— Дзень добры, Трафім Рыгоравіч. Вунь бочка каля вашай машыны.

За канавай, побач з газікам, ляжала аблепленая глінай бочка з-пад газы. Трактарыст памагаў Дзятлаву злучаць шлангам бочку і бак газіка і гаварыў яму, пазіраючы на мяне вялікімі чорнымі вачыма.

— Такі народ алкагольны пайшоў, Трафім Рыгоравіч, проста дзіва мяне бярэ. Я яму пра гаручае, а ён мне пра сорак градусаў.

— Ты асцярожней, Яўген. Гэта карэспандэнт. Ён цябе за гаручае распіша.

— Карэспандэнт? — І трактарыст зарагатаў. — Я яго першы распішу. На літр ён бы згадзіўся. Дзесяць — пашкадаваў. Вось вам і карэспандэнт.

Я разумеў, што маўчаць мне нельга і трэба неяк ратаваць гонар свайго мундзіра, але, як на тое ліха, не мог знайсці ні аднаго слова.

— Што ты тут робіш, Яўген? — пацікавіўся Дзятлаў.

— Цешчу чакаю. Вось-вось павінна ехаць.

— Усё жартуеш?

— Ды не, Трафім Рыгоравіч. Сапраўды. Гэта мяне сюды Шпак паставіў, каб машыны на ўзгорак усцягваў. Але нікога яшчэ не было. Хіба вось цешча са сваім ільном пад'едзе. Я яе да палавіны ўзгорка ўсцягну, а потым хай паплача.

— Нельга так, Яўген, — строга сказаў Дзятлаў.

— Трафім Рыгоравіч! Вы ж ведаеце маю цешчу. Галадранцам мяне кліча. І ўвесь наш зарачанскі калгас для яе галадранскі. Яно мо і правільна: мы яшчэ бедныя, але ж таксама людзі. Вось што галоўнае.. А яна што робіць: прыходзіць кожны тыдзень да мяне і пачынае галасіць: «Дачушка мая бедненькая, дачушка мая родненькая! Ды плюнь ты на галадранца! Бяры сваіх дзетак ды ідзі да мяне!» А жонка слухае... Ніколі не лаяліся з ёй — лаяцца пачалі. Адбярэ ў мяне цешча і жонку, і дзяцей. Як хочаце, Трафім Рыгоравіч, а цешчы я пакажу, дзе ракі зімуюць.

Дзятлаў паклаў руку на яго плячо і зазірнуў у вочы.

— Тваю цешчу сапраўды трэба правучыць. Я сам за гэта вазьмуся. У яе замест душы медная грыўня. А цяпер ты не чапай яе. Яна ж не свой лён вязе, калгасны.

Трактарыст уздыхнуў.

— Не ведаю. Пагляджу. Можа і ўсцягну яе машыну на гару. Толькі ж, Трафім Рыгоравіч, яна зноў будзе смяяцца з нас. Галадранцы, маўляў, былі, галадранцамі і будзеце. Багацеі знайшліся, скажа, — трактар апошні на дарогу выставілі... Яно і праўда. Занадта добры гэты Шпак, занадта мяккі...

— Яўген, Яўген,— з дакорам перапыніў яго Дзятлаў.— Што ты гаворыш? Ты ж камсамолец. Ты ж на сваю цешчу зараз падобен.

Трактарыст рэзка махнуў рукой і палез у кабіну. Мы падчапілі трос, і трактар пацягнуў машыну на ўзгорак.

Дождж трохі прыціх. Угары дзесьці на момант разышліся хмары, і сноп касых праменняў лёг на зямлю. Усё навокал пасвятлела, а далягляд, нібы апёкшыся, адразу адсунуўся на многа кіламетраў. І адразу стала бачна, якія прасторныя зарачанскія палі і лугі, якая прыгожая наша зямля.



* * *

На ўзгорку, на прыдарожным камені, сядзеў мужчына, стомлена склаўшы рукі на каленях. Ён быў у гумавых ботах, лёгкім паліто і зімняй шапцы.

— Шпак сядзіць, — сказаў Дзятлаў. — Ледзь пазнаў птаха.

Убачыўшы Дзятлава, Шпак устаў. Быў ён сярэдняга росту, крыху горбіўся.

— Калі выканаеш план здачы трасты? — прывітаўшыся, запытаў Дзятлаў.

— Думаю наогул пакуль спыніць...— І Шпак змоўк, спрабуючы вызначыць, якое ўражанне зрабілі яго словы на сакратара. Той не паварушыўся. Старшыня пасмялеў: — Набылі льнотрапальны агрэгат і льносушылку ў комплексе: тэ-эл сорак. Праз тыдзень пачнём здаваць лён валакном.

Дзятлаў маўчаў. Шпак правёў рукой па твары.

— Магу даць любыя гарантыі...

— Дзяржаве патрэбны не гарантыі, а лён.

— Трафім Рыгоравіч! Тыдзень! Ён нічога не вырашае. А для нас у ім цэлае жыццё.

— Выканайце план, потым займайцеся валакном.

— Трафім Рыгоравіч, на план палавіна нашай трасты пойдзе. Для валакна нічога не застанецца. — Шпак гаварыў ціха, павольна. Але здавалася, ён вось-вось закрычыць.

— Я разумею цябе, Янка. Я нічога не магу змяніць. План — дзяржаўны закон... Я заеду да цябе гэтымі днямі, — ціха сказаў Дзятлаў і пайшоў да машыны.

І зноў мы трасемся па дарозе. Дзятлаў злосны. Круціць руль так, што газік кідаецца, як на хвалях. Але я не спачуваю сакратару. Мне шкада Шпака.

— Што б вы сказалі, таварыш Дзятлаў, калі б селі на яго месца?— пытаюся са злосцю.

— Сказаў бы тое самае.

— Як тое самае?

— Прасіў бы адтэрміноўкі.

— Ага! Вы ж разумееце!

— Разумею.

— І дапускаеце такое?

— Вымушан.

— Ды вы ж у людзей глебу з-пад ног выбіваеце.

Дзятлаў затармазіў. Павярнуўся да мяне.

— А мне ў каго адтэрміноўку прасіць? Перад кім мне за ўвесь раён на калені станавіцца? Мо падкажаш? І што каму гэта дасць? Можа ў гэты момант на заводзе машыны стаяць, бо няма пражы. Можа ў гэты момант нашага палатна за мяжу папрасілі, а гэта — валюта, станкі, прыборы. Мы не можам прасіць адтэрміноўкі. Нельга! А калі Шпак просіць адтэрміноўкі, значыць, ён нешта недагледзеў, упусціў.

«Надта ты мудры», — хацеў сказаць я Дзятлаву, але прамаўчаў, адчуваючы, што не змагу яго пераканаць.

Дзятлаў раптам усміхнуўся.



— Нейкі ты дзіўны карэспандэнт. Цябе ж паслалі крытыкаваць нас за лён.
— А можа разабрацца?..
Ён уважліва паглядзеў на мяне і крануў машыну.

* * *

Праз некалькі гадзін мы былі ўжо на тэрыторыі «Чырвонага партызана». Пад'ехалі да вірлівай рачулкі. На супрацьлеглым беразе стаяла чарада аўтамашын, гружаных трастой. Здалёк яны нагадвалі вялікія, перастаялыя грыбы. Мост праз раку быў разбураны. З вады тырчэлі толькі палі.
Дзятлаў, а за ім і я, па кладцы перайшлі на той бок.
— Чаму вы сюды ехалі? — незадаволена запытаў Дзятлаў. — Вы ж ведаеце, што ў Дубаўца няма ні аднаго спраўнага моста.
— Ведаем! — адгкнуўся жвавы дзядок у кажушку. — Пяскі тут. Пяскі, Трафім Рыгоравіч. Думалі, сяк-так перабярэмся ўброд на той бок.
— А далей як? На бальшаку ж гліна.
— Гліна не балота, Трафім Рыгоравіч. Гліна хоць трымае.
— Стары! Не брашы! — у размову ўступіў яшчэ адзін дзядок, барадаты, больш паважны. — Памылка атрымалася, Трафім Рыгоравіч. Выехалі мы з двара, бачым, — Сымон з Малахаўкі газуе. Мы — за ім, Ён жа тут усе хады-выхады ведае. Толькі шафёр у яго не тое, што нашы саплякі, — і дзядок пакасіўся на маладзейшых калгаснікаў. — Чуў я, у таго талон яшчэ з даваенным нумарам. Во! Карацей, адсталі мы ад Сымона: ён некуды звярнуў. Цяпер во і кукуем: ні назад, ні ўперад.
— І доўга думаеце кукаваць?
— Як бог дасць, Трафім Рыгоравіч, — адказаў першы дзядок.
Барадаты сярдзіта замахаў на яго рукамі.
— Чаго ты лезеш, калі я гавару з чалавекам... Чакаем кліматычных перамен, Трафім Рыгоравіч. Сала паелі. Хутка ўжо суткі, як кукуем.
Дзятлаў глянуў на машыны. Траста пачарнела ад дажджу, асела.





Дзве машыны ў сярэдзіне калоны былі, што тыя хаткі на колах: траста накрыта саламянымі матамі.
— Чые гэта? — запытаў Дзятлаў.
— Нашы, — у адзін голас адказалі дзяды.
— Хто прыдумаў?
— Я!
— Не — я!
— Я летась так вазіў!
— А я і залетась! — заспрачаліся старыя.
— Годзе, годзе, — прымірыў іх Дзятлаў. — Малайцы абодва. Галоўнае, што і сёлета здагадаліся так вазіць.
Вакол сакратара райкома сабраліся ўсе калгаснікі. Мяне зацікавіў

дзяцюк у вайсковым шынялі. Пад вокам у яго расплыўся сіняк, і ён прыкрываў яго вялікай, як лапата, далонню. Дзятлаў павярнуўся і таксама заўважыў дзецюка.

— Ого! Хто гэта цябе так?

І адразу з прыдарожнага хмызняку пачуўся тонкі, пісклявы, амаль дзіцячы галасок:

— Я! Гэта я яго размаляваў, таварыш Дзятлаў! — З-за куста выскачыў маленькі чалавечак у брызентавым плашчы. — Гэта я яму падсунуў, я, Фомка Качанок. Натуральны бандыт і злодзей, таварыш Дзятлаў. Трэба было пад другое вока падсадзіць, ды не дастаў!

Качанок смела рассунуў калгаснікаў і спыніўся перад дзецюком.

— Вы паглядзіце на яго боты, таварыш Дзятлаў. Сорак пяты нумар! І прэ па жытняй раллі, як па тратуары. Што крок ступіць, паўметра ўтопча. А я аб'ездчык. Усё на маю галаву. Наш Дубавец — гаспадар. Ён за гэта з мяне скуру здзярэ.

— І ў райспажыўсаюз прадасць, — дадаў хтосьці з калгаснікаў.

— Прадасць,— ахвотна згадзіўся чалавечак.— Ён у нас беражлівы. Гаспадар!

Дзятлаў усміхнуўся.

— Як жа ты яму падладзіў?

— Проста, таварыш Дзятлаў. Я яму гавару: ты падлічы, колькі раслін за раз утоптваеш. Ён нахіліўся, а я і ўмазаў.

Дзяцюк наблізіўся да чалавечка і злосна прадудзеў:

— Боты ў мяне сорак пятага нумару, а кулакі сорак шостага. Я цябе пашкадаваў, божая кароўка. У мяне сям'я: жонка і дзеці. Інакш была б судовая справа.

Дзятлаў нахмурыўся.

— Навошта па раллі хадзіў? Не малы. Разумееш.

— Там на мяжы слупы ляжаць, таварыш сакратар, — хмура сказаў дзяцюк. — Пяць слупоў — і мост.

Чалавечак аж падскочыў.

— Слупы?! Чуеце, таварыш Дзятлаў! Я ж сказаў: злодзей. Па ім даўно турма плача. Мяне Дубавец з'еў бы за слупы.

— Слупы? — перапытаў Дзятлаў. — Якія? Чаго яны там ляжаць?

— А хто яго ведае.

— На тэлефон! — усклікнуў Качанок. — На тэлефон.

— А ну, пойдзем, паглядзім, — і Дзятлаў першы звярнуў з дарогі.

Калгаснікі павесялелі. Фомка патаптаўся на месцы, потым кінуўся да вёскі.

— Па Дубаўца пабег, — заўважыў хтосьці з калгаснікаў.

Дзяцюк паскроб патыліцу і дагнаў Дзятлава.

— Таварыш сакратар, можа б вы... ну, не трэба вам увязвацца. Я сам з Дубаўцом пагутару. Вы не падумайце чаго... Я з ім па-ідэйнаму. За масты і за ўсё астатняе.

Дзятлаў спыніўся.

— Паслухай, хлопча. Ты адкуль?

— Я са «Звязды». З Чухвароў. Сымон з Чухвароў. Нядаўна дэмабілізаваўся па скарачэнню. А да арміі ў фэзээн вучыўся.

— Ты ж мог у горадзе застацца?

— Нарадзіўся тут я, і ўсё астатняе. Бацькі пісьмо прыслалі. Тэхнікі пішуць, панакуплялі, а працаваць на ёй няма каму. Моладзі мала. Я і павярнуў аглоблі на вёску.

— Камуніст?

— Не.

— Як управіцеся з ільном, прыходзь да мяне. Пагутарым.



Сымон расправіў плечы.

— Я і сам думаў да вас зайсці.

— Прыходзь, Сымон. Абавязкова прыходзь.

— Прыйду, таварыш сакратар.

Калі дзяцюк адышоўся, я паціху запытаў у Дзятлава:

— Колькі ў вас Сымонаў?

— Палова раёна, калі не больш. Астатнія Янкі.

— Багата Сымонаў. Заблытацца можна. Я ўжо заблытаўся.

Дзятлаў усміхнуўся.

— Дзяды гэтыя — таксама Сымоны. З аднаго калгаса. Іх так і завуць — два Сымоны.

— Цікавыя Сымоны.

— Цікавыя, — згадзіўся Дзятлаў. — Напісаць пра любога — паперы не хопіць.

Агледзеўшы слупы, Дзятлаў коратка загадаў:

— Бяром!

Дзяцюк нахіліўся і лёгка ўзяў камель.

— Хто да мяне ў пару?

Дзятлаў падштурхнуў мяне:

— Возьмем?

— Возьмем.

* * *

Мы падыходзілі да моста, калі на ўзмыленым кані да нас падляцеў дужы чырванатвары мужчына і пагрозліва сажмурыў вочы.

— А вы, я бачу, слаўная грамада, лепшыя слупы прыхапілі. Густ у вас не благі.

— Злазь! — загадаў Дзятлаў. — У цябе таксама густ не благі: за чужы кошт выязджаць.

— Злажу! Злажу, Трафім Рыгоравіч. Давайце я вам пасаблю.

Дубавец цяжка скочыў з каня, нахіліўся і падлез пад слуп. Дзятлаў схапіў мяне за плячо.

— Вылазь. Няхай Дубавец папацее.

— І папацею, Трафім Рыгоравіч. Мост будзе праз паўгадзіны. Толькі за гэтыя слупы я з таварышаў калгасных падарожнікаў па пяцёрачцы вазьму. Па сабекошту. Слупы ў гаспадарцы не валяюцца.

— Не прадзешаві, Дубавец. На першым пасяджэнні райвыканкома мы цябе па пяцьсот рублёў за кожны разбураны мост аштрафуем. Па сабекошту.

— Бяру сваю прапанову назад, Трафім Рыгоравіч. Слупы дарма аддаю.

— Не, Дубавец. Гэты нумар табе не пройдзе. Аштрафуем усё роўна. Мы цябе папярэджвалі.

Сымон азірнуўся.

— Правільна.

Праз паўгадзіны мост быў гатовы. Машыны перабраліся на той бераг.

Пажоўклай травой Дзятлаў выцер рукі, змахнуў дажджавыя кроплі з твару і павярнуўся да Дубаўца:

— Ну, старшыня, цяпер пагутарым усур'ёз: чаму не возіш лён?

Дубавец памаўчаў, потым ткнуў угору пальцам.

— Дождж! — здагадаўся Дзятлаў. — Бедны Дубавец. Толькі над тваёй галавой і капае. А яшчэ што табе перашкаджае?

Дубавец нерашуча пераступіў з нагі на нагу.
— І дарогі, Трафім Рыгоравіч. Я толькі верхам і езджу.
— Вось у тым і бяда, Дубавец. Калі б ты пахадзіў пешшу, як тваё калгаснікі, то даўно ўсе масты і дарогі былі б спраўныя.
— Трафім Рыгоравіч! Я гатовы прыняць любое пакаранне. Ад гэтага дарогі і масты лепшыя не стануць. Мы пралічыліся: думалі адвезці лён да дажджоў.
— Пралік — не лік. Дождж ці не дождж, а план павінен быць выканан. Што сабе хочаш! Галава ў цябе ёсць. Дык думай!
— Уся прычына ў галаве, — хмура прызнаўся Дубавец. — Калі б не яна мо і план даўно ўтрэслі б.
— Нешта я перастаў разумець цябе, Дубавец.
Старшыня зноў пераступіў з нагі на нагу і чамусьці зняў шапку.
— Хочаце лайце, хочаце не, скажу ўсё. Няма рахубы ў дождж здаваць. Мы сартуем трасту на двойку. Вы нашу марку ведаеце. Пакуль давязем да льнозавода, траста намокне. Ды і наогул яна сырая. Адзінкай прымаюць. Палавіну прыбытку трацім. Не магу я на гэта ісці. Не магу! Я калгаснікам сёлета па дваццаць рублёў на працадзень абяцаў.
— Заўтра на бюро прыедзеш, — пасля паўзы сказаў Дзятлаў. — Паехалі, карэспандэнт. А ты падумай. Дубавец. Падумай.

* * *

Дарога за «Чырвоным партызанам» была зусім разбіта. Калі машына саскоквала ў выбоіну, Дзятлаў сціскаў сківіцы, адкідваўся на спінку і прыўзнімаўся, каб глянуць далей, уперад, рэзка і рашуча круціў руль. Газік сяк-так пераадольваў ямы, калдобіны, узгоркі, каб потым імкліва вырвацца на прастор. Лоб Дзятлава ўзмакрэў.
— Што яму будзе?
— Каму?
— Дубаўцу.
— Там пабачым.
— Папалохаеце ці ўсур'ёз?
— Бюро не пракурор, — адрэзаў Дзятлаў.
— Між іншым, хачу пачаць артыкул з дарог і мастоў, і, у прыватнасці, з Дубаўца.
— Твая справа.
— Справа агульная, — паправіў я.
Дзятлаў глянуў на мяне.
— Калі ты нам паможаш, будзе агульная.
— Дык вы думаеце, я прыехаў вам перашкаджаць?
— Я не думаю, але і так бывае. Безумоўна, вы хочаце, каб было лепш, інакш вас у газеце не трымалі б, а як напішаце — ніякай нам дапамогі. Вось быў ты ў нас у жніво. Многа напісаў, сярдзіта, надта сярдзіта, але не ў гэтым справа. Раскрытыкаваў ты нас за тое, што мы дрэнна падрыхтавалі камбайны да жніва: мяне ты крытыкаваў, дырэктара РТМС і іншых. Правільна раскрытыкаваў — камбайны дрэнна падрыхтавалі, таму жніво зацягнулі. Гэта і на льне цяпер адчуваецца. Але чым ты нам памог? Ты ж напісаў тое, што нам было вядома без цябе. Ты напісаў толькі дзесятую частку таго, што ведалі мы. Пакруціўся два дні і назад. Дык якая нам карысць ад твайго артыкула?
Я маўчаў. Я нізашто не прызнаўся б Дзятлаву, што на рэдакцыйным пасяджэнні-лятучцы той артыкул адзначаўся, як лепшы за тыдзень. А Дзятлаў гаварыў, нібы яго прарвала:
— Але артыкул твой нам запомніўся. Першым чынам прыбег да мяне дырэктар РТМС: «Хопіць, нацярпеўся, знімайце з пасады і адпраўляйце, куды хочаце». Я яго запытаў, куды ж адпраўляцца мне самому, бо трапілі мы з ім у адну «кампанію», і ён крыху супакоіўся. А вось праз два дні прыбегла дзяўчына-аграном з раённай сельгасінспекцыі, і што слёз было! У адным калгасе спасላліся на твой артыкул і адмовіліся ад яе парад. Ды і іншыя здарэнні былі.
— Лес сякуць — трэскі ва ўсе бакі ляцяць — заўважыў я. — Камбайны ж сапраўды былі не адрамантаваны.
— Чаму? — жыва запытаў Дзятлаў. — Чаму? Вось калі б ты нам вочы на гэта адкрыў, мы табе дзякуй сказалі б... Мы разабраліся самі, яшчэ да твайго артыкула. У калгасах сваіх майстэрань мала, а ў РТМС камбайны не хацелі рамантаваць, бо дарага гэта абыходзілася. На бюро мы рашылі: рамантуйце, таварышы калгаснікі, дзе хочаце, але каб камбайны былі спраўныя. І добра за справу ўсе ўзяліся. Я сам правяраў: добра. А пра запасныя часткі не падумалі. Не тая бяда, што іх мала было, хоць і гэта трэба ўлічыць. Грошай не хапала. У крэдыт запасныя часткі не даюць. Прыедзе вось такі Дубавец, усё, што ёсць, забярэ, а слабейшыя калгасы патыліцу чухаюць. Калі б камбайны ў РТМС рамантавалі, то там часткі паставілі б. Вядома, камбайн затрымалі б, пакуль калгас за рамонт не заплаціць, але затое ён быў бы спраўны. З майстэрні вывеў, і ў поле. Пакуль мы з гэтым разабраліся, тыдзень жніва прайшоў. Ты не думай, што мы крытыкі баімся. Ты крытыкуй, але так, каб ад крытыкі карысць была. Пішы пра тое, што людзі прагледзелі, пра тое, што яны яшчэ не ведаюць. Ты вучы людзей. Можа ў мяне ў якім кірунку зрок прытупіўся, можа я пайшоў дальняй сцежкай, а ты ведаеш карацейшую.
— Дзе мне вас вучыць! — вырвалася ў мяне.
— А навошта ты пішаш тады? Навошта ты ў газеце месца займаеш? Крытыкаваць мы ўсе ўмеем. Вучыць, вучыць перш за ўсё трэба!
Мне было сорамна, крыўдна, і ні адным словам я не мог запярэчыць Дзятлаву.

* * *

Мы ад'ехалі ад Асеі кіламетраў пяцьдзесят.
— У райком, ці перадумалі? — запытаў я.
— Не. Трэба яшчэ ў «Звяздзе» пабываць. Там сапсаваную трасту на пакулле і кудзелю перапрацоўваюць. Кілаграм кудзелі — амаль дзесяць рублёў. Паглядзець хачу. Там і заначуем... Я цябе пазнаёмлю з адным цікавым чалавекам...
Заначуем! У мяне астаецца двое сутак, а кішэнь зусім пустая. Свой блакнот я яшчэ не разгортваў. Я разумеў, што можна раскрытыкаваць райком за дарогі і масты, за тое, што ён не здолеў арганізаваць здачу трасты да дажджоў. Але каму паможа такі артыкул?
У вёску мы прыехалі позна ўвечары. Дзятлаў спыніў машыну насупраць вялікага драўлянага будынка. На ганку нас сустрэў гаспадар — высокі стары ў кажуху, што быў накінуты на плечы. Стары замітусіўся, махаючы рукамі.
— Трафім Рыгоравіч! Вы? Вось не чакаў. А я толькі на печ залез. Адубеў за дзень пад павеццю. Хацеў пагрэцца над чарачкай — старая забараніла. Сёння, кажа, нейкі святы памёр... Ды што вы стаіцё?

Я ж вас уперад прапускаю... Я старой кажу: давай памянём святога, як гэта належыць быць. Нізашто. Ляжу на печы, ды ўспамінаю, які ж гэта святы быў.

Хата нагадвала клуб: прасторная, светлая, чыстая. Пасярэдзіне стаяў вялікі стол, які мог замяніць клубную сцэну. Ля сцен — дубовыя лаўкі. Шырокія і доўгія, на шасці ножках. А печ, як карабель з трубой наперадзе. На ёй, відаць, змясціліся б усе дзеці з вёскі. У хаце яшчэ стаялі шафа і нікеляваны ложак.

— Ніяк не прывыкну да тваіх касмічных габарытаў, Цімох Гаўрылавіч, — сказаў Дзятлаў, пераступаючы парог. — Ты і сваю старую тут можаш згубіць.

— Што вы! Цесна ў нас. Як разыдзецца старая, месца сабе не знайду.

Гаспадыня — маленькага росту, з чыстым белым тварам — засакатала:

— Не слухайце яго, Трафім Рыгоравіч. Ужо больш прасторы і не трэба. Прыйдзе позна з поля, ляжа на якую лаўку, дык усе запалкі пераведу, пакуль яго знайду. Адным словам, прастора, Трафім Рыгоравіч. Век пражылі, і ніяк не прывыкну.

Цяпло размарыла мяне. Я сеў на лаўку і асцярожна правёў далонню па яе гладкай, чыстай паверхні. Прылегчы б... На падлозе ля маіх ног расплылася лужына. Я падкурчыў ногі і спалохана глянуў на гаспадыню. Яна ўсміхнулася.

— Скідайце боты.

— Пачакай, — сказаў Дзятлаў. — Спачатку паглядзім кудзелю. Потым адпачнем.

— Нельга яму ісці!— запярэчыла гаспадыня.— Прастудзіцца. Захварэе. Бачыце, пасінеў увесь.

— Няхай ведае, як ездзіць па калгасах. Гэта — карэспандэнт.

— Усё роўна не пушчу. Хоць і карэспандэнт, — абараняла мяне старэнькая.

— Заўтра пагляджу, — сонна мармытнуў я.

Дзятлаў махнуў рукою і пайшоў на двор. Стары, які паспеў ужо апрануцца, паклыпаў за ім. А гаспадыня замітусілася, як квактуха вакол кураняці. Яна прымусіла мяне скінуць боты і апрануць вялізныя валёнкі, накінула на плечы кажух, які зняў стары. Потым прапанавала мне чаю з малінамі. Я адмовіўся:

— Пачакаем Дзятлава і гаспадара.

Старая лёгенька ўздыхнула і пачала распытваць мяне.

— Зарабляеце ж ці многа?

— Нічога. Хапае.

— Боты трэба было б купіць. У такіх чаравічках па восені з хаты няма чаго вылазіць.

У мяне зліпаліся павекі. Старая заўважыла і прапанавала:

— Лезце на печ ды грэйцеся.

* * *

Прачнуўся я ад таго, што хтосьці выцягнуў у мяне з-пад галавы падушку.

— Годзе спаць. Раніца ўжо, — гаварыў Дзятлаў.

Я падхапіўся.

На стале стаяла снеданне — патэльня з салам, чыгунок бульбы і малако. Гаспадароў не было.

— Еш хутчэй і паехалі.



— А кудзеля?

— Трэба было ўчора глядзець. Станок павезлі ў суседнюю брыгаду, а кудзелю — на льнозавод.

...Назад мы ехалі другой дарогай. Дзятлаў хацеў пабываць на льнозаводзе. Трафім Рыгоравіч сёння быў нейкі не такі, як учора: хмурыцца, задумваецца, потым нечакана святлее і нечага ўсміхаецца.

Каля льнозавода стаяла доўгая чарада машын. Вароты былі зачынены. Калгаснікі махалі рукамі, нешта крычалі.

На двары льнозавода вакол вялізных сціртаў трасты бегала двое: невысокі каратканогі мужчына і дзяўчына ў ватніку і гумавых ботах. Яна лавіла каратканогага, але той вельмі спрытна хаваўся за сціртамі.

Дзятлаў пайшоў да варот.

— Замкнёна, таварыш сакратар, — папярэдзілі яго. — Не пускаюць.

— Што там за спектакль?

— Аграном хоча ў Перапечкі ключы ад варот адабраць.

— Перапечка! Зося! Стойце! — гукнуў Дзятлаў.

Абое спыніліся, азірнуліся і моўчкі пайшлі да варот. Перапечка выткнуўся наперад.

— Таварыш сакратар! Таварыш сакратар! — паўтараў ён, збіраючыся нешта сказаць.

— Чаму вароты не адчыняеш? — запытаўся Дзятлаў.

Перапечка спыніўся.

— І не адчыню! Бо пад суд не хачу.

— Трафім Рыгоравіч, я за ім з раніцы бегаю,— гаварыла дзяўчына. — Схаваўся ў трасце, ледзь знайшла.

— Пачакай, Зося... Перапечка, што здарылася?

— Ключы... Згубіў ключы...

Да Дзятлава падышоў калгаснік.

— Дазвольце, я адчыню.

— Ты? Чым?

— Убачыце. Дазвольце?

Калгаснік пабег да машыны. Праз момант гружаны трастой «зіс» упёрся лбом у вароты, і ланцужок, які трымаў іх, лопнуў, бы гнілая вяроўка. Не спыняючыся, «зіс» пакаціўся да вагаў. У двор ільнозавода адна за другой уваходзілі машыны. Дзятлаў стаяў каля варот. Ён быў вельмі сур'ёзны. І людзі, якія нядаўна задаволена ўсміхаліся, сустрэўшы яго позірк, таксама суровелі.

Калі апошняя машына прайшла вагі, Дзятлаў павярнуўся да Перапечкі.

— Чаму не прымаеш трасту?

— Нельга. Нельга прымаць, Трафім Рыгоравіч. Траста на кожнай машыне прамокла да нізу. Складзеш у сцірту — пагніе. А Перапечка тады адказвай.

— А чаму не будуеш павеці?

— Сродкі не адпушчаны. Адна павець — сорак тысяч каштуе. І людзей няма, рабочай сілы, значыцца.

— А ты навошта? Цябе для чаго пасадзілі сюды: думаць альбо штаны праціраць?

— Думаць....

— Чаму ж ты не думаеш? Чаму не робіш? Абляніўся ты, Перапечка. Не пазнаю я цябе. — І Дзятлаў накіраваўся да канторы — невялікага цаглянага будыначка. Перапечка, Зося і я рушылі за ім. На мяне дзяўчына не звяртала ўвагі, а я ўсё пільней пазіраў на яе. «Ну так, гэта тая самая маладзенькая аграномка, з якой я гутарыў летам».

— Дзень добры, Зося. Я нават не думаў, што вы... такая энергічная.

Яна спынілася.
— А, гэта вы зноў збіраеце факты? Зноў на артыкул?
— Зося. Прабачце. Я ж нічога не прыдумаў у тым артыкуле. Усё як было.
— Калі б вы мне проста сказалі, што я нічога не ўмею, не было б так крыўдна. Я яшчэ сапраўды нічога не ўмею. А вы...
— Прабачце, Зося, мне сорамна...

* * *

Кантора льнозавода мела два пакоі. У адным сядзелі рахункаводы, у другім — Перапечка. У кабінеце на вокнах віселі фіранкі. Каля печы стаяла канапа. Цэнтр займаў вялікі стол і два мяккія крэслы перад ім.
Дзятлаў адразу падаўся да тэлефона, які стаяў на краю стала.
— Пошта! Пошта!.. Дзятлаў гаворыць. Дайце, калі ласка, райком. Што? Абедаюць? Тэрмінова пашукайце каго-небудзь... Няхай пазвоняць. Я на льнозаводзе, — ён паклаў трубку, яшчэ раз азірнуўся на канапу, на фіранкі, хмыкнуў і прысеў у крэсла. — Дык што будзем рабіць?
Зося ступіла наперад.
— Трафім Рыгоравіч! Перш трэба зволіць Перапечку, а потым будаваць павеці.
— Якія яшчэ будуць прапановы? Перапечка, што ты скажаш?
— Я?.. Я?.. Я ўстрымліваюся.
— А ты, карэспандэнт?
— Я?.. Я — таксама.
Дзятлаў уздыхнуў.
— Тады вырашае актыўная большасць. Вось што трэба зрабіць: перш за ўсё прытулак людзям даць. Згодны?
— Трафім Рыгоравіч...
— Памяшканне тут добрае, — прадаўжаў Дзятлаў. — Зробім пакой адпачынку. Якраз усё дарэчы: канапа, крэслы, фіранкі. Свой стол пастаў разам з рахункаводамі... Даміно, шашкі, шахматы прынясіце. Газеты — у першую чаргу.
— Трафім Рыгоравіч! Я — бягом! — і Перапечка вылецеў з кабінета.
Зося нахмурылася.
— Трафім Рыгоравіч. Таварыш сакратар! Ды гэты Перапечка ні на што не здатны. Вызваліць яго трэба.
— Так мы палавіну раёна разгонім. З кім працаваць будзем?
— Я не жартую, Трафім Рыгоравіч. Ён заслужыў.
— Я таксама не жартую, Зося. Можа і Перапечка яшчэ спатрэбіцца. Чалавека вучыць спачатку трэба. І памагаць яму.
— Колькі ж можна вучыць!?

Затрашчаў тэлефон, Дзятлаў схапіў трубку.
— Так... Так... Я... З ільнозавода... Хутка буду. А пакуль трэба накіраваць з кожнай партарганізацыі па пяць камуністаў на льнозавод для будаўніцтва павецей. Усіх астатніх камуністаў, усіх камсамольцаў і членаў актыву партарганізацый паставіць на дарогі для забеспячэння праходу машын і будаўніцтва мастоў і пераправаў. І яшчэ. Арганізаваць на дарогах пункты тэхнічнай дапамогі ў складзе трактара, машыны-«лятучкі» і двух-трох коней з фурманкамі. Трэцяе. Рэкамендаваць калгасам і саўгасам адпусціць у пазыку льнозаводу па пяць кубаметраў дошак, па пяць кубаметраў жэрдак і па дзве тоны саломы. Усё... Як аб'явіць? Па радыё, па радыё. І няхай паўтораць некалькі разоў.





Ён націснуў кантакт-рыжачок, потым ціха паклаў трубку на апарат.
У пакой вярнуўся Перапечка. За ім увайшлі калгаснікі. Усе паціху расселіся і глядзелі на Дзятлава, нібы чакаючы ад яго чагосьці незвычайнага. Дзятлаў устаў.
— Таварышы, цяпер тут не кабінет, а пакой адпачынку. Прыедзеце, стоміцеся, ідзіце сюды. Калі не будуць пускаць, званіце ў райком. А цяпер дырэктар таварыш Перапечка раскажа вам, чаму ён зачыніў вароты. Давай, таварыш Перапечка. Мы слухаем.
— Трафім Рыгоравіч! — залемантаваў Перапечка. — Не магу. Не рыхтаваўся.
—А ты давай без падрыхтоўкі. Як ёсць, так і гавары.
Усе павярнуліся да Перапечкі, а той зняў шапку, сціснуў яе ў кулак і, абводзячы пакой вачыма, у якіх быў страх і надзея, нясмела ступіў уперад.
— Таварышы! Траста — сырая. Пагніе. Што ж мне рабіць? Што рабіць?

Людзі, якія нядаўна глядзелі на Перапечку варожа, слухалі яго ўважліва.
— Я, можна сказаць, таварышы, захварэў у даны момант, — усхвалявана гаварыў Перапечка. — А вы везяце і везяце трасту. А дождж лье і лье. Што нам рабіць, таварышы?
— А што тут гаварыць: ясна, — адгукнуўся хтосьці з калгаснікаў. — Трэба памагчы. Вось застанемся і паможам.
— Гэ! Застанемся! — насмешліва перапыніў другі. — З пустымі рукамі нічога не зробіш.
— А чаго ты сякеру з сабой не ўзяў? Ды жэрдак не прыхапіў?
— Сякера ёсць. У машыне.
— А жэрдкі?
— Браточкі! Не спрачайцеся. Я думаю, не ў жэрдках справа. Галоўнае — дах. Вось у нас саламяныя маты з вясны ляжаць. Ясна — пагніюць. Дык лепш іх на павець аддаць.
— Людзі, дайце мне сказаць!.. Нас тут мала... Не асілім!..
— Правільна!
Зося сарвала хустку з галавы.
— Таварышы! Таварышы! Пачакайце! Нас мала, але пачынаць некаму трэба.
Праз натоўп да Зосі прабраўся чалавек.
— Пішы мяне, дачка. Сымон з Малахаўкі. Машыну жэрдак насяку.
— І мяне пішы!
— І мяне!
— Усіх. Усіх запісвай!
— Паехалі, карэспандэнт.
Дзятлаў усміхнуўся.
— Вось табе і Перапечка, — у задуменні сказаў Дзятлаў.
— А Зося! — падхапіў я.
— Зося? Адным словам — Зося.
— Я думаў з Перапечкі артыкул пачынаць.
— Надакучыў ты мне са сваім артыкулам.
Дзятлаў крута павярнуў руль, аб'язджаючы калдобіну. Мяне тузанула ўбок, потым з такой жа сілай назад.
— Трафім Рыгоравіч! Артыкула не будзе! Я таму і спяшаюся з вамі ў раён. Мне пазваніць трэба, папярэдзіць рэдакцыю. Я згодзен: пакуль не зробяць павеці, вазіць лён нельга. Зараз вы робіце ўсё, што можна.
— Вось дзівак! — Голас Дзятлава загрымеў на ўсю машыну. — Хіба толькі ў нас дождж? Але суседзі ўперадзе, а мы — сядзім.
Вось цяпер, здавалася, мы змоўклі да самай Асеі. Аж не.
— Ты, карэспандэнт, не крыўдуй, — нечакана загаварыў Дзятлаў. — Бачу, вучыць цябе, вучыць і самому табе вучыцца. Трэба толькі дакладна ведаць, што ты хочаш ад самога сябе...
— Трафім Рыгоравіч, ці паедзем мы каля Зарэчча?
— Паедзем.
— Хачу да таго Сымона, што люльку зрабіў, дабрацца.
— Гэта ты добра надумаў.

* * *

Памігаўшы чырвоным сігналам, газік знік за паваротам. А я доўга яшчэ стаяў і глядзеў у той бок.
Дзесьці далёка-далёка брахалі сабакі. Я рушыў да вёскі. Сцяжынка вывела мяне на ферму, дзе ўчора мы з Дзятлавым размаўлялі з калгаснікамі. Вакол нікога не было. Абыходзячы кучы жэрдак, бярвенняў і дошак, я накіраваўся да цялятніка. Мне зноў захацелася глянуць на лён.



З-за вугла паказалася жанчына, захутаная ў хустку.
— Што вам трэба? — насцярожана запытала яна.
— Хачу на лён глянуць.
— На лён? Ідзіце, грамадзянін, адсюль, а то мы будзем крычаць.
Выйшла яшчэ адна, гэтак жа захутаная жанчына. Першая пасмялела і пайшла насустрач.
— Ідзіце, ідзіце, грамадзянін. Мо' вы і добры чалавек, я не ведаю. Шпак вам усё пакажа. Ідзіце да яго. Сёння там праўленне засядае.
Адышоўшы метраў сто, я азірнуўся. Жанчыны пазіралі мне ўслед і, нахіляючыся адна да другой, па чарзе ківалі галовамі: мусіць, абмяркоўвалі мой візіт.
І вось знаёмая кантора з высокім ганкам. На двары, звесіўшы галовы, стаяць коні. Дзверы канторы адчынены і праз іх, як з чорнай лазні, валіць шызы тытунёвы дым. Людзі расступіліся, і я прайшоў уперад.
Выступаў Шпак.
— Заўтра мы адпраўляем на льнозавод першую машыну трасты. Інакш, таварышы, нельга. Гэта наш абавязак. План — дзяржаўны закон, і яго трэба выконваць у першую чаргу. Значыцца, мы дзесьці дапусцілі памылку, калі не паспелі пачаць перапрацоўку льну на валакно. У першую чаргу памылілася праўленне і я, як яго старшыня.... А потым мы будзем адпраўляць на льнозавод па дзве машыны з трастой. Адначасова, таварышы, будзем працягваць будаўніцтва свайго льнозавода, каб праз тыдзень-другі ўвесці яго ў строй. Будаваць будзем усе: і вы, і мы — члены праўлення.
Людзі заварушыліся, зашумелі.
— Сілы не хопіць!
— Правільна! Увесь тыдзень штурмуем, як на фронце!
— Чаго вы, людзі добрыя? Старшыня ж гаворыць...
— Няхай Дубавец трасту возіць!
— Няправільна!
— Канешне, няправільна!
— Ну, тады я скажу, — падняўся той самы хударлявы мужчына. Быў ён акуратна паголены, у чыстай кашулі і старэнькім пінжаку, на грудзях блішчалі два медалі. — Дык вось, таварышы калгаснікі. Пра Дубаўца гаварылі тут. А калі б гэта ў вайну было? Далі б нам, скажам, загад узяць вышыню. Дубавец уперад, а мы — за яго спіной? Гэта ж сорам!
Зноў узняўся шум.
— Цяпер не вайна!
— Дубавец багаты. А мы...
Побач са мной на лаўцы сядзеў чалавек, якога па сівых валасах, па маршчыністаму твару можна назваць старым. Але вочы яго былі ясныя, чыстыя і свяціліся маладой сілай. Ён падняўся.
— Цішэй! — гукнуў хтосьці ля дзвярэй. — Сымон будзе гаварыць.
— Мы, таварышы, прынялі дадатковую аплату за лён, — загаварыў ён ціха, але выразна. — А ў грамадскай касе хоць шаром пакаці: ні капейкі. Як жа разлічвацца за лён?
Стары нахіліў галаву, падумаў і ўсміхнуўся:
— Вось і атрымліваецца: хочаш не хочаш, а трасту трэба везці, каб грошы на аванс атрымаць. Так? Так. — І нетаропка сеў.
У пакоі стала ціха. І таму вельмі выразна і чотка прагучаў нейчы

адзінокі голас, у якім былі і захапленне, і зайздрасць:
— Пра-віль-на!
Янка Шпак далонню выцер лоб.
— Якія яшчэ будуць прапановы, таварышы? Больш не будзе? Тады галасуем. Хто за тое, каб пачаць здачу трасты і адначасова ўсімі сіламі будаваць свой ільнозавод, прашу галасаваць.
Усе паднялі рукі.
Я нахіліўся да свайго суседа:
— Прабачце, вы той самы Сымон?
— Які?
— З люлькай.
Ён усміхнуўся.
— У нас амаль усе старыя з люлькамі.
— Я маю на ўвазе партызанскую люльку.
— А ў нас усе ў партызанах былі.
— Як жа мне таго Сымона знайсці, што люльку зрабіў?
Стары зноў усміхнуўся.
— Нялёгкая твая справа, сынок.
Я разгубіўся. Хацеў нават прасіць прабачэння. Але тут заўважыў, што хударлявы чалавек падміргвае мне: той самы, той.
Пасяджэнне працягвалася.
Янка Шпак заявіў, што засталося апошняе пытанне. Ён выцягнуў з кішэні паперку і памахаў ёю перад сабой:
— Ганьба, ганьба, таварышы. Паслухайце... «Заява. На праўленне Зарачанскага калгаса. Што ж гэта робіцца, людзі добрыя? Зладзейскім чынам ваш трактарыст выцягнуў з мяне дзесяць з паловай літраў бензіну, а потым кінуў пасярэдзіне Касой гары, быццам бензін няякасны быў. Ад вас, галадранцаў, іншага чакаць нельга. Калі не пакараеце трактарыста і не вернеце дзесяць з паловай літраў бензіну, а таксама пяць літраў за буксоўку на Касой гары, я на вас у суд падам». Усё, таварышы. Пісала Яўгенава цешча. Яўген, уставай. Давай справаздачу. Навошта ты браў у сваёй цешчы бензін? Хто табе дазволіў? Навошта ты ганьбіш сябе і ўвесь калгас? Смяяцца з нас будуць. Ці думаў ты пра гэта?
— Не думаў, — ціха прызнаўся Яўген. — Я хацеў для калгасных машын.
— Лепш бы ты на паўлітра з яе выцягнуў. На аднаго бяда была б. А так на ўвесь калгас... Думаю, што Яўгена трэба зняць з трактара, а бензін няхай цешчы адвязе. Каня яму дадзім.
— Таварыш старшыня!..
— Не, Яўген. Інакш нельга.
Усе, было відаць, шкадавалі Яўгена. Мой сусед, Сымон, прыўзняўся, зазіраючы ў твар трактарысту. Потым сеў і глыбока ўздыхнуў.

* * *

Я сам напрасіўся да Сымона ў госці. Мы паабедалі з ім, потым Сымон прынёс паношаны ватнік, шапку і проста, без ніякай затоенай думкі, сказаў:
— Цяпер пойдзем папрацуем, сынок. Мужчын у нас малавата.
Па дарозе да льносушылкі я думаў толькі аб тым, каб не асароміцца і вытрымаць змену да канца. Я ўкопваў у зямлю слупы, насіў жэрдкі на рыштаванні.



На будоўлю прыйшоў Шпак. Ён, як мне сказалі, узяўся кіраваць начной зменай. «Рана сабраўся»,— падумаў я.
Але Шпак, як выявілася, прыйшоў па мяне.
— Што вас турбуе? — асцярожна пацікавіўся я.
— Баюся, павязём лён, а яго не прымуць. А нам трэба здаць тон дзесяць, каб атрымаць грошы для авансу.
— Прымуць! — запэўніў я. — Няхай паспрабуе Перапечка ў вас не прыняць, мы яго на ўсю газету распішам.
Шпак павесялеў.
— Дык вы тады мо пад'едзеце з нашай машынай на льнозавод?
— Я?
— Вы.
— Добра.
— Тады канчайце сваю змену.
Мне не хацелася пакідаць будоўлю, і я працаваў разам з усімі. Неўзабаве калгаснікі паселі і нехта гукнуў:
— Сымон! Дзе ты там? Цягні сваю люльку. Пакурым.
— Тут я. Пакурым, пакурым.
Люлька ішла па кругу. Нетаропка цякла размова. Калгаснікі хвалілі Шпака. Хвалілі за льносушылку, хвалілі ўвогуле. Потым пачалі падлічваць, колькі прыбытку дасць ім сёлетні лён.
Нарэшце люлька дайшла да мяне. Зацягнуўся раз, другі, трэці... Ніколі я так соладка не курыў.

* * *

Увечары я доўга не мог заснуць. Спачатку думаў, што гэта ад стомленасці. Але не, гэта было штосьці іншае. Нешта незнаёмае. Незвычайнае. Мяне агарнуў спакой, нейкая надзея, упэўненасць. Здавалася, я вось-вось нешта адкрыю, знайду. Важнае, вялікае, значнае. Потым я заснуў, нічога не адкрыўшы.
Сярод ночы прачнуўся. За сцяной галасіста праспяваў певень. Па шыбах барабаніў дождж. Я ўспомніў сваё падарожжа па раёну. Вочы былі заплюшчаны, але я выразна бачыў Сымона-малакавоза, двух смешных старых Сымонаў, дзецюка ў шынялі, хударлявага мужчыну з Сымонавай люлькай у запэцканых глінай руках, Дзятлава, Зосю-аграномку, сярдзітую, непрымірымую Зосю, і, нарэшце, самога Сымона — Сымона з люлькай.
Устаў. Мне хацелася закурыць. Пальцы прабеглі па стале, шукаючы запалкі. Што гэта? Люлька. Я замёр. Люлька! Сымонава люлька! Як я не здагадаўся адразу!? Цяпер я ведаў, пра што мне пісаць. Прысеў да стала.
Пад раніцу, калі я стомлена пазіраў на блакнот, з ложка загаварыў Сымон.
— Цяжкая твая праца, сынок. З гадзіну гляджу і шкада мне цябе стала.
— Цяжкая, ой, цяжкая, дзядзька Сымон. Іншы раз думаю: кіну, яшчэ чым займуся.
— Не, так нельга. Цябе ж паставілі сюды... А пра што ты пісаў? Мне цікава: вуснамі варушыш-варушыш, як мая старая богу моліцца.
— Пра цябе пісаў.
— Пра мяне? Ты мяне не палохай, сынок.
— Пра цябе, дзядзька Сымон, пра ўсіх Сымонаў, што ў вас у раёне. Як яны ў часе вайны з блакады выходзілі, як цяпер жыццё сваё ладзяць.
Ён устаў, падышоў да стала, прысеў, падкурчыўшы босыя ногі пад сябе.
— Гэта цікава. У нас старшыня раней быў. Бывала, усё: я ды я.



Іншай размовы ў яго і не было. Да ручкі калгас ледзь не давёў. Цяпер у нас Шпак. Гэта сапраўдны чалавек: усё — мы. Да людзей у яго ўся душа адкрытая. Ну, і гаспадарка пачала ўзнімацца. Значыцца, ты пра гэта і пісаў?

— У асноўным, пра гэта.

— Ну, тады правільна. Я ніколі з карэспандэнтамі не сустракаўся, але, бачу, народ вы добры. Каб усе такія былі. А то прыедуць, павернуцца і назад. А ты пабудзь з народам, папрацуй з ім, пакажы сябе, тады і народ цябе паслухае. А так мо і слухаць няма чаго.

Я асцярожна ўзяў люльку са стала.

— Скажыце, калі ласка, гэта тая самая люлька, з якой вы тады прыйшлі да партызан?

— Да партызан? Я ў партызанах не быў. Я ў арміі служыў. Усю вайну, да апошняга дня. Яно, і служба мая была абозная, але ўсё ж вайсковая.

— А як люлька да вас трапіла?

— Сам зрабіў. Да вайны яшчэ. Я тады старшым конюхам працаваў. Хлопцы мае кідаюць недакуркі куды папала, а тут сена і ўсё астатняе. Узяў ды зрабіў. Па фасону, які ў аднаго старога на кірмашы падгледзеў.

— А ці чулі вы пра партызанскую люльку?

— Чуў. Той чалавек не з нашых месц. — Стары на момант задумаўся. — Калі хочаш, я табе адрас таго чалавека здабуду. Мой сусед ведае, дзе ён жыве. Але і ён, кажуць, не сам люльку зрабіў, а ў кагосьці пазычыў.

Я разглядваю люльку: пачарнелая, абгарэлая, адпаліраваная пальцамі да бляску, такая простая, такая звычайная — Сымонава люлька.

* * *

Раніцай з калгаса адправілася калона: трактар і дзве аўтамашыны — адна з трастой, другая з жэрдкамі. Траста была пакрыта саламянымі матамі. Да Касой гары калону суправаджаў Шпак. Ён ехаў на падножцы.

Пад Касой гарой калона спынілася. Трактарыст, малады хлопец, доўга тупаў па дарозе, вывучаючы ямы і калдобіны. Шпак хмурыўся.

Пачалі ўзбірацца. Трактар кашляў, як хворы. Нарэшце, машына апынулася на гары. Шпак з палёгкай уздыхнуў.

— У мяне да цябе просьба, карэспандэнт. У нас, браце мой, ні аднаго чыстага рахунку няма. Пазыкі шмат набралі. Банк усё спіша.

— Чакай-чакай! На асобы рахунак вам заўсёды чацвёртую частку пераводзяць.

— Гэта дробязь. Мне для авансу тысяч пяцьдзесят трэба, не менш... Зайдзі, можа, да Дзятлава. Няхай ён з банкам дамовіцца адкласці плацяжы хоць на паўмесяца.

— Зайду! Абавязкова зайду.

— Тады бывай! — І Шпак рушыў назад, у Зарэчча.

Нашу машыну трактар усцягнуў на дзіва лёгка. Азіраючыся ў акенца кабіны, хлопец смяяўся.

Спачатку дарога была добрая. Але ў нізіне, што зарасла бярэзнікам, машыны заселі. Шафёраў, відаць, збіла з панталыку пясчаная палявая дарожка. Яна неяк непрыкметна завяла на тарфяністую пашу. Да нас тут пабывала не адна машына: вакол віднеліся свежыя пні, а на дарозе валяліся ссечаныя маладзенькія бярозкі.

Сымон выцягнуў з-за пояса сякеру.
— Пойдзем і мы на лесанарыхтоўкі...
Я перахапіў сякеру.
— Дайце мне.
— Табе? А што — бяры.
Я папляваў на далонь, нацэльваючыся сякерай на стройную бярозку. Сымон тузануў мяне за ватнік.
— Пачакай, сынок. Надта бярозкі прыгожыя. Няхай растуць. Пойдзем лепш лазу сячы.
Сячы лазняк нялёгка. Лазіны сцёбаюць па твары, па руках. З грахом папалам я насек першы бярэмак. Сымон павалок яго да машыны. Я са злосцю накінуўся на бліжэйшую лазіну, і тут пачуў нейчы пісклявы голас:
— Я табе пакажу, злодзей, як калгасныя бярозкі сячы! Ты мне носам пнюшкі зараўняеш. Ты мяне век будзеш помніць!
Невялічкая, амаль дзіцячая рука схапіла мяне за вуха. Я падхапіўся. Побач стаяў маленькі чалавечак у брызентавым плашчы.
— Качанок!!! — здзівіўся я.
— Скуль ты мяне ведаеш? — запытаў чалавечак.
— Карэспандэнт я. Ты ж помніш мяне.
— Хто?! Карэспандэнт! — Качанок з цікавасцю агледзеў мае гумавыя боты, пашарпаны ватнік і зарагатаў: — Карэспандэнт?..
— Качанок! Не дурэй! Мы з табой учора ля моста бачыліся.
— Першы раз бачу! — Качанок перастаў смяяцца. — Пачакай жа, зарачанскі карэспандэнт... Ты ў мяне паскачаш за ссечаныя бярозкі. Я адразу нумар машыны запомніў... Думаў пажартаваць з табой, а цяпер да Дубаўца пойдзеш... Ён табе дасць карэспандэнта па сабекошту. Марш уперад!
З-за бліжэйшага куста паказаўся Сымон.
— Пачакай, Качанок, — закрычаў ён. — Няўжо ты не бачыў? Мы ж да тых бярозак, што на дарозе ўтаптаны, не даехалі. Адпусці чалавека. Не вінаваты ён.
— Мне для справаздачы кожны злодзей патрэбен. Учора Дубавец аштрафаваў Фомку на пяць слупоў, а мяне на ўсе бярозкі аштрафуе. Кулеш з маслам! Не адпушчу.
— Дык ты не Фомка? — здзівіўся я.
— Я — Пятрок, — чалавечак фанабэрыста выпрастаўся. — Пятрок Качанок. Старшы аб'ездчык калгаса...
На прыгорку я азірнуўся. Далёка-далёка чарнелі нашы машыны. У хмызняку курыўся сіні дымок. Сымон прыжмурыўся.
— Бульбу пякуць... Будзем прасіць у Дубаўца трактар. Добры быў Дубавец партызанскі камандзір. Арол.
Старшыню мы засталі дома: ён абедаў. Качанок пасадзіў нас на кухні, а сам шмыгнуў у святліцу. Дзверы засталіся не зачыненыя, і мы чулі, як Качанок дакладваў начальству:
— Затрымана двое. Секлі бярэзнік. Па сутнасці, машыны да бярозак не даехалі, але сякера была афіцыйна ў руках.
— Пакліч.
— Абодва з Зарэчча. Маладзейшы, быццам, карэспандэнт.
— Пакліч!
Мы зайшлі ў святліцу. Убачыўшы Сымона, Дубавец хутка ўстаў з-за стала і рушыў насустрач.
— Дзядзька Сымон! Якім ветрам? Сядай, паабедаем. — На мяне спачатку Дубавец не глянуў. — Колькі год я цябе не бачыў? А ты і не пастарэў. Сядай, сядай!



— Не, Піліпка, перш аб справе. Бярозак мы не секлі.
— Веру, Сымон, веру. Табе веру. Усё?
— Не, Піліпка, не ўсё, — Сымон набіваў люльку тытунём і чамусьці ніяк не мог набіць: тытунь сыпаўся між пальцаў. — Ці даў бы ты нам трактара машыны з ільном выцягнуць?
— Трактара? Гэтага не магу, Сымон. У нас свае машыны павінны везці... Заўтра-паслязаўтра... Сапсуецца трактар, хоць на той свет тады... Дзятлаў мяне жыўцом праглыне. А ён і так нешта коса глядзіць...
Сымон устаў.
— Бывай здаровы, Дубавец... Трактар грошы каштуе: мы разумеем.
Дубавец раптам падаўся да Сымона.
— Люлька. Тая самая? Я думаў, згубілася яна. Пачакай, дзядзька Сымон. Дай пакурыць.
— Не-не, Піліп. Не можам мы затрымлівацца. Чакаюць нас... Глядзі сам... Глядзі...
— Дай хоць патрымаць...
— Не дам! Не хачу. І не дам. — І, не развітаўшыся, сярдзіты і надзьмуты, стары пакінуў святліцу. Дубавец цяжка прайшоўся каля стала, аж масніцы жаласна заскрыпелі.
— А ты чаго застаўся?
— Чакаю трактар.
— Не на тое мы іх куплялі, каб кожнага сустрэчнага вазіць. Многа вас знойдзецца.
— Не, ты ўсё ж пашлеш трактар на дарогу. І паставіш яго на тым тарфяніку.
Дубавец усміхнуўся.
— Не дам я трактар, ясна?
На вуліцы Сымон некалькі разоў хапаў мяне за паліну ватніка.
— Пачакай, сынок, не ляці. Не сыйдуся я за табой... Калі б Дубаўца менш хвалілі, даўно б чалавекам стаў.
— Нічога! Адумаецца! Прымусім!
— Шпак не такі. З якога хочаш боку да яго падыходзь. А ў адным атрадзе з Дубаўцом былі. Сябравалі моцна. Цяпер нават не вітаюцца.

* * *

За вёскай у хваёвым ляску стаяў пад разложыстай елкай трактар. З кабінкі тырчэлі ногі трактарыста. Сымон пастукаў па ботах.
— Гэй, даўно тут?
— З ночы.
— А чаму схаваўся?
— Дубавец загадаў на край свету ехаць. На дарогі, кажа, трактары пасылаюць. Дык ад'едзь, кажа, каб не бачылі.
— Вось злодзей!
— Злодзей, — згадзіўся трактарыст.
— Ты — злодзей.
— Я?..
— Самы сапраўдны!
Трактарыст разгубіўся, убачыўшы, што я дастаю блакнот.
— Заводзь трактар! — загадаў я.
— А Дубавец?
— З ім пасля гаварыць будзем.



Не вылазячы з машыны, трактарыст хмура сачыў, як узрадаваныя шафёры, перашкаджаючы адзін другому, чаплялі трос. Потым, здавалася мне, трактарыст уздыхнуў і ўзяўся за рычаг. Адна за другой машыны лёгка выскачылі на дарогу.

Аднекуль пачуўся цяжкі конскі тупат. Над хмызняком паказалася галава конніка. Яна падскоквала, як паплавок: то пакажацца, то схаваецца.

— Запарыць каня.

Трактарыст схаваўся за машыну. Сюды нёсся Дубавец. Крута спыніўшы ўзмыленага каня, ён з ходу скочыў на зямлю.

— Ну, слаўная грамада, што цяпер скажаце? Пачалі са слупоў, а кончылі трактарам. Гэтага я вам не дарую. Адкажаце! Усё да капейкі аплаціце. А ты...— Дубавец кінуў шалёны позірк на трактарыста.— Ты ў мяне паскачаш...

Трактарыст павольна выпраствайся, распраўляючы плечы і ўзнімаючы галаву.

— Хопіць! Лепш у Зарэчча пайду. У самы адсталы калгас. Хопіць!

Дубавец, які спачатку ўсміхаўся, адступіў:

— Ты што?.. Ты што?.. Здурэў?..

Потым мы моўчкі курылі Сымонаву люльку.

— А я ведаю пра гэтую люльку,— перапыніў маўчанне трактарыст.— Мне бацька расказваў. Я яшчэ малы быў...

— А ты вось пакуры, — Сымон падаў яму люльку. — Пакуры.

Трактарыст прагна зацягнуўся.

— Я тут падзяжуру,— сказаў ён. — А потым у райком пайду. Няправільна Дубавец робіць.

* * *

Мы прыехалі на льнозавод у абед. Але на двары было поўна народу. З машын згружалі жэрдкі, дошкі, салому, рыдлёўкі, сякеры. Каля брамы стаяла Зося. Яна падняла руку.

— Адкуль траста?

— З Зарэчча.

— Сухая?

— Сухая-сухая! — радасна адгукнуўся Сымон.

Зося здзівілася.



— З Зарэчча? І сухая? — яна выцягнула жменьку трасты. —Праўда, сухая.

Машына рушыла на вагі. А я падыбаў у будачку, каб запісаць сякія-такія ўражанні ў блакнот, а заадно і крыху перакусіць. У кішэні майго ватніка ляжаў ладны кавалак сала, які раніцай запіхнуў туды Сымон. У будачцы ярка палала печка.

У аконца пастукалі. За тонкай сцяной нехта крыкнуў:

— Паехалі!

Каля будкі стаяла парожняя машына. Зося нешта гаварыла шафёру — дужаму хлопцу з чупрынай.

— Паехалі, — сказаў шафёр, убачыўшы мяне.

— У Асею, — растлумачыла Зося. — Па цэмент.

— Зараз! — крыкнуў я і паклаў у кішэню дзве печаныя бульбіны.— Усё! Гатоў! Паехалі!

Але паехаць адразу не ўдалося. Ад вагаў, махаючы рукамі, бег Сымон.

— Сы-нок! Сы-нок!

Я падаўся яму насустрач. «Як я мог забыць пра Сымона!»

— Сынок! Развітацца забыў. І я яшчэ нешта хачу сказаць. Адыдзем, адыдзем. Вельмі важнае... Шпак, відаць, забыў, замітусіўся. Лён мы здадзім, а грошай не будзе. Будзеш у Асеі, ідзі адразу да Дзятлава. Няхай паможа... Не забудзь! Глядзі, не забудзь.

— Не забуду, дзядзька Сымон.

— Тады добрае табе дарогі. Глядзі ж, прыязджай яшчэ.

— Прыеду! Абавязкова прыеду.

* * *

У Асею мы прыехалі позна ўвечары. Шафёр павёў машыну ў райспажыўсаюз, а я, дабраўшыся да гасцініцы, паваліўся на канапу.

Раніцай пазваніў у рэдакцыю.

— Сымонава люлька!? — са здзіўленнем перапытала машыністка.

— Іменна так, — пацвердзіў я.

У трубцы нешта шчоўкнула, потым пачуўся голас Карпа.

— Трымайся, ягада. Рэдактар дасць табе прыкурыць. Апрача люлькі, у цябе што-небудзь ёсць?

— Ёсць!

Я пачаў дыктаваць. Самае дзіўнае тое, што я зусім не хваляваўся. Я не мог адразу разабраць, што гэта было: абыякавасць, выкліканая апошнімі бурнымі падзеямі, ці непахісная ўпэўненасць у сваёй праўдзе. Ды я асабліва і не разбіраўся. Мяне непакоіла іншае, ці здолею я пераканаць Дзятлава, каб ён дабіўся адтэрміноўкі для Зарэчча.

З пошты я накіраваўся ў райком. Сакратарка ў прыёмнай загарадзіла мне дарогу. Дзятлаў заняты. Не-не, у яго нікога няма, але прыняць раней, чым праз гадзіну, не можа.

Я прысеў непадалёк ад дзвярэй. Самае вялікае праз дзве гадзіны мне трэба быць каля пошты. Дамовіўся, што мяне падвязуць да станцыі на паштовай машыне. У горадзе мне трэба быць сёння, каб адстаяць свой матэрыял.

У прыёмную ўвалілася некалькі чалавек. Сакратарка ўгаварвала іх не шумець. Я паціху за яе спіной прашмыгнуў у кабінет. «Не з'есць жа мяне Дзятлаў».

У кабінеце было ціха і пуста. Дзятлаў сядзеў за сваім сталом, нахі-

ліўшы галаву, бо прыціскаў вухам да пляча тэлефонную трубку. Трубка затрашчала.

— Слухаю, — сказаў Дзятлаў. — Дзе цябе чэрці носяць? Паўгадзіны чакаю. Гавары, дзе яшчэ трактары пастаўлены... І каб сам у райком званіў... Што? Нікога не было? Цяпер ёсць... Так... Так... Добра... Усё... Як усё? А Доўгі Брод? Чаму няма на Доўгім Бродзе? Трэба, каб і там машыны ішлі. Цяпер усё, — Дзятлаў паставіў на карце, якая ляжала перад ім, адзнакі і павярнуўся да мяне:

— Як у цябе там атрымалася?

— Шпаку трэба адтэрміноўка.

Ён кінуў на карту аловак і ўстаў з-за стала.

— Сам надумаў ці прасілі?..

— Прасілі. Шпак і Сымон. Па сакрэту адзін ад другога.

— Прасілі, кажаш? Прасіць мы ўмеем. Напрактыкаваліся.

Мяне забірала злосць. Я чакаў, што Дзятлаў скажа штосьці іншае.

— Злуешся? Дарэмна. Просьба мне твая не падабаецца. Мяне просяць, і я павінен прасіць. Табе зразумела гэта? Прасіць заўсёды непрыстойна. Не век жа нас будзе дзяржава выручаць. Вось таму і непрыстойна. Ну, добра, пачакай, — і, заклаўшы рукі за спіну, Дзятлаў пачаў хадзіць вакол стала.

Зазваніў тэлефон на маленькім століку. Дзятлаў неяк змяніўся, пасуровеў. Ён чакаў гэтага званка.

— Так. Так. Слухаю вас. Дакладваю. — Свабоднай рукою ён узяў напісаны аркуш паперы. — Першае: Мы супакоіліся на тым, што ў калгасы і саўгасы ў апошні час прыйшлі вопытныя ў большасці кадры. Мы выпусцілі ініцыятыву з сваіх рук... Што? Не трэба? Слухаю вас... Якія меры? — Ён паклаў аркуш на стол. — Мы прынялі наступныя меры. На апошнім бюро пастанавілі аб'явіць па партарганізацыі раёна трывогу і па пяць камуністаў ад кожнай адразу ж накіраваць на будаўніцтва паветак на льнозаводзе. Так, вы не памыліліся: я сказаў — аб'явілі трывогу. Разам з камуністамі едзе многа беспартыйных, асабліва з бліжэйшых калгасаў. Будоўля стыхійна ператвараецца ў народную. За суткі пастаўлены дзве павеці, а яшчэ дзве падводзяцца пад дах. Усяго будзе пяць новых павецей. Ужо засціртаваную трасту будзем накрываць саломай... Па тэрыторыі раёна пракладзены асноўныя трасы да льнозавода. Ва ўсіх небяспечных месцах кругласутачна дзяжураць трактары. Вызначаны пункты тэхнічнай дапамогі. На льнозаводзе абсталявалі пакой адпачынку... На бюро нікога пакуль не выклікалі. Потым заслухаем Дубаўца на пленуме. Трэба паправіць чалавека... Апошнія два дні возім толькі сухі лён... Адно пытанне да вас. Адно... Вы здагадаліся? Правільна: пазыка. У нас засталося тры такія калгасы. Асабліва адзін... Так... Так... Ясна... Добра... Да пабачэння,— Дзятлаў асцярожна паклаў трубку.

* * *

На другі дзень поезд даставіў мяне ў горад. На вакзале я купіў сваю газету. З хваляваннем разгарнуў яе. Майго артыкула не было.

Спачатку я хацеў зайсці ў рэдакцыю. Уявіўшы сабе злаславую ўсмешку Карпа Лукіча і вясёлыя кпіны сяброў, я пайшоў у абком. Мне пашанцавала: да абкома толькі што пад'ехаў сакратар.

— Я да вас.

— Хадземце.

Зайшлі ў кабінет. Ён папрасіў мяне хвіліначку пачакаць. Зняў плашч, выняў з кішэні газету — я заўважыў: нашу газету, сённяшні нумар — і накіраваўся да стала.

— Мне ваш артыкул спадабаўся. Я збіраюся прачытаць яго ў другі раз.

— Які артыкул?

— Вось гэты, — ён паказаў мне газету. — На першай паласе. Няўжо не чыталі?

— Я толькі што прыехаў.

— Вы былі на льнозаводзе?

— Быў.

— Гэта не нагадвае штурмаўшчыну?

— Не-не! Гэта вялікая будоўля. Народная будоўля. Хутка лён пойдзе патокам.

— Дзятлаў вас пераканаў?

— Я сам пераканаўся.

— Гэта добра. Вельмі добра. — Ён паклаў на стол газету, узяў тэлефонную трубку і пачаў выклікаць абкомаўскіх работнікаў.

Я, схіліўшыся, хутка абдумваў, як мне больш пераканаўча расказаць аб Зарэччы. Скончыўшы размову па тэлефоне, сакратар падышоў да мяне.

— Слухаю вас.

Нетаропка, звыклымі жэстамі, ён набіваў тытунём люльку — тую самую, Сымонаву люльку.

Я ўпершыню бачыў гэтую люльку ў руках сакратара абкома і таму здзіўлена пазіраў то на яе, то на сакратара. Мне ўспомніліся размовы пра блакаду і смелы партызанскі прарыў, дружная праца асейскіх калгаснікаў. І я чамусьці быў вельмі рады, што і сакратар абкома курыць тую ж самую Сымонаву люльку.





**Пятрусь МАКАЛЬ**

# АПОШНІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ

кая мне справа
да капітана Конг Ле,
Да джунгляў Лаоса, да Луан-
Прабана?..
«Праўда» свая—
у мяне на стале,
Свой у прыёмніку—
бас Левітана.
Свой над страхою
прастрэлены сцяг,
Свой пад страхою
ложак дубовы,
Дзе я са свінцом,
што завяз у касцях,
Вейкі змыкаю —
ў хвіліну адбою...
Грузныя вейкі змыкаю —
знікаю.
Подыхам пыльныя пальмы гушкаю.
Гул у мяне ў галавах.
Ураган.
Следам за громам прыціхлай атакі
З кропель крыві —
палымяныя макі...
На генерала
ідзе капітан!



Колькі да Міншчыны з Інда-Кітая?
Колькі ад страшных бяссонніц да
сноў?
Аж да падушкі маёй далятае
Вогненны вецер з Даліны Збаноў!
Дроб кулямёта і бомбавы выбух —
І вокамгненна ўзрываецца сон...
Коціцца соннае сонца па шыбах,
Свет атуляючы алым крысом.
Коціцца сонца і ў свеце світае,
Плавіцца шэрая шэрань на шкле...
Недзе ў прыёмніку — бас Левітана.
Свежая «Праўда» ў мяне на стале!

# У ЛЕСЕ

рэвы — нібы дзяды:
сівізна на галінах кашлатых.
Я прыходжу сюды,
як на сход мудрацоў барадатых.
Барадатых і дужых,
падобных да воінаў Кастра,
Сонца веснае ўзняўшых
угору на кронах купчастых.
На мяне, як на дзіва,
глядзяць яны зверху заўсёды,
Бо на сходзе адзіны я
грамадзянін безбароды.
Я прыходжу паслухаць
світальную мудрасць дубровы.
На мяне пазіраюць бязмоўна
не дрэвы,
а дровы —
Страявыя стралкі,
што страляюць у печах спрадвеку,
Што ахвярна гараць,
каб аддаць цеплыню чалавеку.
На мяне пазіраюць маўкліва
цымбалы,
якія
Не паспелі рассыпаць
напевы свае
трапяткія.
На мяне пазіраюць
крамяныя мачты —
не сосны.
Старшынствуюць на сходзе
не лютыя зімы,
а вёсны!
Лёгка дыхаць на сходзе,
тут клімат,
як кажуць,
здаровы:

У сяброўскім суседстве —
цымбалы,
і мачты,
і дровы...
Ваяўнічыя вёсны
тут гнёзды свае заснавалі,
Спеў птушыны з галінаў
навечна дрымоту абтрос.
І шуміць, і гамоніць
пра мірнае суіснаванне
Асамблея зялёная
сосен,
дубоў
і бяроз.

## ІМЯ ВЕКА


е злічыце яго імёны вы,
Іх шчодра дорыць чалавек:
Ракетны, атамны, нейлонавы,
Пяшчотны і каварны век...
Ракетны ты
зусім заслужана,
Але не там, дзе на паказ
У акіян, нібыта ў лужыну,
Паспелі плюхнуцца не раз.
З табой стасуецца і атамны —
Імя разбуджаных надзей...
Вось толькі б атамы гарматамі
Не пазіралі на людзей!
Нейлон...
Паклон яму, свавольнаму,
Што прасвятліў красу дзяўчат.
Ды і з нейлона ткуць няўмольна
Чахлы для атамных гармат.
Пяшчотны,
ты дзіцёнка кволага,
Уратаванага з агню,
Рукой хлапца русагаловага
Узняў, як сонца, ў вышыню.
Дарог ваенных пыл заўзяты
Дагэтуль на зубах хрумсціць...
О як жа мірным, век дваццаты,
Цябе, нарэшце, ахрысціць?
Імя, як май, імя, як квецень,
Званчэй за сто імён адно.
Я веру — людзі на планеце
Гарматы ўсе спіхнуць на дно!



## ВОРЫВА


не падабаецца ворыва:
Нырае нарог да паловы —
Зямля зачапляецца здорава,
Як за кручок рыбалова...

Скачыце ад радасці, дзежкі!
Народзіць грудастая глеба
І зерне,
і ўдзячныя ўсмешкі
Нястомных сейбітаў хлеба.

З усіх перамог перамога —
Братэрства зямлі і метала.
Я знаю.
Мяне самога
За плугам не раз матала...

Пралягуць барозны доўгія
Бліщчастаю русай палоскаю.
Бач ты —
зямля аздоблена
Такою цудоўнай прычоскаю!

Нібы грабянцом умела
Правёў па планеце хтосьці...
Вось гэта я разумею —
Клопат аб прыгажосці!

* * *


дзіўляла мяне, падлетка,
З самай зялёнай пары,
Што ружа, пяшчотная кветка,
Мае шыпы-кіпцюры.
Вітаючыся са мною,
Вёска — настаўнік мой —
Халоднай бывала
вясною,
Гарачай бывала
зімой.
Вартуючы сад прыгожы,
Маячыла ў старане
Высокая агарожа,
Як змова супраць мяне.
На ўсходзе — зара трапяткая,
Маці-Масква...
Бяжы!
І тут жа цябе спаткае...
Дрот пагранічнай мяжы.
О, свет неабдымны і цесны!
Як саўладаю з табой?

Гэта ж зусім нячэсна!
Гэта няроўны бой!..
Ды вось і палацы маскоўскія.
Я, ачмурэлы, гляджу.
Тукаюць туфелькі коўзкія
Кропелькамі дажджу.
Хмурынку ў блакіце прашыла
У свету ўсяго на віду
Ленінскіх гор вяршыня —
Я да яе іду!
Сэрца Масквой заселена.
Раняючы з твару расу,
Ружу, як чашу вясельную,
Любай сваёй нясу!
Вядуць нада мною ворыва
Касмічныя караблі...
Харошыя хлопцы здорава
Мне ў жыцці памаглі!
Ды многім яшчэ агарожам
Упасці трэба ў баю.
Я буду хлопцам харошым!
Я слова салдата даю!

# ГІМН ЦВЯРОЗАСЦІ


Я знаю пах віна і смак чарэшні.
Я сам зусім не праведнік бязгрэшны.
І ўсё ж складаю гучны гімн цвярозым:
— Няхай жыве да веку ясны розум!
Ды вось жа пляшкі на стале пасталі,
Як ідалы на хісткім п'едэстале.
І рыльцы іх нацэлены, як жэрлы:
Ідзе ў атаку ідал ненажэрны!
І ты прад ім адразу рукі ўгору —
Усё адно,
            ці з радасці, ці з гора...
Ты шклянкаю, якую ўраз асушыш,
На суткі сонца сам сабе патушыш.
І задрыжыць відэлец ў пальцах слізкіх.
Ты — злодзей!
                    Ты крадзеш у самых блізкіх:
У жонкі —
            непадораную ласку,
У сына —
            нерасказаную казку.
Прададзены падманлівым акрасам,
Ты і чарніш і лакіруеш разам.
І лак і дзёгаць у тваім бакале
Прыпынак для абдымкаў адшукалі...



Ты — дэзерцір!
                    Ты завярбован страхам,
Сам ад сябе ўцякаеш гразкім шляхам.
І языком, як малатком, кляпаеш —
Бяжыш і за крысо мяне хапаеш!
Таму я і складаю гімн цвярозым:
— Няхай жыве да веку ясны розум!
Калі ж не можа свет зусім без п'яных,
Дык лепш ужо хмялець ад губ каханых!

# ПАЭТУ


Пачуць зялёны кліч вясны на золку
І дом змяніць на палявы абшар.
Саманадзейна замахнуцца ў зорку
І трапіць толькі ў вулічны ліхтар.
Глытаць таблеткі, калі ўвесну сыра.
Цягнуць у спёку з куфля моцны квас.
І праклінаць пагоду і касіра
За тое, што не выплаціў аванс...
Складаць кантаты гераічнай Лайцы,
Якой натхнёна пляскаў род людскі.
З рэдактарам да ачмурэння лаяцца
І з крыкам аперыраваць радкі.
За чаркаю граміць няпраўды свету
І абдымаць усіх людзей-братоў...
А змог бы ты,
                    як Галілей,
                                планету
Спіхнуць у бездань з трох кітоў?
Ты маўчыш?
Тады выкінь сваё пяро!



Мал. В. Долгава.

Іван КОЗЕЛ

# КАНЧАНЕ—СУСЕДЗІ МАЕ

## П'еса ў 3-х дзеях

### ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Шыдлоўскі Язэп — старшы конюх калгаса, 50 год.
Шыдлоўская Антаніна — яго жонка, калгасніца, 47 год.
Жэня — іх дачка, цялятніца, 23 гады.
Жыгліцкая Ярына — сястра Шыдлоўскага, 55 год.
Федзя — яе сын, бухгалтар калгаса, 28 год.
Ядзя (Ядвіга Паўлаўна) — яго жонка, настаўніца, 25 год.
Сцёпка — яе зводны брат, брыгадзір, сакратар камсамольскай арганізацыі, 27 год.
Андрэй — загадчык магазіна, Федзяў аднагодак.
Ціхонь — калгасны каваль, 45 год.
Зося — яго жонка, 30 год.
Васіль — калгасны шафёр, 26 год.
Роза — акушэрка, 25 год.
Каця — даярка калгаса, Жэніна сяброўка.
Даша, Саша — вучні сёмага, потым восьмага класаў.
Стась — баяніст.
Дзяўчаты.

Дзея адбываецца ў адным з калгасаў Беларусі ў нашы дні.

Права першай пастаноўкі належыць Беларускаму тэатру юнага гледача.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Прасторная кухня ў старым доме. У адным куце руская печ, пры ёй шафка з пасудай; у другім — кухонны столік, дзве лаўкі, некалькі крэслаў і табурэтак. Злева пакой Шыдлоўскага; справа ля печы дзверы ў пакой Жыгліцкіх. На заднім плане выхад на вуліцу. На кухні адна Шыдлоўская. Яна скончыла прасаваць бялізну і адключае электрапрас. З вуліцы даносіцца песня п'янага Шыдлоўскага, якая некалькі нагадвае галашэнне:

«Паціхоньку, палягоньку,
гнаў Сымонка самагонку».

Шыдлоўская (*прыслухоўваючыся*). Што гэта? Хто гэта?

Тэмп песні становіцца больш бадзёры.

Каб на свята была хата
Каласяначкай багата.

З'яўляецца Шыдлоўскі.

Шыдлоўскі (*співаючы*). Свата ў госці ён чакаў!

Шыдлоўская (*здзіўлена*). Дзе ж ты, братачка мой, набраўся гэтак, як жаба гразі?

Шыдлоўскі (*сумна*). А дай ты рады, бабка, у закусачнай. Дзе ж ты вып'еш цяпер? Участковы ж, у жыта б ён галавой, ва ўсім сельсавеце падпольную вывеў...

Шыдлоўская (*з абурэннем*). І з кім жа цябе, мужанёк, знесла нялёгкая з самага ранку?

Шыдлоўскі (*абыякава*). І не падумаеш нават. З Вінцэсем, пляменнікам сваім. Як спаткаліся, дык разысціся ніяк не маглі.

Шыдлоўская (*незадаволена*). І якую ж раптам прычыну вы знайшлі, што да чаркі вас пацягнула?

Шыдлоўскі (*апраўдваючыся*). З гора мы. Я па службовай часці, а ён па сямейнай, значыцца.

Шыдлоўская. Ну, тваё гора я ведаю, а ў яго што страслося такое?

Шыдлоўскі. Ды бачыш, сына чакаў ён ад першых родаў, Юркам назваць збіраўся, а тут — на табе!— дачку жонка нарадзіла. Цяпер жаліцца ён, сем гадоў дурнем хадзіць прыйдзецца.

Шыдлоўская (*разабраўшыся, нарэшце, у чым справа*). Цьфу! Дурань ён сам тады разам з прымаўкай бязглуздай сваёй, не ўсё роўна дзіця яму.

Шыдлоўскі (*паддобрываючыся да жонкі*). А няўжо ж. Можа б і яна лепш сына хацела, ды што ж зрабіць... (*Запявае на той жа лад.*)

А Сымонка ведаў тонка,
Як гоніцца самагонка.
Ён бутэлькі расстаўляе,
На кацельчык паглядае, —
Давядзецца пацягнуць!

(*Скончыўшы співаць.*) А што ты, бабка, варыла добрае, у жыта б ты галавой?

Шыдлоўская (*здзіўлена*). Ды ты ж снедаў нядаўна,— забыўся, ці што? І паабедаць у закусачнай, нябось, паспеў.

Шыдлоўскі. А перад сном і павячэраць не шкодзіць. (*Садзіцца ля стала.*)



Шыдлоўская (*строга*). А коней за цябе хто дагледаць будзе? Ці гэта старшаму конюху і прагуляць можна?

Шыдлоўскі. Не турбуйся, мая чарга заўтра... То якія там прысмакі ў цябе?

Шыдлоўская. На дзень рыба смажаная і груца з гарохам.

Шыдлоўскі (*незадаволена*). Нясі рыбу — жывот яе рэж, раз нічога лепшага прышыкаваць не змагла.

Шыдлоўская забірае бялізну, электрапрас і ідзе ў свой пакой.

Шыдлоўскі (*раптам перадумаўшы*). Не хачу рыбы, груцы налі. Толькі без гароху, скісне ён няхай.

З'яўляецца Шыдлоўская.

Шыдлоўская (*абурана*). Ну дык ражна з'еш, калі такі пераборлівы.

Шыдлоўскі (*мякка, ласкава*). Во жонка, у жыта б ты галавой, чым частуе мяне. На дзядоўскую пугу распусцілася баба, знаць, што бітая даўно была. (*Співае.*)

Як агеньчык разгарэўся,
Канец трубкі замакрэўся,
Засмяяўся наш Сымонка,
Палілася самагонка,—
Забіяцкі першачок!

Шыдлоўская (*спагадліва*). Досыць табе. Ляж адпачні лепей!

Шыдлоўскі (*з просьбай у голасе*). Раздзень.

Шыдлоўская. Не вялікі пан, можаш і сам.

Шыдлоўскі. А нашто ж я жаніўся тады, для чаго цябе браў, у жыта б ты галавой... (*Жаласліва.*) Разняшчасны я чалавек! Палавіну коней забіраюць ад мяне. І такіх коней — маляваных проста! (*Запявае.*)

А ўчастковы не зявае
На Сымонку налятае...

Шыдлоўская. Ну, давай распрану з большага, лапацень ты. (*Здымае з яго пінжак.*)

Шыдлоўскі (*стомлена*). Разуй...

Шыдлоўская (*з папрокам*). Вельмі ж добра жывецца табе. (*Сцягвае з яго боты.*)

Шыдлоўскі. Як і павінна быць... Эх, гора ты маё... І майго Салаўя варанога бяруць, якога я выгадаваў. (*Співае.*)

А ўчастковы не зявае,
На Сымонку налятае,
Крычыць: «Стой, не ўцякай!»

Шыдлоўская. Не вурызгай ты, кладзіся ідзі хутчэй.

Шыдлоўскі (*з просьбай у голасе*). Завядзі ў спальню...

Шыдлоўская. Во, да хаты прыйшоў, а ў спальню не зойдзе ўжо сам. Ну, трымайся. (*Бярэ яго пад руку і падымае з крэсла.*) Пойдзем.

Шыдлоўскі (*ледзь перастаўляючы ногі*). Ох, бяда ты мая... Такі жарабок вырас. Гэта ж калі ўскочыш на яго, бывае, дык не пыл, а агонь з дымам з-пад ног у яго хмарай верне. А як заіржэ, часам, быццам сто гармонікаў у горле ў яго зайграюць. (*Співае.*)

Будзем пратакол пісаці...

Шыдлоўская (*ведучы мужа*). Што на калах усё адно.

Шыдлоўскі (*знарок падкурчвае ногі, співае*).

Самагонкі нельга гнаці...

Шыдлоўская (*абурана*). Не навісай ты так на мяне: гэта ж з мяне ўжо апошні дух вылазіць!

Шыдлоўскі. Нічога, ты ў мяне цягучая...
Шыдлоўская. А божа ж мой! (*Падае разам з ім на падлогу.*)
Шыдлоўскі (*спявае*). Будзем пратакол пісаці...
Шыдлоўская. Ну, зацягну ж, калі не завяду! (*Бярэ яго пад пахі і валачэ ў пакой.*)
Голас Шыдлоўскай. Вось і ложак. Прыўстань жа...
Голас Шыдлоўскага. Не магу.
Голас Шыдлоўскай. Як гэта падняць яго? О-оп, ляжы, каб ты не ўстаў! (*Выйшаўшы на кухню.*) Хух, як стамілася. (*Садзіцца на лаўку.*)

З'яўляецца Ядзя.

Ядзя (*мяшаючы качаргой жар у печы*). Колькі работы дома, калі застанешся адна. Пакуль у печы выпаліш, скаціну накорміш, вады нагрэеш, дык там ужо і на паўдня аглядацца пара. Няма калі проста і да ўрокаў рыхтавацца. Хутчэй бы, здаецца, свякроў ад дачкі вярнулася. (*Прысланяе печ.*)
Шыдлоўская (*спагадліва*). Ага, Ядзенька. У гаспадарцы так: тупаеш ад цямна да цямна і работы тваёй не відаць нідзе. (*З дакорам.*) Ды ў вас і скаціны ладне: карова, дзве авечкі з ягнятамі, трое свіней і курэй цэлага дзесятка паўтара.
Ядзя. І нашто нам столькі ўсяго, падумаўшы. Я на зарплаце, і ён, апрача працаднёў, даплату грашыма атрымлівае. (*Бярэ карыта з-пад прыпечка і ідзе з ім на двор.*)
Шыдлоўская (*услед ёй*). Ну, у багацця ж канца ніколі няма.

Са свайго пакоя выходзіць Шыдлоўскі.

Шыдлоўскі. Што гэта, любка, спытаю я ў цябе, пад бокам у мяне, пярына ці рад паленняў, рад каменняў? Перасцялі ложак, у жыта б ты галавой.
Шыдлоўская (*з гневам*). Каб ты праваліўся, каб ты, як ты мучыш мяне! На грош вып'е — на два прытворыцца заўсёды.
Шыдлоўскі. Не падымай шэрсці, баба, а то... Я злосны цяпер, калі ў мяне з коньмі непрыемнасць такая...

За дзвярыма раздаецца тупат.

Шыдлоўскі. Нехта ж сунецца, чуваць. (*Хаваецца ў свой пакой.*)

Шыдлоўская забірае боты, пінжак Шыдлоўскага і ідзе ўслед за ім. З'яўляецца Жэня з Васілём. Яны абое вясёлыя, смяюцца, уваходзячы ў хату.

Жэня. Дык ты, Вася, возьмеш мяне ў горад заўтра?
Васіль. Паглядзім на твае паводзіны. (*Смяецца.*)
Жэня. Мяне ж у райком камсамола выклікаюць.
Васіль. А мне што за бяда, на аўтобусе едзь. (*Смяецца.*)
Жэня. Я ў цябе і пытацца не буду, сяду і паеду: не твая машына — калгасная.
Васіль. А я зганю вазьму. Не гарэць жа мне праз цябе перад аўтаінспекцыяй. Ты ж мне не грузчык і ў пуцёўку не будзеш упісана. (*Рагоча.*)
Жэня. У кабіне ж ты маеш права аднаго чалавека везці.
Васіль (*абдымаючы яе*). Паедзем, паедзем, Жэнечка, я цябе не толькі ў раён, а хоць у сталіцу без усякай пуцёўкі везці магу, і ніводзін аўтаінспектар нічога не зробіць мне. Але што я атрымаю за гэта?



Жэня (*усміхаючыся*). Мех кулакоў і паўмеха авансам усыплю. (*Пачынае біць яго тумакамі ў грудзі.*)
Васіль. Ну-ну, я ж не падушка пуховая, каб падбіваць мяне.
Жэня (*смеючыся*). Праўда што, толькі руку пабіла аб скабы. (*Дзьмухае сабе на пальцы.*)
Васіль. Будзеш ведаць... Гэтак жа, мусіць, і мне балела?
Жэня. Ваша ж, мужчынская, скура цвёрдая. (*Зноў пачынае біць, але адной рукой.*)
Васіль. Мацней, мацней, можа хоць сон разгоніш...
Жэня. Ага, а што ты сказаць па дарозе збіраўся мне? (*Садзіцца на крэсла.*)
Васіль. О-о, вельмі важнае нешта. (*Садзіцца ля яе.*)
Жэня. Ну, я слухаю.
Васіль (*разыгрываючы яе*). Пачакай, закурыць наперад дазволь. Гэта ж не так проста сказаць. (*Дастае з кішэні партсігар, вымае з яго папяросу, потым, не спяшаючыся, бярэ запалкі і прыкурвае.*)
Жэня. Гавары ты хутчэй! Цярпенне лопне, пакуль дачакаеш.
Васіль. Та-ак, адкуль жа мне пачаць...
Жэня. З сярэдзіны, з канца, калі не можаш спачатку.
Васіль (*узяўшы Жэню за руку*). Дык бачыш... я... люблю...
Жэня (*перабіўшы яго*). Я гэта не раз ад цябе чула.
Васіль. Ды не, не тое.
Жэня. А што? (*Хапае яго за вуха.*)
Васіль. Палутарку сваю, яна ў мяне такая ж капрызная, як і ты ўсё адно. (*Рагоча.*)
Жэня (*адпусціўшы яго вуха*). І я люблю...
Васіль. Адыграцца хочаш? Каго ж, цікава?
Жэня. Бычэчка-рыжыка: ён акурат тваёй масці, а хвост, усё роўна, як твой язык, матляецца.
Васіль (*смеючыся*). Малайчына. Здорава пад'ехала... (*Прытуляе яе да сябе.*) Мне і крыць няма чым апрача як... (*Цалуе яе.*)
Жэня. І ўсяго гэта ты меўся сказаць мне?
Васіль. Ну. А што? (*Смяецца.*)
Жэня. Нічога... Я думала...
Васіль. А ты думала, мусіць, я пра вяселле наша выпалю раптам. Дык ты ж малая яшчэ, падрасці хоць крыху... (*Рагоча.*)
Жэня (*без крыўды*). Карбюратар ты ржавы! Ты б спытаўся наперад, ці пайду я за цябе, развінчанага.
Васіль. А дзе ж ты дзенешся. Ваша ж дзявочая доля такая: бяруць — ідзі, абмінаюць — сядзі. (*Смяецца.*)
Жэня. Бывае і наадварот: браў бы, ды рукі кароткія.
Васіль. Гэта бывае рэдка, як град улетку. (*Смяецца.*)
Жэня. Затое ў нас ёсць свой жаночы дзень 8 сакавіка, а ў вас няма ніводнага.
Васіль. Дык нашы ж усе астатнія дні ў годзе. І я дзіўлюся яшчэ, як вам не выпаў толькі дзень 29 лютага, раз у чатыры гады. (*Рагоча.*)
Жэня (*занепакоіўшыся*). Што я чую!
Васіль. Ды вашаму ж брату трэба, як той кручастай фасолі, учапіцца за нашага брата моцна і трымацца за яго рукамі і нагамі, бо інакш не пражыць.
Жэня. Дык што, можа і мне чапляцца на карак табе? Не, дудкі! Пра мяне нават у «Мінскай праўдзе» пісалі. А ты прынізіць мяне захацеў. А сам ты на палутарцы сваёй далёка заехаў? У насценгазеце крытыкавалі толькі.

Васіль (*апраўдваючыся*). Дык гэта ж было тры месяцы таму назад. Але я паказаў сябе потым. І чаго ты так ускіпела? Гэта ж усяго былі жарты.

Жэня (*з дакорам*). Твой дзед Карусь увесь век жартаваў з Аўдоляй, а яна цэлы век плакала. А цяпер не той час зусім. Ты мне не вінават нічога, я табе, і можам не сустракацца болей.

Васіль (*падсоўваючыся да яе*). Ну, не злуй, Жэня. Чаго надзьмулася? Пагодзімся давай. Я ж цябе люблю, і ты мяне любіш, ведаю. *(Хоча абняць яе.)*

Жэня (*адсоўваючыся ад яго, з абурэннем*). Чаму ў цябе столькі ўпэўненасці? І адкуль ты ўзяў, што я кахаю цябе?

Васіль. Ты ж мне сама гаварыла.

Жэня. Дык гэта ж я так, смехам проста.

Васіль. Хітруеш ды няўмела. А чаму ж ты на вечарынках не гуляеш ні з кім іншым, акрамя мяне?

Жэня. А якая ж гэта дзяўчына, што ніводнага хлопца не мае? Хоць каго пільнавацца трэба, пакуль хто лепшы не знойдзецца.

Васіль. Ты панаругацца мне захацела?

Жэня. Чаго? (*Абыякава.*) Вельмі патрэбен ты мне.

Уваходзіць Андрэй.

Андрэй. Добры дзень, маладая парачка.

Жэня (*заігрываючы з Андрэем*). О-о, Андрэйка, добры дзень, добры дзень! Праходзь, сядай у нас. Расказвай, дзе быў, што пабачыў за тры гады добрага.

Андрэй (*прысаджваючыся*). Ну, не толькі ж у акне свет, за акном ён яшчэ шырэйшы.

Жэня *(працягваючы сваё заігрыванне)*. А я ўжо думала, ты заганарыўся, як у дальніх краях пажыў, што да сваіх знаёмых не зойдзеш, вярнуўшыся.

Андрэй. Я лічыў, што і без мяне хапае каму вам хату вышастаць. *(З іроніяй.)* За адным Васілём толькі дзверы не зачыняюцца.

Жэня (*не слухаючы яго*). І як з'ехаў з дому, дык што ў ваду кануў. Хоць бы пару слоў якіх напісаў пра сябе. Здаецца ж, мы і сябрамі нядрэннымі былі.

Андрэй. Прызнацца, дык я і кахаў цябе шчыра. Толькі чаму ж ты праводзіць мяне адмовілася пры ад'ездзе, не разумею.

Жэня. Ты мне падабаўся. Андрэйка, але ж я зялёная яшчэ зусім была і чырванела ад сораму, калі мяне з хлопцам бачылі.

Васіль *(не вытрымаўшы)*. А калі ў пацёмку абдымаў хлопец — радавалася, мусіць?

Жэня *(апраўдваючыся)*. Бачыш, Андрэйка, як ён падкалвае мяне. Вось табе і сусед называецца.

Андрэй (*Жэні, з падколам да Васіля*). Усяго сусед? А кажуць жа, што ваша каханне ў агні не згарыць, у вадзе не растане.

Жэня. Плёткі, Андрэйка! Мы толькі сварымся з ім, як сыйдземся разам.

Андрэй (*даходзячы праўды*). Ат, не мароч ты мне мазгоў, Жэня. Гавары лепш адкрыта, калі я ўжо белую кветку пачаплю над сэрцам.

Жэня (*таксама дапытліва*). Кветку, а не ручнік цераз плячо, часам? (*Махае наўзбоч рукой і ўпускае насоўку.*)

Андрэй. Які ж гэта птах заводзіць сям'ю ў выраі. Кожны ў родны куток ляціць, каб гняздо зляпіць. (*Падымаючы з зямлі насоўку.*) Вы, мусіць, паспрачаліся нядаўна, і, як кажуць, за мех, а ў мяху смех... Калі ласка. (*Падае Жэні насоўку.*)



Жэня (*з мяккім папрокам*). Во, вучыся, як весці сябе з дамай. Што лыпаеш? Адразу відаць, хто свету пабачыў.

Васіль (*з непрыкрытай злосцю*). Дзе шмат этыкету, там мала шчырасці...

Жэня. Ну, не з тваёй каробкай скарасцей зразумець гэта.

Васіль (*апраўдваючыся*). Няхай сабе, але падхалімам я ніколі не быў, тым болей бабскім.

Андрэй *(павучальна)*. Ну што ты, Вася! Жанчын паважаць трэба, уступаць ім месца, дарогу, бо яны, жанчыны, спрадвеку больш сціплыя, чым мужчыны.

Васіль (*наругаючыся*). Гэта было некалі. А цяпер і ў іхняга брата хапае смеласці, нават нахабства...

Жэня (*з усмешкай*). Што ты яму даказваеш, Андрэйка! Альбо ж ён мужчына — рухавік бястактны грубай канструкцыі.

Васіль (*не ведаючы, што сказаць, павышаным голасам*). Няма перад кім джэнтльмена стругаць з сябе. Ды і часу няма пераліваць з пустога ў парожняе з вамі. Трэба ісці машыну памыць. Шчаслівa заставацца!

Жэня (*пяшчотна, з тонам перамożцы*). З богам, Васілька, з богам! І дыванам сцежачка няхай табе будзе.

Андрэй. Якая кошка прабегла паміж вамі?

Жэня (*сумна*). Не будзем гаварыць пра гэта, Андрэйка. Ва ўсім добры хлопец, ды ніяк культуры ад яго не даб'юся.

З'яўляецца Ядзя з вядром вады і са скруткам газет і часопісаў пад пахай.

Ядзя. Добры дзень, Андруша.

Андрэй. Добрага здароўя маладой гаспадыні.

Ядзя (*паставіўшы вядро вады на лаўку ля печы*). Пачытай навіны, Жэня, якраз паштальёнка прынесла. (*Падае ёй газету і часопіс.*)

Жэня. Дзякуй. (*Праглядае часопіс.*) Цікавыя апавяданні ёсць у «Работніцы», не толькі модныя выкрайкі.

Ядзя. Ну, як жылося табе, Андруша, тры гады гэтыя па-за домам?

Андрэй. Мне скрозь добра было, дзе я ні жыў: і на цаліне, і на новабудоўлях сібірскіх...

Ядзя. А ты ў водпуск прыехаў, ці зусім вярнуўся дахаты?

Андрэй. Ехаў я ў водпуск, але ўбачыў месца наседжанае і не хочацца нікуды больш кратацца адсюль. Ды і дзяўчат сваіх канчанскіх зноў пакідаць шкада неяк. Яны ад таго і прыгожыя такія, мусіць, што ў водах Серабранкі нашай купаюцца змалку. *(Жэні.)* Асабліва адна з іх да душы прыпала маёй.

Ядзя. То можа і работу знайшоў сабе тут?

Андрэй. Ага, думаю магазін прыймаць ад Сяргея. Работа там не такая, каб надта па сэрцы, але спадзяюся, яна мне паможа ў гандлёвы тэхнікум на завочнае паступіць. А то нашы канчане абскакалі мяне з вучобай, Сцёпка з Жэняй у сельскагаспадарчую акадэмію падаліся, (*з іроніяй*) Ваську ў аўтадарожны інстытут прынялі.

Ядзя. Васька маладзец, галава варыць у яго.

Жэня. І работа кіпіць у руках, як возьмецца. Гэта ж дапатопную палутарку, якую спісалі былі, адрамантаваў і, будзь здароў, як ездзіць на ёй.

Андрэй (*са знявагай*). Толькі задаецца залішне.

Жэня (*заступаючыся за Васіля*). Асабліва перад дзяўчатамі.

Андрэй. А як тваё замужняе жыццё працякае, Ядзя?

Ядзя *(неахвотна)*. Весела, сумаваць не даводзіцца. *(Ідзе ў свой пакой.)*

Жэня (*спачувальна*). За адной гаспадаркай няма калі толькі.
Андрэй. Але ты, Жэня, падрасла, папаўнела і ўжо як мае быць расцвіла, быццам кветка півоні.
Жэня. І ты, Андрэйка, памужнеў...
Андрэй. Ну, я, па-мойму, мала змяніўся. А ты была прыгожая, а цяпер усіх дзяўчат нашых красою пабіла.
Жэня *(засмяяўшыся)*. Я чую, ты камплiментамі сыпаць навучыўся.
Андрэй. Якія тут кампліменты? Проста так. Скажу нават больш: ты і раней вабіла мяне да сябе, а цяпер я не ўступлю цябе Ваську так лёгка. (*Імкнецца абняць яе.*)
Жэня *(баронячыся ад яго рукамі)*. Ну-ну. Цапам-лапам не ўсюды возьмеш.
Андрэй. Прабач за неасцярожнасць... Ты пакрыўдзілася?
Жэня. Чаго? Ваша ж мужчынская справа наступаць, наша жаночая — абараняцца.
Андрэй. Ды я ж люблю цябе, што цудоўную казку ўсё роўна.
Жэня. Ты не адной гаварыў так, напэўна?
Андрэй. Раз сэрца занята табой, туды не пранікнуць другой.
Жэня. Ды ну?.. У вашых сэрцах і чортаў тузін нашага брата змясціцца можа!
Андрэй (*знімае са сцяны балалайку і спявае пад уласны акампанемент*).

Мне не трэба пуд гароху,
Мне адну гарошыну,
Мне не трэба дзевак многа,
Мне адну харошую.

Жэня. Ну, пайду ў тую хату: трэба курсавую работу канчаць. (*Накіроўваецца ў свой пакой.*)
Андрэй. Паспееш, да летняй сесіі далёка яшчэ (*Ідзе ўслед за ёй.*)

З'яўляюцца Саша і Даша.

Даша. Дык паказвай хутчэй, які адказ у цябе ў задачы выйшаў.
Саша. Спісаць хочаш? Не дам.
Даша. Нашто? Дапамажы разабрацца ў ёй, калі ты мой таварыш. *(Дастаўшы з кішэні паперку.)* Я і рашаць пачала яе, але пад канец не выходзіць неяк.
Саша. Пакажы. (*Бярэ ў яе паперку.*) А які тут знак у цябе перад ігракам?
Даша. Мінус.
Саша. Адкуль ён узяўся, не разумею.
Даша. А-а, плюс трэба. Во галава і два вухі, знакі пераблытала. (*Папраўляе алоўкам.*)
Саша. Дык чаго расселася? Дома не можаш паправіць. Заўсёды акалочваешся ў нашай хаце. Ужо людзі падсмейваць пачынаюць, а бацька, дык той адкрыта нявесткай называе.
Даша *(радасна)*. Ой, няўжо праўда? Дык пайду хутчэй! (*Адыходзіць.*)
Саша. Ідзі! (*Задумваецца.*) Сокал, сокал... навокал! Навокал сокал! Арыгінальна, чорт вазьмі! *(Уключае рэпрадуктар і пад гукі вальса пачынае выкручвацца ў танцы. З'яўляецца Ядзя. Саша збянтэжана садзіцца ля стала.)*
Ядзя. Прадаўжай, прадаўжай, Саша. Умець танцаваць хораша таксама не шкодзіць. (*Адсланяе печ і пачынае перастаўляць гаршкі ў ёй.*)



Саша. Ды гэта я так, прыдурваўся толькі.
Ядзя (*паставіўшы вілкі ў качарэжнік і засланіўшы печ*). А давай я цябе павучу крыху, а то ў цябе нешта не тое выходзіць. (*Наближаецца да яго.*)
Саша (*уцякаючы ад яе*). Ну, не! Ціхонь, кажуць, з граблямі вучыўся танцаваць у гумне, і я ўжо сам навучуся неяк.

Вальс сціхае. Чуецца голас дыктара: «Мы перадавалі танцавальную музыку. Праз мінуту слухайце старадаўнія рускія рамансы».

Саша. Ну, пачнуць зараз: «Куды мяне вядзеш? Пусці мяне к чорту!» Каб што-небудзь вясёлае грымнулі.
Ядзя. Табе больш падабаюцца бадзёрыя песні, відаць.
Саша. У мяне дух замірае ад іх, і я зайздрошчу кампазітарам, а яшчэ больш паэтам...
Ядзя. Ты захапляешся вершамі?
Саша. Вельмі. Я і сам адзін верш напісаў нядаўна. Паслухайце, ці спадабаецца вам. (*Дэкламуе з пачуццём.*)

Калі дзяцінства ўспамінаеш,
Гады адлічваеш назад,
То перш за ўсё ты школу бачыш
І піянерскі свой атрад.
І з вышыні крутой, як сокал...

Ядзя *(смеючыся)*. Вось дык здарава!
Саша. А чаго? Кепска хіба?
Ядзя. А колькі ж вам год, Аляксандр Іосіфавіч, што вы пра дзяцінства раптам успомнілі? (*Смяецца.*)
Саша. Ды гэта ж зусім не я ўспамінаю, а мой лірычны герой, разумеецца...
Ядзя. Каб твой лірычны герой быў такі шпінгалет, як ты, у цябе значна лепш атрымалася б... А якім жа размерам твой верш напісан, скажы?
Саша. А хто яго ведае. Я прахварэў тады, калі гэта праходзілі.
Ядзя. А хочаш — я памагу табе разабрацца ў вершаваных размерах.
Саша. Добра, памажыце, Ядвіга Паўлаўна.

З'яўляецца Федзя з папкай пад пахай. Саша выходзіць на двор.

Ядзя. Забыўся, Федзя, нешта мусіць, што дадому вярнуўся.
Федзя. Не, месячны баланс і дома вывесці можна. Ды каля цябе і працуецца неяк лепей.
Ядзя (*спагадліва*). Прыбыло цяпер і ў цябе работы, як твой канторскі штат паменшыўся напалавіну.
Федзя. Нічога, я думаю яшчэ двух рахункаводаў у поле выправіць. А ты ў школу не спознішся, Ядзя?
Ядзя. У мяне сёння толькі кансультацыя па алгебры ў сёмым класе. Экзамены настаюць, Федзя, а там і канікулы. І ведаеш, у райана ёсць турысцкія пуцёўкі на Каўказ. Давай купім дзве і махнем праз горы да мора летам.
Федзя (*з захапленнем*). Цікава было б казачны поўдзень наведаць, ды вось толькі з калгаса не адпусцяць мяне ў самы разгар уборкі.
Ядзя. А ты пагавары з эканамістам, няўжо ён не падменіць цябе?

Ф е д з я (*разважліва*). А з другога боку, як я пагляджу, дык ці пад сілу нам будзе такая паездка, асабліва цяпер, калі мы будуемся. І ці не лепш за гэтыя грошы ў гаспадарку купіць што-небудзь важнае.

Я д з я. Ну, ладна, купім тады тэлевізар.

Ф е д з я. Добрая рэч і тэлевізар у новую хату. Ды хіба аднаго яго ў нас не хапае толькі?

Я д з я. Па-мойму, гэта наша агульная мара была.

Ф е д з я. Дык яна і цяпер ёсць, але пара для яе не прыйшла яшчэ. Трэба спярша нам гаспадарку сваю як след наладзіць, каб аж людзі нам зайздросцілі.

Я д з я. А ў чым яны могуць зайздросціць нам?

Ф е д з я (*упэўнена*). Ну, прыкінь ты сама: у цябе зарплата ладнаватая; у мяне працаднёў куча і свая гаспадарка, — чаго ж у нас бракаваць будзе? Птушынага малака, хіба?

Я д з я. Можна і ў дастатку жыць, ды не па-людску.

Ф е д з я. Ва ўсякім разе, прычыны пасмяяцца з нас ні ў кога не знойдзецца. А калі ты мне падорыш дачку, а потым і сына, дык мы што на дзесятым небе будзем.

Я д з я. А чаму ты спярша дачку хочаш, цікава? Мужчыны звычайна сына чакаюць наперад.

Ф е д з я (*з натхненнем*). Сыны — гонар, але ад гэтых хлопцаў цяжэй дачакацца карысці. А дзяўчынка табе хутчэй памочніцай стане ў хаце. І нянька пасля свая будзе.

Я д з я (*здзіўлена*). Які тонкі разлік!

Ф е д з я (*пераконваючы яе*). А хіба кепска гэта? Вось мы не пражылі з табой і паўгода, а ўжо мала без чаго дом свой не закончылі. Сад пасадзілі і на далейшае ёсць у мяне немалыя планы па гаспадарцы.

Я д з я (*незадаволена*). Як закапаешся ў градках сваіх, дык і святла навокал не ўбачыш.

Ф е д з я (*ласкава*). Ядзенька, (*бярэ яе за руку*) у жыцці няма абрусаў самабраных і залатая рыбка не прыплыве да берага выканаць тваё жаданне. А каб што-небудзь мець, трэба варушыць мазгамі і працаваць да поту і мазалёў...

Я д з я (*абдымаючы яго*). Федзя, любы мой, не пазнаю я цябе.

Са свайго пакоя выходзіць Ш ы д л о ў с к а я.

Ш ы д л о ў с к а я (*убачыўшы, што Ядзя абняла Федзю*). Так-так, дзеткі, першы гадок — мядок, другі — віно, а трэці (*глянуўшы ў бок свайго пакоя*) — сівуха горкая.

Ф е д з я (*мякка*). Ціпун вам на язык, цётка, за такое прарочанне! У вас жа і свая дачка ёсць. Злітуйцеся ж вы хоць над ёй.

Ш ы д л о ў с к а я (*разважліва*). А думаеш, у яе будзе лепшае што? Дай божа яшчэ, каб да дна дапіла яна прыгатаваны ёй келіх разам з соладдзю і гарчынёй усёй.

Ф е д з я. Горка з гарчыцай, а з мёдам горка не будзе: я думаю пчолак сваіх завесці сёлета.

Я д з я (*з абурэннем*). Так, у нас можа быць мёд, але ці палезе ён у рот. І гэта гаспадарка палову часу ад школы адрывае ў мяне, а ты, Федзя, яшчэ... (*Накіроўваецца ў свой пакой.*)

Ф е д з я (*спакойна*). Трэба рабіць, каб і воўк сыты быў і козы цэлы. (*Выходзіць услед за ёй.*)

З'яўляецца Ж ы г л і ц к а я.

Ж ы г л і ц к а я. Здарова, Антаніна! Ты дома, не на рабоце сёння?

Ш ы д л о ў с к а я. А, здарова, Ярына! Дай ты рады, пакуль жа свайго... п'янога спаць уклала, дык і на работу спазнілася. Пайду па поўдні...



Ж ы г л і ц к а я. Не грашы ты яшчэ богу, братавая... Калі і вып'е твой чалавек гады ў рады — бяда не вялікая. Мой першы, хай яму і на тым свеце дна не будзе, не гэтак піў, бывала: і дабрыцо з аруда, і адзежку з куфра — усё на гарэлку цягнуў, як у кішэнях вецер свістаў. І прапаў за сабаку, набраўшыся, што свіння пад плотам.

Ш ы д л о ў с к а я. Затое ты другім вярцела, як хацела. Ён нават крыўдзіўся на цябе перад смерцю.

Ж ы г л і ц к а я. Ці верць-круць, ці круць-верць, дык яму была смерць. Сама выкручвалася, як вужака, каб дзяцей пракарміць чым-небудзь. Толькі і ўздыхнула вальней, сына выгадаваўшы.

Ш ы д л о ў с к а я. То як жа табе ў дачкі гасцілася, хваліся? Мусіць, добра частавала яна цябе, раз прабыла ў яе тыдзень цэлы.

Ж ы г л і ц к а я. Мая ты Антанінка, якія там госці былі! Памагла ёй у рабоце, як яна захварэла. А я і сама ўжо не работніца, можна сказаць... А як жа тут маладыя нашы гаспадарылі без мяне?

Ш ы д л о ў с к а я. А нявестка тут не горш за цябе завіхалася каля хлявоў і, што карты, гаршкі тасавала ў печы.

Ж ы г л і ц к а я (*з папрокам*). Няхай і гаспадарыць цяпер: не на пагулянку ж, а замуж ішла, вядома.

Ш ы д л о ў с к а я. Яна і дагэтуль не сядзела рукі склаўшы: у школу хадзіла, дзяцей вучыла і ў гаспадарцы памагала табе.

Ж ы г л і ц к а я (*незадаволена*). Памагатых мне не трэба было, пакуль я сама спраўлялася. А як здало маё здароўе, я і ажаніла сына, каб нявестка падмяніла мяне.

Ш ы д л о ў с к а я. А няўжо ж ты цяпер, Ярына, і пальцам не кіўнеш для нявесткі з сынам?

Ж ы г л і ц к а я. Чаму? Калі я ўбачу, што яна поплеч з ім, як пчолка, для сябе старацца будзе, дык я, не могучы, паўзком, валяючыся, як мурашачка, спрыяць ім стану. Вось я і цяпер не з пустымі рукамі дамоў вярнулася: дзесятак яек гусіных дастала, трусоў парачку ад дачкі на развод узяла.

Ш ы д л о ў с к а я. А я за дробнай жывёлай не ганюся неяк. І цярпення не маю тупаць за ёй. Ёсць карова ды парасят двое і хопіць. Лепш у калгас выйсці ды зарабіць болей. Там і весялей у грамадзе, і работа твая відаць...

Ж ы г л і ц к а я. Ну, ты маладзейшая за мяне, і я з табой не спраўлюся ў калгасе... А што ж мая гаспадыня на полудзень варыла сёння, цікава? (*Глядзіць у печ.*) Суп мясны і катлеты. О-го, і нічога малочнага! Затлуста адным мясам жыць! Укрой — не ўдой, трэба памятаць. Прападзе ён з ёй праз свой мяккі характар, калі я не ўступлюся.

З'яўляецца З о с я.

З о с я. Добры дзень у хату!

Ш ы д л о ў с к а я. Добры дзень, Зоська. Праходзь да стала бліжэй. Што новага чула, расказвай.

З о с я. І не пытайцеся, бабкі. Паўвёскі аж да вас апаліла і нічога такога не чуваць. Прыйшла сюды, можа тут што пачую. У вас людзей больш збіраецца заўсёды. (*Садзіцца.*)

Ж ы г л і ц к а я. Во каму добра жывецца, і работа не рупіць!

З о с я (*спакойна*). Ціхонь мой — не Федзя твой. Ён кажа: грош цана мужу такому, з якім жонка ішачыць разам.

Ш ы д л о ў с к а я. А што ёй! Мужык каваль — нямала грошай на кавадле выстукае.

Жыгліцкая. I пад пятой сядзіць у яе.

Шыдлоўская. I правільна. Хоць адна баба верх над мужчынам узяць сумела.

Жыгліцкая (*з дакорам*). Гэта не мужчына, а непаразуменне нейкае, калі жонцы паддаўся.

Шыдлоўская. Ну, не кажы так, Ярына. У яго рукі залатыя, і кожны з ім лічыцца.

Жыгліцкая (*з'едліва*). А жонка і ў грош не ставіць яго: што хоча, тое і вытварае.

Зося (*наругаючыся*). Смешна было б, каб я маладая ды старому дагаджала яшчэ. Няхай жа ён годзіць мне лепей, тым болей, што я яму і сястрой у трэцяй стрэчы даводжуся.

Шыдлоўская. А колькі ён там старэйшы за цябе?

Зося. Чаму? На цэлых пятнаццаць гадоў!

Жыгліцкая (*з абурэннем*). Раздурыў ён яе — вось што!.. Але як я пагляджу, дык і Федзя мой жонцы дагаджае занадта, проста без клею ліпне да яе.

Зося (*апраўдваючыся*). А што ж? Глядзі жонку, як кветку, каб яна вока цешыла.

Жыгліцкая. Хіба ж толькі для вока жонка бярэцца? У яе ж ёсць, мусіць, і іншыя абавязкі?

Шыдлоўская (*разважліва*). Хай іх ліха з гэтымі абавязкамі нашымі. Калі іх у нас процьма цэлая! Мы, бабы, робім тую ж работу, што і мужчыны: на нашых руках дзеці, мужык — на карку, і кожнага ж дагледзь, накармі... Нездарма ж кажуць, што за гаспадыняй тры куты ў хаце, а за гаспадаром адзін усяго.

Зося. А нашто ж браць на сябе лішняе? Бог, як выганяў Адама і Еву з раю, дык загадаў аднаму Адаму ў поце твару хлеб здабываць. Так я і раблю: есці звару і ў хаце прыбяру. А за парог на работу — ні кроку.

Уваходзіць Ціхонь у кавальскім фартуху.

Ціхонь. Добрага здароўя, кабеткі. Ці Федзя дома?

Шыдлоўская. Здароў, Ціхонь.

Жыгліцкая. Дома, дома! (*Кліча.*) Федзя!

З-за дзвярэй свайго пакоя паказваецца Федзя.

Федзя. Што такое?

Ціхонь. Як гэта, каб зарплату мне атрымаць сёння?

Зося. Ага, я туфлі нагледзела хвацкія ў магазіне, купіць трэба.

Федзя. Калі ты зарабіла, дам.

Ціхонь (*заступаючыся за жонку*). А якая розніца, хто зарабіў іх, абы зароблены былі.

Федзя. Я жартую. Няма, братка, цяпер грошай у касе.

Ціхонь. Як няма? Касір казаў, што ёсць крыху.

Федзя. Гэта «энзэ».

Зося. Вечарам жа больш прывязуць з банку.

Федзя (*холадна*). Да вечара шмат вады ў мора ўцячэ. А калі праз гадзіну грошы на што спатрэбяцца раптам? Дзе я вазьму тады?

Ціхонь (*незадаволена*). Вось дык бухгалтар! Хоць на дзень палучку зацягне, быццам ён са сваёй кішэні плаціць.

Зося (*з дакорам*). Няхай толькі туфлі хто здыме з полкі, я тады лакіраваныя ў жонкі тваёй з ног здзяру.

Федзя. Сваё прыдбай, другіх не разувай... Не турбуйся: там іх не адна пара такіх.



Ціхонь (*да Зосі*). Я, Зоська, парасят накарміць не паспеў: мяне ў кузню раней паклікалі, там у нас работа вялікая сёння.

Зося. Добра, Ціхонька, я зараз дагледжу іх, толькі адпачну крыху.

Ціхонь. Ну, тады я сам падыду. Я і забыўся, што ў цябе галава ўсю раніцу балела.

Федзя (*з хітрынкай*). А што за немач у цябе, Зося, такая? Твар, як рыжык, рукі — што паперавязваныя...

Ціхонь. Нервы непакояць яе...

Федзя (*рагоча*).

Зося. Лацвей парадзіць каму, чым сабе.

Федзя. Купі, Ціхонь, ёй пуцёўку на курорт.

Ціхонь. А што ты думаеш. Хворая баба...

З'яўляецца Андрэй.

Андрэй. Здаровы былі!

Ціхонь. Здароў, Андрэй!

Зося. З прыездам цябе.

Андрэй. Дзякую.

З вуліцы даносяцца прыпеўкі. Спяваюць дзяўчаты:

Ганну любіць гарманіст  
I два цымбалісты,  
А яна бярэ вышэй —  
Кахае радыста.

Федзя. I адкуль у іх бярэцца? Кожны дзень каго-небудзь прапясочаць. Вось ужо сапраўды жывая газета...

Зноў чуецца частушка:

У Ціхоні каваля  
Аршынныя плечы.  
Ён і лемяхі куе,  
I паліць у печы.

Жыгліцкая (*з'едліва засмяяўшыся*). Чулі?!

Ціхонь. Даяркі горла дзяруць, сырадою напіўшыся.

Шыдлоўская (*у такт Ціхоню*). Ды маслам языкі падмазаўшы,— гладка выходзіць.

Песня працягваецца:

А Ціхонева жана  
Работы не знае, —  
Пляце плёткі да паўдня,  
Да ночы расплятае.

Ціхонь (*узлаваўшыся*). Бачылі вы?! На каго бог, на таго і людзі. Цьфу, што за народ! Дыхнуць не дадуць хворай бабе. (*Выходзіць.*)

Зося. А мне ад гэтага ні горача, ні холадна! Зайздросцяць, і ўсё тут.

Федзя. Ну, але я забавіўся з вамі, а работа ляжыць мая.

Федзя, за ім Жыгліцкая ідуць у свой пакой. Шыдлоўская выходзіць на двор.

Зося. Надоўга прыехаў дадому, Андрэй?

Андрэй. Назаўсёды. А чаму? Хаваць ад цябе не стану, скажу адкрыта: паглядзеў — лёгкага хлеба няма нідзе. А каб зарабіць рубель даўжэйшы, трэба мець спецыяльнасць...

Зося. А дома і на сотках пражыць можна, час ад часу ў калгас схадзіўшы?

Андрэй (*насмешліва*). Ды ну! Я знайшоў сабе работу цяпер — ні з пляча махаць, ні перад сабой жыляць, а толькі не зяваць ды грошыкі браць.

Зося. Калі такая работка, дык можа і мне прыладзіцца да яе варта было б. А то зімой нічога яшчэ, а летам надта дзень марудны, адной у хаце седзячы.

Андрэй. Што ж, давай за прылавак станавіся са мной. Пачнем працаваць з васьмі да васьмі без выхадных дзён — і выручка вунь якая ў нас з табой будзе.

Зося (*здзіўлена*). У прадаўцы? Не, не з маім характарам, мусіць, лезці туды. Я болей на цукерках праем, калі яны ў мяне пад носам стаяць будуць, чым зараблю там.

Андрэй. Нічога, папера выручыць, асабліва калі яна тоўстая, накшталт кардону, і калі яе адарваць не шкадуючы.

Зося. Баюся, каб не ўматацца часам.

Андрэй. Ваўка баяцца — у лес не хадзіць. (*Садзіцца ля яе.*)

Зося. Дык ці не клінчыкі ты пад Жэньку падбіваць пачынаеш? Нешта Васька, бачыла я, злосны і чырвоны, як рак, выскачыў адсюль.

Андрэй. Ну, а што мне рабіць застаецца? (*Падсоўваючыся да яе.*) Ты ж не пачакала мяне, замуж адразу выскачыла.

Зося. А хіба ты браў бы мяне, старую?

Андрэй. А колькі ты там старэйшая за мяне? На два гады ўсяго — якраз самая пара была б.

Зося (*разважліва*). Не, жонка за мужа маладзейшая павінна быць заўсёды.

Андрэй. Гэта можа калі муж дрэнны...

Зося (*упэўнена*). Ведаеш сам: брат сястру любіць багатую, а мужык жонку прыгожую.

Андрэй. Цудоўная ты кабета, Зося, што сакавітая вішня ўсё роўна. (*Абдымае яе.*)

Зося (*вырываючыся з яго абдымкаў*). Ну, лепш уцячы мне, мусіць, а то ад цюцькі, апрача блох, нічога не набярэшся. (*Ідзе да дзвярэй.*)

Андрэй (*устаючы са свайго месца*). За што ж такая напасць незаслужаная? Ты ж мне лепш за ўсякую дзяўчыну падабаешся! (*Выходзіць за ёй на вуліцу.*)

З'яўляецца Сцёпка з букетам чаромхі.

Сцёпка. Добры дзень! Ці ёсць хто жывы ў хаце?

Ядзя (*паказаўшыся ў дзвярах свайго пакоя*). Ёсць, ёсць! Добры дзень, Сцёпа! Праходзь сюды, калі ласка. Тут і Федзя дома якраз.

Сцёпка (*ласкава*). Не, Ядзенька, дазволь застацца мне лепш бліжэй да парога, бо я да цябе па справе забег на хвілінку з поля. (*Шчыра.*) І вось букет наламаў па дарозе. Чаромха. Вазьмі... (*Падае ёй букет.*)

Ядзя. За букет дзякую, Сцёпа. А што рэдка і мімалётам бываеш у нас, дык гэта не падабаецца мне. І пачаставаць цябе не збярэшся ніколі. (*Ставіць букет на стол.*)

Сцёпка. Часты госць дакучней за муху асеннюю, я чуў.

Ядзя. Але ж ты раднейшы за роднага... У вашым доме мяне, чужую сірату, выгадавалі.

Сцёпка. Дык гэта ж бацькі мае. Пры чым тут я?

Ядзя. А ты хіба не памагаў мне, як працаваць стаў, а я яшчэ вучылася? Тваёй падтрымкі таксама мне не забыць ніколі. І калі ты сёння мой госць, то пакуль не адведаеш нашай вяндліны і пірага з павідлам, з хаты не выпушчу. (*Адчыняе шафку.*)

Сцёпка (*лагодна*). Не турбуйся, Ядзенька, сапраўды нічога не хочацца мне. Я толькі піць вельмі захацеў пры сеялцы, дык шклянку вады з вялікай ахвотай вып'ю.

Ядзя. Тады, можа, хоць грыба даць. Што з той вады сырой?

Сцёпка. Ну, добра, ад грыба адмаўляцца не стану. А то чаго добрага, пакрыўдзішся на мяне.



Ядзя (*наліваючы ў шклянку квасу з-пад грыба*). Дык ці хутка ж дасеўкі ў тваёй брыгадзе будуць?

Сцёпка. Трактар адзін падвёў мяне крыху. Але праз дні два-тры абсеемся поўнасцю... А як жа ўзышло праз зіму тваё зерне, сястра, хваліся? «Двоек» няма паміж добрых усходаў?

Ядзя (*нездаволена*). «Двоек» то няма, Сцёпа. Аднак і «пяцёркі» рэдкія. Мусіць, не хапае вопыту ў мяне яшчэ на рабоце. (*Падае Сцёпку квас.*)

З'яўляецца Жыгліцкая.

Сцёпка. Ты прачытала, Ядзя, маю кнігу? Бо Васька прасіў яе ў мяне. (*П'е квас.*)

Ядзя. Не, не дакончыла крыху. Не мела часу апошнія дні.

Сцёпка (*са строгасцю*). Глядзі, сястра, каб не засмактала цябе, як багна, гаспадарка гэта. (*Аддае ёй шклянку.*)

Жыгліцкая (*дапытліва*). Хто гэта памяло смярдзючае ў хату прынёс? (*Бярэ са стала букет.*)

Ядзя (*замітусілася*). Мама... Букет гэты Сцёпка прынёс нам...

Жыгліцкая (*настойліва*). У мяне ад такой дрэні галава разбаліцца толькі. (*Выкідае букет за парог.*)

З'яўляецца Федзя.

Сцёпка. У мяне, сястра, просьба да цябе адна ёсць.

Федзя. Ясна! Сакратар камсамольскай арганізацыі не заходзіць так сабе, хоць ён і брат нейкім чынам.

Жыгліцкая (*з падколам*). Ён што дзед, бывала. Як на парог — так і малітва.

Сцёпка. Магчыма... Дык вось, савет клуба вырашыў у гэту суботу правесці вечар пытанняў і адказаў.

Ядзя. Разумею. Мая матэматыка, як і заўсёды.

Сцёпка. Не, на гэты раз табе больш важнае даручэнне: пытанні дружбы і кахання. (*Падае ёй некалькі палосак.*) Калі ласка.

Ядзя (*пpаглядаючы лісткі*). Некаторыя пытанні для даклада пакінуць варта.

Сцёпка. Цудоўна, і мы прачытаем яго праз тыдзень перад карцінай.

Жыгліцкая (*незадаволена*). Не абавязкова замужняй бабе хадзіць па вечарах.

Сцёпка. Можна ўдваіх з мужам схадзіць.

Жыгліцкая. Яму няма часу: пасля работы хату канчаць трэба. Не сядзець жа век кутам у брата.

Сцёпка (*здзіўлена*). А што там у вас канчаць застаецца! Столь ды падлогу людзі за пару дзён пакласці могуць.

Федзя. Могуць і людзі зрабіць, але, як кажуць, сваё вока раўнейшае, свая рука складнейшая. А што да Ядзі, дык я таксама лічу — не абавязкова яе загружаць, хапае вальнейшых людзей.

Ядзя (*настойліва*). Я агітатар. Гэта мой абавязак.

Сцёпка. Ну, я пайшоў. Заставайцеся здаровы. Бывай, Ядзенька.

Жыгліцкая (*холадна*). З богам.

Ядзя (*шчыра*). Шчаслівa, Сцёпа.

Жыгліцкая (*са злосцю*). Ну, як табе падабаецца? На тым тыдні яна Жэньку чаем з варэннем частавала, сёння Сцёпку грыбам паіла, — а цукар жа ў нас не казённы! Дзе ж ты накорміш усіх! Пакажы моду такую, дык і вушы аб'ядуць!

Федзя. Жывы будзем па гэтым.

Ядзя. Ён жа брат мой!

Жыгліцкая (*зняважліва*). Брат... Пень гарэў, а чорт хвост прыгрэў — такая радня. Брыгадзір — рука старшыні, а чым ён памог нам калі хоць на чорны пазногцік? Марку сабе вырабляе толькі па службе. І цябе з панталыку збівае! І ты, гледзячы на яго, са скуры лупішся, каб выслужыцца перад начальствам. А што табе з гэтага? Грошы не прыбавяць болей.

Ядзя. Удзячнасць людская даражэй за грошы бывае. (*Ідзе ў свой пакой.*)

Жыгліцкая (*услед ёй*). З адной палучкі не разгонішся вельмі. І гаспадаркі пільнавацца трэба. (*Да Федзі.*) Гэта ты такі, што вяроўкі віць з цябе можна. Ну, памятай, раздурыш ты яе, бо вялікую волю даеш.

Федзя. Ты лічыш, матка, што я без цябе нуль круглы. А хто ж нашу гаспадарку падняў, калі не я?

Уваходзіць Ядзя з партфелем у руках.

Федзя. Я для сям'і стараюся. Вось і сёння: пабыў у другой брыгадзе і старгаваў там першацёлачку за дзве з палавінай сотні. А на кірмашы за тры з рукамі адарваць яе могуць.

Ядзя (*здзіўлена*). Нашто нам другая карова тая?

Федзя. Ад прыбытку ж галава не баліць. Я і свіней сёлета больш купіць думаю. Было трое, няхай і чацвёртае блытаецца каля ног.

Ядзя (*незадаволена*). Дык гэта ж у нас цэлая ферма будзе!.. А цяпер жа ўсе прадукты можна на працадні браць з калгаса.

Федзя. Так, але сваё смялей і з'ясі і прадасі.

Жыгліцкая. Толькі як з сенам, ці выкруцімся мы, сынок?

Федзя. На дзве штукі я і ў лесе сена накашу. А нешта ж перападзе і з калгаса.

Ядзя (*з абурэннем*). І гэта скаціна топіцца ў хлеве, падсцілаць няма чым яе...

Жыгліцкая. Трэба і ў лясок прагуляцца з мяшэчкам, шыльніку ці моху набраць.

Ядзя (*настойліва*). Я не пайду, каб вучні з мяне смяяліся. У нас людзі цяпер наогул пачынаюць адмаўляцца ад сотак і скаціны. Сцёпка наш...

Жыгліцкая. У яго працаднёў напалавіну больш, чым у нас.

Ядзя. Васька — шафёр...

Жыгліцкая. А нашто яму, адзінокаму, турботы?

Ядзя. Ціхонь, каваль, таксама аддаў у калгас карову.

Жыгліцкая. У таго жонка гультай.

Федзя. Ды яшчэ ж ніхто нікога не змушае да гэтага.

Ядзя (*цвёрда*). А чаго мне, настаўніцы, у хвасце плесціся? Які ж я прыклад добры выхаванцам сваім падаць магу?

Федзя. А пры чым тут ты? Гаспадарка ўся на мяне запісана, і я галава сям'і ў гэтай хаце.

Ядзя. А як жа ў горадзе людзі жывуць?

Жыгліцкая. Трэба было і табе ў горад замуж выходзіць, калі там так люба ды весела. Чаго ў вёску пайшла?

Ядзя. А хіба ў вёсцы нельга жыць, як у горадзе? Хіба тут не такія грошы плацяць?

Жыгліцкая (*з насмешкай*). Якія тут твае грошы настаўніцкія, як я нагледзелася. Ты іх і пускаеш амаль усе на сябе кожны раз.

Ядзя (*рашуча*). Што ж, у сяннік спіхаць я іх не збіраюся.

Жыгліцкая (*абурана*). Чуеш, што кажа? І гэта жонка, памочніца твая. Ты ёй слова — яна табе два, ты ёй кажы «голена» — яна табе «стрыжана». Язык — што падвязаны, а рукі да работы — як звязаны.

Федзя (*разважліва, мякка*). Матка, чалавек да ўсяго складны не родзіцца, але да ўсяго, жывучы, прывучаецца.

Ядзя (*цвёрда*). Занядбаць школу праз вашу работу я не жадаю.

Жыгліцкая (*з'едліва*). Во ўскочыў дык ускочыў, сынок! Але я і сама вінавата, сірату пашкадавала. А на сіраце сем скур расце, гавораць.

Федзя. Ну, сціхні ты, матка!

Ядзя. Галава пайшла кругам проста. (*Плача.*) Як жа мне жыць, людзі добрыя?! Што мне рабіць, навучыце?! (*Выбягае на двор.*)

Федзя. Яна маладая, шмат чаго не разумее яшчэ. А пажыве — іншае скажа. Ды яна ж і цяпер і школы глядзіць, і гаспадаркі пільнуецца.

Жыгліцкая. Пільнуецца... Ты ж яе мужык. Дзе твая мужчынская цвёрдасць? Не ты за лейцы бярэшся, а яна, каб кіраваць табою. І памятай, даўся запрэгчы — дасіся і паганяць.

Федзя. Не бядуй ты па мне, матка. Раптам не падцінаюць: знаравіць можна.

Жыгліцкая. А лазіна нашто? (*Са здзекам.*) Ты зух супраць мух, а супраць жонкі не даў бог сілёнкі.

Зяўляецца Шыдлоўскі. Федзя ідзе ў свой пакой.

Шыдлоўскі. Што ў вас за шум такі? Нешта Ядзя, як быццам бы, плакала?

Жыгліцкая. Табе, мусіць, з хмелю здалося гэта.

Шыдлоўскі. З хмелю... Але чалавек, калі пад хмелем, то не думае тады ні пра што і крыўду сваю на міг забывае.

Жыгліцкая. А хто цябе пакрыўдзіў чым?

Шыдлоўскі. Ды бачыш, коней палавіну забіраюць ад мяне.

Жыгліцкая (*спахапіўшыся*). Зноў лісоў карміць павязуць.

Шыдлоўскі. Не-е, гэтых за граніцу адпраўляць, чуваць, будуць. І, кажуць, нават добра плацяць там за іх.

Жыгліцкая. А на чым сена, снапы з поля вазіць прыйдзецца?

Шыдлоўскі. На машынах. На чым жа? І я разумею, што ў машыну заліў бензіну, сеў — і паехаў, а каня круглы год карміць трэба. Але сэрца ўсё адно ные па даўгагрывых — у жыта б яны галавой.

Жыгліцкая. А як бульбу на сотках выбіраць сваю? Самім у плуг запрагацца? Ці з рыдлёўкай да самай зімы капацца?

Шыдлоўскі. Што тыя соткі вашы! Абы ўвесь калгас падымаўся ўгору, дык з ім і мы багацець будзем.

Жыгліцкая. Добра табе разважаць так, калі ты конюхам робіш. Хто-хто, а ты хутчэй коніка на свой агарод возьмеш.

Шыдлоўскі (*зазлаваўшы*). Кінь ты плявузгаць, Ярына. Ты ў гэтыя соткі, як крот, зарылася з галавой і нявестку сваю цягнеш.

Жыгліцкая. Не надта ўцягнеш гэтакую.

Шыдлоўскі. Яна ж настаўніца, дзяцей нашых у людзі выводзіць, а вы з яе каняку зрабіць хочаце — у жыта б вы галавой!

З вуліцы чуецца галашэнне Зосі:

А мой жа ты мужанёчак!
Шызакрылы галубочак!
Залаты каласочак!
А я за табой панавала,
Ніякага гора не знала,
Ды мала цябе шанавала,
Мала табе спагадала.
А што ж я тады загадаю,
Як часам цябе пахаваю?!
Ой-ой!..

Са сваіх пакояў выходзяць Жэня і Федзя.

Ж э н я. Слухайце, нехта галосіць. Дзе што якое здарыцца магло?

Ж ы г л і ц к а я (*абыякава*). Антолька, мусіць, з трэцім мужыком расходзіцца сваім.

Ф е д з я. Не, голас быццам бы Зосін. Але ж яна ніколі не плакала.

З'яўляецца Ш ы д л о ў с к а я.

Ш ы д л о ў с к а я. Ці чулі, як Зося галосіць? Ціхонь абварыўся!

Ш ы д л о ў с к і (*з жарам*). Як жа яму собіла?!

Ш ы д л о ў с к а я. Чыгун вару вывернуў на сябе.

Ж ы г л і ц к а я. І моцна?!

Ш ы д л о ў с к а я. Невядома, ці выжыве нават.

Ж э н я (*настойліва*). Бяжым, можа што памагчы трэба!

Ш ы д л о ў с к а я. Зараз, я алею з воскам захаплю толькі. Змазаць трэба яго, пакуль урач з бальніцы прыедзе. (*Ідзе ў свой пакой.*)

Ж ы г л і ц к а я. Або, як жа тады Зося жыць будзе, барані бог, што якое...

Ф е д з я. Во як Зосі давялося. Скончыцца яе панства.

Ш ы д л о ў с к і. Ну, у Зосі скончылося, а ў вас пачалося. Ядзя ў вас не ў такім вары кожны дзень варыцца, у жыта б вас галавой.

Ш ы д л о ў с к і, Ж э н я, а за імі Ш ы д л о ў с к а я выходзяць на двор.

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Вуліца перад домам Ш ы д л о ў с к і х. На лавачцы ля ганку сядзіць Ж э н я. Каля яе праходзіць Я д з я з туга набітым мехам за плячыма.

Ж э н я. Падарвешся, Ядзя, такім мяшком траву сырую цягаючы.

Я д з я (*ставячы мех на лаўку*). Гэта не трава — шыльнік на подсцілку.

Ж э н я. Ты ўжо і свякроў сваю перайшла, як я пагляджу. І нядзелькі вольнай не маеш.

Я д з я (*з болем у сэрцы*). Згарэла б яна, работа такая, але ж хачу, каб у хаце ціха было.

Ж э н я. Ты ведаеш, з цябе ўжо і вучні пасмейвацца пачынаюць, што ты ў сваім мурашніку закапалася.

Я д з я. Ну, а што мне рабіць? Кінуць-рынуць усё ды бегчы, куды вочы глядзяць? Тут я не змагла Федзю на свой бок перацягнуць. Можа, як у свой дом пяройдзем, а тут свякроў...

Ж э н я (*рашуча*). Пасылай ты яе к чорту і рабі ўсё па-свойму. Я б ім паказала, дзе ракі зімуюць! А як не выйшла б на маім, дык развялася б з такім мужыком, і канцы ў ваду. Ты ж настаўніца!

Я д з я. У тым і загвоздка, што я настаўніца. Мяне яшчэ горш асудджаць будуць, як разыдуся з мужам. Трэба пачакаць крыху. Можа ўсё ўладзіцца. Ён жа не быў раней такі. Гэта яго маці з панталыку збівае. (*Адыходзіць.*)



Ж э н я (*услед ёй*). Глядзі, увялі ў аглоблі, будзеш і цягнуць.

З'яўляецца В а с і л ь.

В а с і л ь. Харошая пагода сёння. Праўда, Жэня?

Ж э н я (*разыгрываючы яго*). А разумнейшага ты нічога не прыдумаў, каб зачапіць мяне?

В а с і л ь. Хто цябе ведае, з якога боку падысці да цябе?.. Што ты тут робіш, скажы?

Ж э н я (*засмяяўшыся*). Танцую, не бачыш хіба?

В а с і л ь. А чаму ж без Андрэя?

Ж э н я. Вось гэта іншая справа!.. Зараз падыдзе і ён сюды.

В а с і л ь. Глядзі, падвядзе ён цябе пад манастыр некалі і сам скруціцца потым.

Ж э н я. Дзякуй за перасцярогу. Я ж такая даверлівая да вас усіх... (*Рагоча.*)

В а с і л ь. Можа і смешны здаюся я табе, калі ў мяне рэўнасць закіпела. Але я кахаю цябе, і мне крыўдна вельмі, што ты мяне адштурхнула і захапілася жулікам гэтым.

Ж э н я. А ў Андрэя хітрэйшая тактыка: ён, каб пазбавіцца ад саперніка, хваліць цябе і даволі шчыра.

В а с і л ь (*абурана*). А за што яго хваліць можна? Хіба за тое, што жыць не можа, калі капейкі не ўрве ад кожнага. А капейка цяпер даражэйшая стала. І людзі ўжо абурацца пачынаюць.

Ж э н я. Глупства. Можа ў падліку памыліўся разы са два якія.

В а с і л ь. Чаму ж ён не памыляецца ў меншы бок, а ўсё ў большы? Ды вось і пісьмы нейкія падазроныя прыходзяць да яго. Пачытай хоць гэта сабе. (*Дастае з кішэні пісьмо.*) Знарок выкраў з сумкі ў цёткі, каб паказаць табе. (*Працягвае ёй пісьмо.*)

Ж э н я. Не маю моды чужых пісем чытаць.

В а с і л ь. Але ж ты пацікаўся, што ў ім такое напісана.

Ж э н я. Дык ты ж чытаў, скажы...

В а с і л ь. У яго ёсць другая на свеце — Валя Воранава.

Ж э н я (*здзекуючыся з яго*). І адна яна ўсяго? Нешта замала для такога прыгожага хлопца.

В а с і л ь. Ды ён з ёй у вельмі блізкіх адносінах, відаць. Ці не нявеста яна яго толькі.

Ж э н я. Была, як любіў, а разлюбіў — і забыў.

В а с і л ь. І кажуць, бачылі, як ён ад Гэлькі выходзіў ноччу неяк раз.

Ж э н я. Паклёп на ўдаву бедную.

В а с і л ь. Не верыш?

Ж э н я. Ідзі к чорту! Надакучыў, як чмель пустым звонам...

В а с і л ь. Добра, пайду, бо і ён сюды цягнецца, відаць. А я глядзець на яго не магу.

В а с і л ь адыходзіць. З другога боку вуліцы паказваецца А н д р э й.

А н д р э й. (*падыходзячы да Жэні*). Здарова, Жэня!

Ж э н я. Маё прывітанне. На абед ідзеш?

А н д р э й. Ага, але, спаткаўшыся з табой, магу адмовіцца ад яго.

Ж э н я. Дык можа, каб я заўсёды побач знаходзілася, ты наогул адмовіўся б ад яды?

А н д р э й. Што-што, а сэрца маё заўсёды сытае было б. (*Хоча абняць яе.*)

Ж э н я (*баронячыся ад яго*). Ну-ну! Ці даўно яшчэ рукі твае Гэльку абдымалі ў пацёмку.

Андрэй. Ніхто не бача, як удава плача, а кожны здагадваецца, чаго ўдава радуецца.
Жэня. Ой, ты хват добры! Я цябе наскрозь бачу.
Андрэй. Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.
Жэня. А ў цябе хіба душа ёсць? Нешта не верыцца мне.
Андрэй. А няўжо ж кавалак суконкі, па-твойму?

Непрыкметна для Андрэя падыходзіць Роза з чамаданам у руцэ.

Роза. Добры дзень, Андруша! (*Да Жэні.*) Добры дзень.
Жэня. Добры дзень.
Андрэй (*павярнуўшыся да Розы*). Ой, Роза! Якім жа ветрам прынесла цябе сюды? Пойдзем адсюль, пагаворым.
Роза (*ставячы чамадан і прысаджваючыся на лавачцы*). Пачакай, я стамілася вельмі. Чамадан такі цяжкі, ажно рукі адняло.
Андрэй. Я панясу. (*Бярэ чамадан.*) Хадзем хутчэй.
Роза. Пастой, дай перадыхнуць. (*Садзіцца ля Жэні.*)
Жэня. А вы хто яму будзеце?
Роза (*здзіўлена*). Як хто? Я — Роза, жонка яго, маці яго дзіцяці.
Жэня. Дык я пайду тады. А вы пагаварыце сабе. І дай ты яму перцу, Роза, а то ён тут да нашых дзяўчат заляцацца пачаў. Бывайце здаровы. (*Ідзе ў хату.*)
Роза. Да пабачэння.
Андрэй (*груба*). Ну, дык чаго прыехала, гавары адразу.
Роза (*ласкава*). Як, чаго? Святочны касцюм табе твой прывезла, што ты пры ад'ездзе забыўся.
Андрэй (*незадаволена*). Ты купіла яго для мяне і можаш прадаць каму-небудзь. Мне ён не патрэбен болей.
Роза. Дык ён жа на табе, як уліты ўсё роўна!
Андрэй (*іранічна*). Якая ж ты клапатлівая! І толькі таго і ехала аж з-за Урала?
Роза (*без усякай хітрынкі*). Чаму? Да мужа свайго прыехала. Таварышы там твае таксама цікавяцца, як ты тут жывеш.
Андрэй (*абыякава*). Можаш перадаць ім, няхай будуць спакойныя, што паручыліся за мяне: гарэлкі больш я і ў рот не бяру нават, а хуліганаў тут такіх няма, да якіх прыплесці мяне маглі б. І наогул, абрыдла мне ваша апека горш за рэдзьку. Таму і ўцёк я ад вас усіх, каб сваёй галавой пажыць, без дапамогі вашай.
Роза (*лагодна*). Парадай сяброў не грэбуй і жонкі слухай. Ты ўжо зрабіў памылку, за прылавак тут стаўшы. Я дачулася.
Андрэй. Чаму? Хіба работа заўмага нічога не вартая?
Роза (*з пачуццём*). Ды не, але яна не пад твой характар зусім. І ты ўляціш, калі не кінеш яе адразу.
Андрэй. У дурняў толькі нястача бывае.
Роза. А знойдуцца лішкі, дык хутчэй трапіш туды, адкуль цябе раз ужо вырвалі твае сябры.
Андрэй (*са злосцю*). Пляваць я хачу дробненька на тваю перасцярогу. А няньк і мне не трэба.
Роза (*не разумеючы*). Ты што, прозвішча маё з пашпарта выскраб ужо? Я і раней прыехала б, дык Кольку не магла пакінуць пры маці, пакуль грудзьмі карміла.
Андрэй (*з'едліва*). Слухай, не ірай ты на струнцы бацькоўскай, бо жаласць над дзіцем любві не заменіць.
Роза (*упэўнена*). Няпраўда, ты кахаў мяне і кахаеш. І вядзі мяне ў свой дом, мяне ўпадабаюць твае бацькі.



Андрэй. Ідзі сабе сама, калі хочаш, але памятай, што я ў гэты дом тады не зайду.
Роза (*не верачы сваім вушам*). Ты што, сапраўды захапіўся кім-небудзь, як казала гэта дзяўчына?
Андрэй (*з насмешкай*). Я рад, што адно ярмо з шыі скінуў, у другое, хоць рэж, не палезу, свабода даражэй за ўсё для мяне.
Роза (*спакойна*). Табе свабода, а мне што, як ты свет завязаў?
Андрэй. Ну вось што, родная мая, на табе семдзесят рублёў на дарогу (*вымае з кішэні грошы*) і ідзі ты з вачэй маіх хутчэй. Грошы на сына буду высылаць рэгулярна і больш, чым мне судом прысудзілі б.
Роза (*клапатліва*). Грошы давай, прыгадзяцца нам. І нікуды я адсюль не паеду. І тут акушэрка патрэбна. А не хочаш мяне ў свой дом весці, дык я кватэру тут найму.
Андрэй. А я здымуся з якара і зноў рвану.
Роза (*лагодна*). Нікуды ты ад мяне не рванеш, бо я, як птушка, паляту ўслед за табой. Ты мне муж, мы шлюбам навекі звязаны і да магілы ты мой, а я твая.
Андрэй. Ну, калі ты такая настырная, дык я хоць і тут буду, але ты ўсё роўна свайго не даб'ешся ніколі.
Роза (*спакойна*). У мяне хопіць цярпення і вытрымкі, хоць праз пяць — дзесяць год, а ўсё ж зажывем мы адной сям'ёю.
Андрэй. Ты так думаеш? Дык я ж тады вазьму і на злосць табе з другой звяжуся ў цябе пад носам.
Роза (*з жарам*). Не выйдзе. Даю табе слова!
Андрэй. Не на палахлівага Яшку нарвалася!
Роза. Дык куды ж адпачыць мне зайсці з дарогі?.. А ці не ўсё роўна куды! Зайду хоць сабе сюды. (*Паказвае на хату Шыдлоўскіх.*) І тут людзі нядрэнныя жывуць, напэўна. А гэта дзяўчына, нават, спадабалася мне. (*Бярэ чамадан і ідзе ў хату.*)
Андрэй. Во ўскочыў дык ускочыў, горш, чым у пятлю якую.

З двара выходзіць Федзя з пустымі рэзгінамі ў руках.

Федзя. Здароў, Андрэй!
Андрэй. А, прывітанне, Федзя.
Федзя. Ты даруй мне, Андруша, але я мімаволі канец размовы вашай падслухаў.
Андрэй. Ну і што?
Федзя. Мяне цікавіць, як ты далей жыць думаеш. І нашто табе плаціць аліменты тыя? Ці ж бы ты не знайшоў іншага месца для сваіх грошай?
Андрэй. Свабоду і выкупіць трэба часам, калі няма лепшага выхаду.
Федзя. А здаецца ж, яна даволі прыгожая кабета! І ты ж, напэўна, кахаў яе, калі пажаніўся з ёй.
Андрэй (*з іроніяй*). Каханне паэты ў вершах прыдумалі, а ў жыцці яго няма.
Федзя. Ну, няхай сабе такога кахання, аб якім пішуць у кнігах, і няма, але ж трэба мець хоць увагу нейкую да жанчыны, якая ўсё сваё жыццё навек звязала з табой.
Андрэй (*насмешліва*). А ў цябе ёсць увага такая хіба? Нешта ніхто не бачыць гэтага.
Федзя. Няхай сабе, але мы з жонкай на роўных правах жывём у сям'і.
Андрэй. Вядома, яна з усіх жыл на гаспадарцы працуе ў вольны

ад школы час, а да ўрокаў рыхтуецца ноччу, калі ты ўжо цудоўныя сны бачыш у мяккай пасцелі.

Адчыняецца акно ў хаце Шыдлоўскіх і паказваюцца галовы дзяўчат.

Федзя. З працай мы не лічымся. Як калі каму выпадае. А больш зробіш, болей і мець будзеш. І мне, баланс выводзячы, бывае, да свету праседзець прыходзіцца.

Андрэй. Бывае... Дык вось, калі благі я, што кінуў сваю жонку, то ты будзеш у два разы горшы, калі яна сама цябе кіне, добрага такога...

Чуецца песня дзяўчат:

У Андрэя за прылаўкам
Дзіўныя манеры:
У яго на ўсе тавары
Нацэнка без меры.

Андрэй (*не паддаючыся*). Ну, гэта хлусня ўжо, і я магу правучыць некага, калі захачу.

Федзя (*насмешліва*). Ага, вось і перапала табе! А на мяне ніхто нічога не скажа, калі ў мяне грэху ніякага няма за плячыма.

Дзяўчаты спяваюць:

Са ўсяго даход у Федзі —
Разлік яго тонкі —
Ад кароўкі, парасяці,
Курыцы і жонкі.

Федзя (*здзіўлена*). Смешна! Няўжо ж лепей убытак мець некаму?

Андрэй. Ну, мой і абед канчаецца. Пайду хоць скварку якую захаплю з дому.

Андрэй і Федзя адыходзяць. З'яўляюцца Саша і Даша.

Саша (*дэкламуе*). ...І камунізма зоры агнявыя, і шчасця светлага праменні залатыя.

Даша. Здарова, Саша!

Саша (*незадаволена*). Здарова? І Антон Міхайлавіч гаварыў, што добра, але ж ён стары. Яму на пенсію, мусіць, пара. А вось Ядвіга Паўлаўна кажа — кепска: рыфмаваная проза, перайманне ў іншых паэтаў.

Даша. Ну, гэта яна ўжо занадта.

Саша. Не, з ёй не згадзіцца нельга. Яна ўсё-ўсё ведае. Толькі чаму яна сама не піша нічога, ніяк я не зразумею? Мусіць, што часу няма. Але вунь і яна ідзе. Ты пачынай віншаваць яе, а я памагу потым.

Праходзіць Ядзя, несучы на каромысле два кошыкі смалякоў, накладзеных аж пад ручкі.

Даша. Добры дзень, Ядвіга Паўлаўна!

Ядзя. Добры дзень.

Даша. Я... мы...

Ядзя (*прыпыніўшыся*). Ты штосьці хацела сказаць мне, Даша?

Даша. Не... Нічога.

Ядзя адыходзіць.

Саша. Дык чаго ж ты замялася? Так мы і не павіншуем яе з днём нараджэння. (*Садзіцца на лавачку.*)



Даша (*прысаджваючыся каля яго*). Калі ж, як убачыла я, як яна смалякі сырыя несла дадому, дык і язык да зубоў прымёрз — слова вымавіць не змагла.

Саша. Не, трэба павіншаваць яе ўсё-такі: яна добрая. Вось толькі кажуць, калі мужчына жэніцца, дык ён пілу на сваю шыю бярэ, а яна сама на дзве пілы нарвалася, выйшаўшы замуж: на Федзю-пілачку з дробнымі зубчыкамі і на свякроў — старую пілу шчарбатую, хоць яна і цётка мая.

Даша (*шчыра*). Не быў бы то паэт, — як ты гаворыш складна.

Саша. (*упэўнена*). Смейся сабе, а паэтам я ўсё ж такі буду. І не пазней, чым ты лабаранткай станеш. Толькі не трэба мне яшчэ за высокія тэмы брацца, а пісаць аб тым, што сваімі вачыма бачу.

Даша. То я пайду куплю паштоўку і падпішу...

Саша. Ідзі, я цябе тут пачакаю.

Даша пайшла. З'яўляецца Сцёпка з паляўнічай стрэльбай на плячы і з пакункам пад пахай.

Сцёпка. Слухай, Саша, саслужы ты мне службу адну...

Саша. Я ўсё зраблю для вас, што загадаеце.

Сцёпка (*выкручваючы з паперы вазу*). Перадай вось гэту вазу Ядвізе Паўлаўне.

Саша (*беручы вазу*). А што сказаць ёй, падарунак паднёсшы?

Сцёпка. Нічога, і не кажы ад каго нават, яна сама здагадацца павінна.

Саша (*вяртаючы яму назад вазу*). Не, гэта немагчыма: я не сумею змаўчаць, калі яна мяне запытае. Вы лепш самі цішком пастаўце ёй на стол вазу: нікога якраз няма ў іх цяпер. А я быццам бы і не бачыў нічога.

Сцёпка. Што ж, можна і так. (*Ідзе ў хату, схаваўшы вазу пад палу пінжака. З'яўляецца Васіль з завадной ручкай ад машыны пад пахай. У адной руцэ трымае грошы, другой выварочвае кішэні.*)

Саша. Што, грошы згубіў?

Васіль. Не, не згубіў. Вунь ідуць сюды мае грошы.

З'яўляецца Андрэй.

Васіль (*падышоўшы да Андрэя і ўзяўшы яго за грудкі*). Ты гэта што, круцель, і мяне аблічыць захацеў? Я цябе са скуры вытрасу зараз!

Андрэй (*нібы не разумеючы*). Чаго ты, Васіль? Што табе ад мяне трэба, не разумею.

Саша (*са спачуваннем*). Я яго, жуліка, ведаю!

Васіль (*прыпіраючы Андрэя да сцяны хаты Шыдлоўскага*). Ты чаму, крывая душа твая, тры рублі ўкруціў на маіх пакупках нядаўна? Колькі ты выдаў рэшты мне з дзесяці рублёў, успомні?

Андрэй (*апраўдваючыся*). А хіба я ўспомню цяпер. Трэба было ў магазіне глядзець. Ці ты за Жэньку на мяне злосць гоніш, прызнайся?

Васіль. Вось я зараз як свісну табе гэтай корбай, дык ты і... (*Заносіць у яго над галавой завадную ручку.*)

Андрэй (*здаючыся*). Ды я аддам табе ўсё, чаго ты не далічыўся, хоць я і не вінаваты перад табою ні ў чым.

Васіль (*грукнуўшы яго плячыма аб сцяну*). Ты — і не вінаваты?

Андрэй. Ну, можа я памыліўся ненарокам, ідзём, я аддам табе ў магазіне.

Васіль (*паднесшы пад нос яму завадную ручку*). Дык паню-

хай жа, чым гэта пахне. І калі ты не пакінеш ашукваць народ, я з цябе блін зраблю. (*Штурхнуўшы яго ад сябе.*) Ідзі!

Саша. Слабавата, Вася! Твая навука для яго, што з гуся вада. (*Адыходзіць.*)

З'яўляецца Каця.

Васіль (*прысаджваючыся на лавачку*). Добры дзень, Каця.

Каця. А, здароў, Вася! Чаго ты сядзіш тут адзін?

Васіль. Вось заўважыў, што ты ідзеш, дык цябе пачакаць прысеў.

Каця. Няўжо мяне? Не, відаць, Жэньку вартуеш тут ля ганку.

Васіль. Ды ты ж ведаеш, што ў мяне з ёй няма цяпер нічога. Сядзь, пагаворым аб чым-небудзь.

Каця. Што ж, можна. (*Садзіцца ля яго.*) І аб чым мы філасофію павядзём?

Васіль маўчыць.

Каця. А што? Даўно бачыліся, а сышліся і гаварыць няма чаго.

Васіль (*хлопнуўшы даланёй сабе па шыі*). Якія куслівыя мухі пад восень, быццам пчолы тыя.

Каця. Жэньчынага характару яны, мусіць.

Зноў маўчанне.

Каця. Дык абдымі ты мяне хоць, так будзе больш падазронасці. (*Бярэ яго за руку, кладзе сабе на плечы, затым кліча.*) Жэнька!

У акне паказваецца галава Жэні.

Жэня. Што?

Каця (*прытуліўшыся да Васіля*). Паглядзі, як мне добра з ім.

Жэня. А я і не зайздрошчу табе.

Каця. Чаму?

Жэня. Нешта ён як граблямі абдымае цябе. (*Хаваецца ў хаце.*)

Каця. Не выйшла ў нас нічога з табой. Вось што значыць без рэпетыцыі. Ну добра, я пайду. Бывай пакуль што. (*Адыходзіць.*)

Васіль. Усяго добрага.

З хаты Шыдлоўскіх выходзіць Сцёпка са стрэльбай.

Сцёпка. Як ты змыўся з клуба, што я не прыкмеціў? Там мы цябе і Косцю патрулямі на вечар назначылі. Сачыце за парадкам...

Васіль. Добра. Але памажы ты мне зараз песню скласці на Жэньку — і такую, каб яна аж пазелянела ад злосці.

Сёпка (*з усмешкай*). Дзівак ты, Васька! Дарэмна ты гаруеш: да Андрэя жонка нядаўна прыехала. Я сам ёй дарогу да магазіна паказваў.

Васіль (*узрадавана*). Што ты кажаш? Вось Жэнька паскача.

З'яўляецца Жыгліцкая, сагнуўшыся пад цяжарам сырога кругляка.

Сцёпка (*спагадліва*). Нашто вы мучаецеся, цётка? Ці вам жыць на свеце абрыдла?

Жыгліцкая (*з дакорам*). Каня даў бы, калі ты брыгадзір і такі добры...

Васіль. Каб у вас дроў не было, вам далі б і машыну, не толькі каня. Але ж вы ўжо на трэці год запасаецеся, мусіць?



Жыгліцкая (*са злосцю*). Дык пакіньце тады сваю жаласць свінням на вячэру. (*Ідзе ў свой двор. З'яўляецца Зося.*)

Зося. Прывітанне, хлопцы!

Шыдлоўскі (*выйшаўшы са свайго двара з газетай у руках*). Здаровы былі! (*Садзіцца на лавачку і пачынае чытаць.*)

Сцёпка. Добры дзень!

Зося. Я да цябе, Сцёпа, просьбу маю. Пастаў ты мяне на якую штатную работу: надакучыла мне сёння адно, заўтра другое рабіць. А бывае зусім работы не знойдзецца. А без працы я не магу сядзець. Ціхоню харчы добрыя трэба.

Васіль (*жартаўліва*). Ты ж яшчэ выпрабавальнага тэрміну свайго не прайшла.

Зося (*сур'ёзна*). Давайце без жарту! З мяне жыццё само насмяялася ўволю, што я мужа свайго цаніць не ўмела.

Сцёпка. А калі муж паправіцца, ты не думаеш кінуць работу?

Зося. Мяне цяпер на ланцугу не ўтрымаеш дома, калі я паспрабавала гора.

Сцёпка. Закупім кароў больш — даяркай цябе паставіць можна будзе. А цяпер папрацуй ты за сакратара сельсавета да выбараў, бо Аня замуж выйшла і выехала адсюль. Трэба знайсці чалавека на яе месца.

Зося. Не хачу: смяяцца будуць. Скажуць, гультай, гультайскую і работу знайшла сабе.

Сцёпка. Не, там работа не абы-якая.

Зося. Я патраплю.

Васіль. А спадабаешся нам, дэпутатам пасля выберам.

Зося. Я згодна. (*Садзіцца на лавачку ля Шыдлоўскага.*)

Сцёпка. Ну што, папалюем, Вася.

Васіль. Пешы коннаму не таварыш. Ты са стрэльбай, а ў мяне і солі няма, каб зайцу на хвост насыпаць. Хіба загоншчыкам быць у цябе.

Сцёпка і Васіль выходзяць. Даносіцца голас Ціхоня: «Няўмека, і камень гладзей ачасаць можна, а жалеза, як хочаш, нагрэўшы, сплешчаш».

Ціхонь (*з'явіўшыся ў святочным убранні*). Здароў, Язэп!

Шыдлоўскі. Маё шанаванне.

Ціхонь. Няма парадку без мяне ў кузні. Прыйдзецца заўтра самому на работу выйсці.

Зося (*з папрокам*). Я табе выйду! Халера возьме цябе! Акрыяй раней крыху.

Ціхонь. Хоць пакамандую імі і то здаравей мне будзе.

Зося. Ну, пакамандаваць — іншая справа. Ды як жа ты выйшаў, расхрыстаўшыся! (*Зашпіляе яму каўнер рубашкі.*) Сонца-сонцам, але і ветрык дыхае. (*Здымае з галавы хустку, закручвае на шыю Ціхоню і ідзе да Шыдлоўскіх у хату.*)

Шыдлоўскі (*услед ёй*). Во, калі стаў ён мілы табе, у жыта б ты галавой!

Ціхонь (*здымаючы з сябе хустку і хаваючы яе ў кішэню*). Дык што на свеце чуваць новага?

Шыдлоўскі. Малайцы афрыканцы. У хвост і ў грыву даюць наймітам заморскім.

З'яўляецца Даша з кнігамі ў руках.

Даша. Добры дзень! Можа па кніжцы возьмеце ў мяне?

Шыдлоўскі. Здарова, нявестачка. Гэта можна, пры конях у полі весялей будзе. (*Схаваўшы газету ў кішэню, бярэ ў яе кнігі і пераглядае іх з Ціхонем.*)

Шыдлоўскі. «Палёты ў космас». Запішы на мяне, дачушка.

Ціхонь. А я вазьму па сваёй спецыяльнасці — Астроўскі «Як гартавалася сталь». (*Аддае ёй астатнія кнігі.*)

Даша. (*усміхаючыся*). Ну-ну, не пашкодзіць. (*Збіраецца адыходзіць.*)

Ціхонь. Запісвай. Улік — гэта сацыялізм, кажуць.

Даша. А мы ж да камунізма ідзём. А я вам веру, напрыклад. Да пабачэння. (*Адыходзіць.*)

Шыдлоўскі. Правільна, у жыта б ты галавой, кузурка!

Ціхонь. Бывай і нас не забывай.

З'яўляецца Федзя з рэзгінамі травы на плячах.

Ціхонь (*спагадліва*). Што ты сівец гэты косіш, Федзя? Хіба ад яго малака дадуць каровы?

Федзя. Трэба ж чым прахаваць дзве штукі зіму цэлую. (*Апускае рэзгіны на зямлю.*)

Шыдлоўскі. Ты як здаў карову ў калгас, Ціхонь, дык хоць вольныя рукі маеш. І я сваю здаць восенню думаю. А за тыя грошы радыёлу лепей куплю. Ці ж мне адпачыць на старасці не пара? А чаго ў нас бракаваць будзе? Выпішу пару літраў малака, дык і хопіць на нашу сям'ю, і ад участка адмоўлюся вясной. Тры соткі гароду ёсць для варыва пасадзіць, і хопіць мне.

Федзя. А што дрэннага, калі разам з калгасам і калгасніцкія гаспадаркі развівацца будуць? Хіба яны не спрыяюць дастатку прадуктаў на рынку ці ў магазіне?

Ціхонь. Яны замінаюць толькі, адрываючы харч ад калгаснай жывёлы.

Федзя. Могуць і не даваць сабе сена на працадні. Старанныя людзі ржышчам ды верасам прахаваць свае кароўкі сумеюць.

Ціхонь. А якое тут іржышча сёлета, калі камбайны па полі пусцілі?

З'яўляецца Шыдлоўская.

Федзя. Але са сваім усё ж цяжка расставацца! Вось і вы хоць да восені кароўку сваю пакідаеце.

Шыдлоўскі (*зазлаваўшы*). У жыта б ты галавой! Не апошні я ў калгас уступаў і ні ў чым не буду апошнім. І не радыёлу — тэлевізар-камбайн куплю сабе, каб і карціну паглядзець можна было. Два вякі жыць я не збіраюся!

Федзя (*з насмешкай*). Вы ўсяго языком трэплеце, дзядзька.

Шыдлоўскі (*настойліва*). Я сваіх слоў не кідаю не вецер. Сёння ж, як прыйдзе з поля, так і збуду яе.

Шыдлоўская (*незадаволена*). Ці не з глузду ты з'ехаў, Язэп? І свіней пазбывай вазьмі.

Шыдлоўскі. Гэта не мая скаціна — твая. Хочаш, збывай сабе, хоць абаіх, слова не скажу. І не псуй мне палітыкі, у жыта б ты галавой!

Шыдлоўская. Няхай жа лепш на пасаг Жэньцы будзе, пустабрэх ты!

Шыдлоўскі. Да ўдачы не трэба прыдачы. Ідзём, закурым у хаце лепей.



Шыдлоўскі і Ціхонь ідуць у хату.

Федзя. Не давайце яму каровы, цётка, а то мая яшчэ горш пачне пілаваць мне шыю.

Шыдлоўская (*здаўшыся*). Дзе ты што ўталкуеш яму, упартаму!.. Калі наважыць што, хоць кол на галаве чашы, не паможа. (*Адыходзіць.*)

Федзя накіроўваецца з рэзгінамі ў двор. З'яўляецца Ядзя з туга набітым мехам за плячыма. Да яе падыходзяць Саша і Даша.

Даша. Ад сарака сэрцаў нашага класа дазвольце павіншаваць вас, Ядвіга Паўлаўна, з днём вашага нараджэння і ўручыць вам вось гэту паштоўку.

Ядзя (*паставіўшы на зямлю мех і беручы ад Дашы паштоўку*). А я і забылася зусім пра дзень свайго нараджэння за гэтай работай.

Саша. Жадаем вам шчасця такога светлага, як хвалі Серабранкі нашай.

Ядзя. Шчыра дзякую вам.

З двара выходзіць Жыгліцкая.

Жыгліцкая (*з дакорам*). Во, маленькая, у цацы-лялі загулялася з дзецьмі, а там, хоць гніе няхай трава, што накошана ў лесе.

Даша. Да пабачэння, Ядвіга Паўлаўна.

Ядзя. Да пабачэння, Даша.

Дзеці адыходзяць. Жыгліцкая накіроўваецца ў другі бок. На ганак выходзіць Жэня.

Ядзя (*у бок, куды пайшла Жыгліцкая*). І няхай гніе сабе сена ваша. Больш ні па што не пайду я сёння.

Раздаецца стрэл. Ядзя хапае са злосці мех на плечы, але адразу падае на калені.

Ядзя. Ой!

Жэня. Нашто ж ты брала адна! Я ж бы падаць табе магла. Такі мех з мокрым мохам бярэш, гарэў бы ён агнём няхай! (*Шпурляе нагою мех, падымае Ядзю і садзіць яе на лаўку.*) Што з табою?

Ядзя. Не ведаю... Нешта як адарвалася ўнутры ўсё роўна. Няхай яны будуць пракляты ўсе разам з гаспадаркай сваёй кулацкай.

Жэня (*кліча*). Роза! Бяжы сюды хутчэй! Ядзі млосна...

З хаты выбягае Роза, за ёй выходзіць Шыдлоўская.

Жэня. Прыглядзь за хворай, Роза. (*Паказвае на Ядзю.*)

Роза. Добра, добра... (*Бярэ Ядзю пад руку.*)

Шыдлоўская. Дай я табе памагу, дачушка. (*Бярэ Ядзю пад руку з другога боку.*)

Роза і Шыдлоўская вядуць Ядзю ў хату. З'яўляецца Федзя.

Федзя. Што тут такое сталася?

Ядзя (*павярнуўшыся да Федзі*). Дзікун ты — не чалавек!

Жэня. Такі мех падсадзіць цяжарнай жанчыне!

Федзя. А хто ж гэта ведаў. Я ж не загадваў набіваць гэтак мех. (*Адыходзіць.*)

Жэня (*услед яму*). Ты сам панясі яго, дык вочы на лоб палезуць.

З'яўляецца Васіль.

В а с і л ь. Дык што, да Андрэя жонка прыехала? Ну як, апяклася і ў пальчыкі студзіш...

Ж э н я. Мухамор ты. Патрэбен мне быў Андрэй, як перац да чаю. Я правучыць цябе толькі за кпіны твае хацела.

В а с і л ь. Ды я ж не сур'ёзна гэта. Проста падражніцца з табой задумаў... І так ты доўга мучыла мяне — ледзь не тры месяцы цэлыя.

Ж э н я. І больш бы памучыць не шкодзіла, але я сама па табе знебылася. (*Пачынае тармасіць Васіля за вушы, потым знянацку цалуе яго ў вусны і бяжыць на ганак.*)

В а с і л ь (*радасна*). Любіць! Дальбог, любіць мяне! (*Убачыўшы, што яна зачыняе за сабой дзверы.*) Жэня! Пастой! Дай паглядзець на цябе яшчэ крыху.

Ж э н я. Што ж, глядзі. Я ж не сонейка, жмурыцца можа не трэба.

Падыходзіць С ц ё п к а са стрэльбай, за ім прыбягае Ж ы г л і ц к а я.

Ж ы г л і ц к а я. А божачка, а міленькі, труса, шэрага трусіка забіў! Каб табе кашаль грудзі адбіў! Каб ты ў гарачцы біўся! Каб цябе на болькі пабіла! Каб ты ад дому адбіўся! Каб цябе громам прыбіла!

З'яўляюцца Ш ы д л о ў с к і, Ц і х о н ь, З о с я і К а ц я.

С ц ё п к а. Гэта вашы трусы былі, значыць? А я думаў — зайцы гэтулькі капусты калгаснай з'елі.

Ж ы г л і ц к а я (*з'едліва*). Трусяцінкі захацеў швагравай! Каб табе на свеце жыць не хацелася! Каб цябе нуд еў! Каб табе ў вушах без спачынку страляла! Каб ты ў слязах маіх утапіўся!..

Ш ы д л о ў с к і (*насмешліва*). Слабы з яго стралок, у жыта б ён галавой: з двух ствалоў ды са шроту і ўсяго аднаго абязвечыў.

Ж ы г л і ц к а я. А колькі ж трэба яшчэ, каб усіх васьмярых не стала, ці што? І так яны рукой не пайшлі нам. (*Да Сцёпкі.*) Плаці цяпер тры рублі, каб табе ліхам плацілі, а мяса сабе забірай са скуркай.

С ц ё п к а. Ладна, я заплачу. (*Дастае грошы.*) І няхай скурка з мясам вам застаецца таксама. Але вы за патраву плаціць будзеце... Калі ласка. (*Працягвае ёй грошы.*)

Ж ы г л і ц к а я (*узяўшы грошы*). Заплачу, чакайце! За што? За тое, што там авечкі качаны пагрызлі?

К а ц я. Авечкі не далезуць туды за дрот калючы.

Ж ы г л і ц к а я. Ты яшчэ выскачыла! Маўчы.

З хаты на ганак выбягае Р о з а.

Р о з а. Хуткую дапамогу выклікайце жывей! Ядзі зусім няможацца. (*Ідзе ў хату.*)

С ц ё п к а. А што з ёй такое? (*Кідаецца ў хату. Зося хапае Сцёпку за руку і шэпча яму штосьці на вуха.*)

С ц ё п к а. Падганяй, Вася, «Пабеду» старшынёву! Хутчэй будзе. А то пакуль дазвонішся, ды прыедуць сюды...

Ж э н я. Давай, Вася, мігам!

В а с і л ь. Бягу... Бягу... (*Выбягае.*)

С ц ё п к а. Хадзем памагу табе. (*Адыходзіць.*)

З о с я. З'елі здароўе кабеце...

З'яўляецца Ш ы д л о ў с к а я.

Ш ы д л о ў с к а я. Людцы добрыя. З Ядзяй нешта страшнае робіцца: счарнела зусім.



Ф е д з я. Дзе там тая машына дзелася?

Ж ы г л і ц к а я (*апраўдваючыся*). Чорт яго ведае, што за свет цяпер такі стаў. Бывала, і ў холадзе, і ў голадзе жылі і здаравейшыя былі. Я сама трое радзіла і да апошняга хадзіла, рабіла ўсё і хоць бы што.

З о с я. З'елі маладое здароўе. У самай красе...

Ж ы г л і ц к а я. Чаго ты? Яна ж яшчэ ў дактарскіх руках. Во трусіка дык таго не падымеш.

Ш ы д л о ў с к і. Бура б цябе падняла ды аб соткі твае ляснула, у жыта б ты галавой!

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Дэкарацыя першай карціны. З прыадчыненых дзвярэй пакоя Ш ы д л о ў с к і х даносіцца бадзёрая музыка. На кухні Ж ы г л і ц к а я і Ф е д з я.

Ш ы д л о ў с к і (*выйшаўшы са свайго пакоя і шчыльна зачыніўшы за сабой дзверы*). Вы хоць паглядзелі б, што за канцэрт сёння па тэлевізару, а то закончыцца зараз і ўрок англійскай мовы пачнецца, у жыта б ён галавой.

Ж ы г л і ц к а я. А хоць бы яго ліха! Мне мілей рагуля твая была, чым гэты лыска, што ў хаце брэша. Мне толькі ў вушах звініць...

Ш ы д л о ў с к і. Ну, цябе я ведаю. А ты, Федзя?

Ф е д з я. А я, напрацаваўшыся за дзень, дык, абы сцішыўся ў крэсле, засну адразу.

Уваходзіць Р о з а з пісьмом у руках.

Р о з а. Паслухайце, я пісьмо атрымала сёння.

Ж ы г л і ц к а я. Ад каго ж яно? Можа Андрэй прыслаў, часам?

Р о з а. Так, ён нарэшце адважыўся. І дзякуе, што я яго да суда не забывала, перадачы насіла...

Ф е д з я. Дастукаўся чалавек, называецца. Пяць гадкоў, як лёду, адхапіў праз свае рукі доўгія.

Ж ы г л і ц к а я. Але ж, мала яму таго было, што абважваў і аблічваў людзей, дык яшчэ пацягнуць з магазіна задумаў.

Ш ы д л о ў с к і (*развважліва*). Ну, не хацела сабачая нага ляжаць на стале, няхай ляжыць пад сталом.

Р о з а. Ва ўсіх грахах сваіх каецца. Піша, што толькі там ён адчуў, наколькі дарага стала для яго сям'я.

Ж ы г л і ц к а я. Во калі прыйшоў да памяці.

Р о з а. Выслаў дваццаць рублёў пераводам і просіць на прамілы бог, каб я хаця чакала яго, не выйшла замуж за каго-небудзь часам.

Ф е д з я. Жыць захацеў, відаць.

Р о з а. Капае канавы, за экскаватаршчыка вучыцца. Спадзяецца неўзабаве дадому вярнуцца. (*Чытае з пісьма.*) «Мілая, добрая, верная Роза мая! Мне сорамна і пісаць табе, успамінаючы, якім я нягоднікам быў. А ты нават тады, калі дзесяткі вачэй з залы суда глядзелі на мяне, як на злачынца, ты мяккім ласкавым позіркам падбадзёрвала мяне

і вяртала мне страчаную надзею на шчасце. Я шмат перажыў і перадумаў за гэтыя непрыемныя дні для мяне, і вецер увесь з галавы маёй выветрыўся канчаткова. Я паважаю, люблю цябе і буду табе адданы. Даруй мне толькі, дарагая мая, і прыйшлі сюды сваю фатаграфію з сынам. На тым заставайцеся здаровы! Цалую цябе і Кольку. Ваш муж і бацька — Андрэй».

Ж ы г л і ц к а я. Федзя, а свінні нашы зачынены? (*Федзяківае галавой.*)

Р о з а. Цяжка ж душой даравацъ яму, але сэрца на яго ўжо адпусцілася неяк. (*Адарваўшыся ад пісьма.*) Ды я і сама вінавата: позна сюды прыехала. Я не дапусціла б гэтага, каб была раней тут.

Ш ы д л о ў с к і. Нічога, няхай зведае, па чым фунт ліха на свеце. Гэта школа для яго будзе, у жыта б ён галавой!

Роза накіроўваецца ў пакой Шыдлоўскіх. З пакоя Жыглiцкiх даносіцца плач дзіцяці.

Ф е д з я. Пакліч там Ядзю, Роза. Няхай дзіця пакорміць.

З'яўляецца Ядзя.

Ш ы д л о ў с к і. Во, яе і клікаць не трэба: у іх, матак, чуццё на гэта ёсць.

Я д з я. Я ўжо ведаю, што прагаладалася...

Шыдлоўскі і Ядзя расходзяцца па сваіх пакоях.

Ж ы г л і ц к а я (*з дакорам*). Во, ты працуеш, як вол чорны, а яна зайшла і тэлевізар глядзіць сабе. Што ж, ёй думаецца, галавы не прыкладу? Была ў гэтым дыкрэце, не рабіла нічога, і цяпер ад работы адлыньвае. Ты глядзі, ці тваё дзіця яшчэ, сынок, сямімесячнае!

Ф е д з я. Ну, як табе не брыдка, матка? І так людзі звоняць, што мы чуць работай не задушылі яе.

Ж ы г л і ц к а я. Людскія языкі, як хвасты сабачыя, і туды віль, і сюды віль. Ты толькі слухай, што хто пляце, ды давай ёй патачку, дык яна на табе паедзе.

Ф е д з я (*апраўдваючыся*). Маўчы, матка, не вучы ты мяне: я сваю струнку дагэтуль паволі, асцярожна цягнуў. Але мне ўжо і самому надакучыла каніцель такая. І я зараз павярну больш крута яе. Паравецца — значыць, так трэба было.

Жыгліцкая, за ёй Федзя ідуць у свой пакой. З'яўляюцца Шыдлоўскі і Шыдлоўская.

Ш ы д л о ў с к і. Слухай, бабка, растлумач ты мне, што гэта азначае: цэлы дзень у мяне вусны свярбяць сёння. (*Трэ рукой ні то вусны, ні то нос.*) Няўжо ж дзівак які на сон спакойны мае намер мне чарку паставіць?

Ш ы д л о ў с к а я. Можа не вусны, а нос? Дык фігу ад мяне якраз заробіш...

Ш ы д л о ў с к і. А ведаеш, не шкодзіла б і чарку прапусціць, бо, чаго добрага, закручэнне кішак яшчэ атрымаецца. А я ж пасля таго як з Вінцэсем у закусачнай быў, нідзе і не нюхаў болей.

Ш ы д л о ў с к а я. У дзеда адна бяседа, дзе быў, з кім піў.

Ш ы д л о ў с к і. Нічога ты не разумееш, кабета, выпіць можна, але трэба піць умеючы.

Чуецца стук у дзверы.



Ш ы д л о ў с к а я. Калі ласка.

Ш ы д л о ў с к і. Нясі, божа, не жанатага: жонку дадзім.

Уваходзяць Ціхонь, Зося, Васіль і Стась з баянам на плячы.

Ш ы д л о ў с к а я (*сцішка мужу*). Дальбог, сваты, Язэп! Ты, мусіць, праведаў пра іх неяк.

Ц і х о н ь. Добры вечар вам! Ці рады вы нам? Калі рады, прынімайце, а не рады — адпраўляйце. Але адпраўляць нас ці варта — скажу я без жартаў: я сват прысланы, каб быў стол засланы з вашай добрай волі для шчаслівай долі.

З о с я. А са сватам свацця на ваша багацце, каб па-над абрусам, хоць не пад прымусам, палягла закуска не нізка, не вузка — печаная, вараная, смажаная, параная і сырыя скваркі да нашай чаркі.

Са свайго пакоя выходзіць Жэня, а з-за дзвярэй выглядаюць Сцёпка, Роза і дзяўчаты.

Ц і х о н ь і З о с я (*разам*). Мы ішлі палямі, лугамі, садамі і прыйшлі па тую кветку, што цвіце зімой і ўлетку.

Расчыняюцца дзверы і ў пакоі Жыгліцкіх. Паказваюцца галовы Жыгліцкай, Федзі і Ядзі.

Ц і х о н ь (*падышоўшы да стала, разаслаўшы на ім беленькую насоўку і паставіўшы на ёй дзве пляшкі: адну з гарэлкай, другую з віном*). Дык што нам, васпанства, скажа на гэта? Будзем піць сёлета ці налета? Сёння ў нашым коле ці можа і ніколі?

Ш ы д л о ў с к і. Ну што вам сказаць, ягамосці? Для нас вы жаданыя госці, ды вас частаваць маладой, у жыта б яе галавой.

З о с я. А зараз мы, сватка, праверым, якія ў нявесты намеры. (*Зося ставіць на стол уверх дном сярэбраны келіх. Жэня падыходзіць і пераварочвае яго на ножку.*)

Ш ы д л о ў с к а я. Тады пакорна просім садзіцца.

Ш ы д л о ў с к і. І не ганарыцца, к сталу прысланіцца.

С т а с ь. Дык што, можна вясельную грымнуць! (*Расцягвае баян.*)

Ц і х о н ь (*разыгрываючы*). Чакай, сваток, пачакай, свацця! І з музыкай не трэба спяшацца. Мы людзі не такія простыя, і каб нам сесці, вы павінны яшчэ вуглы ды кішэні свае патрэсці. Сам ведаеш добра, што заяц стараецца ўзяць і прыўзяць.

З о с я (*таксама разыгрываючы*). А вам, каб дачушку аддаць, за ёй трэба даць і наддаць.

Ш ы д л о ў с к і (*усміхаючыся*). Дык што вы ад мяне хочаце, сваточкі, у жыта б вас галавой?

Ц і х о н ь. Лішняга, сватка, нічога — пасагу сякога-такога.

З о с я. Карову, свінню, авечку...

Ц і х о н ь. Маладым на разжытак.

З о с я. Дваццаць цудоў хлеба і пяць мяхоў бульбы...

Ц і х о н ь. Для іх на спажытак.

Ш ы д л о ў с к і (*засмяяўшыся*). Усяго? Дык гэта ж для мяне раз плюнуць!

Ц і х о н ь. Не спяшы, сваток, з козамі на рынак. Ты думаеш, мы жартуем, калі ў цябе няма шмат чаго ў гаспадарцы. Можна на грошы перавесці ўсё гэта.

З о с я. Так, і выйграем мы тут ці прайграем, але няхай ужо будзе круглая лічба — тысяча рублёў.

Шыдлоўская. Бацюхны мае!
Шыдлоўскі. Гэта на новыя грошыкі?!.
Ціхонь. А як вы думалі...
Федзя (*з хітрынкай*). Запрос у кішэню не лезе. Патаргуйцеся, цётка, можа сваты вам і ўступку якую зробяць.
Жыгліцкая (*незадаволена*). Ды відаць, што ўступяць, бо як дайшлі да торгу, дык языкі быццам падмянілі ім усё роўна.
Ціхонь. Ты, відаць, забыўся, сваток, што як сына жэняць, будуюцца, дачку аддаюць — гарацьa. І не заліць вінам пажар...
Зося. Але, вашы грошы — наш тавар. (*Паказвае на Васіля.*)
Шыдлоўская. А хіба наш тавар нічога не варты? (*Паказвае на Жэню.*)
Сцёпка (*жартаўліва*). Чуеце, дзяўчаты, як з вас насміхаюцца?!
Каця (*сур'ёзна*). Жэня, перакулі чарку ўверх дном ды гані сватоў памялом.
Ядзя (*з перасцярогай*). У сваёй хаце ты вольная птушка!
Роза (*разважліва*). Не спяшайся: мы ж яшчэ не чулі слова жаніха.
Васіль (*настойліва*). Кідай, сват, камедыю гэту. А то сапраўды падумаюць, што мы жабраваць прыйшлі, а не ў сваты.
Стась. Не бойся. Жэнька патрапіць разабрацца, дзе жарты, а дзе кпіны.
Ціхонь. Дык вось што, мае мілыя, мы не просім хлеба, грошай не пытаем — з душой чалавека мы сабе шукаем.
Зося. А што было, быллём парасло.
Каця (*выйшаўшы на сярэдзіну хаты*). Ну, сваточкі, вы тут нейкія жарты строілі, а мы з вамі жартаваць не станем, але не дадзім вам Жэні без выкупу. (*Бярэ Жэню за руку і садзіць яе за стол.*) Сюды, дзяўчаты!
Ціхонь. І які ж вы, сваточкі, выкуп ад мяне патрабуеце?
Каця. Такі, каб не было нам крыўдна аддаваць вам сваю сяброўку.

Ціхонь робіць спробу выцягнуць Жэню з-за стала з аднаго боку, потым — з другога, але дзяўчаты моцна трымаюць яе.

Каця. Не-не, сваток, нічога не выйдзе з гэтага: сілай яе вы ад нас не возьмеце.

Ціхонь хоча адцягнуць стол, але не можа яго скрануць. Пад акампанемент Стася дзяўчаты запяваюць:

Не тупай, сватка, не тупай:
Па калені зямлю вытапчаш,
Не гнiся, сватка, не гніся —
Пакладзі выкуп на місе.

Падстаўляюць Ціхоню талерку.

Ціхонь. Ну, так і быць ужо. Аддаю ўсе грошы з кашальком. (*Кладзе кашалёк на талерку.*)
Сцёпка (*жартаўліва*). Бачыце, дзяўчаты, не выкуп, а подкуп сват вам дае.

Дзяўчаты спяваюць:



За гэтыя грошы
Купі, сватка, мыла;
Памый сабе рыла,
Каб жонка любіла,
Каб дзеці пазналі
Ды бацькам назвалі.

Ціхонь. Ну, жартаваць — не калечыць. (*Да Зосі.*) Выручай тады, свацця, мяне. (*Забірае свой кашалёк.*)
Зося (*дастаўшы з-за пазухі каробку цукерак, перавязаную ружовай стужкай, і кладучы яе на талерку*). Гэта вам, дзяўчаткі, каб прыгожы вянок сплялі маладой на вяселле.
Каця. Цяпер іншая справа, і мы можам вярнуць вам вашу нявесту.

Каця выводзіць Жэню з-за стала і падводзіць да Васіля. Дзяўчаты запяваюць:

Бярыце, сваты, бярыце,
Ды ўмейце шанаваці,
Як родную маці,
Як вішаньку ў садзе,
Як пчолку у мёдзе.

Шыдлоўская (*да Васіля*). Справядліва пяецца! Беражы яе, сынок, бо нездарма ж кажуць: бярэш дачку за руку — матку за сэрца бярэш.
Васіль. Я спадзяюся, мама, што сэрца ваша будзе спакойна за сваю дачку. І мне хацелася б, пакольні наша свацця сакратара сельсавета замяняе, цяпер і запісацца, перш чым за стол садзіцца. А як ты думаеш, Жэня?

Жэня маўчыць.

Шыдлоўскі. І дзе яе жывасць дзелася, у жыта б ёй галавой!
Ядзя. І не дзіва, калі яе лёс вырашаецца цяпер.
Стась. Маўчанне — знак згоды, гавораць.
Жэня. Па-мойму, не варта спяшацца. Падрыхтуемся да вяселля, тады і запішамся днём урачыстым, а сёння толькі заручыны адсвяткуем.
Зося. Ды я і па законе не маю права запісаць вас адразу. Сёння вы мне заявы падайце, а там праз тыдні два і шлюб замацуем.
Шыдлоўскі. Дык пойдзем ў тую хату, сваточкі.
Шыдлоўская. І ўсіх без выбору, на першую гарэлку просім. Калі ласка, дарагія мае.
Шыдлоўскі. Заходзьце, канчане, заходзьце суседзі мае!

Ціхонь з Васілём і Зося з Жэняй, Шыдлоўскі і Шыдлоўская, Сцёпка, Каця з дзяўчатамі і Роза ідуць у суседні пакой. За імі памыкаецца ісці туды ж і Ядзя.

Жыгліцкая (*незадаволена*). Не абавязкова жанатым лезці туды: там не вяселле яшчэ. А вып'еш чарку — трэба і сваю паставіць.
Федзя (*разважліва*). Не штука выпіць і паставіць не штука, але каб галава не балела назаўтра, дык лепей цвярозаму адпачыць легчы.
Ядзя. Можна ж і не піць, а так пасядзець, на людзей паглядзець.
Федзя. А пасядзіш — усё роўна не даспіш, і на рабоце цяжка тады.
Ядзя. Кладзіся сабе, а я пачытаю яшчэ. (*Дастае з шуфляды стала кнігу і разгортвае яе.*)
Жыгліцкая (*з дакорам*). Вядома, хто нічога не робіць, таго

і сон не морыць. Але ж трэба мець увагу хоць, што нехта адпачыць хоча.

Я д з я. Я ж тут буду, а вы ў тую хату ідзіце.

Ж ы г л і ц к а я. Там холадна мне ўжо, старой. Мяне, як ката, на печ цягне толькі. А пры святле я і вачэй не заплюшчу. *(Жыгліцкая лезе на печ. Ядзя запальвае настольную лямпу, і цень ад абажура накіроўвае на печ. Верхняе святло яна выключае.)*

Ж ы г л і ц к а я. Усё роўна я не засну, каб немаведама што, калі хоць які бляск будзе.

Я д з я. А вы хустачкай вочы прыкрыйце.

Ж ы г л і ц к а я. Во, нявестачка, як яна свякруху шкадуе: хоча, каб задушылася. Які тут дух і так у мяне, а я яшчэ галаву ўкручваць буду.

Я д з я ўключае рэпрадуктар.

Ж ы г л і ц к а я. Нашто ж гэты ток пячы дарэмна? Лічыльнік жа ўсё круціцца!

Ф е д з я *(заглянуўшы ў яе кнігу)*. А праўда, чаго ты засела за гэтыя вершы? Спаць клалася лепей бы.

Ж ы г л і ц к а я *(з'едліва)*. Во ажаніўся, сынок, дык ажаніўся! Нават боку пагрэць няма каля каго.

Я д з я *(узлаваўшыся)*. Не, рупар на печы мацнейшы: яго не заглушыць малым рэпрадуктарам.

Ж ы г л і ц к а я *(абурана)*. Во як яна бэсціць мяне, а сынок і вухам не вядзе нават. Каб на каго другога нарвалася, дых хутка навучыў бы, як шанаваць матку. Сумеў бы як заткнуць жонцы глотку!

Я д з я *(рэзка)*. А яму не ясна, як зрабіць гэта, бо ён не чалавек, а робат жалезны і ў яго электронны мозг не паступіў адпаведны сігнал з печы.

Ф е д з я *(груба)*. Што?! Што ты сказала?! *(Падыходзіць, сціснуўшы кулакі, да Ядзі.)*

З'яўляецца Ш ы д л о ў с к а я.

Ш ы д л о ў с к а я. Я вазьму пасуды ў цябе, Ярына, сваёй не хапае для ўсіх.

Ж ы г л і ц к а я. Бяры, сама ж ведаеш, дзе яе ставім.

Ш ы д л о ў с к а я падыходзіць да шафы і бярэ талеркі.

Ш ы д л о ў с к і *(выглянуўшы з-за дзвярэй)*. Антаніна!

Ш ы д л о ў с к а я. Га!

Ш ы д л о ў с к і *(лагодна)*. Каб ты душой гакнула! Што ты там робіш? Тут ты патрэбна якраз, у жыта б ты галавой!

Ш ы д л о ў с к а я *(ласкава)*. Чаго ты галёкаеш, гарлапан ты, я ж не разарвуся на дзве палавіны. *(Ідзе з пасудай у свой пакой.)*

Я д з я *(да Федзі)*. А ў цябе і нервы нейкія ёсць, хоць падсохлыя, як у вяленай воблы ў казцы вядомай.

Ф е д з я. Ты абражаеш, Ядзя. Але я сцярплю лепей.

Ж ы г л і ц к а я *(з папрокам)*. Цярпі, казак,— атаманам будзеш.

Ф е д з я *(угаворваючы)*. Слухай, Ядзя, жыццё — штука такая: нельга жыць, як набяжыць. Жыві, як сплануеш. Хто дбае, той і мае.

Ж ы г л і ц к а я. Але, на чужы каравай рота не разявай.

Я д з я *(здзекуючыся з іх)*. Зразумела: вочы — ямы, рукі — граблі,— не зявай, не міргай, пад сябе заграбай.



Ф е д з я *(апраўдваючыся)*. А што ж гэта за чалавек які не спрыяе ў хату?

Я д з я *(цвёрда)*. Ну, я вам не карова дойная...

Ф е д з я. Ты павадзіцца захацела? Ці прычыны шукаеш пакінуць мяне?

Ж ы г л і ц к а я *(са злосцю)*. Дзе яна пойдзе, нябітая, каб з яе людзі смяяліся...

Ф е д з я. Так, Ядзя. Тут сур'ёзна вырашыць трэба: жыць ці не жыць нам далей з табой разам.

Г о л а с С а ш ы. І цяпер у нашым класе чыстата і прыгажосць.

Уваходзіць С а ш а з газетай у руках.

С а ш а *(падбягаючы да Ядзі)*. Ядвіга Паўлаўна, Ядвіга Паўлаўна! Мой верш «Сантройка» надрукавалі ў газеце, і я гэтым вам абавязан цалкам. *(Убачыўшы, што яна сядзіць, апусціўшы галаву, і не звяртае на яго ніякай увагі.)* Вас пакрыўдзілі? За што, скажыце толькі? Я з імі на кароткіх хвалях пагавару зараз.

Ф е д з я. Пайшоў вон адсюль! Не твая тут справа зусім.

С а ш а. Слухай, Федзя. Хоць ты і брат мой стрыечны, але калі ты станеш крыўдзіць Ядвігу Паўлаўну, дык на ўвесь раён прагрыміш у газеце. Запомні сабе гэта! *(Ідзе ў свой пакой.)*

Ф е д з я. Ідзі, пісака! *(Да Ядзі, лагодна.)* Ды нам не жыць — золата важыць можна. Усё сваё: дом, сад, пчолы, жывёла хатняя. Праўда, я ўсе свае грошы пакуль што трачу яшчэ, але хутка яны да мяне ўдвая, утрая вяртацца пачнуць... Дарэчы, ты сёння зарплату атрымала, казалі. Паўсотні рублёў на жэрдкі мне трэба. Задумаў я ўвесь участак свой плотам абнесці.

Я д з я *(рашуча)*. Не дам. Я хачу Тані сёе-тое купіць. Не стану я яе больш у рызманы ўкручваць, не буду накрываць лахманамі рознымі.

Ж ы г л і ц к а я. Добра для такой дзеўкі будзе, не да хлопцаў жа ва ўсё новае ад іголачкі адзяваць яе. А грошай не хапае.

Я д з я. А вы ў сенніку сваім пакапайцеся — якраз знойдзеце.

Ж ы г л і ц к а я. А мы без запасу не жывём. Ёсць і хлеба і грошай на чорны дзень.

Я д з я. Мне не патрэбны вашы запасы.

Ф е д з я. Запас бяды не чыніць. Ты не галадала ў гэту вайну. У партызанах табе нейкую скарынку хлеба давалі з'есці, а нам з верасу даводзілася пячы.

Ж ы г л і ц к а я *(са здзекам)*. Вядома, наелася панаддзя круп, дык жарствы захацела.

Я д з я *(ласкава)*. Федзя, раскрый ты шырэй вочы на свет белы. не слухай, што табе маці старая гаворыць...

Ж ы г л і ц к а я *(з абурэннем)*. Маткі не слухаць? У мяне галава сівая, але не дурная. А ў цябе тварык гладзенькі, ды розум яшчэ дробненькі.

Ф е д з я *(сур'ёзна)*. Ты маці не чапай. Яна не ліхадзейка нам.

Ж ы г л і ц к а я. Каб ты, маладая, ды была такая, як я старая, дык не такі парадак у нас у гаспадарцы быў бы.

Я д з я *(настойліва)*. Я з месца не скрануся болей для гаспадаркі вашай.

Ф е д з я. Чаму для нашай? І твая ж, мусіць, гаспадарка такая самая, як і наша?

Я д з я. Для мяне з Таняй хопіць і тых грошай, што я ў школе атрымліваю.

Ф е д з я. Кладзі палучку на стол зараз жа, чуеш?!
Я д з я. Я сказала — ні капейкі не дам. Ясна?
Ж ы г л і ц к а я. А што, змог — і пад ніз лёг...
Ф е д з я. Даю пяць мінут падумаць табе.
Я д з я *(цвёрда)*. Дарэмная трата часу.
Ж ы г л і ц к а я. *(з'едліва)*. Ой, просіцца скура ў работу, як паглядзіш! Гэта толькі Ксеня некалі ў нас грошы ад Рыгора хавала... І за дабрату яго ненавідзела.
Я д з я *(з натхненнем)*. Ды хіба ж можна ненавідзець жука-гнаявіка за тое, што ён жукам нарадзіўся!
Ф е д з я *(узгарэўшыся)*. Ах ты... *(Хапае табурэтку.)* Ты праглынеш змяіны свой язык! *(Замахваецца на яе табурэткай, але Шыдлоўскі, які ў гэты час выходзіць з пакоя, ловіць яго за руку.)*
Ш ы д л о ў с к і. Ай-яй, у жыта б ты галавой, пляменнік! На жонку табурэтку падняць адчаіўся.
Ж ы г л і ц к а я. А ты не свянціў сваёй жонкі хіба?
Ш ы д л о ў с к і. Гэта было даўно і няпраўда. *(Падышоўшы да вядра і засіліўшы кружку вады.)* От прывычка: першую чарку вадой кожны раз запіць мушу. *(П'е ваду.)*
Ж ы г л і ц к а я. Затое яна цябе, як ката якога, цягне перад сабой п'янага.
Ш ы д л о ў с к і. Бо яна любіць мяне, дык і стаіць нада мной крукам. І мне падабаецца, як яна да мяне прыхіляецца. А мэблі я не ламаў на жонцы.
Ф е д з я. Нічога, дзядзька, пасля грымот зноў наступае зацішша.
Я д з я *(цвёрда)*. Жыць, як дагэтуль, я ніводнага дня не жадаю.
Ж ы г л і ц к а я. Значыць, не па Юрку шапка, сынок. І гані ты яе вон, каб дыхнуць вальней можна было.
Я д з я. Я і сама пайду, мусіць, як убачу, што не даб'юся нічога.
Ф е д з я. Ты пра Таню лепей падумай, Ядзя. Дзеля яе толькі мы пагадзіцца павінны.
Я д з я *(рашуча)*. На вашых умовах пагадненння не можа быць паміж намі.
Ж ы г л і ц к а я. Ну і няхай жа ідзе тады. А ты гукнеш — і другая на яе месца знойдзецца.
Ш ы д л о ў с к і. Слухайце, яна можа пайсці, але і палова дабра вашага пойдзе за ёй, калі яна захоча.
Ж ы г л і ц к а я. Яна ў нас не рабіла нічога, і яе часці няма тут ніякай.
Ш ы д л о ў с к і. На дзіця возьме часць. І ёй прыпадзе доля нейкая. Яе ж грашам вы таксама месца знаходзілі.
Я д з я *(выпрабавальна)*. І аліменты з бацькі з ўсіх даходаў яго на дачку лупіць буду.
Ф е д з я *(узарваўшыся)*. Трасцу ты возьмеш адсюль! *(Хапае з-пад лаўкі сякеру.)*
Ш ы д л о ў с к і *(трымаючы яго)*. Федзя, апамятайся!

Я д з я хаваецца ў свой пакой.

Ж ы г л і ц к а я *(злазячы з печы)*. Людзі, ратуйце. Здурнеў зусім!
Ф е д з я *(вырываючыся)*. Пусціце, я прыкончу яе, бо ўсё роўна жыццё маё кончана!

З'яўляюцца С ц ё п к а, Ц і х о н ь, В а с і л ь, С а ш а і Ш ы д л о ў с к а я.

С ц ё п к а *(напорыста)*. Дай сякеру сюды, герой! *(Адбірае ў яго сякеру і кідае яе пад лаўку.)*



Ф е д з я *(з роспачу)*. Адыдзіся ты ад мяне! Чаго ты сунеш свой нос у сям'ю нашу? Ты заўсёды, як цень, ходзіш па маіх сцежках.

С ц ё п к а разгублена адыходзіць ад яго.

Ш ы д л о ў с к а я. Во да чаго прагнасць давесці можа...

З'яўляецца Я д з я ў паліто, апранутым наспех, з дзіцем, укручаным у старую саматканую прасцінку, і з чамаданам у руках.

Ф е д з я *(устаўшы са свайго месца, ласкава)*. Ну, прабач мне, Ядзя. *(Падыходзіць да яе.)* Пагарачыўся крыху. *(Становіцца перад ёй на калені.)* Даруй мне. Больш ніколі не будзе гэтага.
Я д з я *(адрывіста)*. Не кленчы, не малі, ніякай часці ад вас я не вазьму і аліментаў тваіх мне таксама не трэба, абыдуся я і без іх як-небудзь.
Ц і х о н ь. А ўсё ж глядзі, Ядзя. Можа і ты гарачку пораш.
Р о з а. Лягчэй разбурыць сям'ю, чым стварыць яе нанава.
Я д з я *(са слязьмі)*. Усе супраць мяне? Ніхто мне, няшчаснай, не спагадае.
Ш ы д л о ў с к і. Не плач, дачушка... *(З пагрозай у голасе.)* Ну, глядзі, Ярына!
Я д з я *(адыходзячы)*. Па кнігі я прышлю заўтра некага.
Ж ы г л і ц к а я. Можаш забіраць сабе свой пасаг: ён не патрэбен нам.
С ц ё п к а *(шчыра, ласкава)*. Дык ідзём жа, Ядзя, тады: твая луста хлеба ў нас не адрэзаная. *(Бярэ ў яе дзіця.)* Мы цябе, Танечка, сёння ж вытрасем з гэтых рызаў і ва ўсё белае, крамнае, як ляльку, адзенем. *(Ідзе да парога.)* Бывайце здаровы. *(Прапускае перад сабой Ядзю і за ёй сам выходзіць.)*
Ш ы д л о ў с к а я *(услед ім,)*. Шчасліва!

Ф е д з я кідаецца за Я д з я й.

Ж ы г л і ц к а я. Куды?! Не хапала бяды табе назад варочаць яе! Уздыхнеш лягчэй, як збудзеш завалу з хаты. Сарока з куста, сорак на куст. А цяпер табе толькі спяваць застаецца. *(Зацягвае голасам.)*

Ой, бяда ж, бяда,
Незабытая —
Пайшла жонка прэч
Ды не бітая.

Ш ы д л о ў с к і. У жыта б вы галавой! Чуць не забілі нябітую гэту.
Ф е д з я. Ну, рана ці позна, а развесціся з ёй нам усё роўна прыйшлося б. *(Ідзе ў свой пакой.)*
З о с я. Па новаму закону цяпер паўтары сотні за развод плаціць трэба, трасі панчоху, цётка Ярына.
С а ш а. Ой, цётачка, прыйдзецца зараз вам сваю першацёлачку на рынак цягнуць.
Ж ы г л і ц к а я *(скрозь зубы)*. Каб з цябе, пляменнічак, жылачкі выцягнула, каб з цябе... *(Выходзіць.)*
Ц і х о н ь. А чаго мы спахмурнелі? Гэта ж пайшло да лепшага можа,— я пра Ядзю кажу. Дык гуляй, душа, няма пекла!

З пакоя Ш ы д л о ў с к і х выходзіць З о с я з келіхам у руках, накрытым белай насоўкай.

З о с я. Сюды папрашу, дзяўчаткі: тут прастарней неяк.

Выходзяць Стась з баянам, Роза, Каця і дзяўчаты, якія вядуць пад рукі Жэню і спяваюць:

Беглі конікі ўсё лужком,
А за імі Жэнечка беражком.
— Куды вы, конікі, бежыцё?
Каму вы разлуку несіцё?
— Бяжым, Жэнечка, мы к табе,
Нясём разлуку мы табе.
Адлучым цябе мы ад мамкі —
Прылучым цябе да Васількі.

Ц і х о н ь. Пажадайце, людзі, блізкія суседзі, гэтым мілым дзецям шчасця, даўгалецця.

Г а л а с ы. Няхай жывуць шчасліва.

Ц і х о н ь. Заручай, сваццця, жаніха з нявестай цяпер.

З о с я. Дык за кім жа, дзеткі, верх у жыцці будзе ў вас, скажыце мне?

В а с і л ь. Няхай ён за ёй будзе сабе.

Ж э н я. А нашто ён мне здаўся.

З о с я. І правільна. Нездарма ж гавораць: чый верх, таго і скула.

Ц і х о н ь. Так то яно так, але і паважаць жонку трэба, бо на іх, жанчынах, увесь свет трымаецца, а на нас, мужчынах, апіраецца.

Ш ы д л о ў с к і. Справядліва, сватка! У жыта б нам усім галавой. Ці хутка ж гэта бабская доля ліхая ў нашых Канчанах кончыцца?

З о с я. Ну, дзеткі, давайце ж мне цяпер правыя рукі свае, звяжу я вас на ўсё жыццё ваша. Верай і праўдай і шчырай любоўю. *(Перадае келіх Ціхоню, бярэ за руку Жэню і Васіля. Затым перавязвае іх рукі насоўкай. На пальцы левых рук надзяе ім заручальныя пярсцёнкі. Дзяўчаты спяваюць пад акампанемент Стася. Шыдлоўская паціху плача, гледзячы на дачку з будучым зяцем.)*

Птушкі шчабяталі —
Маладых звязалі
Шоўкавай хусцінкай,
Што не ручкам развязаць,
Што не ножыкам разрэзаць.
Вецер вее — не развее,
Дожджык моча — не размоча,
Суды судзяць — не рассудзяць,
Людзі гавораць — не разгавораць.

З о с я *(узяўшы келіх ад Ціхоня)*. А цяпер, дзеткі, піце мёд шчасця свайго з кубка бяздоннага сёння, заўтра, налета і напазалета і цэлы век свой, хай ён у вас як найдаўжэйшы будзе. *(Дае напіцца віна Жэні, пасля Васілю, а затым, аддаўшы келіх Ціхоню, схіляе жаніха і нявесту да пацалунку.)*

Ц і х о н ь *(лінуўшы рэшткі віна ўверх)*. І няхай, дзеткі, ваша радасць і ўцеха адно адным з кожным днём растуць увысь і ўшыркі! Ды няхай ваша шчасце будзе такім жа чыстым і празрыстым, як хвалі Серабранкі нашай!

З а с л о н а.

**Вадзім ЗЫБЛЕЎ**

# ТАМ, ДЗЕ ПАЧЫНАЛАСЯ ГІСТОРЫЯ



Меле сухавей Сахару жорнамі,
Чахнуць баабабы без вады.
Афрыка гарачая і чорная
Тлее ад уранавай руды.

Афрыку шматалі і тыранілі,
Сокі ўсе высмоктваючы з жыл.
Леў марскі з Вялікае Брытаніі
Тут вякамі жыў і не тужыў.

Кваплілася погань шматгаловая,
Каркалі на гібель крумкачы.
Сэм аж вочы вылупіў валовыя
І куе да Афрыкі ключы.

Там, дзе шчэ ўсё золата
не звезена
І адкуль грабуць чужынцы
скарб,
Дзе яшчэ ў няволі ўся
Радэзія —
З ног зрывае путы вечны раб.

Там, дзе пачыналася гісторыя
Тысячы гадоў таму назад,
Афрыка бурліць, нібы
Вікторыя —
Неўтаймаваны вадаспад.

## НОЧЫ ЛІПНЁВЫЯ



моўклі да раніцы звонкія косы.
Неяк адразу стаў луг безгалосы.
Ноч развінула бясконцыя цені,
Соладка спіцца мужчынам на сене:
Як у раі — на раскіданай копцы.
Толькі не спяць ні дзяўчаты, ні хлопцы.
Ім, маладым, не да сну, не да раю —
Хтось на гармоніку рыпае, грае.
Песня за поўнач гучыць-разлягаецца.
Нечая доля ідзе, не спяшаецца,
Ціха ступае пракосамі колкімі,
Быццам на іх сыпануў хто іголкамі.
Міма прасунуўся.
Знік паміж копамі,
Потым над кручаю стаў, як укопаны,
Постаць мажная, шырокія плечы —
Нехта шукае з каханай сустрэчы.
А казадой несціхана рагоча,
Быццам нясмелага высмеяць хоча.
Фыркае конь.
Адзываецца пута.
Нейкая птушка гудзе, як у буталь.
Неба бляднее.
Гармонік не рыпае.
Сонца вачыма заспанымі лыпае.
Ночы кароткія.
Ночы ліпнёвыя.
Скошаны травы і краскі мядовыя.

* * *



то гэта сена варушыць на поплаве?
Хто гэта позіркі кідае цёплыя?
Хто гэта сонцу занадта пякучаму
Коп панаставіў над самаю кручаю?
Сонца на мяккія копы садзіцца,
Сена сухое — глядзіш — загарыцца.
Зграбена сена такое духмянае!
Зграблі дзяўчаты, у касцоў
закаханыя.
І не паспелі ні хмары, ні ветры
Тут з перунамі з'явіцца ў паветры.





Алег ФОМЧАНКА

# ЦЫРУЛЬНІК

### Апавяданне

Мал. Л. Арапава.

I

Перад сном любіць Алёшка памарыць. Нацягне коўдру на галаву, і тады застаўлены рэчамі пакой — нібы і не пакой, а вузкі рыпучы ложак, на якім ён спіць, нібы і не ложак. І сам Алёшка быццам не ляжыць, а стаіць на мосціку карабля.

На хлопцу новенькі марскі гарнітур, а на рукаве кіцеля зіхацяць золатам пазументы. Матросы і афіцэры звяртаюцца да яго не інакш, як «таварыш капітан першага рангу». Моцным голасам, выразна аддае Алёшка каманды: «Правей руля! Так трымаць! Асабоваму складу выстраіцца на палубе!..»

Пасля далёкага плавання карабель вяртаецца дамоў. У блакітнавата-бэзавай смузе аж да самага гарызонту бягуць цяжкія, зялёныя хвалі. Над імі куляюцца імклівыя чайкі. І як хораша Алёшку ад гэтых хваляў з чайкамі, і ад гэтай смугі з хвалямі, і ад гэтага марскога гаркаватага паветра!

А зямля ўсё бліжэй. І вось ужо на беразе іх сустракае аркестр. Караблі на рэйдзе аддаюць салют.

Сярод тых, хто прыйшоў сустракаць, — дзяўчына, пра якую Алёшка шмат думаў. У дзяўчыны сінія, як мора ў час штылю, вочы і белыя, як грабяні хваляў, доўгія валасы. Праўда, імя для дзяўчыны Алёшка пакуль не прыдумаў. Вось яна працягвае рукі... На ёй светлая, нібы сатканая з воблакаў, сукенка, а сама яна лёгкая, як той сонечны прамень.

Потым яны ідуць у наднямонскі гарадок, дзе жыве брат Рыгорка і дзе раней жыў ён. Знаёмыя здзіўлены: гляньце, капітан!.. Рыгорка таксама здзіўляецца. Толькі яго жонка Зоя, паціскаючы плячыма, кажа: «Падумаеш, што тут такое?.. Я ніколі ў Алёшкавых здольнасцях не сумнявалася».

А пасля ўсе заўважаюць дзяўчыну, якая ўжо — Алёшкава жонка. Ніхто не ведае, як яе завуць, не ведае чамусьці і Алёшка. Усім няёмка, а Зоя кажа свайму сынку Віцьку: «Глянь, якія ў дзядзькі твайго на рукаве залатыя палосы, як яны гараць, глянь...»

Але тут моцна грукаюць дзверы.

— Зноў не выключыў лямпу! Лічыльнік круціцца і круціцца...

— Ціха ты. Можа хлопец стаміўся за дзень. Ну, забыўся. Выключы — і ўсё тут, — прыглушаным басам кажа з суседняга пакоя Рыгор.

— Падумаеш, стамі-іўся... Што ён... Мяхі насіў?

— Цішэй, яшчэ разбудзіш, — шэпча Рыгор.

Алёшка моцна зажмурвае вочы, аж да болю. Ад нядаўніх летуценняў і следу не засталося.

У брата Алёшка жыве не так даўно — месяцаў пяць. Пераехаў ён сюды з Гомеля пасля таго, як памёрла маці.

Алёшка памятае ўсё да самых драбніц. Ён памятае, што тады быў сонечны дзень, і пад нагамі іскрыліся ручаінкі, пераліваліся маленькімі вясёлкамі. Памятае, як крычалі вароны на таполях, што абступілі могілкі.

Потым раптам зрабілася вельмі ціха, пуста — разышліся людзі. Каля жоўтага капца, пад якім цяпер ляжала маці, засталіся толькі Рыгор, Зоя і ён.

Алёшка прысеў на капец, з вачэй яго цяклі слёзы. Яму здалося, што

## З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



**Раіса Кудрэвіч, дачка вядомага беларускага пейзажыста У. М. Кудрэвіча, пачала сваю творчую дзейнасць яшчэ ў гады Вялікай Айчыннай вайны і напісала шмат ясных па думцы і арыгінальных па манеры выканання карцін. Яе жанравыя карціны: «Вяртанне з поля», «У родны калгас», «Сяброўкі», а таксама пейзажы «У лесе», «Вечар» — сведчанне няспыннага творчага росту мастака.**

**На Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы 1960 года Раіса Кудрэвіч паказала свае новыя жанравыя палотны: «Першае знаёмства» і «Студэнтка», адлюстраваўшы на іх хвалюючыя вобразы нашай сучаснасці.**



ён сядзіць на матчыных грудзях, што ёй цяжка, і Алёшка ўстаў, яшчэ больш прыдушаны горам. Маўчаў і Рыгорка.

Старэйшы брат Васіль жыў далёка, у Сібіры. Таму і не прыехаў на пахаванне.

— Ну што ж, пойдзем, — нарэшце сказаў Рыгор. — Ты вось што, братка, пераязджай да нас.

— Ага. Будзем разам жыць. — Усхліпваючы, Зоя ўзяла Алёшку за руку.

Ён згадзіўся. Інакш і не магло быць: не жыць жа аднаму.

Цяпер Алёшка працаваў у цырульні. Скончыўшы дзесяцігодку, ён спрабаваў паступіць у мараходнае вучылішча. Але, як яму сказалі на медыцынскай камісіі, — «не выйшаў здароўем».

Ад гора Алёшка не ведаў, куды падацца, што рабіць. Падвярнуліся курсы цырульнікаў, і ён, не задумваючыся, на зло сабе і, як яму здавалася, усяму чалавецтву, вырашыў свой лёс. Аднак летуценні аб моры і далёкіх краінах усё не аціхалі ў Алёшкавым сэрцы.

Вечарамі, калі яшчэ жыла маці, ён хадзіў на бераг Сожа, глядзеў на буксіры, порсткія кацеры, слухаў плёскат хваляў, і яму здавалася, што Сож — гэта акіян, а кацеры на ім — прыгажуны-караблі. І ў такія хвіліны мары ўзрушвалі яго ўсё мацней і мацней...

Суха пстрыкнуў выключальнік. Стала цёмна. Зоя наткнулася на крэсла і злосна бразнула дзвярыма.

— І калі ўсё гэта кончыцца? Надакучыла!..

— Што надакучыла? — пытаецца Рыгор.

Алёшка ведае — цяпер ад Рыгоркі нічога добрага не чакай. Зоя таксама не саступіць. «Заўтра ж трэба перайсці на кватэру, заўтра...» — стрэльнула ў галаву думка. Алёшка ж ведае, што яго не адпусцяць ні Зоя, ні Рыгор...

— Добра. Мне таксама надакучыла, — кажа Рыгор. — Пайду разбуджу яго. Пагавару. Заўтра ён пойдзе ад нас. А ты!..

— Што «а ты»! — аж крычыць Зоя. — Хіба я не праўду кажу?

— Нічога, — кажа Рыгор.

— Падумаеш, і сказаць няможна.

— Добра, Алёшка ад нас пойдзе. Сам знайду яму месца.

— І не думай! А то і я пайду з хаты, — гаворыць Зоя праз слёзы. — Мне ён, як родны брат.

На сэрцы ў Алёшкі прыемны смутак. Ён верыць, што Рыгор і Зоя любяць яго, шануюць. Яму крыху шкада Зоі ў гэтую хвіліну, бо Рыгор яшчэ ніколі так з ёй не размаўляў.

II

Раз-два! Рукі ўгору! Раз-два! А цяпер — шэсць разоў прысесці. Алёшка вычытаў у «Савецкім спорце», што дыханне можа быць адвольным. Ён і не сочыць за ім.

Гімнастыка забірае хвілін дзесяць — пятнаццаць часу. Пасля ён падыходзіць да люстэрка. Маленькі, худы, Алёшка ў свае дзевятнаццаць гадоў выглядае зусім хлапчуком. Ён прысядае і мацае лыткі. Потым згінае рукі ў локцях. Ужо два месяцы ён робіць зарадку, а мускулы ўсё слабыя. Пры такіх тэмпах не скора трапіш на мора.

І ў каго ён удаўся!.. Браты Рыгор і Васіль — такія здаравякі, што дай ім двухпудовую гіру, дык будуць гуляць з ёй, як з мячом. А бацька, кажуць, быў самому Паддубнаму раўня. Толькі Алёшка яго не помніць: бацька загінуў у сорак трэцім. Можа і Алёшка, каб не вайна, вырас бы

дужым. Але хваробы сыпаліся тады на яго адна за другой. Ён ледзь адужаў іх.

Алёшка зірнуў на гадзіннік. Без чвэрткі дзевяць. Хуценька памыўшыся, ён зайшоў на кухню, дзе Зоя пакінула снеданне. На работу можна было і не спяшацца, але ён прывучаў сябе да дысцыпліны. З'еўшы амлет і выпіўшы кубак малака, Алёшка выйшаў на вуліцу.

Уночы быў дождж, і цяпер дзе-нідзе блішчэлі лужынкі. У іх купаліся вераб'і. З гародчыкаў несла пахам травы і кветак.

Траплялiся знаёмыя. Алёшка вітаўся. Тут амаль усе добра ведалі адзін аднаго, — як гэта бывае ў невялікіх гарадках.

На плошчы каля двухпавярховага будынка райкома партыі садзіўся ў «газік» сакратар. Алёшка часта бачыў гэтага сталага, заўсёды падцягнутага, прыветлівага чалавека. І сёння ён, мабыць, паедзе ў калгасы, пабудзе там на фермах, пагутарыць з людзьмі. Пабудзе і на палях, залатых ад налітой збажыны, а потым, увесь у пыле, стомлены, выкупаецца ў сцюдзёнай лясной рачулцы.

А Алёшка вось толькі пяройдзе плошчу. Там, у схаваным ад сонца пад ліпамі доміку, яго цырульня.

Алёшку стала сумна. Задумаўшыся, ён зачапіўся за парог і выцяў да болю нагу.

Алёшкава напарніца — яна ж і загадчыца цырульні — Таня Сакалова ўжо «апрацоўвала» кліента. У яе руках стракаталі нажніцы. «Бач, стараецца, — падумаў Алёшка. — А на правай скроні падстрыгла ніжэй, чым на левай».

Алёшка павітаўся, адсунуў крэсла і пачаў раскладваць на стале прылады.

— Бачыў, якую мне брытву прывезлі? Златавустаўскага булату, — сказала Таня.

— Час ужо на электрычныя пераходзіць, — нахмурыўся Алёшка.

— Дарэмна так думаеце, малады чалавек. Ад іх гігіена скуры не тая, — уставіў сваё адзіны наведвальнік. — Іншая зусім справа вось так — з мылцам, з масажыкам. Асабліва, калі гэта робіць сваімі пальчыкамі такая чароўная дзяўчына.

Наведвальнік глянуў пры гэтым на Таню. Тая захіхікала. Алёшка змоўчаў. Ён выйшаў у пярэдні пакой і пачаў гартаць леташні «Аганёк».

У буднія дні наведвальнікаў было мала. А тыя, хто і заходзіў, заўсёды мерыліся сесці ў крэсла да Тані Сакаловай.

Рабіць не было чаго. Алёшка хандрыў. Даўгаваты твар яго не маглі тады ажывіць нават вялікія цёмныя вочы. У іх было шмат суму.

Каля ганка спынілася машына. Бразнулі дзверцы кабіны, і амаль адначасова цераз парог пераваліўся грузны мужчына.

— А ну, хто паголіць? — гучна запытаў ён. — Толькі ў тэмпе.

Таня запрасіла ўсмешкай мужчыну да сябе, але ён сеў да Алёшкі. Цырульнік спрытна направіў на рамяні брытву, хуценька намыліў мужчыну шчокі. Той здзіўлена глянуў на Алёшкавы доўгія і тонкія пальцы, падміргнуў у люстэрка. Хвілін праз пяць мужчына быў паголены. Ён падаў грошы і сказаў:

— Здорава ў цябе атрымліваецца, хлопча. Без здачы.

Алёшка пачырванеў.

— Вазьміце рэшту, чуеце...

— Ого! — усміхнуўся мужчына. А потым, нібы ўсё ўжо даўно было вырашана, дадаў: — Нам такія хлопцы вельмі патрэбны. Калі цябе чакаць на ДРЭС?.. Ведаеш, дзе будуецца... Спытаеш Гурэева.

Мужчына выйшаў.



— Ну як?.. Паедзеш? — хіхікнула Таня.

— І паеду, а што?!

— Ды так проста. Ты ж збіраўся ў мараходнае.

— А табе не ўсё роўна?

— Не злуйся... «Першага мая прыве-ет...» — заспявала раптам Таня.

Алёшка пагардліва скрывіўся: пустальга! Потым яны некаторы час маўчалі. Але Таня не сцерпела.

— Алёшка, галубок, не злуйся, — сказала яна. — Зараз я збегаю ў прамтаварны, трэба што-небудзь купіць. Пабудзь без мяне. Калі што якое, сам ведаеш...

Вярнулася Таня ўжо ў канцы дня. Пакуль хадзіла, Алёшка двух чалавек пастрыг і аднаго паголіў, прачытаў усе чатыры паласы раённай газеты і зноў гартаў стары «Аганёк». Аднак увесь гэты час яго трывожыла думка: а чаму б і не папрацаваць на будоўлі, спецыяльнасць яшчэ адну набыць? А потым, потым, вядома, і ў мараходнае можна; тады нават хутчэй прымуць.

Дома ён пра гэта загаварыў. Рыгор толькі ўзняў бровы ўгару:

— Пра што гэта ты?

— Што ты не разумееш, калі ўсё так ясна, — адказаў Алёшка. — Надакучыла мне... Так працуючы, можна хутка гультаём стаць. Хіба не праўда?

Пачуўшы гучныя галасы, з кухні выйшла Зоя. Яна не ведала, пра што гаворка, і ўстрывожана запытала:

— Чаго не падзялілі?

— Ды вось надумаўся... Едзе, адным словам, — махнуў рукой Рыгор.

У Зоі задрыжэлі губы.

— Ты што, чуў, як я да цябе ўчора заходзіла? Чуў што-небудзь? Усё глупства! Мы цябе любім, Алёша. А ў сям'і ж усякае бывае.

— Нічога я не чуў, Зоя. Спаў — і ўсё. Тут, разумееш, іншае, — узрушана сказаў Алёшка. — Разумееш, Рыгор ведае.

Павячэраўшы, браты выйшлі на вуліцу, каб пагутарыць аб усім на свежым паветры. Быў цёплы, зорны вечар. Ціха шапацелі лісцем дрэвы. У парку іграў баян. Рыгор моўчкі выслухаў усё, што гаварыў Алёшка, і сказаў:

— Добра, едзь.

Здалёку данесліся глухія, нібы ішлі яны з-пад зямлі, гукі: «Топ-тап, топ-тап...» Неўзабаве цемрадзь ночы вогненнай рыскай перакрэсліў пасажырскі цягнік. Алёшка глядзеў услед яму і ўбачыў, як, нібы клічучы за сабой, падміргнуў чырвоным вочкам ліхтара апошні вагон.

## III

Ад гарадка да будоўлі ДРЭС было крыху больш, чым трыццаць кіламетраў.

Бяжыць па асфальце аўтобус... У прыадчыненае акно б'е пругкае паветра. Адчыніць зусім акно нельга, бо сапсаваны засаўкі. Душна.

Яшчэ зусім нядаўна Зоя пацалавала на развітанне Алёшку ў лоб, а Рыгор моцна сціснуў руку. Цяпер усё гэта здаецца далёкім, быццам і не было нічога.

Аўтобус збочыў з дарогі направа, і Алёшка чуе нейчы ўсхваляваны голас:

— Ух, ты!.. Малайцы, чортавы дзеці. Шашу-такі правялі!.. А вунь і вузкакалейка выцягнулася!.. Нішто сабе.

Пасажыры падаліся да вокнаў. А той голас усё гэтак жа ўзрушана тлумачыў:

— Тут, дзе едзем, год назад былі непралазныя зараснікі і непраходныя балоты. А во ўсё яны, моладзь ды камсамольцы, — перайначылі, як кажуць, прыроду... А без дарогі, вядома, — якая там будоўля... Трэба і матэрыялы, і абсталяванне падвезці.

— Будоўля ж ударная, камсамольская, — падтрымаў гаворку другі пасажыр. — Здзіўляцца нечага. Глянулі б, які кран пад'ёмны паставілі. Дом у два паверхі лёгка падніме такі... метраў гэтак на дзевяноста ўгару.

Сталая жанчына, што сядзела побач з Алёшкам, войкнула і дастала з кошыка яблык. Потым, глянуўшы на хлопца, падала яблык і яму.

— На будоўлю, сынок?

— Але.

— У мяне там дачка працуе. Бетоншчыца. Запрасіла, во, у госці мяне, старую. А ты еш яблычак, сынку, еш...

У жанчыны ласкавыя, уважлівыя, як некалі ў маці, вочы. Яна глядзіць на Алёшу, і яму ад гэтага хараша.

Адкінуўшыся на спінку сядзення і заплюшчыўшы вочы, ён бачыць сябе высока ў паднябессі на кране. Яго слухаюцца шматлікія ручкі і кнопкі ў пульце кіравання. Унізе, на зямлі, стаяць рабочыя, інжынеры, карэспандэнт, што прыехаў з газеты, — усе дзівяцца, як ён працуе. А кран лёгенька пераносіць самыя цяжкія грузы.



Увечары карэспандэнт бярэ ў Алёшкі інтэрв'ю, фатаграфуе. Праз два дні ў газеце — здымак. Алёшка бачыць, як радуюцца Рыгор і Зоя, і ўсміхаецца.

Але ў гэты момант аўтобус спыняецца. Налева — цэлая вуліца фінскіх домікаў, насупраць — лезуць угару недабудаваныя карпусы шматпавярховых будынкаў; ззаду — табарам раскінуліся зялёныя вагончыкі.

Прамысловая пляцоўка і кантора, як даведаўся Алёшка, былі ўперадзе, кіламетры за два-тры. Там і аддзел кадраў.

З самага пачатку Алёшку не пашанцавала. Яго выслухалі і сказалі, што на курсы кранаўшчыкоў набор даўно закончаны.

— Тады ў іншае месца, рабочым брыгады, — сказаў Алёшка, — бо мне ўжо надакучыла тая цырульня...

Апошняе слова яму і нашкодзіла.

— Дык вы цырульнік?! — здзівіліся. — Такая прафесія нам во як трэба! Нашы ж хлопцы абраслі, нібы тыя Рабінзоны.

Як ні адмаўляўся Алёшка, як ні пагражаў, што паедзе назад, — не памагло. Здаўся-такі. Угаварылі супрацоўнікі аддзела кадраў.



Цырульня займала палавіну вагончыка. Побач, праз калідорчык, была шавецкая майстэрня.

У невялікім пакойчыку быў водар дзяшовага адэкалону, на падлозе акуркі і агрызкі яблык. Направа, як уваходзіш, на сцяне вісела вялізнае люстэрка. Алёшка адразу заўважыў, што яно добрае, толькі шмат на ім цёмных крапінак.

Пачаў ён з таго, што ўзяўся прыбраць пакой. Расчыніў насцеж акно, выцер пыл на століку і крэсле, падмёў падлогу.

Нарэшце можна было і адпачыць. Ля акна сабраліся хлапчукі і разглядалі новага цырульніка.

— Дзядзечка, а дзядзечка, вы так стрыжаце, што ўсе, як авечкі, ходзяць?

— Што гэта за байкі?.. — адказаў Алёшка, і яму стала весела.

— Не, не байкі. Да вас вось тут такі працаваў... І яшчэ ён гарэлку піў.

— Аднойчы ён Віцьку вуха чуць не адрэзаў нажніцамі, — сказала дзяўчынка. — Віцька плакаў...

— А ну, хто з вас самы смелы?.. Без грошай падстрыгу! — выгукнуў Алёшка.

Дзеці ўсе адразу сарваліся з месца і разбегліся.

За сцяной ужо не стукалі малаткі. Вечарэла. Зямлю ахуталі доўгія цені.

У цырульню так ніхто і не зайшоў. І назаўтра нікога не было. Алёшка ўспомніў пра Гурэева.

Раніцай Алёшка ішоў па раз'езджанай машынамі дарозе. Узнімаючы клубы пылу, грукочучы кузавамі, імчаць самазвалы. На зубах хрумсціць пясок. Прыпякае сонца.

Адзін самазвал спыніўся. З кабіны высунуўся твар дзяўчыны, кірпаты, з пухлымі вуснамі.

— Гэй-й, падвязу! — крычыць яна.

— Мне Гурэеў трэба.

Дзяўчына паглядзелася ў бакавое люстэрка, крыху ссунула на патыліцу просценькую хусцінку, выпускаючы на лоб каштанавыя пасмачкі, і засмяялася:

— Можна і да Гурэева. Па дарозе.

Яна моцна трымае абаранак руля, пазірае часам на Алёшку, на чамаданчык, які ён трымае на каленях, і раптам пытаецца:

— Мусіць, карэспандэнт?.. Пра Гурэева можна напісаць. Камскую і Княжагубскую ГЭС будаваў, а цяпер...

З-за пагорка паказалася макаўка грушы-дзічкі, аж белая ад пылу, следам сталёвы хобат — страла экскаватара. Глыбока ўрэзаўшыся ў кар'ер, сам экскаватар выдаваў сланом-няўклюдай. Затое хобат быў вельмі ўвішны. Імкліва, кожную секунду-дзве, ён высыпаў у кузаў самазвала новыя і новыя порцыі пяску.

— Ну і дае Гурэіч! Гэта — клас! — у захапленні сказала дзяўчына і нацягнула зноў на лоб хусцінку, хаваючы кудзеркі.

Яна сустрэлася позіркам з Алёшкам і сумелася:

— Прыехалі, вылазьце. Няма часу.

Чародкай стаяць самазвалы, пад пагрузкай. Адзін за адным, узнімаючы воблакі рудога пылу, імчаць яны ў кірунку дамбы.

Учора ён на Дошцы гонару сярод фотаздымкаў перадавікоў убачыў знаёмы твар. Унізе стаяў сціплы подпіс: экскаватаршчык Рыгор Гурэеў. У рабочых, якія ішлі насустрач, Алёшка запытаўся, дзе яму знайсці Гурэева.

— Нашага Гурэіча?.. Вядома дзе, у кар'еры ён, — дружна адказалі хлопцы.

А машына дзяўчыны-шафёра параўнялася ўжо з кабінай экскаватара. Кірпатая нешта гаворыць Гурэеву, паказваючы ў той бок, дзе стаяў Алёшка. Эскаватаршчык ківае галавой, і неўзабаве яго месца займае другі, мусіць, памочнік. А ён ідзе насустрач Алёшку.

— Здарова, хлопча! Прыехаў усё ж! Малайчына.

І Алёшка чамусьці адразу, усё як ёсць, выкладвае гэтаму добраму чалавеку.

— Не гаруй. Разумееш... — кажа Гурэеў, — па-першае, на будоўлі гарачыя дзянькі і часу няма; па-другое, шчыра кажу, таго цырульніка не палюбілі ўсе, а пра цябе проста яшчэ ніхто не ведае... А ты што гэта, ці не назад сабраўся ехаць? З чамаданам?

— Ды што вы?.. Гэта я на ўсякі выпадак інструмент узяў з сабой.

— Цудоўна!— бліснуў вачыма Гурэеў.— Зараз мы цырульню арганізуем.

Размясціліся пад старой ігрушай. Замест крэсла — бочачку з-пад саляркі, замест стала — чамаданчык. Алёшка і люстэрачка на ствале ігрушыны прымацаваў — усё чын-чынам. Затрымка была вышла з гарачай вадой, але хлопцы сцямілі: нацадзілі з радыятара машыны.

Падышлі вадзіцелі. Пасыпаліся жарты:

— Цырульня на даму...

— Скажыце, а завіцца можна?..

Падраўняўшы валасы на скронях, Алёшка густа намыліў Гурэеву шчокі. Рухі яго былі зладжаныя і хуткія. Ніколі не адчуваў ён такога ўздыму, такой лёгкасці ў працы. Хлопцы прыціхлі, пазіраючы на Алёшкаву ўвішнасць.

Алёшка таксама стараўся не падкачаць, можа ўпершыню переажываючы вялікую, сапраўдную радасць.

*Пераклад з рускай мовы.*





**Мікола НАГНІБЕДА**

# УКРАІНЕ


оняў тваіх прасторы,
Светлы Кастрычніцкі пуць
І вішнёвыя зоры
Ў сэрцах нашых жывуць,
Ў сэрцах нашых жывуць!

Вёснаў зялёных прасторы,
Ветразі яблынь на іх,
Родных Карпатаў горы,
Хвалі мораў тваіх
І залатой пшаніцы,
Што ў небакрай цякуць,
Сонечныя крыніцы
Ў сэрцах нашых жывуць,
Ў сэрцах нашых жывуць!

Песня твая і мова,
Канеўскіх круч салаўі,
Светлая сінь дняпрова
І на Палессі гаі;
Вечны твой і нязменны
Дружбы з народамі пуць,
Думы і сцяг твой свяшчэнны
Ў сэрцах нашых жывуць,
Ў сэрцах нашых жывуць!

Шчасця твайго часіна,
Ратных справаў размах,
Праца твая няспынная,
Што падняла ў палях
Домнаў гарачых чашы,
Капры, дзе зоркі цвітуць,
І памяць герояў нашых, —
Ў сэрцах нашых жывуць,
Ў сэрцах нашых жывуць!

Гоняў тваіх прасторы,
Светлы Кастрычніцкі пуць
І вішнёвыя зоры
Ў сэрцах нашых жывуць,
Ў сэрцах нашых жывуць!

## ПРЫСНІЛАСЯ МНЕ ДАЛЁКАЕ



Сягоння Карпаты прысніліся мне...
Палалі салдацкія вогнішчы ў сне,
З гуральскіх хацін павыходзілі людзі,
Галовы, як роднаму, клалі на грудзі
І ў душу рыдалі маю.
А я малады шчэ — у першым паходзе,
Смяюся і плачу:
— Ды годзе вам, годзе!
Дзяцей іх няўмела бяру я на рукі,
І ўсім абяцаю і шчасця й навукі,
Навекі масты на Збручы.
А потым здымаю салдацкі свой ранец,
Дзялю на кавалкі духмяны акраец
І лусты кладу у мазольныя рукі.
Ды бачу застылі дзяды і унукі,
Знялі свае шапкі яны.
А я, малады, запрашаў:
— На здароўе!
Каштуйце духмяны наш хлеб
Прыдняпроўя!
Не елі яны яго, білі паклоны.
Ад слёз іх шчаслівых мой хлеб стаў салёны.
Яны цалавалі яго.
А я, малады, разгубіўся, не знаю,
Што трэба рабіць мне, і ўсё запрашаю...
Яны туляць лусты да сэрца старанна,
Нібы то не хлеб, а трыпутнік на раны
Паклалі на сэрца яны...
Вось так мне Карпаты прысніліся зноў,
Юнацтва маё, вызваленне братоў,
Навука не хітрая гэтага хлеба:
Дабро у жыцці дараваць людзям трэба,
І ў гэтым — багацце тваё...



* * *

Сябры няздрадныя юнацтва —
Мае юнацкія гады,
Хоць прамінулі вы за працай,
У вечных клопатах заўжды, —
Затое ў гэтыя хвіліны
Ў душу зноў свеціце вы мне
Агнямі домнаў Украіны,
Сузор'ем ў роднай старане.
Мы ў стэпах домны будавалі,
І верылася юнакам,
Калі каханым абяцалі
Аддаць усё ў спадчыну сынам.
Таму і зараз вашу сілу,
Юнацтва дні, ў душы нясу,
Нясу я з песняй быстракрылай
Упартасць вашу і красу.

Ды й буду несці крок за крокам,
І горды тым, і дужы я,
Што ў Енісейскі край шырокі
Прыйшла ўжо маладосць мая.
Што у імя свяшчэннай мэты,
Як мы ў гады сваёй вясны,
Бацькоў здзяйсняюць запаветы
Ўжо нашы дочкі і сыны.

**Пераклад з украінскай мовы**
**М. АЎРАМЧЫКА.**



# ВІТАЛІЮ ВОЛЬСКАМУ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГОД

*Віталій Фрыдрыхавіч Вольскі нарадзіўся на зары нашага стагоддзя. Ён прайшоў вялікую школу жыцця і пакінуў свой след у многіх галінах беларускай літаратуры, мастацтва і літаратуразнаўчай навукі. На пачатку творчага шляху ён спрабуе свае сілы ў галіне фалькларыстыкі і лінгвістыкі: яму належыць некалькі цікавых работ па гісторыі роднай мовы.*

*Пазней Віталій Вольскі звяртаецца да літаратуразнаўства і літаратурнай крытыкі, піша шэраг артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры і кнігу пра творчасць Эдуарда Самуйлёнка.*

*Шырокія колы аматараў тэатра не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі ведаюць Віталія Вольскага як драматурга, аўтара вясёлых камедый. Яго п'еса «Несцерка» заваявала пачэснае месца не толькі на падмостках беларускага тэатра. Дасціпнасці простага селяніна Несцеркі горача апладыравалі жыхары Масквы і Варшавы, дзе з поспехам ставілася беларуская камедыя.*

*Акрамя «Несцеркі», Віталію Вольскаму належаць яшчэ дзве п'есы, напісаныя па матывах вуснай народнай творчасці: «Цудоўная дудка» і «Дзед і жораў». Першая з іх, як і «Несцерка», ставілася на сцэнах многіх тэатраў.*

*Найбольш поўна талент Віталія Вольскага праявіўся ў яго краязнаўчых творах, такіх, як «У лясах над Бярозай», «Месяц за месяцам», «На бабровых азёрах», «Чайкі над Нараччу», «Родны край». Шырокія навуковыя веды, любоў да прыроды і глыбокае яе разуменне робяць гэтыя кнігі цікавымі для чытачоў самага шырокага кола.*

*Але як бы ні любіў пісьменнік багаты зялёны свет прыроды, ён не ўяўляе сабе гэты свет без разумнай творчай дзейнасці чалавека. Вось чаму ў яго творах аб прыродзе мы знаходзім цікавыя вобразы людзей, ахоўнікаў і даследчыкаў нашых зялёных багаццяў — паэтаў па натуры і нястомных працаўнікоў...*

*Шэсцьдзесят гадоў — зеніт чалавечай сталасці. Да гэтай жыццёвай вышыні чалавек прыходзіць з багатым вопытам, з вялікімі духоўнымі скарбамі і з неадольным жаданнем падзяліцца гэтымі скарбамі з людзьмі. У Віталія Вольскага — таксама нямала творчых планаў і задум. Пажадаем жа яму, каб усе яго планы і задумы здзейсніліся.*



## *Дарогамі сямігодкі*

**Камунізм — гэта бяскласавы грамадскі лад з адзінай агульнанароднай уласнасцю на сродкі вытворчасці, поўнай сацыяльнай роўнасцю ўсіх членаў грамадства, дзе разам з усебаковым развіццём людзей вырастуць і прадукцыйныя сілы на аснове пастаянна растучай навукі і тэхнікі, усе крыніцы грамадскага багацця пальюцца поўным патокам і ажыццёвіцца вялікі прынцып «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па патрэбнасцях». Камунізм — гэта высокаарганізаванае грамадства свабодных і свядомых працаўнікоў, у якім усталюецца грамадскае самакіраванне, праца на карысць грамадства стане для ўсіх першай жыццёвай патрэбнасцю, усвядомленай неабходнасцю, здольнасці кожнага будуць прымяняцца з найбольшай карысцю для народа.**

З праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

* *

**Пятро ШАЎЦОЎ**

# ЗНОЙДЗЕНАЕ ШЧАСЦЕ

**Нарыс**

Здаецца, нічога асаблівага Зіна яшчэ не зрабіла. І яе жыццё нічым не адрозніваецца ад жыццёвага шляху яе аднагодкаў. Як і іншыя, Зіна вучылася ў школе, атрымала сярэднюю адукацыю. Перад ёю толькі што адкрыўся шлях у жыццё. Аднак іменна ў гэты момант шляхі многіх маладых людзей разыходзяцца. Перад кожным учорашнім школьнікам жыццё ставіць канкрэтнае пытанне: што ты далей думаеш рабіць? І, вядома, нялёгка адразу назаўсёды выбраць сабе правільна дарогу.

Зіна Гарохава не адразу знайшла сваё прызванне. У дзяцінстве яна марыла быць настаўніцай, крыху пазней — актрысай. Хто ведае, кім бы яна стала, каб не аднавяскоўка Аўдоцця Мацвееўна Аўчыннікава. З яе дачкой Галяй Зіна пасябравала. Разам вучыліся, дзяліліся марамі-думкамі. Слухаючы іх размовы, Аўдоцця Мацвееўна ўлавіла галоўнае: дзяўчаты мараць аб прыгажосці ў жыцці, аб сапраўдным шчасці. Неяк цётка Дуся ўставіла свае слова.

— Э, дзяўчаткі мае, — загава-

рыла яна, — у ластавак толькі шчасце ў паднябессі, а ў людзей яно — на зямлі. І не дзесьці за морам-акіянам, а ў родным кутку, у сваім калгасе. Трэба палюбіць працу, ды так, каб усю душу ёй аддаць, — вось вам і шчасце, і радасць. Вось я, скажам, свінаркай працую. Канешне, не лёгкі гэта хлеб, але я задаволена!

І сапраўды, цётка Дуся заўсёды вясёлая, дужая. Дзяўчаты бачылі, што на рабоце ў яе ўсё ладзіцца, людзі пра яе толькі добрае гавораць, любяць і паважаюць за яе залатыя рукі. Вось яно — шчасце, не з кніг вычытанае, а сапраўднае...

Зіна ўсё больш цікавілася, як працуе цётка Дуся. Ахвотна працавала на свінарніку, калі класам хадзілі на вытворчую практыку.

І вось на руках — атэстат сталасці. Тры сяброўкі, як было damоўлена загадзя, напісалі заяву старшыні калгаса. Яны пажадалі быць жывёлаводамі.

Старшыня задаволена прыняў новае папаўненне. А каб надаць захадам сяброўак больш урачыстасці, ён накіраваў іх заявы ў райком камсамола. Адтуль дзяўчатам прыйшлі камсамольскія пуцёўкі.

Давер'е! Колькі сілы надае яно! Хіба можа чалавек быць раўнадушны, калі яму давяраюць? Не, вядома! Давер'е акрыліла дзяўчат. Ад іх чакалі вялікіх спраў, і яны імкнуліся да гэтага.

* * *

Свінарнік у той час быў дрэнны, без падлогі. Праз дзіркі і шчыліны ў сценах дзьмуў вецер, замест акон — прарэзаныя квадрацікі ў бярвеннях... Як пачынаўся дождж ці снег, гэтыя «вокны» забівалі пакуллем ці саломай. Не было добрай кармакухні. Свінаркам не давалі спецвопраткі. Але Зіна і яе сяброўкі не скардзіліся на цяжкасці, бо ведалі, куды ішлі.

Неяк старая жанчына — свінарка Анастасія Ільінічна здзівілася:

— За якую ж гэта правінку, дзяўчаткі, вас сюды ўпяклі? Няўжо экзамены правалілі?

— Не, цётка Настасся, — адказала за ўсіх Зіна, — школу мы скончылі паспяхова і захацелі працаваць на ферме. Самі пажадалі.

— Самі? — жанчына з цікавасцю паглядзела на дзяўчат, цёпла ўсміхнулася. — Што ж, добра. Вы — вучоныя, баявыя. Толькі, мне здаецца, не ваша гэта работа.

— Чаму? — здзівілася Зіна. — Мы ведалі, што будзе не лёгка.

— Гэта зразумела. Я пра іншае. Бачыце, якая ў нас будыніна. Змянілася ўжо колькі старшынь, а нам карысці мала. Пяклуемся во ў гразі, ніяк не возьмуцца за новы свінарнік. Вось я вам і раю, маладым, ідзіце і патрабуйце, каб новы будавалі!

— Як, адразу? Мы ж толькі прыйшлі на ферму, — заўважыла самая ціхманая з сяброўак Лена. — Неяк няёмка адразу...

— Канешне, адразу, — адрэзала жанчына, а потым схамянулася. — А можна і счакаць, прыглядзецца...

... Неяк дзяўчаты адважыліся пайсці ў кантору, дзе сабраліся члены праўлення. Гаворка была пра закупку новай тэхнікі, пра падбор механізатараў. На дзяўчат ніхто не звяртаў увагі. Яны прыселі ў куточку і чакалі, каб улучыць момант і выказаць, што набалела. Але вось праўленцы пачалі ўжо ўставаць з месц.

— Глядзі, Зіна, расходзяцца! — захвалявалася Лена. — Давай, ідзі!..

Зіна паглядзела на Лілю. Тая прагаварыла:

— Ідзі, скажы!..

Зіна нясмела падышла да стала. Спынілася. Але ўбачыўшы, што той-сёй ужо ўзяўся за шапку, крыкнула:

— Пачакайце, таварышы! Мы хочам, каб вы абмеркавалі яшчэ адно пытанне.

— Ого! — здзівіўся строгі бухгалтар. — Адкуль вы такія спрытныя?..

— Хвілінку, таварышы, пачакайце, — звярнуўся да праўленцаў старшыня Іван Пятровіч. — Паслухаем, што скажа наша моладзь. Ну што ж, мы вас слухаем, дзяўчаты!..

Усе скіравалі позіркі на Зіну. А яна ціхенька пачала адыходзіць да дзвярэй, дзе сядзелі сяброўкі.

— Скажы, Зіна. Пра ўсё, як ёсць, скажы, — пачулася з кутка.

— Свінарнік будаваць трэба, — зачырванелася Зіна. — Што ж яшчэ? — Спыніўшыся, яна перадыхнула і горача прадаўжала: — Мы вось пасля школы прыйшлі на ферму. Самі згадзіліся, а нам не вераць. За што, пытаюць, вас загналі сюды? Некаторыя пагалоску пусцілі, што мы скора збяжым адсюль. Вы ж ведаеце, сцены падгнілі, гразь па калена. Пяклуемся, а якая карысць — дарэмныя страты...

— Якія яшчэ там страты? — выпучыўся бухгалтар.

— А хіба не ведаеце, — пасмялела Зіна. — Свінаматкі даюць толькі адзін апарос. Зімой парасяты мерзнуць. Вось і страты. А колькі ў нас свіней хварэе, гіне!

— Гаварыце, гаварыце, дзяўчаткі, — па-бацькоўску падбадзёрыў камсамолак старшыня і, прысеўшы бліжэй, пачаў тлумачыць, чаму так здарылася.

— Дагэтуль мы націскалі на ўраджайнасць, — гаварыў старшыня, — кароў хацелі болей прыдбаць. Цяпер возьмемся і за свінарнік. Быў у раёне, прасіў лесу. Абяцалі даць. Так што хутка будзем мець добры свінарнік...

Зіне стала неяк няёмка, і яна, засаромеўшыся, ціха прамовіла:

— Вы ўжо прабачце, Іван Пят-



Зіна Гарохава.



Анастасія Ільінічна Бязручанка, Зіна Гарохава і Тацяна Самусенка.

ровіч, мы не ведалі, што вы турбуецеся і пра свінарнік...

— Нічога, дзяўчаткі, правільна, так і трэба, малайчыны!..

* * *

Пасля таго праўлення Зіна адчула, нібы крылы ў яе выраслі: яе турбавала ўсё, і яна ўсё неяк больш прымала да сэрца.

Справаздачны сход Зіне не падабаўся: нешта вельмі ўжо хваляць старшыню. Праўда, ён многае паспеў зрабіць, як прыйшоў у калгас, але ж і крытыкаваць яго ёсць за што. А крытыкі пакуль што не чутно. І старшыня, напэўна, задаволены, сядзіць у прэзідыуме



**Свінарка Тацяна Самусенка — таленавітая ўдзельніца драматычнага самадзейнага калектыву. На гэтым здымку яна ў вобразе беларучкі Лолы з п'есы А. Юхнова «Першая роля».**

і час ад часу пагладжвае свае заліхвацкія вусы.

Калі чарговы прамоўца сышоў з трыбуны, Зіна папрасіла слова. Здавалася, яна была спакойная, толькі злёгку пачырванелыя шчокі выдавалі яе хваляванне.

— Ну, зараз укіне! — пачулася з задніх радоў.

Дзяўчына падышла да стала, акінула позіркам залу, а потым, павярнуўшыся да прэзідыума, спыніла позірк на старшыні.

— Вось тут хваляць вас, Іван Пятровіч, — пачуўся Зінін пявучы голас, — і я ў асноўным згодна з гэтым, але хваліць вас не буду. У нас ёсць яшчэ шмат і такога, за што крытыкаваць трэба...

— Давай, Зіна Фёдараўна, — адазваўся старшыня. — Я не з тых, хто баіцца крытыкі!..

У зале пачуўся гаманок. Людзям спадабаліся словы старшыні. Усе яны ведаюць, што Іван Пятровіч Ткачэнка некалькі год назад прыехаў з горада ў адстаючы калгас. Не мала папрацаваў ён, каб вывесці гаспадарку з адставання. Ведаюць, што іх старшыня не балбатун, не выскачка. Прыехаў у вёску са шчырым жаданнем дапамагчы людзям. Сям'ю з горада перавёз. І гэта паважаюць людзі. А недахопы? Яны бываюць у кожнай справе. Вось Зіна і гаворыць аб гэтым.

— Я разумею, — супакоіўшыся, разважліва гаворыць дзяўчына, — нашы недахопы будуць выпраўлены. Ведаю таксама, што вы, Іван Пятровіч, цярпліва ставіцеся да крытыкі. Але гэтага мала. Усе вы ведаеце, што ў пачатку года мы атрымалі новы свінарнік. Будынак добры, аднак і ў ім не ўсё прадумана. Няма падвеснай дарогі. Не зрабілі пакойчык для чырвонага кутка. Між іншым, калі будавалі, усё гэта нам абяцалі.

— Дробязі ўсё гэта! — крыкнуў нехта ў зале.

— Дробязі, кажаце, — працягвала Зіна. — Можа і дробязі. А нам і адпачыць недзе. Калі вольная хвіліна выдасца, дык і прысесці няма дзе, не тое каб газету ці кніжку якую пачытаць. Увечары яшчэ горш — у нас нават звычайнага ліхтарыка няма...

— Мы дамагаемся, каб нам





**Сустрэчы ў раённым цэнтры.** Злева направа **дэпутаты Крычаўскага райсавета: супрацоўніца камбіната бытавога абслугоўвання Я. Савелава, свінарка З. Гарохава, першы сакратар РК КПБ В. І. Пацюк, заатэхнік калгаса «Прагрэс» Я. Пракоф'ева і старшыня калгаса «Запаветы Леніна» І. П. Ткачэнка.**

Фота аўтара.

электрычнасць у вёску падключылі, — заўважыў адзін з членаў праўлення.

— Гэта добра, што дабіваецеся, але пакуль што дайце нам хоць адзін ліхтар!..

Пры гэтых словах старшыня павярнуўся да загадчыка фермы Сапікава і штосьці ціха спытаў у яго, а потым сказаў:

— Я разбяруся, хто вінаваты, што вам не выдалі ліхтары, і заўтра вы іх атрымаеце.

— Добра, Іван Пятровіч, дзякуй. Толькі заадно пацікаўцеся, чаму не зрабілі нам хоць тачкі. Мы ж робім усё рукамі, рыдлёўкай. Ды і вам, Іван Пятровіч, не шкодзіла б часцей заглядваць на ферму!..

Старшыня пачырванеў, нахмурыўся. Ведама, каму прыемна слухаць такое?

— Не даруе ён гэткае, — пачула Зіна прыглушаны голас жанчыны, калі прабіралася на сваё месца ў перапоўненай зале.

Зіне хацелася сказаць штосьці рэзкае на гэтыя шэпты, але стрымалася, падумала: «Няхай самі пераканаюцца, што Ткачэнка не такі чалавек, каб помсціць за крытыку».

Многае з таго, што патрабавалі Зіна і яе сяброўкі, было зроблена. Старшыня не пакрыўдзіўся. Наадварот, ён пачаў яшчэ больш падтрымліваць камсамольцаў.

Неяк у тым жа клубе калгаснікі сабраліся, каб дамовіцца, каго вылучыць кандыдатам у дэпутаты Крычаўскага раённага Савета. Слова ўзяў Іван Пятровіч Ткачэнка.

— Я прапаную, — сказаў ён, — паслаць у раённы Савет нашага камсамольскага важака, свінарку Зіну Фёдараўну Гарохаву. Яна заваявала такое давер'е сваёй старannай працай на самым адказным участку...

Усе дружна падтрымалі прапанову старшыні.

Зіна часта задумваецца над сваім лёсам. Ці добра ёй? Вядома, добра. Але дасягнута яшчэ мала. Яе самастойнае працоўнае жыццё толькі пачынаецца. Наперадзе — шмат цікавага, нязведанага.

У Зіны ёсць свая мара.

— Каб стаць добрым заатэхнікам, — гаворыць яна, — трэба спачатку папрацаваць на ферме, на практыцы навучыцца гадаваць жывёлу. А потым і ў тэхнікум.

**Калгас «Запаветы Леніна» Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці.**



## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**„У выніку другога дзесяцігоддзя кожная сям'я, уключаючы сем'і маладажонаў, будзе мець добраўпарадкаваную кватэру, адпаведную патрабаванням гігіены і культурнага быту", — гаворыцца ў праекце Праграмы роднай партыі. З радасцю прачытаў гэтыя словы мантажнік трэцяга ўчастка Мінскага домабудаўнічага камбіната № 1 Уладзімір Сабалеўскі.**

**Брыгада, якую ён узначальвае, датэрмінова здала васьмідзесяцікватэрны буйнапанельны дом у пасёлку шарыкападшыпнікавага завода, а ў падарунак XXII з'езду КПСС вырашыла зманціраваць да канца года трынаццаць дамоў.**

**Слова будаўнікоў — цвёрдае.**

Фота С. АНАНКІ.





Эма Любанская — фрэзероўшчыца.

# ДЗЕНЬ РАДЫЁЗАВОДЦАЎ

**Рэпартаж**

Перад заводскай прахадной — людскі паток. Вітаючыся адзін з другім, перакідваючыся словам-жартам, людзі спяшаюцца ў цэхі. Новы працоўны дзень пачаўся. Загулі станкі, цяжка завухкалі прэсы, загучалі кароткія сігналы кантрольных прыбораў. Запрацавалі лініі канвеераў. На экранах шматлікіх тэлевізараў заструменілася блакітнае святло. Зайграла музыка...

У суладны гул машын урываюцца звонкія маладыя галасы.

Вось працуе фрэзероўшчыца Эма Любанская. Яна ўзяла абавязацельства да дня адкрыцця XXII з'езда роднай Камуністычнай партыі выканаць свой дзесяцімесячны план. Эма стараецца не шкадуючы сіл. У яе кожная змена праходзіць з перавыкананнем нормы. Яна сярод тых, хто першыя пракладваюць дарогу ў будучыню.

Шэсць год таму назад Эма прыйшла на завод. Ёй тады было семнаццаць. Пачалося ўпартае змаганне за авалоданне новай справай, сакрэтамі майстэрства. Стаўшы прэсоўшчыцай, Эма не спынілася на дасягнутым і асвоіла фрэзераванне. Ёй спадабалася працаваць на аўтаматах, дзе машыны самі, без удзелу чалавека вырабляюць самыя складаныя і дакладныя дэталі. І неўзабаве яна стала ля гэтага агрэгата.

У механічным цэху, які ўжо ўдастоіўся высокага звання калектыву камуністычнай працы, Эму ведаюць як добрага спецыяліста.

Здавалася б, што больш трэба. Але для Эмы гэтага мала. Яна вучыцца. Дзяўчына ўпадабала самую сумную, як лічаць некаторыя, навуку—матэматыку. Эма справядліва лічыць, што вучоба на матэматычным факультэце універсітэта



**Арыгінальны радыёпрыёмнік «Мінск-62» — справа рук канструктараў Кіма Лакшына, Уладзіміра Ганчарова і Ігара Бажко.**

дапамагае ёй хутчэй стаць яшчэ больш высокакваліфікаваным майстрам сваёй справы.

Зладжаны працоўны рытм на ўсіх участках. Брыгада настройшчыкаў, якой кіруе Леанід Саладухін, спаборнічае з брыгадай Генадзя Мігая за лепшыя паказчыкі ў працы і за выхаванне сапраўдных майстроў настройкі. Яшчэ раней хлопцы выступілі ініцыятарамі авалодання сумежнымі аперацыямі на настройцы. Цяпер і Сяргей Аніська, і Люда Пятровіч, і Саша Малашэнка, і Яўхім Гейман, і Уладзімір Максімаў асвоілі ўсе аперацыі на канвееры. Іх пачын шырока падхоплены ў тэлевізарным цэху. З кожным днём расце лік рабочых, якія авалодваюць сумежнымі аперацыямі і спецыяльнасцямі.

У зборачным цэху гэта быў незвычайны дзень. З канвеера сышла новая радыёла «Мінск-61». Гэты апарат на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР атрымаў вялікі срэбраны медаль. Пошукі канструктараў і праца рабочых далі багаты плён — створана недарагая і надзейная ў рабоце радыёла. Знешне прыгожая і з прыемным гучаннем, яна спадабалася пакупнікам.

Пакуль у цэхах ідзе напружаная барацьба за тэмпы і якасць, у лабараторыях завода і аддзелах галоўнага канструктара рыхтуюцца новыя мадэлі. Канструктары Кім Лакшын, Уладзімір Ганчароў і Ігар Бажко стварылі арыгінальны бязлямпавы радыёпрыёмнік «Мінск-62». Прыёмнік працуе ў дыяпазонах доўгіх, сярэдніх і ультракароткіх хваляў, працуе без адзінай лямпы, на паўправадніках. Гэта знізіла вагу і памеры прыёмніка. Ён спажывае вельмі мала энергіі. Пры адсутнасці электрычнай сеткі прыёмнік пераключаецца на батарэі кішэннага ліхтарыка. Такі прыёмнік — добры спадарожнік у геалагічных экспедыцыях, на палявых станах...

Бязлямпавыя, транзістарныя прыёмнікі — перамога маладых канструктараў. Яны распрацавалі тры новыя мадэлі. Сярод гэтых мадэлей — радыёпрыёмнік «Мір», які лёгка змяшчаецца ў кішэні. Думаючы, працуючы творча, хлопцы ўсё больш раскрываюць таямніцы паўправадніковай тэхнікі — гэтай недалёкай будучыні радыёвытворчасці.

Шмат цікавага і ў лабараторыях, занятых распрацоўкай новых тыпаў тэлевізараў. Поўным ходам вядуцца работы па заканчэнню тэлекамбайна «Беларусь-110». Яго стварылі лепшы настройшчык тэлевізараў Леанід Копшык разам з канструктарамі лабараторыі Шпільманам, Якушавым і іншымі. Мадэль «Беларусь-110» пры зацвярджэнні ў Маскве атрымала першую прэмію.

Радыёпрыёмнікі і тэлевізары Мінскага радыёзавода шырока вядомы за межамі краіны. У Пекіне і Дэлі, у Лейпцыгу і Каіры, Афінах і на Мадагаскары, Адыс-Абебе і Нью-Йорку, у Японіі, Аўстраліі і на Цэйлоне, — усюды, дзе адбываліся міжнародныя выстаўкі, прыёмнікі і тэлевізары з маркаю «Беларусь», «Мінск» карысталіся заўсёды поспехам. Гэта радуе і натхняе кожнага радыёзаводца.

Рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі Мінскага радыёзавода актыўна ўдзельнічаюць у спаборніцтве за камуністычную працу, працу высокай свядомасці і арганізаванасці. Яны няспынна вучацца. Вучацца за станкамі і пультамі прыбораў, у школах рабочай моладзі і тэхнікумах, у вышэйшых навучальных установах. На заводзе ёсць універсітэт марксізма-ленінізма і цэхавыя школы камуністычнай працы. Каля паўтысячы рабочых, майстроў, тэхнолагаў і канструктараў без адрыву ад вытворчасці павышаюць свае веды. Дваццаць пяць чалавек гэтым летам паспяхова абаранілі дыпломы інжынераў, пятнаццаць рабочых атрымалі дыпломы тэхнікаў. Сярод іх настройшчыкі Ірына Сярпінская і Марыя Драб, Нэла Трахтэнберг, Пётр Гапановіч, наватары-вынаходнікі Віктар Жагіра, Дзмітры Антонаў, тэхнолагі Леў Плоткін, Уладзімір Нісневіч, Леанід Дубовік, электрык Георгі Ляонаў, майстар Анатоль Былінскі, слесар Леў Ідальчык і многія іншыя.

Жыццё паказвае, што завочнае і вячэрняе навучанне без адрыву ад вытворчасці — правільны шлях для тых, хто хоча стаць спецыялістам высокай кваліфікацыі. У нас на заводзе больш палавіны інжынераў і тэхнікаў атрымалі тэхнічную адукацыю без адрыву ад вытворчасці. Для прыкладу мы можам назваць сакратара парткома Леаніда Захарэнку, які некалькі год таму назад атрымаў дыплом інжынера-электрыка, начальнікаў цэхаў Паўла Лаўрыновіча, Васіля Асавіцкага, Уладзіміра Бязносава, Сяргея Замойскага і многіх іншых.

Завод з'яўляецца добрай школай працы для моладзі. Ужо другі год, як у нас створаны вучнёўскія ўчасткі. На заводзе праходзяць вытворчую практыку вучні 6-й і 50-й школ горада.

На ўчастку мантажу, дзе брыгадзірам Марыя Жук, працуюць школьніцы.

— Кожную з іх, — гаворыць Марыя, — можна ставіць на любы ўчастак мантажу. Дзесяцікласніцы — надзейная наша змена. Вось, прыклад. Школьніца Ніна Цырулёва летась атрымала першы разрад мантажніцы. Калі яна прыйшла ў тэлевізарны цэх, ёй не прыйшлося хадзіць вучаніцай. Мантажніцы ахвотна прынялі дзяўчыну ў сваю сям'ю. Цяпер Ніна — адна з лепшых мантажніц.

Добра асвоілі мантаж вучаніцы Валя Брылеўская, Ларыса Папова і Галіна Новікава, якія праходзілі вытворчую практыку на заводзе. Многія з юнакоў-дзе-



**Брыгадзір Леанід Саладухін настройвае тэлекамбайн «Беларусь-5».**



**Над новай мадэллю тэлевізара-камбайна «Беларусь-110» працуюць тэхнік Леанід Копшык, слесар Аляксандр Пяшко і мантажніца Кацaverage Букатая.**

сяцікласнікаў набылі спецыяльнасць токара.

... Закончана змена. Разыходзяцца рабочыя. Адны спяшаюцца ў бібліятэку, другія ў інстытут, трэція на рэпетыцыю ў клуб, а некаторыя паглядзець новы спектакль. На баскетбольнай пляцоўцы сабраліся заводскія спартсмены і шматлікія балельшчыкі. У радыёзаводцаў госці з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі—зборная маладзёжная каманда, таму і настрой прыўзняты. Як жа згуляюць заводскія баскетбалісты, якія прыйшлі на пляцоўку ад станкоў і канвеераў, з клубнай камандай, што была неаднаразовым чэмпіёнам?

Першымі выйшлі на пляцоўку жаночыя каманды. Спрытныя, загарэлыя дзяўчаты хутка перахапілі ініцыятыву ў гасцей. Душа заводскай каманды дзевятнаццацігадовая намотчыца Таня Сямёнава ўмела вядзе каманду ў атаку. Хоць і не лёгкай была гэтая перамога, але колькі радасці было дзяўчатам, калі яны выйшлі пераможцамі ў гэтай міжнароднай таварыскай сустрэчы. Мужчынская каманда завода таксама іграла, як кажуць, на ўзроўні. І выйграла.

У працы і вучобе, у цікавым адпачынку расце і мужнее малады заводскі калектыў. Радыёзаводцы з вялікім уздымам нясуць працоўную вахту ў гонар XXII з'езда нашай роднай партыі.



На ўчастку мантажу брыгадзір Марыя Жук вучыць дзесяцікласніцу Галіну Новікаву паяць вузлы.

**Пятро РАЗУМОВІЧ,**
**тэхнолаг Мінскага радыёзавода.**

Фота Г. Навумава.

# *Гары, камсамольскі агеньчык!*

**Узрасце роля КАМУНІСТЫЧНАГА САЮЗА МОЛАДЗІ, як самадзейнай грамадскай арганізацыі моладзі, якая дапамагае партыі выхоўваць моладзь у духу камунізма, уцягваць яе ў практычнае будаўніцтва новага грамадства, рыхтаваць пакаленне ўсебакова развітых людзей, якія будуць жыць, працаваць і кіраваць грамадскімі справамі пры камунізме. Партыя разглядае моладзь як стваральную, творчую сілу ў барацьбе савецкага народа за камунізм.**

**Камсамол заклікан у яшчэ большай ступені праяўляць ініцыятыву і пачын ва ўсіх галінах жыцця, развіваць актыўнасць і працоўны гераізм моладзі. Цэнтральнае месца ў рабоце камсамольскіх арганізацый павінна займаць выхаванне ў моладзі беззаветнай адданасці Радзіме, народу, Камуністычнай партыі і справе камунізма, пастаяннай гатоўнасці да працы на карысць грамадства і да пераадолення любых цяжкасцей, павышэнне ўзроўню агульнай адукацыі і тэхнічных ведаў юнакоў і дзяўчат. Свяшчэнны абавязак камсамола — рыхтаваць моладзь да абароны сацыялістычнай Радзімы, выхоўваць самаадданых патрыётаў, здольных даць рашучы адпор нападу любога ворага. Камсамол выхоўвае моладзь у духу строгага захавання прынцыпаў і норм камуністычнай маралі. Сваім уздзеяннем у школе і ў піянерскай арганізацыі камсамол заклікан актыўна ўдзельнічаць у фарміраванні жыццярадаснага, працавітага, фізічна і маральна здаровага пакалення.**

З праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

* *

# ПУЛЬС ГІГАНТА

Куды ні кінеш вокам, усюды — буйная зеляніна густога сасновага лесу. А між верхавін сосен узнімаюцца стрэлы вежавых кранаў, рыштаванні, магутныя металаканструкцыі. Задуменны шум лесу заглушаюць «МАЗы», якія, нібы вялікія чорныя жукі, сярдзіта гудуць на дарогах, цягнуць цяжкую паклажу — цэмент, бэлькі, жалеза, трубы.

У арматурным цэху завода жалезабетонных вырабаў на сцяне вісіць вялікае чырвонае палотнішча. На ім словы: «Адзін дзень у месяцы працуем на сэканомленым метале». Невялікая шыльдачка, прыбітая побач, абвяшчае, што тут працуе брыгада Анатоля Пяруцкага, якая змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы.

Неяк камсамольцы вырашылі арганізаваць нядзельнік, каб ачысціць тэрыторыю будоўлі.

Анатоль Пяруцкі сядзеў моўчкі і прагна зацягваўся папяросай. Вакол — хлопцы з яго брыгады.

— Чаго, Толік, спахмурнеў? Не падабаецца працаваць у выхадны дзень, ці што?

Пяруцкі, не адказваючы, паківаў галавой, а потым шчоўкнуў пальцам па таўшчэзнаму сталёваму пруту, які трымаў у руцэ:

— Вось якія рэчы ў металалом выкідваем.

Хлопцы моўчкі паглядзелі на прут.

— Палавіну яго можна з поспехам выкарыстаць на бетонную бэльку, — здагадаўся хтосьці. — А вось што рабіць з другой палавінай?

— Што рабіць? — загарачыўся Анатоль.—Калі не пойдзе на бэльку, дык крук да апоры з яго выйдзе. А выкідваць у металалом высакаякасную сталь? Ведаеце, як гэта называецца?

Так, хлопцы гэта добра ведалі. З алоўкам у руках падлічылі яны свае магчымасці. Пасля зрабілі спецыяльныя скрыні, куды пачалі складваць усе адыходы. Вось тады і з'явілася чырвонае палотнішча.

У добрай справы — шырокія крылы. Прапанову брыгады Анатоля Пяруцкага абмеркавалі на сходзе. Падтрымалі. Рашылі эканоміць усё: і электраэнергію, і карбід, і электроды, і кісларод, а галоўнае — метал. З хваляваннем чакалі вынікаў працы па-новаму. А выніку былі выдатныя. У першы ж месяц сэканомілі 4,2 тоны металу, 30 кубічных метраў кіслароду, 16 кілаграмаў электродаў, 36 кілаграмаў карбіду кальцыю. У другі месяц — яшчэ больш. Гэты пачын, які нарадзіўся ў перадз'ездаўскія дні, не застаўся непрыкмечаным. Яго адразу ж падхапіла брыгада Мікалая Зелянова, а потым у карысную справу ўключыліся ўсе рабочыя цэха. Жаданне падрыхтаваць з'езду партыі асабістыя падарункі аб'ядноўвае іх усіх у дружную працоўную сям'ю, таму што з асобных намаганняў кожнага нафтабудаўца складаецца рытмічны пульс сённяшняга дня полацкай новабудоўлі.



**Бетаніраванне трубы механізаваным спосабам вядуць камсамольцы Павел Калабанаў і Міхаіл Іваньковіч — члены брыгады камуністычнай працы.**

Фота А. Васечкі.

* * *

Валявы шырокі твар, разумны позірк вачэй, моцныя рабочыя рукі, характэрнае «оканне» — вось знешнія прыкметы брыгадзіра калектыву камуністычнай працы Мікалая Сямёнавіча Кускова. Хто не ведае на будоўлі гэтага прысадзістага асілка? Піянеры мясцовай сярэдняй школы называюць яго дзядзькам Колем, сябры па брыгадзе — проста Колем, а старыя, умудроныя жыццёвым і вытворчым вопытам людзі завуць яго Сямёнавічам. Кіраўнікі гаспадаркі, дзе ён працуе, абавязкова, калі пачнуць расказваць пра лепшых людзей будоўлі, з гонарам скажуць: «Наш Кускоў». Чым заслужыў Мікалай павагу ўсяго калектыву?

Калі па закліку сэрца камсамолец Кускоў тую цяжкую зіму 1959 года ўзначаліў адстаючую брыгаду, ён не думаў аб тым, што робіць нейкі выключны ўчынак. Калі потым пад праліўным даждом Мікалай укладваў разам з брыгадай бетон у фундаменты пад першыя тэхналагічныя ўстаноўкі гіганта, калі ў сціслыя тэрміны адбудоўваў разбураную дарогу, ён не называў усё гэта геройчым. І калі, нарэшце, калектыву брыгады прысвоілі ганаровае імя, хлопцы не супакоіліся на дасягнутым. Зноў была мяцеліца, зноў мёрзлі на марозе рукі, зноў выцягвалі з сумётаў самазвалы і ледзь не на руках неслі іх да аб'екта, каб укласці бетон у падмурак чарговай тэхналагічнай установкі. Зноў пасля заканчэння змены ішлі на чыгуначную ветку разгружаць вагоны.

Усё гэта было і назаўсёды застанецца ў летапісе будоўлі. За тры гады жыцця на ўдарнай камсамольскай вырас Мікалай Кускоў, выраслі і людзі з яго брыгады. Брыгадзір стаў камуністам, членам парткома — баявога штабу будоўлі. Камуністам стаў і бетоншчык Віктар Слізскі. Камсамольцы Уладзімір Акачонак і Роберт Абуховіч паспяхова скончылі чацвёрты курс вячэрняга тэхнікума і праз год да сваіх будаўнічых прафесій далучаць яшчэ і прафесію нафтаперапрацоўшчыка.

Часта марылі хлопцы аб сваёй будучыні. І галоўная мара — датэрмінова збудаваць нафтагігант. Пляцоўка тэхналагічных установак стала для іх родным домам. Хлопцы нават спрачаліся, ці будзе чырвоная стужка ў той дзень, калі ўступіць у дзеянне завод, калі яны ўпершыню пераступяць парог прахадной. Словам, ніхто не думаў аб тым, што пакіне абжытую пляцоўку. І раптам на табе, навіна!



На мантажы тэхналагічных установак працуе брыгада пад кіраўніцтвам Хасана Шахабетдзінава. Злева направа: **Рыгор Шараеў, Васіль Плакса, Хасан Шахабетдзінаў, Аркадзь Самусёнак, Яфім Захавайка.**

...Кускоў стаяў і моўчкі чакаў адказу, лавіў позіркі тых, з кім пражыў два цяжкія гады, з кім дзяліў і радасці і нягоды. Таварышы збянтэжана апусцілі вочы. Думалі. Кускоў таксама думаў.

Разумеў ён, што не так лёгка брыгадзе згадзіцца з яго прапановай перайсці на адстаючы ўчастак — палігон жалезабетонных вырабаў. Абвёў вачыма пляцоўку. Усюды каркасы трубаправодаў, магутныя рэзервуары, блокі тэхналагічных калон... Гэта толькі тое, што на відавоку. Там жа, пад зямлёй, укладзены ўжо дзесяткі кіламетраў падземных трубаправодаў. А ці даўно яны высякалі сякерамі хмызнякі, пракладалі першыя дарогі, укладвалі магутныя жалезабетонныя бэлькі, арматуру? Ох, як не хочацца пакідаць усё гэта. І усё ж Кускоў загаварыў. Рашуча, цвёрда:

— А вы, хлопцы, забылі, як брыгадзе перашкаджала несвоечасовае паступленне бетону, бэлек? Колькі гадзін мы прастойвалі?

Першы адазваўся бетоншчык Віктар Шыш:

— Ты нас, Мікалай, не агітуй. Мы, браток, самі разумеем. Але ж кідаць усё гэта хараство... — ён развёў рукамі, нібы не знаходзячы болей слоў.

Віктар Слізскі разважаў інакш:

— Хараство, хараство... Калі трэба, пойдзем на адстаючы. Тое, што заработкі будуць спачатку меншыя, не так ужо страшна. І ты правільна сказаў, Мікалай, на палігоне жалезабетонных вырабаў мы больш патрэбны. Забяспечым «зялёную вуліцу» жалезабетону — вось і будзе хараство, — закончыў ён, злёгку перадражніваючы Шыша.

На твары брыгадзіра прамільгнула ўсмешка.

— Ведаеце што, хлопцы, — усхвалявана загаварыў ён, — я быў упэўнены, што вы згодзіцеся. Так трэба ўсёй будоўлі.

А на другі ж дзень у шматтыражнай газеце быў надрукаваны заклік Кускова да ўсіх камуністаў і камсамольцаў будоўлі — у гонар XXII з'езда партыі перайсці на адстаючыя ўчасткі, каб зрабіць іх перадавымі.

Члены брыгады ўжо асвоілі на новым месцы самыя складаныя работы. Брыгада набірае разгон, і на яе раўняюцца іншыя калектывы.

* * *

Праз год першая чарга прадпрыемства ўступіць у строй. Раніцай цераз прахадную завода пойдуць рабочыя.



**Экіпаж камуністычнай працы — тры неразлучныя сябры: Анатоль Крэмень** (уверсе), **Павел Казлоўскі** (унізе) **і Валеры Старынскі.**

Сярод іх будуць і навічкі. Аднойчы ім скажуць: «Тут стаяў непраходны лес, а потым, калі яго выкарчавалі, было голае месца». Яны паверацъ, але ім будзе цяжка ўявіць, што гэтае месца было і пярэднім краем будоўлі.

Тут сёння ўзводзіцца тэхналагічная ўстаноўка АВТ. Пройдзе час і велізарныя металічныя рэзервуары запоўняцца «сырой» нафтай. Будаўнікі жартуюць, што ўжо цяпер адчуваюць яе пах.

Разгарнуць рулон вагой амаль у 45 тон — справа не лёгкая. Здавалася, гэта даручаць толькі людзям з вялікім практычным вопытам. Аж не. Складаную справу робяць хлопцы, якім ледзь пераваліла за дваццаць. Сам брыгадзір Мікалай Буцянкоў толькі нядаўна «выйшаў» з камсамольскага ўзросту, а ўсе астатнія хлопцы — зусім маладыя: і газарэзчык Уладзімір Першын, і прыхватчык Генадзь Лушкоўскі, і слесары Слава Сашко, Іван Лабанок, Алесь Пешкур.

— Цяжка было спачатку, вышыня палохала, — гаворыць Іван Лабанок. — Дзякуй Мікалаю, нашаму брыгадзіру, навучыў не баяцца вышыні.

Мікалай расказвае, як працуе яго брыгада:

— Раней рэзервуар разгортвалі за 2—3 дні. А цяпер мы разгортваем за адзін дзень.

Палова ўсіх рэзервуараў, пастаўленых ужо на пляцоўцы, справа рук нашай брыгады.

...Блакітным агнём электразваркі знітоўваюцца апошнія стыкі магутных электрадэгідратараў на абяссольваючай устаноўцы. Хутка заскрыкочуць лябёдкі, напнецца велізарная сталёвая мачта-трос, і шматтонны паліспаст пачне падымаць на пастаменты магутныя сферычныя апараты.

А побач, як на парадзе, выстраіліся цеплаабменныя агрэгаты, высока ў неба ўзнесліся магутныя рэктыфікацыйныя тэхналагічныя калоны крэкінг-устаноўкі. Усё гэта зманціравана за адзін месяц. Камсамольцы Нафтабуда абавязаліся да дня адкрыцця з'езда датэрмінова ўвесці ў эксплуатацыю будынак паветранай кампрэсарнай, закончыць мантажныя работы на электраабяссольваючай устаноўцы, пракласці вытворчую каналізацыю. Дадзенае партыі слова яны стрымаюць!

Вырас народжаны ў працоўных буднях прыгожы горад. Шматпавярховыя кварталы жылых будынкаў, абсаджаныя кустамі і дрэвамі вуліцы, добраўпарадкаваныя спартыўныя пляцоўкі... У горадзе жыве звыш пяці тысяч будаўнікоў.

Пульс будоўлі адчуваецца і тут. Ідзе барацьба за датэрміновую здачу ў эксплуатацыю чарговых дамоў. Камсамольцы абавязаліся да з'езда партыі аддаць ключы навасельцам ад усіх кватэр раёна шматпавярховай забудовы.

У бальнічным гарадку працуе брыгада, на чале якой стаіць лепшы брыгадзір будоўлі Уладзімір Мудры. Маладзёжны калектыў ужо не раз заваёўваў першынство ў сацыялістычным спаборніцтве. Хутка растуць сцены галоўнага корпуса бальніцы, а інфекцыйны корпус камсамольцы вырашылі здаць датэрмінова.

На пракладцы трасы пад каналізацыю працуе экіпаж камуністычнай працы старшага машыніста экскаватара Анатоля Крэменя. Іх трое: сам кіраўнік, машыніст Павел Казлоўскі, памочнік машыніста Валеры Старынскі. Экіпаж адзін з першых сярод вялікай арміі механізатараў будоўлі пачаў наступленне на секунды. Увесь цыкл работы экскаватара складаецца з многіх аперацый: капанне грунту, пад'ём каўша, паварот платформы на выгрузку, выгрузка, зноў паварот платформы, апусканне каўша. Вопытныя экскаватаршчыкі ведаюць, што такое для іх работы секунда. Гэта, бадай, тое ж самае, што і секунда для бегуна на кароткія дыстанцыі. Дык вось, сумяшчаючы асобныя аперацыі, Крэмень давёў працягласць цыкла да 15 секунд і норму пачаў перавыконваць больш чым у паўтара раза. Поспех экіпажа — гэта вынік дакладнага разліку, добрай трэніроўкі.





**Тэхнічнае вучылішча падрыхтавала першую групу апаратараў па пераапрацоўцы нафты. Муляр Уладзімір Вярбіцкі і рабочы Мікалай Волкаў перад экзаменам.**

Маладзёжны экіпаж абавязаўся выканаць гадавы план да дня адкрыцця з'езда. Але кіпучае і напружанае жыццё ўнесла сур'ёзную папраўку ў прынятае абавязацельства: яно было выканана 10-га ліпеня. І тады экіпаж прыняў новае абавязацельства: сёлета выканаць план чацвёртага года сямігодкі.

Калектыў экскаватаршчыкаў, нібы той маленькі карабель, які ўпарта рухаецца ўперад. І няма сумненняў, што ён дойдзе да вялікай мэты. Такіх маленькіх караблёў шмат на гіганцкай будоўлі. Уявіце сабе, што за час будаўніцтва на Нафтабудзе было перамешчана больш трох мільёнаў кубаметраў грунту. Лічба, падуладная нашаму савецкаму часу, нашым магутным тэмпам!

Працоўныя старонкі ўпісваюць у рапарт камсамола Беларусі XXII з'езду брыгады камуністычнай працы Івана Бахіра, Анатоля Гушчы, калектывы Уладзіміра Стральцова, Васіля Купчына, Генадзя Матросава, якія змагаюцца за права называцца камуністычнымі.

А пасля змены шматлюдна бывае ў будынку, дзе размяшчаецца вячэрні нафтавы тэхнікум — установа, якая рыхтуе кадры для будучага гіганта. 174 будаўнікі паспяхова трымалі ўвесну пераводныя экзамены. Цяпер яны ўжо другакурснікі. 100 нафтабудаўцаў атрымалі дыпломы аб заканчэнні тэхнічнага вучылішча і на буйнейшых нафтаперапрацоўчых заводах краіны праходзяць практыку.

Блізкі, зусім блізкі той час, калі ўступіць у дзеянне камбінат. Сённяшнія будаўнікі стануць да пультаў кіравання яго складанымі агрэгатамі. І кожны з іх з гонарам скажа:

— Мой камбінат! Мы яго збудавалі!

**Юры НОВІКАЎ.**

**Полацк, Нафтабуд.**

# ПОСТУП САЛІГОРСКА

Калі вы будзеце пад'язджаць да Салігорска вечарам, ён здалёку прывітае вас чырвоным святлом зорак, што гараць над капрамі шахт, мігценнем электрычных лямпачак над будоўлямі, яркім святлом вокнаў шматпавярховых дамоў у гарадку беларускіх шахцёраў.

Калі вы завітаеце сюды раніцай, вас сустрэнуць несціханым вуркатаннем запыленыя самазвалы, вам прывітна замахаюць гіганцкімі рукамі-стрэламі пад'ёмныя краны. У патоку машын вы з радасным здзіўленнем убачыце блакітныя аўтобусы сучаснага гарадскога транспарту. Абганяючы непаваротлівыя сямітонкі, яны спяшаюцца да калійнага камбіната, да завода жалезабетонных вырабаў.

Калі вы апынецеся ў Салігорску апоўдні, ён сустрэне вас размераным



Камсамолец-мантажнік Васіль Макейчык.

працоўным гулам, напружаным скрыгатаннем лябёдак і ціхім переразвонам кельмаў. Горад расце, горад працуе, горад будуецца.

Здаецца, яшчэ ўчора тут было голае поле, а сёння ўзвышаюцца карпусы калійнага камбіната, абагачальнай фабрыкі, солемлына, хімічных лабараторый. Днём і ноччу не заціхае праца на камбінаце. Парою прыходзіць думка, што вось вазьмі прыкладзі вуха да зямлі, і праз яе тоўшчу выразна пачуеш грукат адбойных малаткоў, глухія выбухі аманіту, мерны пошум горных камбайнаў.

Час ад часу да ствала той ці іншай шахты пад'язджаюць самазвалы і цяжка асядаюць пад грузам, калі з бодні ў кузавы сыплецца соль. Шэрая і чырванаватая, яна яшчэ некалькі гадзін таму назад была каменем, цвёрдай пародай там, у нетрах зямлі. Гэта яшчэ не прамысловая соль, гэта — сільвініт, так званыя адыходы праходкі тунеляў і штрэкаў. З кожным днём яе ўсё больш і больш выдаюць «на-гара» беларускія шахцёры-калійнікі, як падарунак калгасным палям, як перадз'ездаўскі рапарт шахцёраў сваёй роднай партыі.

... Па рознаму складваецца ў чалавека лёс. Адзін імкнецца пражыць сваё жыццё ціха, спакойна. Другі, наадварот, хоча зрабіць штосьці цудоўнае і высакароднае. Такі чалавек не баіцца ніякіх перашкод, яму пад сілу любыя цяжкасці.

Іменна такія рысы ўласцівы Анатолю Андросаву. Бацька яго — афіцэр Савецкай Арміі загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны пад Харкавам. І на Анатоля, як старэйшага, ляглі ўсе турботы і адказнасць за лёс сям'і. Прыйшлося з ранніх год, як кажуць, «стаць на ногі», ступіць на самастойны працоўны шлях. Тады ўпершыню і падумаў Анатоль аб прафесіі шахцёра. Спачатку ён вучыўся на курсах машыністаў урубавых машын, а потым ужо кіраваў гэтымі машынамі на шахтах Грузіі і Падмаскоўя.

І вось лёс прывёў юнака ў Салігорск. Даведаўся Анатоль аб гэтай будоўлі з газет. Па камсамольскай пуцёўцы прыехаў. Не адзін, а разам са сваім малодшым братам Віктарам. Віктар — таксама мае вопыт у гарняцкай справе. Цяпер Анатоль працуе брыгадзірам камсамольскага экіпажа, Віктар у гэтай жа брыгадзе скрэперыстам лябёдкі. Стаўшы на працоўную вахту ў гонар XXII з'езда КПСС, камсамольская брыгада экіпажа Андросава праходзіць за суткі да 25 метраў. Члены экіпажа рашылі да 17 кастрычніка — дня адкрыцця з'езда, прайсці звыш гадавога задання 250 метраў горных выпрацовак.

Праца кіпіць не толькі пад зямлёй. Шырыцца спаборніцтва і на будоўлях. Першынство трымае комплексная камсамольска-маладзёжная брыгада Івана Чабатара. Члены гэтай брыгады пабудавалі многа вытворчых будынкаў, яны паказваюць узоры працы астатнім будаўнікам Салігорска. Чабатароўцы спаборнічаюць з брыгадай Уладзіміра Стральцова з Полацкага нафтабуда. Палачане ўжо два разы былі гасцямі салігорцаў. Паміж будаўнікамі двух вялікіх будоўляў завязалася моцная працоўная дружба. І калі падвялі вынікі спаборніцтва, уперадзе аказалася брыгада Івана Чабатара. Таму і цяпер члены гэтага дружнага калектыву змагаюцца за тое, каб не ўступіць першынство.



Браты-шахцёры Анатоль і Віктар Андросавы.

... У пятым квартале шахцёрскага гарадка, дзе ідзе будаўніцтва шматпавярховых будынкаў, — гул машын. З самага світання і да позняга вечара магутныя МАЗы падвозяць сюды сілікатную цэглу, беласнежныя блокі. Вышынны пад'ёмны кран ледзь упраўляецца разгружаць і падаваць іх на рыштаванні.

— Гэй, хутчэй паварочвай стралу! — крычыць кранаўшчыку рухавы хлопец. Ён лёгка пераскоквае са штабеля на штабель, цягнучы за сабой крукі з канатам. Затым спрытныя рукі замацоўваюць блокі канатам. Хвіліна — і юнак падае кранаўшчыку сігнал, што груз замацаваны. Крэкнуў у адказ гудок крана, і блокі-дэталі сцяны павольна плывуць уверх. А гэтым часам юнак ужо на новым месцы рыхтуе новую партыю.

Ніхто не крыўдуе на мантажніка Васіля Макейчыка, ніхто не памятае, каб ён хоць раз спазніўся з разгрузкай блокаў або не ў час падаў цэглу на рыштаванні.

Пасля працоўнай змены, калі зямлю ахутвае вячэрні змрок, Васіль Макейчык з падручнікамі ў руках крочыць да будынка вячэрняй школы. Ён не толькі добра працуе, але і выдатна вучыцца ў дзевятым класе школы рабочай моладзі.

Працоўная біяграфія Ніны Кецка вядома ўсяму Салігорску. Ніна цяпер працуе на будаўніцтве горнага тэхнікума.

— Члены нашай брыгады, — гаворыць Ніна, — працуюць, не шкадуючы сіл і энергіі, робяць усё для таго, каб чарговы з'езд роднай партыі сустрэць працоўнымі перамогамі.

Цяпер Ніна студэнтка-завочніца Ленінградскага горнага інстытута. Адначасова яна авалодвае прафесіяй матарысткі.

Ніна актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Салігорцы аказалі ёй вялікае давер'е, выбраўшы дэпутатам Старобінскага раённага Савета. Дзяўчыну часта можна бачыць сярод рабочых, з якімі яна вырашае неадкладныя пытанні быту і працы.

У Салігорску паўтары тысячы камсамольцаў. Гэта вялікі атрад энтузіястаўініцыятараў, змагароў за новыя метады працы, змагароў з усім, што перашкаджае паспяховаму будаўніцтву калійнага камбіната.



Лепшы электразваршчык Салігорска Аляксандр Каткоў.

Вось прыклад. Не ладзіліся справы на пускавых аб'ектах будаўнічага ўпраўлення № 122. То якасць работ дрэнная, то матэрыялаў не стае. Камсамольцы не захацелі мірыцца з гэтым. На ўсіх пускавых аб'ектах былі створаны камсамольскія кантрольныя пасты. І справы пайшлі на лад. Выявіцца бракароб — яго адразу прапясочаць у «маланцы», затрымліваецца пастаўка матэрыялаў — да вінаватых ляціць адкрытае пісьмо. Калі ж на якім-небудзь з аб'ектаў з'яўляецца новы пачын — ён таксама з дапамогай камсамола становіцца здабыткам усяго калектыву.

... На камбінаце цяпер вядзецца мантаж складанага абсталявання горнаабагачальнай фабрыкі. Шахтабудаўнікі трэцяга ствала завяршылі мантаж пастаяннага капра. Такія штодзённыя працоўныя справы маладых салігорцаў. Іх думкі звернуты ў заўтрашні дзень свайго жыцця, свайго камбіната, свайго горада.

**Павел БАРОДКА.**

**г. Салігорск.**

Фота аўтара.

Іван БУРСАЎ

# ЗА ЧАЛАВЕКА ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

### З блакнота пісьменніка

Мажліва, раней гэты выпадак застаўся б незаўважаны. Але цяпер — іншая справа. Хаця, між іншым, нічога асаблівага не здарылася. Пасварыліся паміж сабой Тоня Каплун і Жэня Рамановіч. Убачыла Тоня, што ў Жэні пража лепшая, абабегла вакол машыны, накінулася на суседку:

— Калі групкамсорг, дык табе і выбіраць можна? — Тоня схапіла кошык і пацягнула да сябе. Жэня ўхапілася за другі край — не пускае.

— Мне такая дасталася!..

Слова за слова — паспрачаліся. Аня Усевіч паклікала памочніка майстра. Сабраліся дзяўчаты, пачалі сароміць сваіх сяброўак:

— А мы на вас спадзяваліся... Эх вы...

Раней жа і не гэткае было. Бывала, толькі з прадзільнага цэха пакажацца аўтацялежка з пражай — усім звяном беглі навыперадкі, кошыкі адзін у другога з рук вырывалі.

Цяпер, калі звяно пачало змагацца за права называцца калектывам камуністычнай працы, такое здараецца рэдка, а калі і здараецца, то знаходзіць гнеўнае асуджэнне.

Сюды, да восьмай машыны, на якой працуе звяно, часцей пачалі заглядваць камсорг змены Іван Кажэўнікаў, памочнік майстра Анатоль Мільто. Звычайна, камсорг гаворыць, завітаўшы да дзяўчат:

— А ў вас, здаецца, выходзіць. Абавязацельствы выконваеце...

— Так, што запісана, выконваецца.

А хіба запішаш у соцумову такое, як, скажам: а) дзесяць разоў усміхнуцца з выпадку зладжанай работы; б) узрадавацца, адчуўшы локаць сяброўкі, і г. д.

Адносіны людзей у калектыве, на жаль, не занясеш у пратакол, не падшыеш у справаздачу. Тут чалавек сам сабе суддзя. Усё залежыць ад яго прынцыповасці і свядомасці.

* * *

У развівальнай машыны работа не складаная. Перамотвае пражу з невялікіх катушак на бабіны. Заадно шчоткамі ад кастрыцы ачышчае. Нітка мякчэе, лепей кладзецца ў тканіну.



Адна з машын, «васьмёрка», стаіць ля самай сцяны, на водшыбе. Ля яе працуе восем добрых, простых дзяўчат: Рая Крышборская, Ліда Бурая, Рая Салаўёва, Ніна Філіпава, Тоня Каплун, Жэня Рамановіч, Галя Корбут і Маша Бінчук.

Маша прыйшла сюды нядаўна са школы ФЗН і стала на месца Ані Усевіч. Восем чалавек — восем біяграфій, вельмі падобных, хоць і маленькіх, асабліва, калі іх расказваюць самі дзяўчаты. «Нарадзілася тады і там, вучылася да такога вось года. Пасля пайшла працаваць. Член ВЛКСМ».

Але за кожнай біяграфіяй — сваё жыццё, свае мары і надзеі. Хоць і тут ёсць нешта агульнае — ні адна з гэтых дзяўчат не марыла ў дзяцінстве працаваць звычайнай матальшчыцай.

Гэта не папрок. Занадта многа яны наслухаліся ў маленстве аб вялікіх людзях, бясстрашных адкрывальніках і славутых авіятарах.

Мары маленства! Каго ні насілі яны па гонкіх дрэвах, па глухім гушчарніку, па аколічных ярах... І здавалася, што то былі не яры і не звычайныя прыазёрныя вярбіны, а няходжаны гушчар тайгі, таямнічыя зорныя вышыні, непрыступныя кручы шостага кантынента...

Але дзяцінства праходзіць. Не ўсе становяцца касманаўтамі і капітанамі далёкага плавання. І работа, што стрэла цябе на парозе самастойнага жыцця, часцей за ўсё не падобная на тую, аб якой мроілася ў бязвоблачныя школьныя дні. Палюбіць яе, пад звычайнай будзёншчынай разгледзець той штодзённы гераізм, які ў маленстве ўяўляўся толькі ў гучных прафесіях, — як гэта часам цяжка!

Ці не таму асобныя маладыя людзі, трапіўшы на прадпрыемства, адчуваюць сябе падзёншчыкамі. Усё радаснае і светлае здаецца ім не зусім прыемным, але абавязковым адрэзкам часу, які трэба прайсці, каб трапіць у інстытут.

Але час умее помсціць за зняВагу да сябе. Ён хавае ўсё добрае і прыгожае, што нясе з сабой, акружаючы чалавека густой пелянной будзёншчыны. Таму і здараецца, што іншы раз з самай гушчыні падзей выплывае малады чалавек, не абавязкова ў вузкіх штоніках, і, грэбліва зморшчыўшыся, кіне:

— Скюшна...

Мне здалося, што такім мяшчанскім «скюшна» злёгку павеяла ад слоў Ані Усевіч, якая сказала:

— Ну, не пайшла б я працаваць у цэнтральную лабараторыю, засталася б звеннявой. А далей? Хто зволіцца, хто замуж выйдзе — і няма звяна...

Што гэта, як не няўпэўненасць у тым, што занятае ў жыцці месца — тваё!

* * *

Аня — гаваркая субяседніца, і мне, сустрэўшыся з ёй, заставалася толькі слухаць.

— Нарадзілася я ў вёсцы Красніца пад Рагачовам, — расказвае Аня. — Вайну помню, як скрозь сон, бо была зусім маленькая. Праз год, калі скончылася вайна, пайшла ў школу. У 1956 годзе закончыла дзесяцігодку. Спрабавала паступіць у Магілёўскі фармацэўтычны тэхнікум, але недабрала балаў. Вось і прыехала ў Оршу. Тут сваякі мае, у іх спачатку і жыла. На працу пайшла. На камбінаце ўчотчыцай паставілі. Тут у тэкстыльны тэхнікум паступіла на трэці курс вячэрняга аддзялення. Цяжка даводзілася спачатку. Работа і вучоба... А тут маці цяжка захварэла, давялося некалькі разоў браць адпачынак — дадому ездзіла. Не аднойчы вучобу кідала, а потым — то сама перадумвала, то сяброўкі пераконвалі — вярталася.

Нас усяго васемнаццаць чалавек дыплом абаранялі, а паступала сорак. Астатнія адсеяліся.

Скончыла тэхнікум, а работы па спецыяльнасці няма. Пачала рабіць там, куды пашлюць. Неяк замяняла памочніка майстра, потым слесарам працавала. Між іншым, слясарнічаць мне падабалася — ходзіш, перапэцканая ў мазут, і адчуваеш сябе ўпэўнена, моцна. Праўда, іншыя падколвалі: «Глядзі, за тры гады чаму навучылася — гайкі падкручваць».

Аня змоўкла і паглядзела на мяне. Яна, напэўна, чакала адказу, але я маўчаў. Не ведаю, як зразумела яна гэтае маё маўчанне, але пачала расказваць зноў нетаропка і пераконана.

— Мінулым летам, пасля адпачынку, перакінулася словам з начальствам, зноў жа наконт работы па спецыяльнасці. Вось мяне і паставілі да развівальнай машыны. Сустрэлі мяне, шчыра кажучы, не надта прыхільна: «Вучоная!» Дзяўчаты нібы бар'ерам ад мяне адгарадзіліся. Бывала, чую: размаўляюць між сабой, смяюцца, падыду — цішыня.

Калі вучылася, дык хоць і цяжка было, але адчувала сябе лепей. Скончыла вучобу — зноў нейкая на душы пустэча. У інтэрнат прыйдзеш, — я ўжо там жыла, — рабіць нечага, на працы таксама ўсё ўжо знаёмае... Колькі разоў гаварыла: «Дзяўчаткі, давайце штонебудзь рабіць. Што мы — горшыя ад іншых?» Згаджаліся, але ўсё заставалася, як і раней.

Неяк быў у нас камсамольскі сход. Жэні Рамановіч тады добра дасталося — яна з работы пайшла хвілін на дваццаць раней, чым трэба. Потым у цэху яна падышла да мяне і гаворыць: «Аня, а я, напэўна, і сапраўды дрэнна зрабіла?» Завязалася размова. Напэўна, і другіх гэтае пытанне хвалявала. Падумалі, памеркавалі і вырашылі змагацца за званне калектыву камуністычнай працы. Аб сваім рашэнні памочніку майстра сказалі. Потым гаварылі ў камітэце камсамола... Мяне звеннявой выбралі... Працавала, хоць праўда, нядоўга... Мне прапанавалі пасаду тэхніка-лабаранта. Я, вядома, падумала і згадзілася...

Высока-высока, у густой сіняве неба, цягнучы за сабой ільняную пушыстую сцяжынку, некуды спяшаўся маленькі серабрысты самалёцік. Аня ўскінула ўгару галаву, косы, укладзеныя ў вянок на патыліцы, слізнулі з заколкі і шаўковым перавяслам спаўзлі за спіну...

— А ведаеце, мне ў маленстве вельмі хацелася быць лётчыцай, — Аня ўсміхнулася. — Колькі сукенак падрала, скачучы са стрэх і з вішань... Маці дакарала: «Што ты, дачка, па стрэхах носішся, хіба табе зямлі не хапае?..»

А што, маці праўду казала. Хапае зямлі. І спраў на ёй шмат — добрых і розных. Ды вось знайсці сваё прызванне, такое, каб адна думка пра гэта поўніла сэрца звонкай радасцю, а за спіной каб выраслі крыллі, — гэта, бадай, нялёгка.

— Вы, вядома, скажаце, што я няправільна зрабіла, — абарвала Аня мае думкі.

Тады я адказаў, здаецца, даволі няпэўна, накшталт: «Кожны робіць так, як загадвае яму яго сумленне».

Цяпер мне хацелася б пра гэта пагаварыць больш. Дасягненне сваёй мары заўсёды прыносіць шчасце. Ці марыла ты, Аня, стаць тэхнікам-тэкстыльшчыкам? Спачатку, напэўна, не, але потым гэтае жаданне паявілася. З'явілася, як рэха той далёкай мары. Імена гэтае жаданне і памагло табе скончыць тэхнікум. Зразумела і тваё імкненне працаваць па спецыяльнасці. Папракнуць цябе, як быццам, няма за што. Але прыгадай словы: «Хочацца бачыць вакол сябе ўсё такім, якім яно павінна быць». А хто ж яго будзе рабіць, калі не мы!

* * *

Жыць і працаваць па-камуністычнаму — гэта значыць радавацца кожнаму поспеху сваіх таварышаў, дзяліць з імі нягоды, жыць думкамі і спадзяваннямі сяброў, адчуваць унутраную патрэбу сутыкацца з імі. Імена патрэбу, а не па абавязку.

І адказ дзяўчат на пытанне: «Вам хіба пакоя не далі ў адным інтэрнаце, што жывяцё ў розных?» — прагучэў крыху нечакана.

— А мы і не патрабавалі. Так лепей — меней спрэчак...

Выходзіць, камуністычныя адносіны толькі на працы? Там, дзе ўвесь ты на відавоку...

Дарэчы, аб імкненні рабіць усё добрае на відавоку. (Вядома, аб дрэнным і гаворкі не можа быць!) Што гэта такое? Абыякавасць ці боязнь, што тваіх добрых спраў не заўважаць?

— Працавалі, стараліся, а да нас ніхто не прыходзіць, ніхто не правярае, — гаворыць дакорліва Рая Крышборская. — Ну, мы пайшлі ў камітэт: што ж мы, маўляў, стараемся, а на нас ніякай увагі...

Вядома, пахвалу атрымаць прыемна. Але аб сваіх добрых справах без канца трубіць не варта. Іх заўсёды заўважаць, бо гэта справа не асабістая, а калектыўная, агульная.

Неяк давялося мне пачуць, як адзін малады чалавек, знаёмячы дзяўчыну са сваім сябрам, сказаў:

— Коля — чалавек будучыні, — і, адказваючы на збянтэжаны позірк дзяўчыны, дадаў: — Член брыгады камуністычнай працы...

Не ведаю, мажліва, гэта было сказана для прыгожага слоўца ці сур'ёзна, але, чэснае слова, — гэта добра сказана!

Так, ён ужо стаў рэальнасцю — чалавек камуністычнай будучыні. Гэта ён ідзе ў адстаючую брыгаду, каб узняць яе да ўзроўню перадавой, гэта ён, звяртаючыся да сяброў па працы, гаворыць:

— Будзем жыць і працаваць па-камуністычнаму.

І не патрэбен яму спадарожны вецер чарговай кампаніі, ён сам вывеслуе ў адкрытае мора.

З Лідай Бурай і Раяй Крышборскай мы гуляем па прыдняпроўскаму парку. Парк малады. Маладзей за маіх субяседніц. І сонечныя стрэлы прашываюць наскрозь яго зыбкія кроны.

— Пройдзе колькі год, і прыгожа будзе ў нас, — гавораць дзяўчаты. — А вось тут, дзе зараз паром, хутка будзе мост. Пасёлак на той бераг пяройдзе. Уяўляеце, увечары ліпы шапочуць, а ў рэчцы агеньчыкі, нібы зорачкі, і мост вясёлкай...

Як ім хочацца, каб усё вакол было прыгожа і каб усе былі шчаслівыя. І, вядома, самі. Праўда, і ў іх яшчэ дробненькае, капрызлівае «я» часам бунтуе, засланяе сабою ўсё іншае, і тады выходзіць не так, як трэба, але няма нічога дзіўнага — дзяўчаты ж толькі вучацца як жыць і працаваць па-камуністычнаму.

Час працуе на іх.

**г. Орша, ільнокамбінат.**

*

**Партыя лічыць, што МАРАЛЬНЫ КОДЭКС БУДАЎНІКА КАМУНІЗМА ўключае такія маральныя прынцыпы:**

**— адданасць справе камунізма, любоў да сацыялістычнай Радзімы, да краін сацыялізма;**

**— добрасумленная праца на карысць грамадства: хто не працуе, той не есць;**

**— клопаты кожнага аб захаванні і памнажэнні грамадскага здабытку;**

**— высокае ўсведамленне грамадскага абавязку, нецярпімасць да парушэнняў грамадскіх інтарэсаў;**

**— калектывізм і таварыская ўзаемадапамога: кожны за ўсіх, усе за аднаго;**

**— гуманныя адносіны і ўзаемная павага паміж людзьмі: чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат;**

**— сумленнасць і праўдзівасць, маральная чыстата, прастата і сціпласць у грамадскім і асабістым жыцці;**

**— узаемная павага ў сям'і, клопаты аб выхаванні дзяцей;**

**— непрымірымасць да несправядлівасці, дармаедства, несумленнасці, кар'ерызму;**

**— дружба і братэрства ўсіх народаў СССР, нецярпімасць да нацыянальнай і расавай непрыязнасці;**

**— непрымірымасць да ворагаў камунізма, ворагаў справы міру і свабоды народаў;**

**— брацкая салідарнасць з працоўнымі ўсіх краін, з усімі народамі.**

З праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.



# ПІЯНЕРСКАЕ ЛЕТА

Рэпартаж



Піянерскае лета...

Кароткія экскурсіі і працяглыя падарожжы пешшу, на лодках, цягнікам, параходам... Звонкія галасы горнаў... Полымя піянерскіх кастроў, ля якіх чытаюцца вершы, выконваюцца вясёлыя танцы. Песні над прасторамі лугоў. Сустрэчы з бывалымі людзьмі. Дружная работа на прышкольным участку, у калгаснай брыгадзе. Ды ўсяго і не пералічыш!

А ў выніку: прэч вялы настрой, прэч стома пасля навучальнага працоўнага года, прэч хваробы! Дзень добры, сонца, паветра, вада!

Якое ўсё гэта звыклае для нашых дзяцей! Вось гэты малы з пятага атрада, які ўпершыню пад наглядам важатай плыве ў надзіманым крузе па возеру, нават не ўяўляе сабе, што не заўсёды было так.





1921 год. Чацвёрты год існавання савецкай улады. Усяго толькі чацвёрты год!.. Голад. Разруха.

А вялікі Ленін падпісвае чарговы дэкрэт, які знамянуе яшчэ адзін вялікі крок наперад, зроблены дзяржавай рабочых і сялян: «Дэкрэт Савета Народных Камісараў РСФСР ад 15 верасня 1921 года. Палажэнне аб ахове здароўя падлеткаў і дзяцей РСФСР...»

У новым дэкрэце дакладна вызнача-





юцца ўстановы, якія павінны арганізоўваць ахову здароўя дзяцей, даюцца ўказанні аб навуковай распрацоўцы пытанняў фізічнай культуры і ўрачэбнага кантролю, гаворыцца аб падрыхтоўцы работнікаў па ахове дзіцячага здароўя, аб забеспячэнні дзіцячых устаноў усім неабходным, аб узгадненні медыка-санітарных мерапрыемстваў з агульным ходам педагагічнага працэсу...

Дзеці, пра якіх клапаціўся Ільіч у дваццаць першым годзе, цяпер—пажылыя людзі. Сёння той жа дэкрэт, які лёг у аснову законаў, прынятых усімі саюзнымі рэспублікамі, ахоўвае здароўе іх дзяцей, унукаў.

Дзеці з піянерскага лагера віцебскай фабрыкі «КІМ», якія перацягваюць канат, і юны варатар каманды лагера аршанскіх будаўнікоў зноў уселіся за парты. А ззаду ў іх—піянерскае лета, пара радасці, гульняў, прыгод і загартоўкі здароўя.









Дзяўчынка, якая так спрытна скакала гэтым летам праз вяровачку, магчыма, зробіць скачок у космас.

Хлопчык, які падрыхтаваўся зрабіць на турніку складанае практыкаванне, на імгненне задумаўся. Пра што? Хто ведае... Можа пра славутага спартсмена, чэмпіёна рэспублікі, а можа ён і сябе ўжо бачыць чэмпіёнам. У юнацтва—крылатыя мары.

Крос пасля купання... Колькі бадзёрасці і здароўя прыносіць дружба з вадой і сонцам!



Дзесяцігадоваму чалавеку, схільнаму да ціхага адпачынку, таксама прадастаўлены шырокія магчымасці. У праграме піянерскага лета—рыбная лоўля на вудачку, збор гербарыяў, складанне вершаў, адлюстраванне акварэллю хараства прыроды, вясёлыя карнавалы.

Рэпартаж пра піянерскае лета мог бы скласці цэлую кнігу, цудоўную кнігу аб шчаслівым савецкім маленстве, але мы паставім тут кропку да наступнага года.

**А. ДЗІТЛАЎ.**




Гэта не Германія 1931 года. Гэта ЗША 1961 года. Група членаў нацысцкай партыі на сваім «аўтобусе нянавісці» ў час паездкі ў штат Алабаму.

Генадзь НАВІЦКІ

# У ДЖУНГЛЯХ РАСІЗМУ

## СКАНДАЛ У ЧАРЛСТОНЕ

У Вашынгтоне рыхтаваліся пышна адсвяткаваць стагоддзе з дня грамадзянскай вайны ў Амерыцы. Была створана спецыяльная камісія з прадстаўнікоў усіх штатаў на чале з Уілсам Грантам-малодшым — унукам генерала Гранта, які кіраваў арміямі Поўначы ў барацьбе супраць расістаў Поўдня. Паводле думкі правячых колаў ЗША, гэтыя святы павінны былі паказаць, што за сто год становішча неграў у ЗША змянілася, што часы рабства мінуліся назаўсёды. Такі быў план Вашынгтона.

Але яму не суджана было здзейсніцца. Прапагандысцкі спектакль праваліўся. Амерыканскія расісты спакойна, без ніякага супрацiўлення з боку таго ж Вашынгтона, ператварылі «ўрачыстасць» у адкрытую антынегрыцянскую кампанію, якая стала знявагай для больш чым 18-мільённага негрыцянскага насельніцтва Амерыкі.

12 красавіка гг. у горадзе Чарлстоне, дзе знаходзіцца форт Самтэр і адкуль у красавіку 1861 года жыхары Поўдня пачалі ваенныя дзеянні, павінен быў адбыцца мітынг. Мітынг адбыўся, але не ў Чарлстоне, а на ваенна-марской базе пад аховай салдат марской пяхоты. Справа ў тым, што расісты Чарлстона адмовіліся прадаставіць члену дэлегацыі ад штата Нью-Джэрсі негрыцянцы Мадлен Уільямс нумар у гасцініцы. Каб пазбегнуць беспарадкаў, давялося спраўляць юбілей пад аховай штыкоў. Хіба ж гэта не сімвалічнае відовішча? Праз сто год пасля вайны за вызваленне неграў ад рабства негры не могуць нават заняць нумар у гасцініцы.

Высокапастаўленыя дзеячы Амерыкі на словах распінаюцца ў прыхільнасці да прынцыпаў «свабоды», «справядлівасці» і «роўнасці», а на справе — моўчкі прыкрываюць самы дзікі тэрор расістаў у адносінах да людзей з нябелым колерам скуры. Скандал у Чарлстоне — гэта хоць невялікая, але наглядная ілюстрацыя сутнасці амерыканскай «дэмакратыі».

## ЛЮДЗІ «ДРУГОГА ГАТУНКУ»

Становішча неграў — гэта ганьба сённяшняй Амерыкі, гэта абвінаваўчы акт супраць усёй сістэмы капіталізму, якая крывадушна выдае сябе за так званы «свабодны свет».

Нядаўна «Нацыянальная асацыяцыя садзеяння прагрэсу каляровага насельніцтва» ЗША апублікавала даклад аб дыскрымінацыі негрыцянскай моладзі пры атрыманні прафесій высокай кваліфікацыі. У дакладзе гаворыцца, што «ў цяперашні час негрыцянская моладзь усюды адхілена ад удзелу ў важнейшых праграмах вытворчага навучання, якія ажыццяўляюцца адміністрацыяй прадпрыемстваў і прафсаюзамі як на Поўначы, так і на Поўдні... Аналіз паказвае, што калі прагрэс будзе працягвацца на цяперашнім узроўні, то неграм спатрэбіцца 138 год (аж да 2098 года), каб яны маглі атрымаць роўныя магчымасці для набыцця высокай кваліфікацыі».

Аказваецца, негры займаюць толькі 3,62 працэнта пасад, якія патрабуюць высокай кваліфікацыі.

Такая ж дыскрымінацыя назіраецца і ў галіне школьнай і вышэйшай адукацыі.

Часопіс «Нейшн» прыводзіў нядаўна такія факты. У 1958 годзе ў штаце Джорджыя на негрыцянскія каледжы было адпушчана ўсяго толькі 6 працэнтаў сродкаў, якія вызначаліся на ВНУ для белых. І такое становішча скрозь.

Амерыканская рэакцыя з дапамогай улад пазбаўляе неграў нават такога элементарнага права, як права голасу!

Сегрэгацыя пранізвае ўсе бакі славутага «амерыканскага спосабу жыцця». Вось радавы горад штата



Расісты са штата Алабама б'юць удзельніка «рэйса свабоды».

Алабама — Бірмінгам, 42 працэнты жыхароў якога — негры. Пабываўшы ў ім, карэспандэнтка газеты «Вашынгтон пост энд таймс геральд» Карпер піша: «Негры і белыя жывуць у Бірмінгаме ў зусім розных умовах. Сегрэгацыя тут пашыраецца на гарадскія паркі, таксі, не кажучы ўжо аб рэстаранах, кафэ або гарадскім транспарце. Нават у заапарку для таго, каб праехаць па дзіцячай чыгунцы, дзеці неграў і белых павінны набыць білеты ў дзвюх розных касах і сесці ў розныя вагончыкі... Неграў часта б'юць...».

А вось другі прыклад. Яго прыводзіць пісьменнік Джон Грыфін, які, імкнучыся як мага бліжэй пазнаёміцца са становішчам неграў на Поўдні, пафарбаваў сваю скуру ў чорны колер і раз'язджаў на працягу шасці тыдняў па паўднёвых штатах, працуючы ў якасці чорнарабочага. Газета «Мірар энд Ньюс», якая выходзіць у Лос-Анжэласе, падводзячы вынік выказванням Грыфіна, піша:

«За першыя 24 гадзіны ён да-



**Вось, што асталося ад аўтобуса, на якім удзельнікі «рэйса свабоды» рабілі паездку па паўднёвых штатах ЗША. Яго спалілі расісты, кінуўшы бомбу.**

ведаўся, што негр на Поўдні кожны дзень можа трапіць у вельмі цяжкае становішча, калі толькі ён не абдумае загадзя кожны свой крок: куды далей рухацца, дзе атрымаць наступны глыток вады, дзе паесці ў наступны раз або дзе вымыцца. У Хаттызбергу (Місісіпі) праз пяць мінут пасля таго, як Грыфін сышоў з аўтобуса, ён стаў аб'ектам насмешак і ў яго паляцела гнілая садавіна, якую кідала група маладых хуліганаў-белых. Негр з Хаттызберга, які прыйшоў да яго на дапамогу, даў Грыфіну наступную параду: «Ніколі не глядзі на белую жанчыну. Калі белыя хлопцы будуць крычаць на цябе, працягвай свой шлях». Грыфін паведаміў, што самае цяжкае перажыванне за час свайго падарожжа ён адчуў, калі аднойчы вечарам адзін негр-рабочы павёў яго ў сваю хаціну, каб даць яму начлег.

У двух пакойчыках разам з ім жылі яго жонка і шасцёра дзяцей. Кракадзілы ў балоце ля хаціны мелі ўволю ежы, а гэтая сям'я амаль памірала з голаду. Вячэра, якой сям'я падзялілася з Грыфінам, складалася выключна з варанага жоўтага бобу.

Дыскрымінацыя праследуе неграў на кожным кроку, з пялёнак да магілы. Свяшчэннік з штата Віргінія Тарплі ў сваёй пропаведзі неяк гаварыў з гневам:

«Яны нараджаюцца ў адасобленых радзільных аддзяленнях бальніц. Яны вучацца ў адасобленых школах. Яны працуюць асобна ад белых. А калі яны паміраюць, іх хаваюць на асобна адведзеных участках на могілках».

## САЮЗ ЧАРНАСОЦЕНЦАЎ І ПАЛІЦЫІ

Неяк амерыканскі інстытут Таскіджы заняўся незвычайнай статыстыкай. Ён вырашыў падлічыць, колькі людзей падвяргалася суду Лінча ў ЗША, пачынаючы з 1882 года. Лічба аказалася, хоць і ўнушальная, 4 733 чалавекі, але яўна зменшаная. Аўтары нават спрабавалі запэўніць грамадскасць, што апошні акт лінчавання быў зроблены ў 1955 годзе — тады 14-гадовы негр Тыл быў застрэлены, а труп яго выкінуты ў раку. Тыл абвінавачваўся ў тым, што ён свіснуў услед нейкай белай жанчыне.

Але аўтары гэтых падлікаў яўна знаходзяцца не ў згодзе з фактамі.

Вось прыклады.

Нядаўна ў Х'юстане (штат Тэхас) чацвёра малойчыкаў-расістаў схапілі 27-гадовага негра Дэлтана Тэрнера, прывязалі да дрэва ўніз галавой, пабілі ланцугамі і выразалі 6 літар «К» (што азначае — арганізацыя Ку-клукс-клан) на яго грудзях і жываце. Паліцыя не «знайшла» садыстаў.

У горадзе Білоксі (штат Місісіпі) белыя хуліганы з дзікімі крыкамі насіліся па вуліцах негрыцянскіх кварталаў, узброеныя вінтоўкамі, ланцугамі, каменнем і бутэлькамі. Чым правініліся негры? Толькі тым, што вырашылі выкупацца ў водах Мексіканскага заліва і ступілі на пляж, які цягнецца на 26 міль і прызначаны «толькі для белых». Азвярэлыя бандыты стралялі ў вокны негрыцянскіх хацін. Паліцыя прыняла меры, але супраць неграў. Была ўведзена каменданцкая гадзіна, каб «засцерагчы воды Мексіканскага заліва ад усякага пасягання з боку неграў».

Негрыцянскі ўрач Альберт Перы з Паўночнай Караліны даўно быў заўважаны расістамі. Яшчэ ў 1946 годзе ён на чале негрыцянскіх дзяцей накіраваўся да гарадскога басейна для плавання, які прызначаўся «толькі для белых». Перы патрабаваў, каб адзін раз у тыдзень дзеці неграў мелі магчымасць купацца ў басейне. Але «бацькі» горада адмовіліся гэта зрабіць, нахабна і цынічна заявіўшы, што будзе вельмі дорага каштаваць дызенфекцыя басейна пасля купання негрыцянскіх дзяцей. У 1957 годзе куклукскланаўцы неаднаразова спальвалі крыжы перад домам Перы і пагражалі забіць яго. Але ўрач даў адпор бандытам. І нарэшце, яшчэ адно «злачынства» Перы: ён асмеліўся ўзяць пад абарону двух негрыцянскіх хлопчыкаў 8 і 9 год, якія прадсталі перад судом за тое, што ў час гульні белая дзяўчынка пацалавала іх. Расісты засадзілі малых за краты, а лёс Перы быў таксама вырашаны. Паліцыя сфабрыкавала «справу» аб тым, што Перы нібыта зрабіў аборт маладой белай жанчыне. Гэтая яўная фальшыўка самай грубай работы стала «падставай», каб кінуць Перы ў турму на 3 гады.

У ЗША да гэтага часу існуе свайго роду тайны саюз паміж бандамі чалавеканенавіснікаў і «ахоўнікамі парадку». Яны, як паказваюць факты, дзейнічаюць супольна.

## ШАБАШ ЛІНЧАВАЛЬНІКАЎ

У 1954 годзе пад націскам негрыцянскай грамадскасці Вярхоўны суд ЗША прыняў рашэнне пачаць сумеснае навучанне неграў і белых. Сёння, праз сем год, 94 працэнты школьнікаў-неграў вучацца ў школах раздзельнага навучання.



**Паліцэйскія заганяюць у турэмную машыну арыштаваных удзельнікаў «рэйса свабоды».**



**Агенты паліцыі канваіруюць групу арыштаваных удзельнікаў «рэйса свабоды» ў г. Джэксане (штат Місісіпі).**

Такія тэмпы «прагрэсу» ў галіне ліквідацыі самай ганебнай няроўнасці дзяцей. Уся рэакцыя літаральна стала на дыбкі. Старшыня юрыдычнай камісіі сената ЗША цемрашал Істленд адкрыта заявіў: «Найлепшы сродак — закрыць школы і больш не адкрываць іх. Мы павінны адкінуць прэч з дарогі ўсіх слабавольных, якія згаджаюцца на тое, каб прыняць у кожную школу па некалькі неграў».

І яны «адкідвалі». У канцы мінулага года негрыцянскае насельніцтва горада Новы Арлеан з хваляваннем і страхам чакала дня 14 лістапада. З хваляваннем таму, што ў гэты дзень па рашэнню акруговага суддзі Райта павінна было пачацца сумеснае навучанне негрыцянскіх і белых школьнікаў. Са страхам таму, што негры добра ведалі, як адносяцца расісты і афіцыйныя ўлады да гэтага рашэння.

У першы дзень у школу для белых адважыліся пайсці ўсяго чатыры шасцігадовыя негрыцянскія дзяўчынкі. Тры з іх накіраваліся ў школу Макданау, а чацвёртая — у школу Уільяма Франца. Гэта былі дочкі бедных бацькоў — падзёншчыка з бензазапраўчнай станцыі, рабочага суднаверфі і паштовых служачых. Пасылаючы малых у школу, бацькі добра ведалі, чым гэта можа скончыцца. Гаспадары адкрыта абяцалі выкінуць іх на вуліцу. Іменна гэтым і тлумачыцца, чаму 14 лістапада ў

школы пайшло ўсяго 4 негрыцянскія школьніцы.

Але самае горшае здарылася днём 16 лістапада. Натоўпы раз'юшаных расістаў, убачыўшы смеласць чатырох негрыцянскіх дзяўчынак, выйшлі на вуліцы Новага Арлеана і пачалі біць усіх неграў, якія сустракаліся па дарозе. У многіх з іх былі плакаты з правакацыйным лозунгам: «Ці не павінны мы праліць кроў?» І яны пралівалі кроў, кроў людзей з іншым колерам скуры. Пад дзікі бой барабанаў яны пускалі ў ход усё, што траплялася пад руку.

Толькі з дапамогай паліцыі ўдалося крыху ўціхамірыць расістаў. 17 лістапада ў Новым Арлеане запанаваў, паводле слоў амерыканскіх газет, «спакой». Было арыштавана больш як 250 чалавек. Пераважная большасць з іх — негры. На іх і спагналі сваю злосць расісты-суддзі. Аднаго негра прыгаварылі да штрафу ў 75 долараў або да 75-дзённага турэмнага зняволення, пажылую негрыцянку — да 10 долараў і яшчэ двух неграў — да 25 долараў штрафу. Бацька адной дзяўчынкі зволены з работы. Уладальнік аўтазаправачнай станцыі Сміт заявіў: «Я не хачу, каб у мяне працаваў негр, дзіця якога ходзіць у школу для белых».

Школьны савет Новага Арлеана, ідучы насустрач расістам, закрыў усе муніцыпальныя школы — з 21 па 26 лістапада — з прычыны таго, што праводзіцца настаўніцкая «нарада». Больш таго, савет «папрасіў» Федэральны суд часова выдаліць чатырох негрыцянак-першакласніц са школ для белых, пакуль Вярхоўны суд ЗША «не ўрэгулюе цяжкае становішча».



**Паліцэйскія цкуюць сабакамі неграў, якія выйшлі на дэманстрацыю супроць суда над удзельнікамі «сядзячых забастовак» у г. Джэксане.**

Расісты атрымалі перамогу. Але гэта пірава перамога. Яна выкрыла яшчэ раз бесчалавечны характар капіталізму, які нясе простым людзям гора і пакуты.

## ДВА НЕГРЫ ПАЙШЛІ ВА ЎНІВЕРСІТЭТ...

19-гадовы Гамільтон Холмс і 18-гадовая Чарлейн Хантэр нарадзіліся ў Атланце, галоўным горадзе штата Джорджыя. Абодва на выдатна закончылі сярэднюю школу, добра вучацца ў каледжах і, натуральна, вырашылі паступіць ва ўніверсітэт у сваім штаце.

Гамільтон марыў стаць урачом, а Чарлейн — журналісткай. Але вось бяда — абодва яны негры, а за ўсе 175 год існавання ўніверсітэта ў Джорджыі ні адзін негр не пераступіў яго парог.

І ўсё ж у студзені 1961 года суддзя Бутл вынес рашэнне залічыць Хантэр і Холмса студэнтамі ўніверсітэта. І тут пачалося нешта неверагоднае. Губернатар штата Вандывер неадкладна заявіў, што пазбавіць універсітэт фінансавай дапамогі. Ку-клукс-клан патрабаваў закрыць універсітэт, а «вялікі» дракон (верхавод куклукскланаўцаў) Крэйг шматзначна заявіў, што калі два негрыцянскія студэнты паявяцца ў аўдыторыях, то, на яго думку, «некаторыя студэнты пачнуць дзейнічаць сілай».

Крэйг аказаўся «прарокам». Сапраўды, ужо 7 студзеня расісты наладзілі ў двары ўніверсітэта дзікую оргію. Яны павесілі на вяроўку і спалілі чучала Гамільтона Холмса, потым пачалі паліць кастры і хадзіць вакол іх з крыкамі «Не хочам сумеснага навучання!». 9 студзеня, калі Хантэр пайшла ва ўніверсітэт, каб аформіць дакументы, звыш тысячы дэспатаў акружылі яе і крычалі: «Выбірайся дадому, чарнамазая!».

10 студзеня негр і негрыцянка накіраваліся ва ўніверсітэт. Натоўп расістаў сустрэў іх лямантам: «Негры нам не патрэбны!». З годнасцю і мужнасцю прайшлі навічкі ва ўніверсітэт. Але непрыемнасці для іх не скончыліся. На лекцыі па псіхалогіі побач з Чарлейн ніхто сядзець не захацеў. За ёй было два рады пустых месц. На наступнай лекцыі па журналістыцы, як паведамляе агенцтва Асашыэйтэд Прэс, адзін студэнт на пытанне другога, як яму падабаецца вучыцца з неграмі, адказаў: «Я пакідаю гэтыя заняткі». Так ён і зрабіў пад воплескі астатніх.

А ўночы перад інтэрнатам, дзе жыла Хантэр (у ізаляваным ад белых студэнтак памяшканні), зноў сабраўся велізарны натоўп. Газета «Нью-Йорк таймс» пісала: «Натоўп з крыкамі і праклёнамі акружыў інтэрнат, дзе жыла Хантэр. Дзве тысячы белых студэнтаў і мясцовыя жыхары шпурлялі камені ў вокны, палілі кастры, выкрыквалі лозунгі ў абарону сегрэгацыі і лемантавалі: «Негры, выбірайцеся!».

А што ж зрабілі ўлады? Прыцягнулі да адказнасці хуліганаў? Нічога падобнага. Яны «часова адхілілі ад заняткаў» студэнтаў-неграў і адправілі іх дадому пад канвоем паліцэйскіх «у інтарэсах бяспекі негрыцянскіх студэнтаў і ў інтарэсах бяспекі і шчасця больш чым 7 тысяч студэнтаў універсітэта» (?!).

**Адзін з удзельнікаў «рэйса свабоды» — белы студэнт Джеймс Зверг быў знявечаны расістамі.**







**Джэмс Пэк (у цэнтры) — адзін з удзельнікаў «рэйса свабоды» — быў пабіты расістамі толькі за тое, што спрабаваў спыніць іх нападкі на неграў.**

## ЦЯРПЕННЮ ПРЫХОДЗІЦЬ КАНЕЦ

Рэакцыя ў Амерыцы шалее з асаблівай сілай яшчэ і таму, што яна сваімі вачыма бачыць, як некалі прыгнечаныя людзі ўсё больш рашуча пачынаюць выступаць у абарону правоў чалавека. І ў першых радах барацьбітоў супраць варварскага расісцкага тэрору і дыскрымінацыі знаходзіцца негрыцянская моладзь.

Летась у штаце Паўночная Караліна было пачата пасіўнае супраціўленне неграў супраць зневажальнай дыскрымінацыі пры абслугоўванні ў буфетах універсальных магазінаў. Сотні юнакоў і дзяўчат-неграў дэманстратыўна, насуперак усім расісцкім законам і правілам, займалі месцы за столікамі, заказвалі якую-небудзь ежу або марожанае, а калі выявілася, што іх не хочуць абслугоўваць, працягвалі сядзець аж пакуль не закрыюць магазінаў. Так было з дня ў дзень. Большасць буфетаў гаспадары палічылі за лепшае за-

крыць, чым абслугоўваць неграў.

Гэты рух з Паўночнай Караліны распаўсюдзіўся на штаты Віргінію і Фларыду, а неўзабаве і на ўвесь Поўдзень.

«Сядзячыя» забастоўкі, як іх назваў амерыканскі друк, мелі большае значэнне, чым проста барацьба за права негра сядзець у буфеце за кубкам чаю. Газета «Нью-Йорк таймс» пісала, што гэты рух адлюстроўвае «ўзрастаючае незадаваленне марудны-мі тэмпамі скасавання сегрэгацыі ў школах і ў іншых дзяржаўных установах». Гэта быў выклік усёй ганебнай сістэме расізму. Газета «Уол-стрыт джорнэл» пісала: «Негры, зразумела, дабіваюцца не толькі права карыстацца буфетамі ва ўніверсальных магазінах... Дэманстрацыі, арганізаваныя па ініцыятыве новага баявога негрыцянскага кіраўніцтва — студэнтаў каледжаў, відаць, азначаюць адкрыццё другога фронта ў барацьбе за ліквідацыю сегрэгацыі на Поўдні».

Іменна таму на неграў-студэнтаў абрушыўся град рэпрэсій з боку белых расістаў і паліцыі.

Хуліганы, каб пакласці канец «сядзячым» забастоўкам, пачалі кідаць у неграў тухлыя яйкі, бутэлькі з аміякам, а потым перайшлі да адкрытых нападаў. У Портсмуце яны напалі на 200 навучэнцаў негрыцянскай сярэдняй школы. У дапамогу ім паспяшыла паліцыя, якая арыштавала каля 50 юнакоў-неграў.

Паступова «сядзячыя» забастоўкі прынялі новы характар. Негры пачалі дэманстратыўна паяўляцца не толькі ў буфетах, але і ў магазінах, рэстаранах, бібліятэках, прызначаных «толькі для белых». У горадзе Петэрсбергу 150 студэнтаў-неграў прыйшлі ў публічную бібліятэку, дзе існуе сегрэгацыя. Студэнты занялі ўсе месцы, пасля чаго гарадскія ўлады распарадзіліся закрыць бібліятэку. 11 чалавек былі прыгавораны да 30 дзён турмы і да штрафу па 100 долараў кожны. У Мантгомеры група студэнтаў з'явілася ў рэстаран «для белых». Губернатар штата, заўзяты расіст Патэрсан, загадаў выключыць з каледжа ўсіх, хто асмеліўся гэта зрабіць. У адказ студэнты заявілі, што калі «хоць адзін студэнт будзе выключаны, то ўсе пакінуць каледж».

У «сядзячых» дэманстрацыях 1960 года прынялі ўдзел дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат. Больш як дзве тысячы з іх было арыштавана. Сотні неграў правялі па некалькі тыдняў у турмах. Колькі было выпадкаў, калі юнакоў збівалі, зневажалі. Але рашучасць і надалей змагацца за чалавечую годнасць, за поўную роўнасць і свабоду не была зломлена.

У гэтым годзе ў гадавіну «сядзячых» забастовак негрыцянская моладзь зноў актывізавалася. 13 лютага вялікая дэманстрацыя адбылася ў Рок-Хіле. Больш як 500 студэнтаў накіраваліся да турмы, дзе пасаджаны і закаваны агульным ланцугом у кандалы 13 студэнтаў-неграў за ўдзел у «сядзячых» забастоўках. Дарогу дэманстрантам перагарадзіў атрад з сотні паліцэйскіх і салдат штата.

Дэманстрацыя адбылася і ў Атланце, дзе 86 студэнтаў-неграў знаходзяцца ў турме ў адных камерах з крымінальнікамі. Усім ім, удзельнікам чатырох дзённых «сядзячых» забастовак, пагражае прыгавор да 18 месяцаў турмы і штраф па адной тысячы долараў кожнаму. Пракурор сказаў, што ён не можа назваць дату судовага працэсу. «Калі яны хочуць сядзець у турме, — нахабна заявіў ён, — то няхай сядзяць. Ва ўсякім разе, іменна туды мы і хочам іх вярнуць».

Але бадай самая жудасная расправа над неграмі адбылася ў Джэксане. Каб разагнаць натоўп моладзі, якая пратэставала супраць арышту сваіх таварышаў, што «асмеліліся» зайсці ў бібліятэку для белых, паліцэйскія выпускалі на людзей нямецкіх аўчарак. Як піша карэспандэнт агенцтва «Юнайтэд прэс інтэрнейшнл», «паліцэйскія, што размахвалі дубінкамі, і злосныя нямецкія аўчаркі прагналі больш як сто неграў ад будынка суда... Некалькі неграў былі пабіты дубінкамі, і паліцэйскія сабакі пакусалі аднаго з іх».

Так адказвае рэакцыя на натуральнае імкненне негрыцянскай моладзі дабіцца раўнапраўя. Але ніякія зверствы не могуць зламаць баявы дух людзей, якія сталі



на шлях барацьбы. Негрыцянская газета «Афра-Амерыкен» апублікавала нядаўна пісьмо аднаго са студэнтаў — Кларэнса Грэхэма, закаванага ў кайданы ў турме ў Рок-Хіле. Ён пісаў сваім бацькам: «Дарагія тата і мама, я думаю, што вы абодва ўстрывожыцеся і, напэўна, будзеце злавацца. Але я спадзяюся, што так не будзе. Я хачу, каб вы ведалі, што я сапраўды і шчыра хацеў так зрабіць. Я проста павінен быў так зрабіць. Я хачу, каб вы абодва ганарыліся мною, а не злаваліся на мяне. Паспрабуйце зразумець, што тое, што я раблю, — правільна. Я іду ў турму не таму, што зрабіў злачынства. Мы ідзём у турму таму, што хочам палепшыць жыццё ўсяму нашаму народу... Дайце нам, маладому пакаленню, магчымасць праявіць сябе. Ваш сын Кларэнс».

Расізм пусціў глыбокія карэнні ў «цывілізаванай» Амерыцы. Расісцкі чад затуманьвае свядомасць і ў многіх маладых людзей з белым колерам скуры. І тым не менш, можна смела сказаць, што большасць белага насельніцтва — на баку неграў, сімпатызуе іх барацьбе, разумее іх спадзяванні і клопаты. Больш таго, многія юнакі і дзяўчаты «белай» Амерыкі выступаюць актыўна ў абарону сваіх негрыцянскіх братоў. Камуністычная партыя ЗША робіць усё, што толькі можа, для выкрыцця варварскай сутнасці расізму і яго прыхільнікаў.

І першы плён ужо здабыт. У многіх гарадах штата Тэхас — Асцін, Далас, Сан-Антоніо, Х'юстан у пачатку гэтага года можна было наглядаць такія сцэны: белыя і негрыцянскія студэнты станавіліся ў чаргу ў кінатэатры, дзе наглядаецца сегрэгацыя. Белы студэнт падыходзіў і прасіў: «Прадайце, калі ласка, білет для мяне і для майго сябра негра-амерыканца». Калі служачыя кінатэатраў адмаўляліся прадаваць білеты для неграў, белыя студэнты вярталі ў касу ўжо купленыя білеты і станавіліся ў канец гэтай доўгай чаргі, працягваючы паўтараць гэта на працягу ўсяго дня.

У Нью-Йорку, Сан-Францыска, Чыкага, Бастоне і Лос-Анжэласе групы белых студэнтаў наладжвалі



Гэтай негрыцянцы палісмены штата Фларыда скручваюць рукі за тое, што яна ў знак пратэсту сядзела ля рэстарана, у якім адмаўляліся абслугоўваць неграў.

пікетаванне ў знак салідарнасці са студэнтамі Поўдня. Студэнты-дэманстранты пелі новую песню, якая ўзнікла ў Тэхасе і выконваецца на матыў «Алілуя». Кожная страфа прысвячаецца якому-небудзь губернатару-расісту. Так, адна страфа абяцае губернатару штата Луізіяна Джыму Дэвісу — «Мы адправім Джымі Дэвіса ў агульнае для белых і чорных пекла».

З вясны бягучага года шырокае распаўсюджанне атрымалі рэйсы свабоды, у якіх прымае ўдзел у асноўным моладзь — белыя і негры. Многія ўдзельнікі гэтых рэйсаў не раз ужо глядзелі літаральна смерці ў вочы, калі падвяргаліся дзікім нападкам з боку азвярэлых расістаў. Так адбылося ў маі гэтага года ў штаце Алабама, дзе банды расістаў накінуліся на маладых барацьбітоў з каменнямі і дубінкамі, таптані іх нагамі. На ўвесь свет стала вядома пра бясчынствы расістаў у горадзе Мантгомеры, дзе на мітынгу у мясцовай царкве сабраліся 500 грамадзян горада і ўдзельнікі рэйсаў свабоды. За сценамі царквы, — як піша амерыканскі друк, — тварылася нешта неверагоднае. Раз'юшаныя расісты спрабавалі выламаць дзверы, закідвалі вокны каменнем, палілі аўтамашыны. Паліцыі з вялікімі цяжкасцямі ўдалося стрымаць на-

тоўп. Гаворачы аб трагічных падзеях тых дзён, адзін з кіраўнікоў барацьбы неграў за сваю свабоду доктар Кінг заявіў: «Алабама скацілася да ўзроўню варварства, якое можна параўнаць з варварствам трагічных дзён гітлераўскай Германіі». Лідэр дэмакратаў у сенаце Мэнсфілд са свайго боку заявіў: «Інцыдэнты, што мелі месца на працягу некалькіх апошніх дзён у Алабаме, павінны прымусіць нас і краіну ў цэлым апусціць галовы ад ганьбы».

Што ж, разумная парада. Але, мяркуючы па ўсім, афіцыйныя амерыканскія ўлады не адчуваюць дакораў сумлення. Інакш чым жа вытлумачыць, што яны з зайздроснай упартасцю падвяргаюць розным праследаванням не расістаў, а іх ахвяры. Толькі ў адным штаце Місісіпі з мая па ліпень г.г. за краты было кінута 227 удзельнікаў рэйсаў свабоды, у тым ліку і 13-гадовая школьніца. Абыходжанне з імі ў турмах самае жорсткае. У канцы ліпеня міністру юстыцыі ЗША Роберту Кенэдзі быў накіраваны мемарандум, у якім ёсць патрабаванне неадкладна прыняць меры, каб паклаксці канец жорсткаму абыходжанню са зняволенымі ў турму ўдзельнікамі рэйсаў свабоды.

Але брат прэзідэнта не спяшаецца прыйсці на дапамогу тым, хто пацярпеў нявінна. Ён лічыць за лепшае займацца распаўсюджваннем казак пра тое, што, маўляў, «праз 30—40 гадоў негр зможа стаць прэзідэнтам Злучаных Штатаў».

### ГАНЬБА ВАШЫНГТОНА

Многія сумленныя амерыканцы глыбока абураны бяспраўным становішчам мільёнаў неграў у ЗША. Яны патрабуюць ад урада прыняцця рашучых мер супраць расістаў. Камуністычная партыя ЗША нядаўна ў тэлеграме прэзідэнту пісала: «Не патрэбен новы закон для таго, каб прыняць меры ў падтрымку канстытуцыйных правоў амерыканскіх грамадзян. Улады ў паўднёвых штатах парушаюць канстытуцыю. Таму патрабуецца ўмяшанне федэральных улад у абарону канстытуцыі».

Але Вашынгтону няма справы да лёсу людзей з іншым колерам скуры. Там больш клапоцяцца аб тым, каб пад фальшывымі лозунгамі абароны «свабоды» надзець зноў ярмо на тыя народы, якія сталі на шлях незалежнага развіцця. Пераканаўчы прыклад гэтага — агрэсіўная палітыка прэзідэнта Кенэдзі ў адносінах да свабодалюбівай Кубы.

Але працоўных людзей свету цяжка ашукаць. Яны ведаюць сапраўдную цану крывадушным заявам Вашынгтона аб «любві» да іншых народаў. Эфіопская газета «Адыс заман» неяк пісала, што ў Амерыцы «ненавідзяць каляровых людзей», іх могуць выстаўляць людаедамі, хоць у ЗША многа любяць гаварыць аб дэмакратыі. «Калі Амерыка, — працягвае газета, — выступае за дэмакратычныя парадкі, то яна павінна перш за ўсё прамыць свае ўласныя вочы».

А вось яшчэ адзін факт. Пасля зверскага забойства нацыянальнага героя Афрыкі Патрыса Лумумбы да будынка ААН у Нью-Йорку прыйшлі дэманстранты з плакатамі: «Злучаныя Штаты прыгнятаюць чорнага чалавека тут. Як можна ім давяраць у Афрыцы?»

Так, нельга давяраць лютым расістам, якія займаюць самыя высокія пасады. Па сутнасці, паміж Вашынгтонам і злоснымі чалавеканенавіснікамі з паўднёвых штатаў існуе самае цеснае адзінства і агульнасць поглядаў. Іменна таму ў абсалютнай бяспецы адчуваюць сябе тыя, каму месца на лаве падсудных.

Нядаўна газета «Дыфендэр», што выходзіць у Чыкага, пісала: «Якая недарэчнасць і якая ганьба, што амаль праз сто год пасля грамадзянскай вайны неграм усё яшчэ даводзіцца змагацца за прызнанне і правы, якія, як меркавалася, павінна была забяспечыць гэтая вайна, што каштавала жыцця двум мільёнам чалавек». Гэтая ганьба незмываемай плямай ляжыць на сумленні правячых колаў ЗША.





# НА ВОЗЕРЫ ОКУНЬ

**З блакнота падарожніка**

З аўтобуса, што ідзе з Мінска на Магілёў, трэба выйсці адразу ж за мостам цераз раку Бярэзіну. Адсюль на поўдзень ідзе пясчаная дарога. За павароткай яна хаваецца ў сасновым бары. Калі пайсці па ёй, дык неўзабаве выйдзеш да кручы, з якой адкрываецца від на прыгожую даліну Бярэзіны...

Але тут не канец падарожжа. Нам жа трэба прайсці яшчэ дзесятак кіламетраў.

Насустрач—вялізныя вазы з сенам, а ззаду абганяюць, грукочучы ланцугамі, аўтамабілі з лесавознымі прычэпамі. У адным месцы дарога выходзіць да самай вады. Тут працуюць сплаўшчыкі лесу. Вось тут можна і адпачыць крыху. Закіньце ў Бярэзіну вудачку. Ну, а калі ў вас сваёй снасці няма, пазычце яе на дваццаць хвілін у каго-небудзь са сплаўшчыкаў. Вам абавязкова пашанцуе: вы зловіце дзве, а то і тры рыбіны. Адпачылі, а цяпер удакладніце свой маршрут:

— Значыць, на возера Окунь ісці трэба туды?

— Ага. Пакуль не прыйдзеце ў вёску. А там кожны пакажа!...

Апошні кіламетр дарогі зноў ідзе густым сасняком. Але вось пачулася шматгалосае гаўканне і насустрач выбягае стракаты віславухі сэтэр. Маўклівы і ласкавы, ён будзе вітаць вас па-свойму, віляннем хваста. Хто ж тады так брахаў? Вядома, не гэты дабрадушны сэтэр.

Яшчэ паўсотні крокаў. Лес расступіўся. Перад вамі вялікая паляна. На ёй некалькі будынкаў: два жылыя дамы, доўгія драўляныя хлявы, павеці, зацягнутыя з бакоў сеткай... Жанчына ў ружовым плацці вядзе за аброць запрэжанага каня. На возе — срабрыста-зялёная груда толькі што скошанага лубіну.

Вы ў адмысловай пушной гаспадарцы Мінскага аблспажыўсаюза. Бярэзінская звераферма «Возера Окунь». Загадвае фермай Мікалай Талстых.





Знаёмячыся, Мікалай адразу ж скажа, што ферма славіцца не серабрыстачорнымі ліс іцамі, якія гаўкаюць ад няма чаго рабіць у сваіх вальерах, а прышэльцамі з чужых, заморскіх зямель—нутрыямі.

— Пойдзем да возера,—прапануе вам Мікалай.

Да возера—рукой падаць. Сотня крокаў па сцежцы праз альхова-бярозавыя зараснікі.



Талстых будзе расказваць вам пра нутрый усё. Пра іх норавы, пра кармы, пра цану на скуркі, пра тое, што паспяхова ідзе метызацыя...

У вальерах, у спецыяльных клетках, якія хаваюцца пад вадой, і проста па берагах возера вы ўбачыце мноства цёмна-шэрых звяркоў, якія знешне нагадваюць баброў сярэдняй велічыні. Возера Окунь служыць ім вельмі зручным месцам для жыхарства.

Цёмна-шэрыя, так званыя стандартныя, нутрыі завезены ў Еўропу з Аргенціны.

— А вось гэты звярок,—нечакана пакажа вам Мікалай важкую белую нутрыю,—дастаўлены да нас з Італіі. Прыгажун?

Агідная пацуковая морда гэтага «прыгажуна» заканчваецца чатырма аранжавымі разцамі, якія не змяшчаюцца ў пашчы. Ён жмурыць вочы ад сонца, нібы ад злосці. Абцягнутыя ружовай скурай пальцы яго заканчваюцца вялізнымі кіпцюрамі. Звер пагражальна фыркае, дзіўна, па-цялячаму мычыць і б'е паветра пярэднімі лапамі.

— Вось ён і некалькі яго такіх жа беласкурых землякоў і адкрылі перад намі магчымасці вырошчваць каляровае пагалоўе,—гаворыць далей загадчык фермы.—У Савецкім Саюзе ёсць многа нутрыевых ферм, але толькі дзве з іх займаюцца каляровай нутрыяй. Адна—у Падмаскоўі, і наша—на Бярэзіне. Да канца года пагалоўе нутрый на ферме павінна дасягнуць двух з паловай тысяч. Амаль усю работу з імі праводзяць чатыры чалавекі.

Мікалай Талстых знаёміць нас са сваімі памочнікамі—сціплай дзяўчынай Анютай Бандарчык, хлопцам атлетычнага складу—Анатолем Александровічам і жанчынай сярэдніх год Ганнай Лаўрэнцьеўнай Бурай.

Анюта і Ганна Лаўрэнцьеўна заняты племянным пагалоўем. Іх гадаванцы жывуць у вальерах і клетках. Анатоль, як ён кажа, «працуе па выпуску». Гэта азначае, што ён займаецца часткай пагалоўя нутрый, якая выпушчана з клетак і знаходзіцца на паўвольным утрыманні.

Возера Окунь акружана балотамі з багатымі запасамі раслінных кармоў. Выпушчаныя на яго прастор нутрыі добра развіваюцца і зусім не імкнуцца пакінуць гасцінны вадаём.

Анатоль Александровіч тлумачыць, што азначае «зусім не імкнуцца». Некаторыя з нутрый маюць неспакойны характар. Цяжка сказаць, чым вызначаецца іх схільнасць да падарожжаў, але часам адна-дзве возьмуць ды ўцякуць. Александровіч з малых год тут жыве і добра ведае ўсе хады і выхады: старыя канавы, закінутыя паселішчы баброў, перасохлыя рэчышчы лясных ручаёў. Усё гэта магчымыя маршруты падарожжаў нутрый-уцекачоў.

Зверавод робіць усё, каб не выпусціць ні аднаго звярка за межы адведзенай ім акваторыі. Ён паказаў лавушкі, расстаўленыя на шляхах магчымых уцёкаў. І калі ў якой-небудзь з іх акажацца нутрыя, адразу ж дастае яе адтуль самым бесцырымонным чынам—схапіўшы за хвост. Ён адзначыць гэтага звярка, каб другі раз не ўцякаў, і адправіць яго на возера. А калі трапіцца яму гэты ж звярок другі і тым больш трэці раз—Александровіч ужо не будзе літасцівы. Са звера, які мае «схільнасць да перамены месца», скурка будзе знята заўчасна.

Для нутрый, выпушчаных у возера, па берагах расстаўлены хаткі і зроблены невялікія астраўкі з дошак, куды рэгулярна, у адзін і той жа час сутак, дастаўляецца падкормка.

Пачуўшы ўдары гонга, звяркі падплываюць да астраўкоў-«закусачных» і з апетытам накідваюцца на свежы лубін, на кашу з камбікорму. Як яны акуратна бяруць «рукой» кашу і запіхваюць яе



ў рот! Кіньце ім кавалачкі хлеба. Нутрыі разбяруць хлеб кожная па кавалачку і, трымаючы ў адной лапцы, будуць адкусваць патрошку, працягваючы другой лапкай падаваць у рот кашу, порцыю за порцыяй... Пасля ежы ўсе яны прымаюцца за туалет—мыюцца, прычэсваюцца, разгладжваюць вусы. Пацеха, ды й годзе!

Анюта Бандарчык паказвае самае галоўнае, гордасць фермы—каляровых звяркоў. Белыя, серабрыстыя, бежавыя, перламутравыя, залацістыя—яны захопяць ваша ўяўленне. Агіда, выкліканая іхнім пацуковым выглядам, адразу ж знікае!

Вось так, воддаль ад вялікіх населеных пунктаў, сярод вечна шапаткога лесу, пад ясным небам і ў непагадзь работнікі фермы з захапленнем выконваюць аблюбаваную імі карысную работу

**Тэкст і фота А. ДЗІТЛАВА.**



*Размова аб майстэрстве*

Рыгор БЯРОЗКІН

# ПОПЛЕЧ З ГЕРОЕМ

Малады хлопец, машыніст на чыгунцы, неяк пры сустрэчы расказаў нам гісторыю свайго жыцця.

Нарадзіўся і рос у ціхім лясным кутку на Магілёўшчыне. Бацькі працавалі ў калгасе. Калі хлопчыку было восем год, пачалася вайна. Адзінаццацігадовы, ён перажыў такое, што ніколі не забываецца, што цяжкім каменем навечна кладзецца на чалавечае сэрца: у часе блакады супраць партызан фашысцкія карнікі на вачах у хлопца забілі маці, бабку і дзвюх сясцёр, а сам ён, дачакаўшыся прыцемак, вылез з магілы, запоўненай трупамі жанчын і дзяцей. Акрываўленага, прашытага навылёт аўтаматнай чаргой, яго падабралі ў лесе партызаны, сярод якіх знаходзіўся і бацька хлопчыка. Перад самым канцом вайны прыйшла сумная вестка: у баях за Берлін загінуў бацька. Потым былі — рамеснае вучылішча, стажыроўка, праца на паравозе і зноў вучоба. «А зараз, як бачыце, раблю машыністам. На таварняку. Учора быў у Салігорску...»

Якая звычайная, нават у жахлівым сваім трагізме, чалавечая гісторыя! За ёй паўстае біяграфія цэлага пакалення людзей, чыё жыццё на раннім яго ўзлёце было апалена бязлітасна-грозным дыханнем вайны. Колькі іх, гэтых хлапчукоў з партызанскіх раёнаў, сёння ўзводзіць Брацк, заваёўвае цаліну, самааддана працуе на ўсіх — вялікіх і малых — навабудоўлях краіны! Гэта — добрая, выпрабаваная вайной і мірам, надзейная гвардыя пакалення, што ў свеце «галоўную службу нясе». Хіба не сынамі гэтага пакалення з'яўляюцца першыя савецкія касманаўты Юры Гагарын і Герман Цітоў?

Слухаючы хлопца, мы думалі і пра тое, што ў нашу літаратуру павінен (абавязкова павінен!) прыйсці паэт, які б на ўвесь голас загаварыў ад імя гэтага пакалення, які б раскрыў усё, што яно перажыло і чым жыве сёння на перадавых пазіцыях камуністычнага будаўніцтва...

І вось перад намі два зборнікі Рыгора Барадуліна: «Маладзік над стэпам» (1959) і «Рунец, красавац, налівацца!» (1961). Не будзем сцвярджаць, быццам у гэтых зборніках усебакова і поўна адбіліся справы, думкі і мары пакалення, да якога належыць аўтар. Мабыць, аднаму паэту, які б таленавіты ён ні быў, наогул не па сіле справіцца з такой задачай, і толькі дружнымі намаганнямі ўсёй маладой паэзіі будзе створаны жывы і праўдзівы вобраз маладога сучасніка. Адно можна сказаць зусім пэўна: гэтыя намаганні праявіліся ў творчасці Р. Барадуліна больш выразна, чым у творчасці іншых маладых паэтаў — яго равеснікаў і сяброў.

Чытаючы вершы Барадуліна, увесь час адчуваеш імкненне аўтара асэнсаваць шляхі-пуцявіны свайго пакалення, імкненне стаць яго паэтам, яго «паўнамоцным прадстаўніком». І думаецца, што менавіта гэтая акалічнасць, — вынашаная чалавечая неабходнасць выказаць праз сваё ўласнае ўсё, чым жывуць таварышы і аднагодкі, — якраз і прыцягнула да барадулінскіх вершаў пільную ўвагу чытача і, перш за ўсё, чытача маладога.

Дзе і калі пачынаецца біяграфія юнака, які з'яўляецца героем барадулінскай лірыкі? Яна пачынаецца ў цяжкія, суровыя гады вайны ці, дакладней сказаць, на тым пераломе ад вайны да міру, які знайшоў сваё адлюстраванне ў вершах Барадуліна апошняга часу, такіх, як «Палата мінёраў», «Труба», «Стэарынавая свечка», «Жароўня».

Гэта — вельмі светлыя і разам з тым вельмі горкія вершы. Светлыя, бо ў іх апавядаецца пра самую шчаслівую пару чалавечага жыцця — пра маленства. Горкія, бо маленства, якое паказана ў вершах, паспытала такой гаркоты, зведала такі боль, што нават і сёння, праз многія гады, ніяк не знікае іх след у душы чалавека. Тое, што Барадуліну ўдалося вельмі праўдзіва (у чалавечым, псіхалагічным сэнсе) перадаць і незабыўныя радасці дзяцінства, і трагічныя выпрабаванні, якія выпалі на яго долю, абумовіла высокі паэтычны ўзровень названых вершаў, паўнату і пераканальнасць іх жыццёвага зместу.

Нагадаем хаця б такі верш, як «Палата мінёраў» — адзін з лепшых у кнізе «Рунец, красавац, налівацца!» Усё ў ім дыхае праўдай: і жартаўлівая, з адценнем балючага смутку, мянушка «мінёр» у дачыненні да хлопца, якому адарвала руку мінай ці гранатай, і агульная атмасфера часу, калі зямля была засмечана смяротным жалезам. Натуральна-праўдзівы ў **цэлым**, верш «Палата мінёраў» звяртае на сябе ўвагу і шэрагам асобных падрабязнасцей, якія цудоўна «працуюць» на галоўную тэму, на паэтычны настрой твора.

Вось, напрыклад, сустракаюцца былыя сябры па бальнічнай палаце: «Руку аднагодак працягвае мне, пацісну я куксу ў шрамах, бы ў разорах...» Высокаўрачысты жэст, які павінен засведчыць не абы-якое сяброўства, а сяброўства, змацаванае крывёю. І далей радкі пра верасень сорак чацвёртага года, што ніяк не мог даклікацца ў школу бедных, бедных «мінёраў». І яшчэ такія радкі: «Пасля перавязкі (ой, раны смыляць!) спявала «Арлёнка» палата мінёраў...» Надзвычай многа гаворыць нашаму сэрцу песенны «рэпертуар» хлапчукоў. Тут і напамін аб піянерскіх кастрах, бязлітасна і нечакана патушаных вайной, і рамантычная ўзнёсласць «мінёраў», іх страснае жаданне (як-ніяк ад вайны пакутуюць!) стаць уровень з арлянятамі, з героямі грамадзянскай вайны.

Шмат агульнага з «Палатай мінёраў» мае і верш «Труба» — няхітрае апавяданне аб тым, як у сяле, толькі што вызваленым ад фашыстаў, дзядзька-чырвонаармеец падарыў хлапчуку трафейную трубу і як ён, гэты хлапчук, спярша цешыўся дарагім падарункам, а потым быў вымушаны абмяняць яго на аблавухую, затое цёплую, вушанку суседа. З'яўляючыся, як і «Палата мінёраў», творам сапраўды паэтычным, верш «Труба» не так лёгка паддаецца простаму тэматычнаму пераказу. Пры такім пераказе непазбежна застаецца няўлічаным эмацыянальны каларыт верша, свежасць яго маральнага пачуцця, якія ўздзейнічаюць не менш актыўна, чым тыя падзеі, што ў ім адлюстраваны.

Між іншым, ёсць у вершы «Труба» такія радкі: «Адзін салдат з блакітнымі вачамі, нібыта ў таты...» У першым зборніку Барадуліна «Маладзік над стэпам» быў змешчаны верш, які называўся «Бацьку», — успамін пра тое, як у сорак чацвёртым аўтар і герой твора безнадзейна шукаў тату сярод салдат, што ішлі праз родную вёску. Прызнацца, гэты верш пакідае меншае ўражанне за два радкі з верша «Труба». І справа тут імення ў тым, што вершу «Бацьку» якраз і не ставала свежасці і чысціні маральнага пачуцця, што ў ім паэт не вельмі турбаваўся знайсці

слова, якое адпавядала б перажыванню значнаму, але стрыманаму. «Хацелася пачуць: «Сынок...» і крыкнуць радаснае: «Тата!» — гэта гучыць шчыра, але лёгкаважка, за гэтым не адчуваецца ўсяго цяжару надзей і расчараванняў, якія гнятуць хлапчука. Да таго ж, верш «Бацьку» моцна псаваў той «канікулярны» настрой, які даваў сябе знаць у зборніку «Маладзік над стэпам»: «Не выйшаў ты і ў гэты раз мяне спаткаць, паднесці рэчы...» Паэт **гасцяваў** у мінулым, а не **ўжываўся** ў мінулае, ён **ўспамінаў** перажыванні дзяцінства, а не **асэнсоўваў** іх з пункту погляду свайго сённяшняга сталага вопыту. Пачаўшы крыху забывацца на тое, як адбываліся падзеі ў сапраўднасці, паэт намаляваў карціну празмерна парадную — за калонай калона — прыходу ў вёску салдат-вызваліцеляў («Калоны ні адной не мог я прапусціць з ахапкам кветак»).

Што датычыць новых твораў Барадуліна пра вайну, дык яны напісаны з такой мерай унутранага, духоўнага набліжэння да матэрыялу, якая з самага пачатку рабіла непатрэбным і спрэс выключала ўсякага роду згладжанасць, усякую спробу «палепшыць» карціну. Жыццё народа на зямлі, нядаўна вызваленай ад захопнікаў, паўстае перад намі ва ўсёй сваёй праўдзе.

«Прыкурвалі салдаты з галавешак, што сёння ноччу сценамі былі». Дзеці лапацяць агароды, «каб леташнюю бульбіну знайсці», а потым матулі пякуць ім «прысмакі» на патэльнях, змазаных стэарынам. З партызанскага атрада бацька прысылае ў кайстры дарагі ласунак — панюшку солі... Што і казаць, карціна цяжкая, але вельмі далёкая ад беспрасветнасці і песімізму. У ёй адчуваеш нязломнасць народа, яго гатоўнасць пераадолець усе выпрабаванні. І яшчэ адчуваеш, чытаючы ваенную нізку Р. Барадуліна, што гэтая трагічная неўладкаванасць быту, адлюстраваная ў вершах, з'яўлялася ў дачыненні да яе героя ступенню росту, незаменным па свайму значэнню этапам чалавечага выспявання.

Ад чаго трэба і нават неабходна, на нашу думку, папярэдзіць Барадуліна, дык гэта ад пагрозы самапаўтарэнняў, ад спакусы прыпомніць **яшчэ адну** падрабязнасць, нанізаць **яшчэ адну** «рэалію» ваеннага быту. Пасля вершаў пра трубу, пра стэарынавую свечку ўспрымаецца як штосьці неабавязковае, дадзенае «звыш праграмы», верш пра жароўню, што палала «трывожнай зарой», намесніцай «сонца ў замаразкі». Але ж аб тым, як вясковыя хлапчукі ладзілі небяспечныя гульні («патроны ў жар паклаўшы, на дроце цябе раскручвалі»), з большай сілай і, галоўнае, з большай мэтазгоднасцю, апавядалася ўжо ў «Палаце мінёраў». Не паддавацца інерцыі, зберагчы энергію і непасрэднасць першага парыву, першага сутыкнення з матэрыялам — задача надзвычай важная для Барадуліна. Здаецца, Генрых Гейнэ выказаў аднойчы такую думку: выдатнага паэта пазнаюць не толькі па тым, што ён піша, а і па тым, што ён выкрэслівае. Барадулін павінен выхаваць у сабе гэтае ўмельства выкрэсліваць нават добрае, яркае, калі яно не вядзе наперад, а толькі паўтарае знойдзенае раней.

Як бы там ні было, цыкл Рыгора Барадуліна пра дзяцінства з'яўляецца цікавай з'явай маладой беларускай паэзіі. Больш таго, ён здаецца з'явай прынцыпова новай, як толькі пачынаеш параўноўваць яго з творамі маладых рускіх паэтаў — равеснікаў Барадуліна.

Там, у творах Р. Раждзественскага, Я. Еўтушэнкі, А. Шасцінскага, мы бачылі гарадскога хлапчука ў эшалоне для эвакуіраваных, у тылавым армейскім шпіталі, на сумным вясковым вяселлі ваеннага часу. Калі нават К. Сіманаў, паэт старэйшага пакалення, шчыра прызнаўся, што толькі вайна пазнаёміла яго з народным жыццём, «со вдовьей слезою и с песнею женскою»», дык што маглі сказаць пра сябе тыя, дзесяцігадовыя?

Людзей барадулінскага ўзросту вайна загартоўвала, фармавала, вучыла нянавісці да ворага, гатоўнасці абараняць родную зямлю, і толькі ад аднаго «абавязку» ў адносінах да сялянскага хлапчука яна была зусім свабодна: ад «абавязку» далучаць гэтага хлапчука да побыту, працы і псіхалогіі народа. Ён змалку быў ужо «далучаны». І калі чытаеш сёння пра першыя мірныя месяцы ў вёсцы на Полаччыне (верш «Цялушка»):



... Жанчына брыдзе,
цялушку вядзе.
Рагуля свеціць
белай залысінкай.
Дзе
пысу цялушцы
змачыць у вадзе?
А да наступнага хутара —
не блізенька...
Рагамі папруквала ў сценку:
Час
Свайго абеду дакладна ведала.
Калі хто, бывала,
заходзіў да нас —
Яна галавою махала
ветліва, —

дык з задавальненнем і радасцю адзначаеш добрую раскаванасць і навізну верша ў гэтым урыўку, багацце жывых назіранняў, што сведчаць аб учэпістай мастакоўскай памяці Барадуліна, і, галоўнае, тую інтымнасць у перадачы штодзённага сялянскага быту, якая даецца толькі «тутэйшаму», толькі «свайму». Новым для нашай паэзіі якраз і была карціна вось гэтага доўгачаканага ранку перамогі, сустрэтага не воінам, не партызанам, а простым вясковым хлапчуком, і не ў нейкіх асаблівых абставінах, а **дома,** у роднай хаце, сярод мноства самых звычайных клопатаў і турбот.

Рыгор Барадулін адчувае сябе надзвычай добра ў блізкай яму стыхіі сялянскага быту і працы, — тут ён, як кажуць, у сваім сядле. Пры ўсім свежым і сапраўды паэтычным, што было ў першай кнізе Барадуліна «Маладзік над стэпам», яна відавочна траціла ў сіле свайго гучання якраз праз той туманок «прыгожай» позы, якую напускаў на сябе паэт: гэтакім сталічным госцем завітваў ён дамоў на канікулы. Старая, як свет, псіхалагічная пазіцыя, звыклыя, пазбаўленыя жывога зместу інтанацыйныя ходы: «Нарэшце я у роднай хаце, тут кожны шорах песціць слых», «мне кожны прыпечак знаёмы і кожны вілачнік сухі...», «па вуліцы, змалку знаёмай, іду я...» і г. д. Пры такой завучанасці ўспрыйманняў, пасіўных і наперад разлічаных нават у вонкавых сваіх формах, адкуль было ўзяцца той маляўнічасці, той свежасці фарбаў, якія складаюць сёння адну з самых прывабных рыс Барадуліна як паэта? Прыхаваная да часу, гэтая маляўнічасць усімі сваімі колерамі зайграла на старонках зборніка «Рунець, красавацъ, налівацца!»

Так, Барадулін настойліва авалодвае майстэрствам пластычнага адлюстравання рэчаіснасці, прычым, як у кожнага сапраўднага паэта, паняцце майстэрства зводзіцца ў яго не да паняцця **тэхнікі,** а да паняцця **вопыту,** які паэт набывае ў рэальным і дзейсным кантакце з жыццём свайго народа. І, вядома, не абстрактным майстэрствам, а іменна вопытам — вопытам пранікнення ў народнае жыццё — можна вытлумачыць удачу Барадуліна ў лепшых творах яго новай кнігі, хаця б у вершы «Скрыпачы».

Тут, у гэтым невялічкім вершы пра звычайных вясковых пільшчыкаў, празваных у жарт скрыпачамі (бо «... піла пад пахаю ў чахле, бы ў футляры скрыпка»), паэту ўдалося данесці народны погляд на працу як на нешта прыгожае ў самай сваёй аснове, як на мастацтва. Штосьці каласаўскае, а значыць і сапраўды дэмакратычнае, ёсць у гэтай паэтызацыі чалавека працы. Выхаваны на традыцыях глыбокай павагі да працоўнага чалавека, Барадулін ніколі б, думаецца, не дазволіў сабе пісаць аб ім з той па сутнасці абразлівай абыякавасцю, якая адчуваецца ў такіх радках Я. Еўтушэнкі: «Все то, что пилит, возит, строит, метет все улицы окрест, ботинки шьет, канавы роет, — всё это утром хаши ест!» (верш «Хашная»). Што за зняважлівая збіральнасць: усё, што... працуе! Не, Барадулін ніколі так не напіша. З вялікай любасцю гаворыць ён пра «дружную скрыпачую капэлу» цесляроў, што «шчырэе з рання да цямна».

Закурыцца—жах зірнуць ажно—
Белай завірухай пілавінне.

10*

Скрыпачы любое бервяно
Абкантуюць, перапалавіняць.

Заўважым, дарэчы, што «зроблена» гэтая страфа надзвычай спраўна. Здаецца, у самым слове «перапалавіняць» — шасціскладовым, падкрэсленым свежай рыфмай і пастаўленым акурат у сярэдзіне радка, — перавярнулася і лягло на месца цяжкае, гаматнае бервяно... Каб «зрабіць» страфу на такім узроўні паэтычнай тэхнікі, Барадуліну трэба было раней разгледзець і як след ацаніць высокую «тэхніку» цесляроў, іх сілу і спрыт, іх сапраўдную артыстычнасць у працы. Наіўная паралель? Магчыма. Хочацца толькі яшчэ раз напомніць, што паэтычнае майстэрства — велічыня вытворная. Ад ведання жыцця, ад умельства паэта **здзіўляцца** свету, прыродзе, добраму чалавеку і яго справам.

Маладым і шчырым **здзіўленнем** прасякнута новая кніжка Р. Барадуліна, і гэта робіць яе кніжкай паэтычнай. У ёй шмат сонца, святла і паветра. Барадулін не ведае гульні ў «філасофію», старэчага мудравання, імкнення **дацягнуцца** да народнага тону і стылю па прыкладу тых вершатворцаў, што бачаць у фальклоры набор пераводных малюнкаў альбо проста ўзор для вучнёўскага вышывання па канве. Барадулін — увесь ва ўладзе **першага** погляду на наваколле, першай і непасрэднай сустрэчы з прыродай. Калі ён піша пра вясну, дык гэта вясна нявыдуманая, жывая, з грукатам, скрыгатам ледаходу, з вясёлымі навальніцамі ды яшчэ з той непараўнанай цішынёй, калі чуеш, як у глушца на такавішчы «б'ецца ў вострых грудзях маленькае сонца веснае». Адным словам, **вясна,** а не пучок засушаных у кнізе блакітных пралесак! А калі мароз, дык воблака белай пары клубіцца над галавой. Асабліва хораша ўдаецца Барадуліну летні пейзаж: сенакос, што крочыць лугамі «ў злінялай кашулі нарасхліст», зялёная хмара матылькоў, «трапёткіх, клейкіх, аднакрылых», гарачая пара жніва, калі здаецца, што ўсё навокал, нават Млечны Шлях у вышыні, зацярушана пылам і соладка пахне хлебам...

Трасянуў сваім чубам — даспелым калоссем,
Падперазаўся вязьмом —
і ў абоз.
Асмужаны, вусам асцістым калоўся
І шлях па іржышчу прамяў
снапавоз.

Гэтыя радкі — не простае апісанне жніва, накшталт тых, што сустракаюцца ў прозе. Гэта — малюнак-перажыванне, карціна-настрой. І рыфма «калоссем — калоўся» спыняе на сабе ўвагу не толькі з прычыны сваёй навізны, а яшчэ і таму, што яна нясе самае неабходнае для паэта, самае важнае для яго як у карціне, так і ў настроі верша. Уражанне такое, — а бярэцца яно ад цэласнасці і паўнаты аўтарскага пачуцця, — быццам само жніво зарыфмавала сябе, падкрэсліўшы найбольш характэрнае ў сваім абліччы.

Дарэчы, пра барадулінскія рыфмы. Як правіла, яны вельмі свежыя і нечаканыя, што сведчыць, па-першае, аб лексічным багацці маладога паэта, а па-другое, аб яго імкненні адшукваць новыя адценні ў родным слове. У лепшых вершах Барадуліна, там, дзе разгортваецца ясная і вынашаная паэтычная думка, рыфма з'яўляецца носьбітам гэтай думкі, тым пунктам, які збірае, нібы ў фокусе, заключаныя ў думцы супрацьстаўленне, кантраст ці, наадварот, блізкасць і падабенства сумежных паняццяў. Перад намі добры ўзор **асэнсаванага** пошуку формы, і пошуку тым больш плённага, што ў нашай маладой паэзіі (ды і не толькі маладой) назіраюцца яшчэ часам — чаго таіць грахі! — тэндэнцыі вярнуцца да ўзроўню паэтычнай культуры часоў... Дуніна-Марцінкевіча.

Вось адна з характэрных для Барадуліна рыфм: «банцікі — бацькавых». Яна ўзята з верша «Калі пачнуць ад дахаў цені класціся...» — пра дзяўчынак-шасцікласніц, якіх старэйшыя сёстры не ўзялі з сабой на танцы і якім толькі і засталося, у парадку, як кажуць, самадзейнасці, на вуліцы каля хаты развучваць «факстрота хітры крок». Мілыя, ціхія радасці юнацтва! Зрэшты, паслухаем лепш паэта:



Дрыжаць, як матылькі, на косах банцікі.
І не ступаюць штосьці ногі ў лад.
А аднакласнікі у кепках бацькавых
Звысоку пазіраюць на дзяўчат.

Тут, у гэтым чатырохрадкоўі, як і ва ўсім вершы (праўда, крыху сапсаваным у канцы рыцарамі і разбойнікамі, пра якіх зусім не па-сучаснаму марацъ дзяўчаты), праявілася добрая здатнасць паэта раскрыць «чужую» душу, зразумець «староннягa» чалавека, яго «здаровая сімпатыя да ўсяго жывога» (Бялінскі). Не будзем, аднак, гаварыць шмат на гэтую тэму, — нас цікавіць рыфма паэта, у прыватнасці рыфма «банцікі — бацькавых». У ёй рэалізаваўся адзін з «падспудных», затоеных матываў верша: натуральная — бо матывавана ўзростам, смешная — бо праз год-два ад яе і следу не застанецца, калючая непрымірымасць хлапчука да «несур'ёзнасці» аднакласніц. І, глядзіце, у самой рыфме, у фанетычнай яе кантраснасці, **бацькава,** «мужчынская» кепка насміхаецца з лёгкадумнага нейкага **банціка** дзяўчыны.

У другім вершы Барадуліна «Саганы» (адзначым мімаходзь, што ён не належыць да лепшых твораў паэта) мы сустракаем рыфму «печанегі — пачарнелі», і яна замяніла нам нудныя апісанні таго, як вандравалі ў мінулым шукальнікі шчасця, перасяленцы з беларускіх вёсак. Яшчэ ў адным вершы («Першы навасёл»), пра гарадок полацкіх нафтабудаўнікоў, Барадулін ужывае такія рыфмы, як «расчынены — рашчынаю», «мяккаю — замяўкаюць», і мы, вымаўляючы іх, нібыта самі пераносімся ў атмасферу быту навасельцаў, што толькі пачынае складвацца і абжывацца. У трэцім вершы («Амерыка»), нрысвечаным далёкаму мінуламу, паэт рыфмуе «гібелі-губерні», і сэнс такога сугучча, спадзяемся, дойдзе да кожнага без усякіх тлумачэнняў.

Аддаючы перавагу рыфме «слыхавой», а не «зрокавай» і графічнай, Барадулін звяртае асаблівую ўвагу не на супадзенне канцавых гукаў, а на пераклічку ўсяго гукавога комплексу, што стаіць налева ад націску, і ў першую чаргу на апорную зычную («пашанай — паўшар'і», «корпаўся — корпуса», «трапечацца — трапецыях», «абручамі — дубраўчане» і г. д.). Арыентуючыся на жывое вымаўленне слова, пры якім нярэдка праглынаюцца і знікаюць асобныя склады, Барадулін рыфмуе рознаскладовыя словы, як напрыклад, «старым — стэарын», «дачакаць — дачка» (у Маякоўскага: «узко — музыка», «тронуту — фронту».)

З пошукамі рыфмы, з пошукамі свядомымі і адначасова пазбаўленымі сумнай рацыяналістычнай разлічанасці, цесна звязана і сінтаксічная раскаванасць вершаў Барадуліна. Паэту, які не хоча рыфмаваць дзеясловы альбо назоўнікі ў адным і тым-жа склоне, натуральна прыходзіцца шукаць і новыя сінтаксічныя сувязі, яшчэ не замацаваныя ў «гатовых» рытмічных ходах. І тады паяўляюцца строфы, якія не могуць не запомніцца, іменна дзякуючы сваёй інтанацыйнай свабодзе і натуральнасці гучання, строфы, накшталт такіх:

У сенцах стаяла цялушка.
Сцяна
Нас раздзяляла
з рахманай Лысоняю.
Мы чулі,
як дыхала цёпла яна,
Як жвачку жавала,
ціхая, сонная...
У холад Лысоню ўкрывалі
Рудой
Пасцілкай,
дачушку — аўчынкай мяккаю...

Пошукі Барадуліным формы не робяць (за некаторымі выключэннямі, гаворка пра што пойдзе ніжэй) уражання штучнага, кніжнага эксперыменту, таму што зыходзяць яны з адчування жывой мовы народа і вельмі моцна абапіраюцца на паэтычныя прынцыпы фальклору. Глыбока памы-

ляюцца тыя, хто, жадаючы апраўдаць бедную, зацяганую рыфму ў вершах таго ці іншага паэта, атэстуюць яе як рыфму «па народнаму простую». Не такая ўжо і «простая» рыфма «ласкавая — палясківала» ў шырока вядомай «Лявонісе»! А такіх сугуччаў — комплексных, «слыхавых» — у фальклоры вельмі і вельмі багата.

Пытанне аб рыфме ў сувязі з размовай пра творчасць Р. Барадуліна — пытанне прыватнае, можа, нават другараднае. Гэта размова мае на ўвазе перш за ўсё паўнату і багацце жыццёвага зместу, актыўнасць аўтарскага светаадчування, якія ніколі не задавальняюцца формай бязладнай, расхлябанай, млявай, бо знаюць сапраўдную цану слову важкаму, выбранаму беспамылкова сярод многіх слоў.

Ці знойдзецца хоць адзін чалавек, больш альбо менш чулы да паэзіі, якога б не праняла да душы вось гэтая старая, складзеная ў часы прыгону беларуская народная песня:

Я табун сцерагу, а ўсе людзі спяць,
Я адзін па расе, абмакрэў, абкалеў,
Адубеў, перамёрз, ой...

Не, што там ні кажы, а выдатным паэтам быў той невядомы вясковы хлопец пры табуне! Перажыванне вельмі значнае, інтуіцыя, амаль геніяльная, падказалі яму разгарнуць ланцужок сінонімаў: абмакрэў, абкалеў, адубеў, перамёрз, каб нечакана і на самай высокай ноце рэзка яго абарваць стогнам пякучага болю: ой...

Рыгор Барадулін многае ўзяў з фальклору. Ён — добра эрудыраваны ў фальклоры чалавек: урыўкі з народных песень, яшчэ не запісаных ні адным фальклырыстам, выкарыстаны ім як эпіграфы да вершаў. «Чутная», «слыхавая» рыфма, што ўцягвае ў поле свайго гучання вельмі шырокі гукавы комплекс, мае шмат блізкага з рыфмай у прымаўцы і частушцы. І самае важнае, Барадулін імкнецца так падыходзіць да работы над вершам, каб у кожным яго слове люстраваўся рэальны свет: людзі, рэчы, птушкі, ліўні, як у песні «Я табун сцерагу» люструюцца коні, поле, раса і абмакрэўшы, скалелы чалавек. Аднак люструюцца яны ў песні не проста, а вельмі апасродкавана, **праз самога чалавека, праз яго ўспрыйманне, пачуцці і думкі.** І вось тут варта пачаць гаворку ўжо не пра станоўчыя якасці Барадуліна як паэта, а пра асобныя яго недахопы, пра асобныя хібы яго творчасці. Некаторыя з гэтых недахопаў з'яўляюцца як бы працягам барадулінскіх добрых якасцей, і, паколькі ляжаць яны даволі блізка, на самай паверхні, распазнаць гэтыя недахопы вельмі лёгка.

Чытаем «Баладу аб клянах» з такім эпіграфам: «У час адной з боек з каланізатарамі індзейцы ў Канадзе ссеклі кляны і, засланяючыся імі, рушылі ў наступ на захопнікаў»:

Чужынцаў цяжкія боты
Дратуюць зямлю Канады.
Заліў узаралі боты,
Громам грыміць кананада.
Страле быць заўжды тугою —
Саперніцай бліскавіцы!
Усё апавіта тугою,
Арлы пачалі блізка віцца...

З першых жа радкоў верш выклікае пачуццё незадаволенасці, і яшчэ не разбіраючыся ў прычынах гэтага пачуцця, пачынаем прыглядвацца да рыфм. Ага, дык ён увесь, да апошняга радка, пабудаваны на рыфмах-амонімах («боты — боты», «справа — справа», «чара — чара») і на складаных, састаўных рыфмах («бліскавіцы — блізка віцца», «гне вам — гневам» і г. д.)! І вось трымаеш перад сабой баладу і не адчуваеш колькі-небудзь сур'ёзных ведаў паэта пра падзеі, якія ён апісвае, арганічнай, вынашанай патрэбы сказаць пра гэтыя падзеі сваё ўласнае слова. Пошук абясцэніўся, страціў свой сэнс, бо вядзецца ён не дзеля **рэальнага** зместу твора, а ў



абход яго, бо з'яўляецца ён не вынікам паэтычнай думкі, а толькі «налёпкай» на думку, чымсьці накшталт «архітэктурнай празмернасці» ў літаратуры.

Магчыма, знойдуцца людзі, якія паспрабуюць абвінавачваць Барадуліна ў штукарстве, у фармалізме і г. д. Справа не ў фармалізме. Проста маладому паэту, які адчуў сваю сілу над словам, карціць раз-пораз пазабаўляцца гэтай сілай, трохі пахваліцца ёю. Але, як бы там ні было, Барадуліну трэба пераадолець у сабе гэту тэндэнцыю да слоўнай гульні, тэндэнцыю, якая выявілася не толькі ў «Баладзе аб клянах», а і ў некаторых іншых творах, скажам, у вершы «Сталасці пара», настолькі «перагушчаным» алітэрацыяй, што ў нашых вачах літаральна пачынае мільгацець ад усемагчымых «калёных кленаў» і «рабых рабін», «ясных ясеняў» і «вязкіх вязаў», «крушаных крушын» і «ёлкіх ёлак». Ашчаднасці, больш ашчаднасці хочацца пажадаць маладому паэту, адбору дэталі, якая «працуе», ад гультаяватай дэталі, адбору падрабязнасці, якая рухае верш наперад, ад «гучнай» альбо «прыгожай» бразготкі.

«Вышэйшай інстанцыяй», што накіроўвае і кантралюе менавіта такі адбор, з'яўляецца лірычная думка паэта, яе адпаведнасць праўдзе аб'ектыўнага свету і праўдзе перажывання. У раней цытаванай народнай песні ўнутраны псіхалагічны стан маладога пастуха выявіўся са здзіўляючай паўнатой якраз таму, што ўсе падрабязнасці верша «намагнічаны» перажываннем хлопца. І хоць кожная з гэтых падрабязнасцей сама па сабе з'яўляецца добрай паэтычнай знаходкай, песня ў цэлым не робіць уражання простага збору «знаходак», механічнага спалучэння вобразаў, бо ў ёй паслядоўна, з радка ў радок, развіваецца адзіная лірычная думка, прысутнічае цэласнае светаадчуванне.

У Барадуліна мы назіраем такое: побач з вершамі, трывала сцэментаванымі адзінствам аўтарскага светаадчування, багатымі на жывы чалавечы змест («Палата мінёраў», «Труба», «Скрыпачы», «Пах палыновы»), сустракаюцца вершы, яшчэ не прасветленыя істотнай, напружанай лірычнай думкай, вершы без унутранага руху, вершы, дзе кожная дэталь існуе сама па сабе, па-за сувяззю з цэлым. Трэба сказаць, што і гэтыя вершы напісаны свежа і сакавіта, у іх вельмі густая «фактура» і даволі маляўнічыя падрабязнасці. Але пазбаўленыя выразнай мэтаімкнёнасці, слаба арганізаваныя ў кампазіцыйным сэнсе, яны пакідаюць уражанне нейкіх папяровых эцюдаў да карціны, якую паэт збіраецца і ніяк не збярэцца намаляваць.

Возьмем хоць бы «Вятрак». Добра напісаны, багата аснашчаны, тонка інструментаваны верш! Пра стары вясковы вятрак тут сказана:

Зерне трушчыў да цямна.
Хмару браў пад паху, —
Азалелая, яна
Навальніцай пахла.

Вобразна, ярка? Безумоўна. Але аддаючы належнае кожнаму вобразу паасобку, ацаніўшы рытмічнае майстэрства паэта, мы ніяк не можам сабе ўцяміць, якой задачы вышэйшага, **сэнсавага** парадку падпарадкаваны і гэтая вобразнасць і гэтае майстэрства. Чый чалавечы вопыт выявіўся ў вершы? І што ў ім — радаснае ўслаўленне сельскай індустрыі, якая адмаўляе старую паэзію ветракоў, ці, наадварот, элегічнае шкадаванне аб тым, што «пазарастала быллём да кола дарожка крывая»? Уважліва прачытаўшы верш, бачыш, што пераважае ў ім якраз другі, элегічны матыў. І тады міжволі ўзнікае пытанне: на які псіхалагічны, жыццёвы вопыт можа абапірацца ў людзей барадулінскага ўзросту вось гэты элегічны смутак па былым ветраковым «размаху»? **Іншая** біяграфія **іншага** чалавека тоіцца за гэтым смуткам, і незразумела, навошта маладому таленавітаму паэту, які так добра ўмее гаварыць пра **сваё**, пра сябе і сваіх равеснікаў, «пераўвасабляцца», ды яшчэ для таго, каб выявіць пачуццё, мякка кажучы, не зусім новае, ва ўсякім разе, неарганічнае для самога сябе.

Нагадаем яшчэ адзін верш — «Соль». Як і «Вятрак», ён напісаны

на значным паэтычным узроўні — вынаходліва, з мноствам асацыяцый... У стэпе пад адкрытым небам чумакуюць чумакі і сярод іх прадзед паэта, што «зарабляў курам на соль». «Валамі ехала са стэпаў на стол да сопкай бульбы соль». Бацька, прыходзячы на пабыўку з атрада, «для ўсіх на місе суп саліў» і ласкава папярэджваў сына: «Ты не перасалі, сынок!..» Адным словам, аўтар прадэманстраваў цэлы набор асацыяцый і ўспамінаў, звязаных з соллю, але даць яму рады ніяк не мог і, каб неяк закончыць верш, вырашыў «закругліцца» пры дапамозе каламбурна пераасэнсаванай бытавой інтанацыі:

Калі насоляць мне парою, —
Хачу зрабіць паспешны крок,
Ды чую раптам за спіною:
«Ты не перасалі,
сынок!»

І дзеля гэтага каламбура, дарэчы, вельмі няяснага па сэнсу, бо чытач так і не ведае, хто і чаму намерыўся «насаліць» паэту, трэба было турбаваць прадзеда, чумакоў і нават Млечны Шлях, празваны чумацкім? І гэты барадулінскі верш напісаны непрадумана, без удзелу лірычнай думкі, як непрадумана напісаны і некаторыя пейзажныя вершы, такія, як «Свінуха», «Пціч», вельмі свежыя і каларытныя ў дэталях, але пазбаўленыя ўнутранага развіцця, эмацыянальнага руху. У іх ёсць багата **назірання** над светам, але мала **асэнсавання** свету. Яны маляўнічыя, але маляўнічасць іх «самацэнная», не мэтанакіраваная.

Часам пачынае здавацца, што Барадулін губляе з поля свайго зроку блізкага яму героя, хлопчыка з «Палаты мінёраў». І гэта засмучае. Папершае, таму, што мы палюбілі мілага і трохі трагічнага таго «мінёра». А па-другое, — і гэта ўяўляецца нам самым важным, — толькі ідучы крок у крок з «мінёрам» і «трубачом», з маладым машыністам, пра якога мы ўспаміналі ў пачатку гэтых нататак, з усім сваім пакаленнем, Рыгор Барадулін здолее падняцца на якасна новую ступень, знітаваць усё, што дорага яго сэрцу ў роднай прыродзе, усё, чым хвалюе і вабіць бацькоўская хата, з тым агромністым, новым, што адбываецца ў свеце, у сэрцах і думках свайго сучасніка.

Неабходнасць такога пераключэння на шырокую **грамадзянскую** тэму нашых дзён усё больш і больш усведамляецца Барадуліным, і гэта заўважыць кожны, хто прачытаў зборнік «Рунець, красаваць, наліваццa!». Побач з вершамі, напісанымі пра тое, што паэт **бачыць,** усё часцей з'яўляюцца вершы пра тое, што паэт **ведае.** Вобраз-карціна дапаўняецца вобразам-думкай. Пейзаж пачынае не выціскацца гісторыяй, а ўзбагачацца ёю. Так быў напісаны верш пра хлапцоў «нараджэння сорак першага года», што «стаць павінны на ўлік вайсковы». Так узнікла задума сатырычнага верша «Пра шырспажыў і спадарожнік», накіраванага супраць сённяшняга, «мадэрнізаванага» мяшчанства, верша, у якім неспадзявана загучэлі нязвыклыя для Барадуліна «маякоўскія» інтанацыі:

Паставяць ракеты
Слупамі ў струну.
Ды месяц закруцяць
вар'яцкаю коскаю.
І будзе цяжка ракеце скрануць
Адну
мяшчанскую
сілу конскую.

Так, нарэшце, быў створаны цудоўны верш «Амерыка», пра тое, як калісьці «слугач, што неяк выбіўся ў падпанкі», «рашыў назваць Амерыкаю вёску» на Шклоўшчыне. І гэты верш сведчыць аб пашырэнні творчых магчымасцей паэта. Ён напісаны ў новым для Барадуліна стылі іранічнага апавядання:

Патрэбна ж справіць помаз — не спасніцца,
Патрэбны грошы — грошыкаў нямаш.



Спяваюць колы, бразгаюць мазніцы —
Амерыканцы
едуць на кірмаш.
Кій на плячах — на ім з палуднем торбу
Трымаюць, каб лягчэй было каню...

Карацей кажучы, Барадулін імкнецца выйсці на прастор **гістарычнай** тэмы, гістарычнай не ў тым сэнсе, што яна скіравана ў мінулае, а якраз у сэнсе сваёй арганічнай знітаванасці з сённяшнім днём, як **этапам** і ступенню ў гістарычным быцці народа. І найбольш удаюцца паэту тыя вершы, дзе пераход ад першых дзіцячых уражанняў да шырокіх абагульненняў зроблены пераканальна, у рамках жывога чалавечага пачуцця. Вось, напрыклад, верш «Калыска». У ім вельмі наглядна пераключаецца «сваё», «хатняе» ў «сусветнае» і нават касмічнае. Грандыёзны вобраз Зямлі, «абгароджанай Карпатамі і спавітай у Гімалаі», не проста суседнічае, а паэтычна ўзаемадзейнічае з карцінай «сваёй», «абжытай» зямлі: «Там жаўрук кроплю сонца гарачую аж да восені студзіць у горле», «жараб цягне траўку хрумсткую, і, малога, ў бакі хістае». Ёсць у вершы «Калыска» адзін цэнтральны вобраз, які злучае Зямлю і зямлю, мінулае з будучым, маленства са сталасцю. Гэта — вобраз шурпатых, спрацаваных матчыных рук, што «...першымі ад зямлі нас паднялі ўгору: Глянь, сыночак, стагі завершаны... Глянь, плывуць жураві над борам...»

Аднак трапляюцца ў Барадуліна і такія вершы, дзе пераключэнне з «малога» свету ў свет «вялікі» ажыццяўляецца вонкава, павярхоўна, часцей за ўсё пры дапамозе «касмічнай» прыпіскі ў канцы твора.

«І мы, сыны, унукі пастушкоў, сягоння смела ўрэзаліся ў космас»,— так заканчваецца вельмі традыцыйны верш «Паразбрыліся гусі па ніўю», пра малых вясковых пастушкоў. «На сталых крыгах, на далёкім Марсе сагрэюць нас начлежныя кастры», — гэтымі радкамі заканчваецца яшчэ адзін верш («Начлег»), і таксама пра пастушкоў.

Можна адзначыць аднастайную (пад заслону!), завучаную рытарычнасць гэтых канцовак. Але, думаецца, што асноўны пралік Барадуліна заключаецца ў іншым. На наш погляд, ён заключаецца ў тым, што паэт тут вынес гістарычную думку, ідэю пераўтварэння свету ў заключную, медытатыўную частку верша, а частку ўласна-вобразную, сюжэтную пабудаваў на матэрыяле нязменна-традыцыйным. Барадулінскі пастушок «выключаны» з гісторыі, з пэўнага, грамадска-канкрэтнага асяроддзя. ён—фігура ўмоўная, бесцялеснае ўвасабленне дзяцінства **наогул.** Як у сэнсе сацыяльнага абагульнення, так і ў сэнсе сваёй чалавечай непасрэднасці гэты вобраз стаіць невымерна ніжэй за таго ж «мінёра», што спяваў «Арлёнка» ў прапахлым порахам і марганцоўкай раённым шпіталі, альбо за таго «трубача», што атрымаў у падарунак ад байца-вызваліцеля трафейную нямецкую трубу...

А між тым, ён вырас, гэты «трубач», ён працуе і вучыцца, слава аб ім грыміць па ўсёй краіне, і ніяк не можна, каб шляхі паэта разышліся з яго шляхамі. Барадулін гэта разумее, і адначасова з вершамі пра хлапчукоў ваеннай пары ён піша паэтычную нізку пра будаўнікоў Полацка і Бярозы. Героі растуць, і біяграфія паэта ідзе наперад!

Рыгор Барадулін не хоча стаяць у баку ад **спраў** свайго пакалення. Раней, чым напісаць цыкл цалінных вершаў (з кнігі «Маладзік над стэпам»), ён сам пабываў на цаліне, сам папрацаваў на таку, сам увіхаўся каля пагрузчыка «шумнай пшаніцы». Тое, што мы чытаем у новых вершах паэта пра беларускія новабудоўлі, — таксама вынік яго неаднаразовых паездак на Полацкі нафтабуд і Бярозаўскую ДРЭС. Не ўсе вершы, прывезеныя з гэтых паездак, аднолькава ўдаліся паэту, але ўсе яны сведчаць аб сапраўды наватарскім пошуку Барадуліна, які раней за іншых нашых паэтаў вырашыў асвоіць самы «гарачы», самы надзённы матэрыял сучаснасці.

Новыя вершы Барадуліна густа заселены людзьмі розных прафесій. Мы бачым у іх верхалаза, землеўпарадчыка, багермайстра, муляра. Не скажам, каб кожны з гэтых герояў барадулінскай нізкі быў рэзка акрэ-

сленай фігурай, а тым больш, закончаным псіхалагічным характарам, ды і наўрад ці гэтага можна патрабаваць ад паэта. Сама прырода невялікага лірычнага верша абмяжоўвала яго ў сэнсе знешняга ахопу падзей і псіхалагічнага паглыблення ў характары герояў.

І ўсё ж Рыгор Барадулін здолеў паказаць агульны ўздым, веснавую аптымістычную атмасферу вялікай новабудоўлі, а ў асобных вершах — і некаторыя характэрныя рысы маладога рабочага нашых дзён. Сярод гэтых вершаў вылучаецца ў першую чаргу «Інтэгралы на цэгле», прысвечаны брыгадзе муляроў Нафтабуда, студэнтам вячэрняга тэхнікума. Назіральнасць Барадуліна, яго ўважлівасць да жыццёвых «дробязей» дазволілі яму адзначыць такое, міма чаго напэўна прайшоў бы паэт, схільны бачыць у жыцці толькі абстрактную «сутнасць», абыякавы да непаўторных пахаў і колераў рэчаіснасці.

Сінія веснавыя аблокі над свежай сцяной, распісанай трохкутнікамі і трапецыямі. Мітуслівы матылёк на касынцы ў дзяўчыны і ломкія грыфелі карандашоў, што зразаюцца на шурпатых цаглінах. Басавіты гром, які, нібыта прараб, раскручвае рулетку маланак, і забытыя недзе на самым нізе, на першых метрах сцяны,ураўненні з двума невядомымі... Кожная з гэтых дэталей мае сваю чароўнасць, свой «дажджавы», весновы водар, але карціна ў цэлым паўстае толькі з узаемадзейнічання ўсіх дэталей, прычым карціна наскрозь лірычная, прасякнутая роздумам аб чалавечым росце будаўнікоў. І калі аўтар гаворыць у адным месцы свайго верша: «Пашыраецца гарызонт... Можна тут і узровень вывераць», дык мы разумеем, што гаворка ідзе не толькі пра тыя фізічныя далягляды, якія раскрываюцца чалавеку з вышыні, але і пра далягляды духоўныя, пра ўзровень інтэлектуальны...

Новай нізкай пра Полацк і Бярозу Барадулін зрабіў значны крок наперад у сваёй творчасці. Гэта нізка — цікавая і прынцыповая ўдача нашай маладой паэзіі, і менавіта таму не варта замоўчваць і тыя недахопы, пасляховае пераадоленне якіх будзе мець немалое і, мабыць, таксама прынцыповае значэнне для маладой беларускай паэзіі ў цэлым.

Малады вершатворца ад'язджае на будаўніцтва завода альбо электрастанцыі. Пытаешся: «Што ты мяркуеш прывезці з паездкі?» На гэтае пытанне большасць паэтаў адказвае амаль стандартна: «Лірычны рэпартаж». Прызнацца, нас злёгку бянтэжыць незвычайнае жанравае вызначэнне. Лірычны рэпартаж — сапраўды, як гэта зразумець? Толькі пазней, прачытаўшы ў часопісу альбо газеце надрукаваны твор, пачынаеш паступова разбірацца, што да чаго. Ага, дык гэта ж проста «прыгожы» манеўр паэта, разлічаны на тое, каб неяк аблегчыць сабе задачу! Напішаш паэму, будуць патрабаваць характараў і сюжэту, прывязеш лірычны верш, скажуць: навошта твае перажыванні, давай будаўніцтва! А так, ні верш, ні паэма, ні нарыс, ні лірыка, а нешта сярэдняе: нарыс, дапоўнены лірыкай, свабодная, адным словам, форма...

Лёгка заўважыць, што мы трохі спрашчаем пытанне аб «лірычным рэпартажы», трохі перабольшваем сваю «разгубленасць» у сувязі з яго пашырэннем, аднак робім гэта зусім свядома, жадаючы давесці, што — неакрэсленасць і няяснасць жанра з'яўляецца адначасова няяснасцю падыходу паэта да тэмы. Паэт, які добра ведае, **чаго** ён хоча, і ўмее пасапраўднаму бачыць і аналізаваць жыццёвыя з'явы, ніколі не будзе шукаць паратунку ў эклектычным спалучэнні жанравых форм, драбніць карціну рэчаіснасці, «спалучаць» лірыку з нарысам, пейзаж з будаўніцтвам, а настойліва дамагацца іх сінтэзу ці, як гаварыў У. Лугаўской, «адзінай плыні лірыка-філасофскага адчування свету».

На барадулінскай нізцы аб новабудоўлях рэспублікі ляжыць выразны адбітак «лірыка-рэпартажнага» падыходу да тэмы. Усё, што ёсць жывога, маляўнічага, эмацыянальнага ў гэтай нізцы, звязана не столькі з будаўніцтвам, з яго людзьмі, колькі з прыродай. Прысвечаны Бярозаўскай ДРЭС верш «Зорны ўступ» з'яўляецца ад пачатку да канца пейзажным. «Балацявінай цёплаю цялёпкаюць цыбатыя буслы» (дарэчы, якая непатрэбная перанасычанасць гукапісу!), жабы «дудзяць, нібы ў пустыя гарлачы», «свіргочуць кнігаўкі, канаюць кані». «вечары яшчэ мычаць каровамі», — і толькі ў самым канцы верша два рытарычныя радкі пра тое, што павінна было стаць, але, на жаль, не стала **сутнасцю** верша:

Тут пішуць камсамольцы кнігу зорную
І назва ёй — «Бярозаўская ДРЭС».

Канешне, цяжка (бо нязвыкла і нова ў эстэтычным сэнсе) апаэтызаваць кантрольнага майстра ў яго непасрэднай працы; куды лягчэй напісаць аб ім, як аб **паэце,** калі ён, «глушцоў павязаўшы рыфмамі, спешна крочыць у шматтыражку». Нялёгка таксама знайсці паэзію ў дзелавой вытворчай нарадзе будаўнікоў; куды прасцей «абыграць» такую нараду зноў жа ў пейзажным вершы: «Сарока стракатала машыністкаю, нібыта друкавала пратакол з паседжання пракуранага, позняга...» Відаць, для таго і было прыдумана вызначэнне «лірычны рэпартаж», каб неяк апраўдаць падобнага роду лёгкасць, зрабіць яе жанравай катэгорыяй, і вельмі хацелася б, каб гэта лёгкасць не спакушала такога таленавітага паэта, як Рыгор Барадулін.

Сама па сабе практыка камуністычнага будаўніцтва і шырокае кола непасрэдна звязаных з ёю праблем грамадскага, выхаваўчага, маральнаэтычнага парадку павінны стаць вытокам творчасці як у эпасе, так і ў лірыцы. Малады рабочы нашых дзён, ударнік з брыгад камуністычнай працы, ідзе да станка, бярэцца за рычагі машыны дзеля таго, каб зрабіць лёгкім і радасным жыццё для ўсіх. Ён адказвае за будучыню, і наша паэзія павінна стаяць на ўзроўні гэтай адказнасці. «Шмат працы на зямлі землеўпарадчыку», піша Барадулін пра маладога рабочага. Правільная, слушная думка, але, на жаль, яна толькі дэкларавана паэтам, а не раскрыта ва ўсім багацці яе «сённяшняга» чалавечага зместу.

...Дзе, па якім маршруце вядзе свой паравоз у гэтыя хвіліны наш добры знаёмы, той малады машыніст, пра якога мы расказалі ў пачатку артыкула? Ён у дарозе, у шырокай і зорнай дарозе да будучыні. Не адставаць ад таварыша, дапамагаць яму песняй, выказаць у слове ўсё, чым ён жыве, што думае і адчувае, — самая неадкладная і пачэсная задача нашай маладой паэзіі ў цэлым і ў прыватнасці аднаго з самых яркіх і таленавітых прадстаўнікоў яе — Рыгора Барадуліна.

# Спорт



# ЮНАЦТВА СПАРТЫЎНАЕ

**Аб фізічным выхаванні школьнікаў**

Спартакіяды школьнікаў рэспублікі становяцца традыцыяй. Яны садзейнічаюць і росту спартыўнага майстэрства і паляпшэнню ўсёй работы па фізічнаму выхаванню падлеткаў.

XV Усебеларуская спартакіяда школьнікаў сёлета праводзілася па чатырнаццаці відах спорту: баскетболу, валейболу, веласіпеду, воднаму пола, гімнастыцы, веславанню, лёгкай атлетыцы, плаванню, скачках у ваду, стралковаму спорту, тэнісу, настольнаму тэнісу, футболу і шахматах. Удзельнікам спартакіяды былі прадастаўлены лепшыя стадыёны, спартыўныя збудаванні, водныя басейны Мінска, Маладзечна і Гомеля.

У спартакіядах ўдзельнічала звыш 800 тысяч школьнікаў. Спартыўныя разрады выканалі звыш 30 тысяч чалавек. Перакрыта восем рэспубліканскіх рэкордаў.

Спартакіяда памагла выявіць шмат праблем і пытанняў, паспяховае вырашэнне якіх дазволіць палепшыць фізічнае выхаванне ў школах рэспублікі.

Нядзеля. Цёплы летні дзень. На небе—ні хмурынкі. Здаецца, сама прырода спрыяе спартыўнаму юнацтву.

Грымнуў духавы аркестр. На Мінскім стадыёне «Дынама» выстраіліся калоны фізкультурнікаў. Пачалася хвалюючая мінута ўрачыстага адкрыцця спартакіяды—рапарты, прывітанне, узняцце сцяга, уручэнне кветак спартсменам. Я абвёў позіркам трыбуны. На іх было ўсяго некалькі сот балельшчыкаў. Стала неяк няёмка і нават крыўдна.

Чым растлумачыць абыякавасць да такога вялікага спартыўнага свята школьнікаў? Адказ тут просты. Арганізатары спартакіяды не паклапаціліся, каб запрасіць на яе ўрачыстае адкрыццё мінчан, бацькоў спартсменаў, настаўнікаў, вучняў. Гэта можна было зрабіць праз газеты, радыё, тэлебачанне.

Вядома, што пры пустых трыбунах не вельмі цікава выступаць. Калі на спаборніцтвах прысутнічае многа балельшчыкаў, у спартсменаў паяўляецца спартыўны азарт, павышаюцца паказчыкі. Ды такім чынам вядзецца і прапаганда спорту.

...Калона за калонай праходзяць па стадыёну зборныя каманды юных спартсменаў. Кожная з іх па-свойму прыгожая, з густам афармленая. З прыемнасцю глядзіш на загарэлыя твары, на стройныя постаці. Але ўсё ж урачысты парад пакідае пачуццё нездавальнення. Прыглядаешся і заўважаеш: спартсмены не ўмеюць стройна, чотка ісці, ім бракуе падцягнутасці, выпраўкі, спартыўнай прыгажосці.

Ці можна гэтую віну ўскласці на людзей, якія рыхтавалі каманды да спартакіяды? Вядома, не. Нельга было за кароткі час нагнаць тое, што не зроблена за многія гады.

Пачынаць трэба з таго дня, калі дзіця ўпершыню пераступіць парог школы. Фізічнае выхаванне школьнікаў праводзіцца на працягу ўсёй вучобы ў школе. Вядома, што за дзесяць або адзінаццаць год можна зрабіць вельмі многа, каб вучань палюбіў спорт, навучыўся прыгожа хадзіць, стаў спартсменам і, самае галоўнае, быў здаровым, фізічна развітым чалавекам.

Для гэтага патрэбны пэўныя ўмовы. Па-першае, трэба, каб самі настаўнікі любілі спорт, каб яны лічылі фізкультуру неад'емнай часткай выхавання ўсебакова развітай асобы; падругое, для развіцця фізічнай культуры, спорту неабходна і пэўная база.

Усё сказанае само па сабе можа і не новае. Аб фізічным выхаванні школьнікаў не першы год і даволі многа гаворыцца. Тое-сёе за апошні час зроблена Міністэрствам вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі і Міністэрствам асветы сумесна са спартыўнай грамадскасцю і камсамолам. Штогод павялічваецца набор у Беларускі дзяржаўны інстытут фізкультуры, праводзіцца павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў фізічнага выхавання пры абласных інстытутах удасканалення настаўнікаў. Але гэтыя меры не далі пакуль жаданых вынікаў.

Цяпер у школах рэспублікі пакуль што толькі невялікая частка выкладчыкаў мае адпаведную спецыяльную адукацыю. Нямала яшчэ ёсць настаўнікаў і кіраўнікоў школ, якія лічаць фізкультуру другарадным справай, нейкай абавязковай нагрузкай.

Найбольш запушчана выкладанне фізкультуры ў пачатковых школах, і ў першую чаргу ў сельскіх. Часта бывае так, што настаўнік выведзе дзяцей на двор, дазволіць ім крыху пагуляць, павесяліцца, пабегаць, паскакаць (вядома, як хто хоча), і на гэтым урок фізічнага выхавання заканчваецца. І так праз усе гады. Атрымліваецца, што з першых год навучання школьніку не прывіваюць ні густу да дзіцячых гульняў, ні любві да спорту. Зусім мала робіцца для таго, каб загартоўваць арганізм вучня, умацоўваць яго здароўе.



**Першаразраднік-гімнаст Саша Краўчук — вучань сёмага класа 23 школы г. Мінска.**

Было б, вядома, няправільна сцвярджаць, што такое становішча ва ўсіх сельскіх школах. Ёсць пачатковыя школы і класы, у якіх працуюць настаўнікі з вышэйшай адукацыяй. Вызначаюцца добрай падрыхтоўкай і настаўнікі, якія закончылі педагагічныя вучылішчы. Але трэба сказаць, што сярод настаўнікаў пачатковых школ ёсць і такія, якія па свайму ўзросту, па стану здароўя і таму, што не падрыхтаваны, не могуць весці ўрокі фізкультуры. Выйсці з такога становішча, палепшыць фізічнае выхаванне ў пачатковых класах, справа вельмі складаная. Тут настаўнікам павінны прыйсці на дапамогу інспектура, метадысты, педагогі суседніх сярэдніх школ.

Думаецца, што пытанне з кадрамі па фізічнаму выхаванню хоць і цяжкае, але яго можна вырашыць. Неабходна з году ў год павялічваць набор і на стацыянар і на завочныя аддзяленні ў інстытут фізкультуры.

Інстытут рыхтуе ў асноўным выкладчыкаў фізічнага выхавання для школ, але ён не падпарадкаваны міністэрству. Яго выхаванцы рэдка пападаюць у сельскія школы. Яны ў асноўным асядаюць у буйных гарадах. Настаў час, каб выпускнікоў інстытута размяркоўвала Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і пра-

фесіянальнай адукацыі па заяўках Міністэрства асветы.

У рэспубліцы сем педагагічных інстытутаў. Калі пры кожным з іх стварыць хоць па некалькі факультатыўных груп і даць выпускнікам права выкладаць побач з выкладаннем асноўнага прадмета і фізкультуру, то попыт на кваліфікаваных выкладчыкаў фізкультуры можна будзе неўзабаве задаволіць.

І яшчэ адзін выхад—завочная вучоба. Але, на жаль, гэтаму пытанню ў школах і раёнах аддаюць мала ўвагі, не праводзяць належнай работы з тымі настаўнікамі, якія не маюць адпаведнай адукацыі.

Возьмем, напрыклад, Слуцкі раён Мінскай вобласці. Тут налічваецца 132 школы. З іх 21 сярэдняя і 31 сямігадовыя і васьмігадовыя. А ў раёне спецыяльную адукацыю па фізкультуры маюць—вышэйшую толькі 3 чалавекі і сярэднюю—шэсць. На ўвесь раён адзін чалавек вучыцца завочна. І такое становішча не толькі на Случчыне.

Ці турбуе гэта па-сапраўднаму кіраўнікоў раёна? Не! Ні Слуцкі райкома, ні райком прафсаюза, ні раённы савет Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый, ні кіраўнікі школ не прымаюць адпаведных захадаў, каб выправіць становішча.



**Новы рэкорд Беларусі ўстанавіў Юры Каташ (Мінск). Ён скокнуў на 3 м 62 см.**



**Мінчанін Наіл Садыкаў устанавіў два рэкорды рэспублікі: у заплыве на 200 метраў і ў эстафеце.**



**Барысаўскія школьнікі Валодзя Саржэ і Віктар Кошалеў — лепшыя стралкі.**

Вялікую дапамогу ў гэтай справе школам могуць і павінны аказаць майстры спорту. У Маскве, Ленінградзе, Кіеве і іншых гарадах краіны па закліку алімпійцаў у школы пайшлі спецыялісты фізкультурнай справы. Яны сталі кіраваць работай спартыўных дзіцячых секцый, рыхтаваць сабе дастойную змену. Заклік алімпійцаў падтрымалі і такія вядомыя беларускія спартсмены, як Уладзімір Булатаў, Міхаіл Крыванасаў, Анатоль Юлін, Тацяна Аўрамава, Цімох Лунёў. Яны ў мінулым навучальным годзе кіравалі работай розных дзіцячых спартыўных секцый у школах Мінска.

Пачаўся новы навучальны год. І трэба, каб сувязь майстроў спорту з юнымі фізкультурнікамі школ яшчэ больш узмацнела. Няхай кожны майстар спорту, рэкардсмен думае аб сваёй заўтрашняй змене.

Заслугоўвае ўвагі і такое пытанне, як падрыхтоўка грамадскіх інструктараў і суддзяў па розных відах спорту. Абапіраючыся на іх, выкладчыкі фізічнага выхавання могуць праводзіць шырокую спартыўную работу ў школе з усімі класамі. І трэба сказаць, што там, дзе сур'ёзна адносяцца да падрыхтоўкі суддзяў з ліку старэйшых вучняў, там справа з развіццём спорту хутка ідзе на лад.

За некалькі год выкладчык фізічнага выхавання 10-й школы г. Слуцка С. Макарэвіч падрыхтаваў сабе дастойных памочнікаў з ліку лепшых спартсменаў. Зараз, калі ў школе праводзяцца спаборніцтвы паміж класамі, суддзямі з'яўляюцца самі вучні.

Значная работа ў гэтым напрамку праведзена і ў мінскіх школах. Тут на дапамогу настаўнікам прыйшлі лепшыя юныя спартсмены. На семінарах яны атрымалі тэарэтычную падрыхтоўку, затым свае веды сталі прымяняць на практыцы ў час спаборніцтваў. Так, напрыклад, сёлета 300 юных аматараў фізкультуры Мінска сталі грамадскімі суддзямі па розных відах спорту.

Калі знаёмішся з работай юных спартсменаў, з іх дасягненнямі, з падрыхтоўкай грамадскіх суддзяў, узнікае пытанне: хіба ж гэта не лепшы рэзерв для папаўнення радоў выкладчыкаў па фізічнаму выхаванню?

Каб паспяхова займацца развіццём фізкультуры, спорту, трэба трэніравацца круглы год. Але, на жаль, такіх магчымасцей не маюць не толькі многія сямігадовыя і васьмігадовыя школы, але і сярэднія. У іх адсутнічаюць добраабсталяваныя спартыўныя залы. Праўда, у апошнія гады шмат зроблена. Грамадскасць гарадоў, саўгасы, калгасы, камсамол памаглі школам пабудаваць свае спартыўныя залы, стадыёны, пляцоўкі, набыць інвентар. Толькі ў 1959—60 навучальным годзе, напрыклад, ініцыятыўным метадам пабудавана ў рэспубліцы 58 спартыўных залаў. А ў мінулым, 1960—1961 яшчэ больш. Прыемна адзначыць і тое, што ў апошні час школьнікам сталі больш даступны спартыўныя залы, водныя басейны, стадыёны прадпрыемстваў, вышэйшых навучальных устаноў, дамоў культуры прафсаюзаў. Тут падлеткі займаюцца ў секцыях, сустракаюцца з вядомымі спартсменамі нашай краіны, праводзяць фізкультурныя вечары, мераюцца сіламі.

Гэта, вядома, у большасці выпадкаў, адносіцца да гарадскіх школ. Што датычыць вясковых, то ў іх няма такой магчымасці. А трэба ж, каб не толькі ў кожнай сярэдняй школе, але і ва ўсіх васьмігадовых былі свае стадыёны, спартыўныя залы.



**Гродзенскія школьніцы заваявалі першыя месцы па лёгкай атлетыцы. Сёстры Тамара і Святлана Усаніны (атрымалі 9 пачэсных дыпломаў), Іра Трыпуцкая і Оля Сцяпанічава.**



**З зайздрасцю глядзяць на заваяваныя прызы самыя юныя школьніцы, што прыйшлі на стадыён павіншаваць сёлетніх пераможцаў спартакіяды.**

Фота У. Вяхоткі і Ф. Чаховіча.

Спартакіяда паказала, што яшчэ нізкі агульны спартыўны ўзровень нашых школьнікаў. Не папулярызуецца настольны тэніс. Слаба гуляюць у валейбол дзяўчынкі. У баскетбалістаў ёсць свае дасягненні, але тут трэнеры не ўлічваюць спецыфікі гэтай гульні і камплектуюць каманды з нізкарослых ігракоў.

Трэба адзначыць прыкметны рост гімнастак. З кожным годам у гэтым відзе спорту паяўляюцца здольныя спартсменкі. Зараз у беларускай камандзе ёсць група юных гімнастак, якая мае ўсе магчымасці з поспехам выступіць на ўсесаюзных спаборніцтвах. Але, на жаль, не вызначаюцца на гімнастыцы юнакі. Яны выступаюць слаба.

Што датычыць лёгкай атлетыкі, то тут адным са слабых месц у бегуноў з'яўляюцца дыстанцыі на 100 і 800 метраў. Праўда, па лёгкай атлетыцы ўстаноўлена два новых рэкорды. Удзельнікаў спаборніцтваў па скачках у вышыню з шастом было толькі шэсць. Сярод іх юнак з Масюкоўшчынскай школы Мінскага раёна Юры Каташ аказаўся мацнейшы. Ён пераадолеў вышыню 3 м 62 см і ўстанавіў новы рэкорд рэспублікі.

Ёсць такая катэгорыя людзей, якія бачаць вынікі фізічнага выхавання толькі ў разрадах, рэкордах і чэмпіёнах. Вядома, гэта важна і неабходна. Але нельга забываць і аб тым, што ўсе вучні не могуць стаць майстрамі і чэмпіёнамі, а вось стаць здаровымі, фізічна развітымі, валявымі і загартаванымі, паўнацэннымі будаўнікамі камунізма абавязкова павінны. Здароўе школьніка — перш за ўсё.

**Фадзей СОБАЛЬ.**

## ЗМЕСТ

Стар.
**Мір, праца, шчасце!** . . . . . . . . . . . . . 3
**Уладзімір Паўлаў.** Праходчыкам нязведаных дарог. Верш. 6
**Уладзіслаў Нядзведскі.** У лясной старане. Вершаваны рэпартаж . . . . . . . . . . . . . 8
**Альберт Салаўёў.** Сымонава люлька. Запіскі карэспандэнта . 17
**Пятрусь Макаль.** Апошнія паведамленні. У лесе. Імя века. Ворыва. Здзіўляла мяне... Гімн цвярозасці. Паэту. Вершы. 48
**Іван Козел.** Канчане—суседзі мае . . . . . . . . 55
**Вадзім Зыблеў.** Там, дзе пачыналася гісторыя. Ночы ліпнёвыя. Хто гэта сена варушыць на поплаве? Вершы . . 93
**Алег Фомчанка.** Цырульнік. Апавяданне . . . . . . . 95
**Мікола Нагнібеда.** Украіне. Прыснілася мне далёкае. Сябры няздрадныя юнацтва. Вершы . . . . . . . . 103
**Віталію Вольскаму шэсцьдзесят год** . . . . . . . . 106

**Дарогамі сямігодкі**

**Пятро Шаўцоў.** Знойдзенае шчасце. Нарыс. . . . . 107
**Маякі нашага часу** . . . . . . . . . . . . 112
**Пятро Разумовіч.** Дзень радыёзаводцаў. Рэпартаж. . . 113

**Гары, камсамольскі аганёк!**

**Юры Новікаў.** Пульс гіганта . . . . . . . . . 117
**Павел Бародка.** Поступ Салігорска . . . . . . . . 121
**Іван Бурсаў.** За чалавека трэба змагацца. З блакнота пісьменніка . . . . . . . . . . . . 124
**А. Дзітлаў.** Піянерскае лета. Рэпартаж . . . . . . 128
**Генадзь Навіцкі.** У джунглях расізму. . . . . . . 132
**А. Дзітлаў.** На возеры Окунь. З блакнота падарожніка . . 141

**Размова аб майстэрстве**

**Рыгор Бярозкін.** Поплеч з героем . . . . . . . . 144

**Спорт**

**Фадзей Собаль.** Юнацтва спартыўнае . . . . . . . 156

**Да часопіса прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Звераводка Бярэзінскай фермы Анюта Бандарчык са сваімі гадаванцамі — каляровымі нутрыямі. (Гл. рэпартаж «На возеры Окунь»)**

Фота А. Дзітлава.



М. Крывенка. Даяркі. З выстаўкі «Савецкая Украіна».

Р. Кудрэвіч. Студэнтка.

